ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

# Праваабарончы календар

Вільнюс 2013

Аўтары-укладальнікі • Ірына Пракопчык, Паліна Сцепаненка

Дызайн і вёрстка • Валянціна Трацяк

Карэктар • Святлана Вяршкова

Праваабарончы каляндар — спроба сабраць даты, звязаныя са станаўленнем, развіццём і абаронай правоў чалавека. У выданне ўвайшлі знакавыя даты, у тым ліку міжнародныя і сусветныя дні, афіцыйна абвешчаныя ААН, міжнародныя дні, якія прызнаюцца наўрадавымі арганізацыямі розных краінаў, а таксама даты беларускіх падзеяў, важных з пункту гледжання правоў чалавека, дні нараджэння і дні памяці выбітных актывістаў-праваабаронцаў.

Выданне разлічана на шырокае кола чытачоў, будзе карысным у працы журналістаў, праваабарончых арганізацыяў, спецыялістаў у галіне сувязяў з грамадскасцю, у галіне адукацыйнай дзейнасці.

Праваабарончы цэнтр «Вясна», 2013

Электронную версію выдання можна знайсці на сайце: www.spring96.org

## 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

## 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

# 01

*Сімвал галоўнага зімовага свята спрабавалі забараніць за «германскае паходжанне», пасля змагаліся як з «буржуазным забабонам», затым акцэнт быў зроблены на рэлігійнасць.*



01

# Першага студзеня

Адзначаць 1 студзеня народнае свята, якім сустракаецца пачатак каляндарнага года, беларусы ўпершыню пачалі ў часы Вялікага княства Літоўскага — з увядзеннем грыгарыянскага календара. У той час сустрэча Новага года праходзіла ў межах калядных святак. У пачатку XIX стагоддзя, з далучэннем усёй тэрыторыі Беларусі да Расіі, навагодняе свята паступова пачало набываць у нашым краі больш канкрэтызаваны сэнс і значэнне паводле расійскага ўзору. У Расіі святкаванне Новага года з 1 студзеня было ўведзена ў 1700 годзе спецыяльным загадам Пятра І пасля яго першага падарожжа па еўрапейскіх краінах. У многіх каталіцкіх краінах усё ж прынята сустракаць Раство Хрыстова, якое цесна звязана з паганскімі каляднымі традыцыямі.

ПЕРШАЯ СТРАТА МІЛАСЦІ ЧАКАЛА КАЛЯДНУЮ ЯЛІНКУ ЯШЧЭ ДА РЭВАЛЮЦЫІ

Традыцыя ставіць ялінку таксама лічыцца збольшага паганскай, яна зарадзілася ў Германіі ў XV стагоддзі. Там ялінку на Каляды ставілі на гарадской плошчы, затым яна перавандравала ў дамы. Немцы прынеслі гэтую традыцыю ў Пецярбург. Аднак у Расіі ялінкі прыжываліся вельмі доўга, паўсюдны распаўсюд атрымалі толькі на пачатку XX стагоддзя. Дагэтуль ялінкі ставілі ў нямецкіх дамах Пецярбурга і ў дамах арыстакратаў-германафілаў.

Хоць першая страта міласці чакала калядную ялінку яшчэ да рэвалюцыі, у часы Першай сусветнай вайны. Атрымлівалася,

што ялінка ў хаце на Каляды — нямецкая прыдумка. Калі пачалася Першая сусветная вайна, Святы Сінод паспрабаваў забараніць ялінку за яе «германскае паходжанне», але з гэтай задумы нічога не выйшла. Нават жаўнеры на пазіцыях ставілі на Каляды маленькія ялінкі.

Пасля ж рэвалюцыі з ялінкай пачалі змагацца як з «буржуазным забабонам», хоць нават Ленін не цураўся гэтага свята, пра што можна прачытаць у знакамітым калісьці дзіцячым апавядзе пра ялінку ў Сакольніках. Затым акцэнт быў зроблены на рэлігійнасць. Тым не менш афіцыйна да канца 1920-х гадоў улады не забаранялі ялінку. Гэта адбылося ў канцы 1929 года, на зыходзе года «вялікага пералому». Каляды выстаўляліся як «свята алкаголю і абжорства».

Беспаваротная і поўная ліквідацыя святкавання Калядаў, распачатая ў 1929 годзе, ператварэнне свята ў працоўны дзень стала адной з новых ідэалагічных заваёваў. Зрэшты, не адзначаліся не толькі Каляды, але і Новы год. На прадпрыемствах 1 студзеня 1930 года было абвешчана звычайным працоўным днём, у газетах не было практычна ні слова пра святкаванні Новага года.

Каб раз і назаўжды адвучыць людзей святкаваць Каляды, улады забаранілі продаж елак. 16 снежня 1929 г. выйшла «абавязковая пастанова» прэзідыума Ленінградскага савета «Пра забарону гандлю «елкамі», «бярозкамі» ў сувязі з рэлігійнай абраднасцю і звычаямі». Такім чынам, ялінцы была абвешчана бязлітасная вайна. Пры гэтым яе чамусьці абазвалі «папоўскай», хоць да рэвалюцыі менавіта царква змагалася з ялінкай як з адгалоскам паганскіх абрадаў.

Назіранне за выкананнем гэтай пастановы ўскладалася на міліцыю. Вінаватыя ў парушэнні падлягалі строгай адказнасці — штрафу ў сто рублёў альбо прымусовым працам тэрмінам да аднаго месяца. Улады дамагліся свайго: людзі сапраўды перасталі ставіць ялінкі. У сярэдзіне 1930-х гадоў адбылася рэабілітацыя ялінкі, але ўжо без усялякага налёту рэлігійнасці. Так з каляднай яна стала навагодняй.

Улады, відаць, зразумелі, што агульнанародныя святы служаць эфектыўным спосабам згуртавання і сродкам уздзеяння на людзей.

1930

1 СТУДЗЕНЯ БЫЛО АБВЕШЧАНА ЗВЫЧАЙНЫМ ПРАЦОЎНЫМ ДНЁМ, У ГАЗЕТАХ НЕ БЫЛО НІ СЛОВА ПРА СВЯТКАВАННІ НОВАГА ГОДА

06

# «Хартыя-77» — маніфест чэхаславацкіх дысідэнтаў



Стымулам для стварэння «Хартыі-77» паслужыў арышт удзельнікаў андэграўнд-гурта «The Plastic People Of The Universe».



Вацлаў Гавел на канцэрце «Пластыкаў», 1978 год.

ФОТАЗДЫМАКІ З САЙТА KANDL.CZ

6 студзеня 1977 года ў заходнім друку была апублікавана «Хартыя-77» — маніфест чэхаславацкіх дысідэнтаў, у якім крытыкаваўся ўрад тагачаснай Чэхаславакіі за невыкананне правоў чалавека.

Першы сход заснавальнікі «Хартыі» правялі 10 снежня 1976 года на прыватнай кватэры. Цягам снежня яны адшліфоўвалі тэкст дэкларацыі, які звяртаўся да тагачаснага рэжыму з патрабаваннем выканання законаў. А 6 студзеня 1977 года «Хартыя» была апублікавана ў заходнім друку разам з імёнамі 242 падпісантаў. Сярод іх былі вядомыя пісьменнікі, драматургі, філосафы, акторы, прафесары ды людзі іншых прафесіяў.

Аўтары дакумента неадкладна падвергліся рэпрэсіям з боку ўладаў. Пачаліся арышты, у тым жа студзені быў арыштаваны Вацлаў Гавел. Быў канфіскаваны арыгінал дакумента, аднак яго копіі працягвалі цыркуляваць. Да канца 1977 года «Хартыю» падпісалі 800 чалавек. З гэтага часу ў Чэхаславакіі распачаўся працэс



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FORBES.RU



Удзельнікі «Хартыі-77» (злева направа): Вацлаў Гавел, Іржы Дзінстбір, Ладзіслаў Хейданэк, Вацлаў Бенда (стаяць), Іржы Гаек і Здэна Томінава (сядзяць).

Прага, 1979 год.



Па ацэнках Вацлава Гавела, якія пазней стаў прэзідэнтам незалежнай Чэхіі, «Хартыя-77» стала мадэллю супраціву таталітарнаму рэжыму, у руках якога былі ўсе сілавыя механізмы.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА THEHECKLIST.WORDPRESS.COM

грамадзянскага абуджэння да свабоды. Да перамогі «аксамітнай рэвалюцыі» ў краіне заставалася 12 гадоў.

На момант падпісання «Хартыі-77» у Чэхаславакіі турмы былі поўныя дысідэнтамі. Сотні тысяч людзей пазбаўленыя працы. Асабліва пацярпела інтэлігенцыя. Пачалася дыскрымінацыя ў культурнай сферы: кнігі многіх пісьменнікаў, газеты, карціны, тэатральныя пастаноўкі і музычныя гурты былі забароненыя. Пацярпелі дзеці палітычных дысідэнтаў і маладыя людзі, нават іх сваякі і сем'і. Многія маладзёны не маглі паступаць у ВНУ і нават у сярэднія школы толькі з-за палітычных поглядаў — сваіх ці іх бацькоў. Кажучы пра становішча таго часу, адна з першых падпісантаў закліку Лібушэ Шыгалава адзначала гістарычнае значэнне «Хартыі-77»: «Гэта была тады новая палітычная і маральная з'ява не толькі ў таталітарных сістэмах, але нават і ў дэмакратычным свеце».

Вопыт «Хартыі-77», акрамя Беларусі, перанялі таксама паўночнакарэйскія, кубінскія і бірманскіх дысідэнтаў. «Хартыя-77» на працягу многіх гадоў для многіх краінаў з'яўляецца школай дэмакратычных ініцыятываў «знізу», школай грамадзянскай супольнасці.

**УСЕ ТЫЯ, ХТО ХОЧУЦЬ ПЕРАМЕНАЎ ДА ЛЕПШАГА, ПАВІННЫ СВАБОДНА АБ'ЯДНАЦЦА.**

ВАЦЛАЎ ГАВЕЛ

15

# Дзень памяці Марціна Лютэра Кінга



15 студзеня 1929 года нарадзіўся Марцін Лютэр Кінг (Martin Luther King) — галоўны змагар супраць расавай дыскрымінацыі ў ЗША. Загінуў ён у 1968 годзе ад кулі забойцы. З 1986 года Дзень памяці Марціна Лютэра Кінга адзначаецца ў трэці панядзелак студзеня і з'яўляецца нацыянальным святам.

Марцін Лютэр Кінг нарадзіўся ў амерыканскім горадзе Атланта (штат Джорджыя) у сям'і баптысцкага святара і працягнуў справу свайго бацькі.

У 13 гадоў Марцін паступіў у ліцэй пры ўніверсітэце Атланты, а ў 15 — у каледж Морхауз. У гэты час ён уступіў у Нацыянальную асацыяцыю прагрэсу каляровага насельніцтва. Пасля пасвячэння ў царкоўнаслужыцелі Кінг стаў дапамагаць свайму бацьку. У 1951 годзе ў тэалагічнай семінарыі Кроўзера ў горадзе Чэстар (штат Пенсільванія) ён атрымаў ступень бакалаўра тэалогіі. У 1955 годзе пасля заканчэння Бостанскага ўніверсітэта атрымаў ступень доктара тэалогіі.

У гісторыю назаўжды ўвайшлі словы Карэты Кінг (Coretta Scott King), удавы Марціна Лютэра Кінга, супраць смяротнага пакарання: «Як чалавек, чые муж і свякроў сталі ахвярамі забойства, я цвёрда і безумоўна выступаю супраць пакарання тых, хто здзяйсняе злачынствы, каральныя смерцю... Зла не выправіць злом, якое выконваецца як акт адплаты. Справядлівасць не дасягаецца пазбаўленнем жыцця чалавека. Мараль нельга ўмацаваць санкцыянаваным забойствам».

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА BLACKMARRIAGES.WORDPRESS.COM

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА THEFRAILESTTHING.FILES.WORDPRESS.COM



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА SCN.ORG




З 1986 года ў ЗША Дзень памяці Марціна Лютэра Кінга (Martin Luther King Day) адзначаецца ў трэці панядзелак студзеня і з'яўляецца нацыянальным святам.



Прэзідэнт ЗША Барак Абама 16 кастрычніка 2011 г. адкрыў помнік Марціну Лютэру Кінгу ў Вашынгтоне. Помнік зрабіў кітайскі скульптар, які лічыць, што асоба Кінга даўно перасягнула нацыянальныя межы: «Марцін Лютэр Кінг — герой не толькі Амерыкі. Ён герой усяго свету».

^ ФОТАЗДЫМАК З САЙТА THISISAMERICAFOUNDATION.ORG

У 1954 г. Марцін Лютэр Кінг стаў святаром баптысцкай царквы ў горадзе Мантгомеры (штат Алабама). Тут ён далучыўся да акцый барацьбы за правы чарнаскурых. У расавай сегрэгацыі Кінг бачыў самую вострую маральную і сацыяльную праблему ў Амерыцы. Упершыню малады пастар прыцягнуў да сябе шырокую ўвагу ў сувязі з рухам за грамадзянскія правы ў 1956 г., калі ўзначаліў масавыя маршы пратэсту супраць дзеянняў расістаў у штаце Алабама. Ён стаў арганізатарам сядзячых забастовак і некалькі разоў падвяргаўся арышту, калі сам парушаў законы, якія ён лічыў дыскрымінацыйнымі.

У сваіх пропаведзях Марцін Лютэр Кінг выступаў за негвалтоўныя метады барацьбы, якія прапагандаваў Махатма Гандзі.

20 верасня 1958 г. была здзейснена першая спроба замаху на жыццё Кінга. Падчас адной з масавых маніфестацыяў у Нью-Ёрку нейкая жанчына кінулася на яго з нажом і сур'ёзна параніла.

Пасля выздараўлення, у 1963 г., пастар арганізаваў і правёў шматлюдны марш на Вашынгтон у падтрымку новага законапраекта аб грамадзянскіх правах.

Прамова Кінга «У мяне ёсць мара» (I have a dream), якую падчас гэтага маршу ля манумента Лінкольну слухалі каля 300 тысяч амерыканцаў, назаўжды ўвайшла ў гісторыю барацьбы за правы чалавека. У гэтай прамове ён услявіў расавае прымірэнне.

## РОЛЯ КІНГА Ў НЕГВАЛТОЎНАЙ БАРАЦЬБЕ ЗА ПРЫНЯЦЦЕ ЗАКОНА, ЯКІ ЗАБАРАНЯЕ РАСАВУЮ ДЫСКРЫМІНАЦЫЮ, БЫЛА АДЗНАЧАНА НОБЕЛЕЎСКАЙ ПРЭМІЯЙ МІРУ Ў 1964 ГОДЗЕ

4 красавіка 1968 года Марцін Лютэр Кінг быў смяротна паранены снайперам. Адзіным забойцам змагара за грамадзянскія правы цёмнаскурых амерыканцаў быў прызнаны Джэймс Эрл Рэй, асуджаны да 99 гадоў зняволення. У 1998 годзе Рэй памёр ад цяжкай хваробы ва ўзросце 70 гадоў. Пытанні пра магчымых яго саўдзельнікаў засталіся без адказу.

У 2004 годзе Марцін Лютэр Кінг пасмяротна ўдастоены вышэйшай узнагароды ЗША — Залатога медаля Кангрэса.

Удава Марціна Кінга лічыла сябе абавязанай працягваць справу мужа і ўключылася ў барацьбу за правы прыгнечаных. У 1980-х яна лабіявала прыняцце ўказа аб устанаўленні нацыянальнага свята ў памяць пра мужа і аб'ездзіла ўсю Амерыку і многія краіны свету з лекцыямі. Карэта Кінг пайшла з жыцця ў 2006 годзе ва ўзросце 78 гадоў.

22

# *Дзень дысідэнта*

22 студзеня ў шэрагу краінаў Усходняй Еўропы прынята адзначаць, хутчэй нефармальна, Дзень дысідэнта. Нагодай для гэтага стаў агульнавядомы гістарычны факт: 22 студзеня 1980 года ў Маскве быў затрыманы вядомы ў свеце фізік-акадэмік, дысідэнт і праваабаронца, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Андрэй Сахараў. Ён быў арыштаваны наўпрост на вуліцы, па шляху на працу, і супраходжаны ў Генеральную пракуратуру СССР. Там яму зачыталі Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета пра пазбаўленне яго ўсіх дзяржаўных узнагародаў і ганаровых званняў. Адначасова паведамілі, што кіраўніцтва краіны прыняло рашэнне пра высылку Сахарава з Масквы ў месца, якое «выключае яго кантакты з замежнымі грамадзянамі». Ужо праз некалькі гадзін пад аховай групы супрацоўнікаў КДБ Сахараў быў адпраўлены самалётам у горад Горкі. Наведваць яго ў ссылцы маглі толькі жонка Алена Бонэр, дзеці ад першага шлюбу, а таксама некаторыя з супрацоўнікаў Фізічнага інстытута Акадэміі навук, дзе Сахараў працягваў лічыцца навуковым супрацоўнікам.

У гэты час у савецкім друку праводзілася кампанія супраць акадэміка Сахарава. А ў энцыклапедычных даведніках, якія выходзілі да 1986 года, артыкул пра яго завяршаўся выразам: «У апошнія гады адышоў ад навуковай дзейнасці». Аднак ён не пераставаў працаваць і ў ссылцы. Там пачаў пісаць і свае ўспаміны. А часам яму нават удавалася прарваць блакаду і выказаць сваё меркаванне наконт грамадска-палітычных і міжнародных праблемаў.

На працягу ўсяго часу горкаўскай ссылкі Андрэя Сахарава ў многіх краінах свету ішла кампанія ў абарону савецкага праваабаронцы і дысідэнта. Напрыклад, плошча непадалёк ад Белага дома, дзе знаходзілася савецкая амбасада ў Вашынгтоне, была перайменавана ў Плошчу Сахарава. А ў розных сталіцах свету з 1975 года ладзіліся «Сахараўскія слуханні».

Знакамітыя дысідэнты свету розных часоў:

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТАЎ: S1.OKINO.UA, BHARATDISCOVERY.ORG, ANDREYTRUNOV.RU, MILUJEMEFOTOGRAFII.CZ, RBCHVSK.HOMELINUX.NET



**Андрэй Сахараў**, СССР



**Нэльсан Мандэла**, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка



**Махатма Гандзі**, Індыя



**Вацлаў Гавел**, Чэхаславакія



**Аун Сан Су Чжы**, Бірма

Дысідэнт Сахараў быў вызвалены з ссылкі з пачаткам перабудовы, у канцы 1986 года — пасля амаль 7-гадовага зняволення. У хроніках гэта апісваецца наступным чынам: «22 кастрычніка 1986 года Сахараў просіць спыніць яго дэпартацыю і ссылку жонкі, у чарговы раз абяцаючы скончыць сваю грамадскую дзейнасць (пры гэтым была агаворка — калі паездка жонкі для лячэння будзе дазволена). 15 снежня ў яго кватэры быў нечакана ўстаноўлены тэлефон (падчас усёй ссылкі тэлефона не было), і перад сыходам супрацоўнік КДБ сказаў: «Заўтра вам патэлефануюць». На наступны дзень сапраўды было тэлефанаванне Гарбачова, які дазволіў Андрэю Сахараву і Алене Бонэр вярнуцца ў Маскву».

* * *

**НАЗВА «ДЫСІДЭНЦТВА» ПАХОДЗІЦЬ АД ЛАЦІНСКАГА СЛОВА «DISSIDENS», ШТО АЗНАЧАЕ «АДСТУПНІК», «ІНШАДУМЕЦ».** ТАК АГУЛЬНАПРЫНЯТА НАЗЫВАЮЦЬ ЛЮДЗЕЙ, ЧЫЕ ПАЛІТЫЧНЫЯ ПОГЛЯДЫ РАДЫКАЛЬНА РАЗЫХОДЗЯЦЦА З АФІЦЫЙНА ЎСТАНОЎЛЕНЫМІ Ў КРАІНЕ ЯГО ПРАЖЫВАННЯ.

У 1960-я гады дысідэнтамі сталі называць прадстаўнікоў апазіцыйнага і праваабарончага руху ў СССР і краінах Усходняй Еўропы, якія не змагаліся супраць савецкай улады гвалтоўнымі сродкамі, а апелявалі да савецкіх законаў і афіцыйна абвешчаных каштоўнасцяў. Тэрмін «дысідэнт» спачатку стаў ужывацца на Захадзе, а затым і самімі іншадумцамі. З тых часоў дысідэнтамі часта называюць галоўным чынам людзей, якія супрацьстаяць аўтарытарным і таталітарным рэжымам.



# 25

# Дзень закрыцця ГУЛАГу

Галоўнае лагернае ўпраўленне было расфармавана па загадзе Міністэрства ўнутраных спраў СССР ад 25 студзеня 1960 года.

ГУЛАГ — сістэма, створаная паводле асабістага загаду Сталіна ў 1929 годзе, якая развівалася з 1930-га. У красавіку 1930 года Савет Народных Камісараў Савецкага Саюза прыняў афіцыйнае «Палажэнне пра папраўча-працоўныя лагеры». Аўтарытарная ўлада такім чынам узаконіла інструмент для палітычнага і эканамічнага ўздзеяння на грамадства.



Фрагмент мемарыяла вязням ГУЛАГу ў Маскве.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА S60.RADIKAL.RU

Усе лагеры знаходзіліся ў падпарадкаванні Галоўнага палітычнага ўпраўлення, якое яшчэ ў 1923 годзе перайшло ў падначаленне СНК. Разам з ГПУ з Наркамата ўнутраных спраў вылучылася і адасобленая рэпрэсіўная сістэма, у якую ўвайшлі падведамныя ГПУ ўнутраныя турмы, ізалятары і канцэнтрацыйныя лагеры асобага прызначэння. Дзейнасць гэтай сістэмы была заснавана на ўнутрыведамасных актах, не падпарадкоўвалася агульнадзяржаўнаму заканадаўству і была выключана з поля зроку грамадскасці.

Тэрор бальшавікоў супраць палітычных праціўнікаў меў мэту спыніць любыя спробы іншадумства. З кожным днём лагеры раслі і набіралі моц. Сістэма аб'ядноўвала 53 лагеры з тысячамі лагерных аддзяленняў і пунктаў, 425 калоній, а таксама больш за дзве тысячы спецкамендатураў. Усяго — звыш 30 тысяч месцаў зняволення.

ГПУ распараджалася лёсамі зняволеных, якія, патрапіўшы ў сферу яго дзейнасці, фактычна гублялі ўсе грамадзянскія правы. Кажучы пра ГУЛАГ, трэба памятаць, што гаворка ідзе не пра проста асуджаных людзей. Шмат вязняў пасылалася на галодную смерць у нечалавечых лагерных умовах паводле рашэнняў пазасудовых органаў. Справы разглядаліся на Асобай нарадзе, якую ачольваў Народны камісар, а ўваходзілі ў яе яго намеснікі і бліжэйшыя памочнікі. На кожным паседжанні разглядалася ад 200 да 300 спраў. А пазней за адно паседжанне нарада магла асудзіць 700 – амаль тысячу чалавек. Першапачаткова Асобая нарада мела права ў адміністратыўным парадку заключаць у папраўча-працоўны лагер на тэрмін да 5 гадоў. Але ўжо ў 40-я гады валодала правам не толькі асуджаць на доўгатэрміновае зняволенне, але і прыгаворваць да расстрэлу. Пасля тэрору 1937—1938 гадоў колькасць смяротных пакаранняў рэзка скарацілася. Самым пашыраным відам пакарання стала заключэнне ў папраўча-працоўны лагер тэрмінам на 10 гадоў.

Пасля публікацыі ў пачатку 1990-х гадоў дакументаў з расійскіх архіваў высветлілася, што па палітычных матывах за 1930—1953 гады ў папраўча-працоўных калоніях былі зняволеныя каля 1 мільёна 300 тысяч чалавек, у папраўча-працоўных лагерах за 1937—1950 гады — каля 2 мільёнаў. У тыя часы галоўным расстрэльным артыкулам быў

сумнавядомы артыкул 58 Крымінальнага кодэкса РСФСР. Сярод рэпрэсаваных нават хадзіў слэнгавы выраз — «сто шаснаццаць напалам».

21 лютага 1948 года была прынята Пастанова Савета Міністраў СССР «Пра арганізацыю лагераў і турмаў са строгім рэжымам для ўтрымання асабліва небяспечных дзяржаўных злачынцаў» — у сістэме ГУЛАГу ствараліся так званыя адмысловыя лагеры для «шпіёнаў, дыверсантаў, тэрарыстаў, трацкістаў, правых, меншавікоў, эсэраў, анархістаў, нацыяналістаў, белаэмігрантаў і ўдзельнікаў іншых антысавецкіх арганізацый і групаў». Яны павінны былі насіць нумары на вопратцы, а пасля адбыцця пакарання іх накіроўвалі на пасяленне ў аддаленыя мясцовасці Савецкага Саюза.

Пасля смерці Сталіна і правядзення ў 1953 годзе масавай амністыі колькасць зняволеных у лагерах скарацілася ўдвая. Аднак не адбылося вызвалення «палітычных вязняў», што прывяло да калектыўных хваляванняў «палітычных» — вядомых як Варкуцінскае, Нарыльскае, Кенгірскае паўстанні. Гэтыя падзеі паскорылі стварэнне камісіяў, якія павінны былі праверыць справы палітвязняў. Цягам 1954—1956 гадоў колькасць «палітычных» у лагерах зменшылася з 467 тысяч чалавек да 114 тысяч. У 1956 годзе — упершыню за 20 гадоў! — агульная колькасць вязняў ГУЛАГу стала меншай за мільён чалавек. Пасля гэтага сістэма ГУЛАГу пачала планамерна згортвацца і канчаткова спыніла існаванне ў 1960 годзе. Гэта было звязана з Указам Прызідыума Вярхоўнага Савета СССР «Пра скасаванне МУС СССР».

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТАЎ:
SPOOKY12.LIVEJOURNAL.COM,
VITAZENIEC.LIVEJOURNAL.COM,
RV-BLR.COM, BABRUISK.BY,
LABADZENKA.BY, GRAHOUSKI.ORG



# *Беларускія вязні ГУЛАГу*


1

*Драматург **Францішак Аляхновіч** (1883—1944) быў арыштаваны ў 1927 г. і асуджаны да 10 гадоў высылкі на Салаўкі. Напісаў лагерныя ўспаміны «У кіпцюрох ГПУ».*


2

*Праваслаўны святар і настаўнік, паэт і перакладчык **Пятро Бітэль** (1912—1991) быў арыштаваны ў 1950 годзе і асуджаны на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Зняволенне адбываў у Кемераўскай вобласці, Омску і Джэзказгане. У лагерах пераклаў «Пана Тадэвуша» Міцкевіча на беларускую мову. Напісаў успамін пра лагеры — «Праз церні і завалы...»*


3

*Гісторык, літаратуразнаўца, палітычны дзеяч **Яўген Калубовіч** (1910—1987) быў арыштаваны ў 1930 г. і прыгавораны да 3 гадоў канцлагераў асобага прызначэння. Пакаранне адбываў у Дальлагу, Башлагу.*


4

*Пісьменнік **Барыс Мікуліч** пражыў усяго толькі 42 гады (1912—1954). Пятнаццаць з іх — у сібірскіх лагерах і турмах.*


5

*Паэтка, дзеячка нацыянальнага руху **Ларыса Геніюш** (1910—1983) у 1949 г. была асуджана, як і яе муж, на 25 гадоў. Пакаранне адбывала ў лагерах Комі АССР і правяла ў зняволенні 8 гадоў.*


6

*Паэт, празаік і перакладчык **Сяргей Грахоўскі** (1913—2002) быў арыштаваны ў 1936 г. і асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў ва Унжэнскім канцлагеры Горкаўскай вобласці.*

# 27

# Міжнародны дзень памяці ахвяраў Халакосту

У гэты дзень у 1945 годзе Чырвонай Арміяй былі вызваленыя вязні лагера смерці Асвенцым на тэрыторыі Польшчы.

Асвенцым — знак жорсткасці і чалавеканенавісніцтва. Гэты канцлагер быў пабудаваны па спецыяльным загадзе Гітлера непадалёк ад польскага горада Кракава ў 1941 годзе і з'яўляўся самым буйным сярод «фабрык смерці». Па задуме фашысцкага ўрада, усе яны мусілі «вырашыць праблему» са знішчэннем «ніжэйшых рас» на акупаваных тэрыторыях. З усіх захопленых зямель у канцлагеры звазілася мірнае насельніцтва і ваеннапалонныя. Мужчын, жанчын і дзяцей катавалі, марылі голадам, забівалі, а трупы спальвалі ў крэматорыях. Лекары ў канцлагерах ставілі на людзях медыцынскія эксперыменты.

Халакост — а гэта знішчэнне больш за 60% габрэйскага насельніцтва Еўропы — пачаўся ў Нямеччыне з прыходам да ўлады нацыянал-сацыялістычнай партыі на чале з Адольфам Гітлерам. Гэтая антыгуманная з'ява праяўлялася і ў выглядзе антысемітызму — праследу і пазней знішчэння габрэяў у самой Германіі і на захопленых падчас Другой сусветнай вайны тэрыторыях.

Памятны дзень быў устаноўлены Генеральнай асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у 2005 годзе — у 60-ю гадавіну вызвалення вязняў Асвенцыма. У апошні тыдзень студзеня ў многіх краінах свету праходзяць жалобныя цырымоніі, прысвечаныя дню памяці ахвяраў Халакосту (International Holocaust Remembrance Day). Асаблівыя цырымоніі, па традыцыі, праводзяцца на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу Асвенцым.

Рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН пра памяць пра Халакост, прынятая 22 сакавіка 2007 года, асуджае любое адмаўленне Халакосту. ААН настойліва заклікае ўсе дзяржавы-сябры безумоўна адкідаць любое адмаўленне Халакосту. А праграма «Халакост і ААН» мае сваёй мэтай нагадаць свету пра тыя ўрокі, якія неабходна атрымаць з Халакосту, каб дапамагчы прадухіліць будучыя акты генацыду.

ФОТАЗДЫМАК WIENER LIBRARY З САЙТА AV.HMD.ORG.UK




Падвойны забор у Асвенцыме.

# 30

## Адкрыццё Беларускага Дома правоў чалавека

30 студзеня 2007 года адбылося адкрыццё Беларускага Дома правоў чалавека ў выгнанні ў Вільні. Гэта стала магчымым у выніку сумесных намаганняў беларускіх праваабарончых арганізацый і Фонда Дамоў правоў чалавека.

Дагэтуль ужо некалькі гадоў такія ўдзельнікі Сеткі Дамоў правоў чалавека, як Хельсінкскі Фонд правоў чалавека (Польшча), Нарвежскі Хельсінкскі Камітэт, Нарвежскі ПЭН-цэнтр і Фонд Дамоў правоў чалавека, стала супрацоўнічалі з беларускімі арганізацыямі.

Дом, які быў названы беларускімі праваабаронцамі «выспай свабоды», дапамагае ім у іх дзейнасці і ставіць сабе на мэту павышэнне павагі і пашырэнне абароны правоў чалавека ды дэмакратычных свабод у Рэспубліцы Беларусь.

Дом арганізуе розныя праваабарончыя мерапрыемствы і прадастаўляе іншым арганізацыям памяшканні для правядзення ўласных мерапрыемстваў (семінараў, школ, трэнінгаў, канферэнцый) для праваабаронцаў, НДА, журналістаў, студэнтаў, выкладчыкаў і навукоўцаў.

HUMAN RIGHTS HOUSE VILNIUS

Лагатып Беларускага Дома правоў чалавека ў Вільні.



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА SVABODA.ORG



*Барыс Звозскаў (1949–2012) – адзін з ініцыятараў і актыўных удзельнікаў працэсу стварэння і затым развіцця Беларускага дома правоў чалавека, у 2007–2010 гадах быў першым прэзідэнтам ДПЧ.*

# З УСПАМІНАЎ

*Алеся Бяляцкага пра Барыса Звозскава*

*«Больш за 10 гадоў мы працавалі разам на карысць дэмакратыі і правоў чалавека. Разам планавалі і здзяйснялі ідэю Дома правоў чалавека, разам ездзілі на міжнародныя праваабарончыя канферэнцыі і сустрэчы ў Баку, Маскву і Варшаву, разам думалі, як палепшыць бяспеку грамадскіх актывістаў праз навучанне і дапамогу. Мы разам развівалі беларускую праваабарончую супольнасць, разам працавалі над тым, каб праваабарончыя стандарты, ідэі і прынцыпы не былі чужымі для беларускага грамадства. Мы кожны па-свойму, яшчэ за саветамі, пачыналі сваё асабістае змаганне з таталітарызмам, і мы працягвалі яго разам да апошніх дзён яго жыцця. Барыс Звозскаў быў надзейным паплечнікам, неверагодна сціплым і сумленным чалавекам. Ён вылучаўся надзвычайнай тактоўнасцю і інтэлігентнасцю. Будучы рускім па выхаванні, ён заўсёды прыхільна ставіўся да беларускай мовы і культуры і, пражыўшы ў Беларусі не адзін дзесятак гадоў, лічыў Беларусь за сваю радзіму. Усе свае інтэлектуальныя здольнасці і намаганні, свой розум і сваю душу ён укладаў у развіццё беларускага грамадства».*

# 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | | | |

# 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | | |

# 02

13

# Сусветны дзень радыё

13 лютага 1946 года распачало працу Радыё Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Радыё ААН было заснавана для пашырэння і папулярызацыі ідэалаў Аб'яднаных Нацый — умацавання міру, павагі да правоў чалавека, забеспячэння роўнасці палоў, талерантнасці, эканамічнага і сацыяльнага развіцця і непахіснасці міжнароднага права.



Radio-in-a-Box – пераносная радыёстанцыя для вяшчання ў раёнах стыхійных бедстваў і ў надзвычайных сітуацыях.

ФОТАЗДЫМАК МАРКА СУРМАНА
З САЙТА PORTAL.UNESCO.ORG

Упершыню гэтая дата адзначалася ў 2012 годзе па ініцыятыве Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры ў знак прызнання пераўтваральнай моцы радыё. Паводле меркавання ЮНЕСКА, у сучасным свеце радыё з'яўляецца самым шырокадаступным СМІ.

Па звестках Міжнароднага саюза электрасувязі, больш за 75% сем'яў ва ўсіх краінах свету маюць, па меншай меры, адзін радыёпрымач. І сёння ўсё больш людзей выкарыстоўваюць радыё ў якасці крыніцы інфармацыі і камунікацыі праз шырокапалосны Інтэрнэт.

ЮНЕСКА надае ўвагу выкарыстанню радыё пры аказанні гуманітарнай дапамогі ў надзвычайных сітуацыях.



# ІРЫНА БОКАВА

**Гендырэктар ЮНЕСКА**

*Радыё ўяўляе сабой сродак інфармацыі, які дасягае самай шырокай аўдыторыі і, што асабліва важна, самай маргіналізаванай часткі нашага грамадства. У хуткаплынным свеце мы павінны максімальна выкарыстоўваць здольнасць радыё аб'ядноўваць людзей і грамадства, забяспечваць сумеснае выкарыстанне ведаў і інфармацыі і ўмацоўваць ўзаемаразуменне... Свабоднае, незалежнае і плюралістычнае радыё мае найважнае значэнне для грамадства і з'яўляецца жыццёва неабходнай умовай для сцвярджэння правоў чалавека і асноўных свабодаў.*

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА CONSILIUM.EUROPA.EU

World Radio Day World Radio Day World Radio Day World Radio Day World Radio

У 1960—70-х гадах у Сальвадоры відны каталіцкі святар і выдатны камунікатар Оскар Арнульфа Рамэа прадэманстраваў патэнцыял радыё ў справе заахвочвання і абароны правоў чалавека. Прыцягненню шырокай увагі да шматлікіх выступаў святара спрыяла трансляцыя яго пропаведзяў архіепіскапскай радыёстанцыяй. Адным з першых святароў у Сальвадоры ён максімальна скарыстоўваў перавагі радыё для асуджэння як пагрозы грамадзянскай вайны, так і гвалту і несправядлівасці. Як сведка шматлікіх парушэнняў правоў чалавека ён пачаў выступаць ад імя галечы і ахвяраў рэпрэсій. У краіне, дзе іншадумства улады ўспрымалі як падрыўную дзейнасць, архіепіскап скарыстоўваў свой маральны аўтарытэт, каб казаць ад імя тых, хто не мог выказвацца сам. За гэта ён хутка атрымаў вядомасць як «голас нямых». З іншага боку гэта прывяло да шматлікіх канфліктаў — як з урадам Сальвадора, так і з кіраўніцтвам каталіцкай царквы. Кампанія за правы чалавека, якую ачоліў Оскар Рамэа, прыцягнула на яго бок шматлікіх нацыянальных і міжнародных прыхільнікаў, а таксама садзейнічала вылучэнню яго кандыдатуры на атрыманне Нобелеўскай прэміі міру.

# «ГОЛАС НЯМЫХ»



МАЛЮНАК З САЙТА CELLA.COM.BR

Вялікую моц мела прамова чарнаскурага прапаведніка раўнапраўя Марціна Лютэра Кінга —

# «У МЯНЕ ЁСЦЬ МАРА».

28 жніўня 1963 года прамова ўпершыню прагучала з прыступкаў Мемарыяла Лінкальна падчас маршу на Вашынгтон. Дзякуючы шырокай і даступнай радыётрансляцыі, выкладзенае Кінгам бачанне будучыні, у якой белыя і чорныя маглі б суіснаваць на роўных, імгненна разляцелася. Прамова абудзіла свядомасць чарнаскурых амерыканцаў і стала вызначальнай у іх барацьбе за грамадзянскія правы.



МАЛЮНАК З САЙТА FANTOM-XP.COM

# 20

# Сусветны дзень сацыяльнай справядлівасці

26 лістапада 2007 года Генеральная Асамблея ААН абвясціла 20 лютага Сусветным днём сацыяльнай справядлівасці, які адзначаецца штогод пачынаючы з 2009 года.

У сваёй рэзалюцыі ад 26 лістапада 2007 года Генеральная Асамблея прызнала, што сацыяльнае развіццё і сацыяльная справядлівасць неабходныя для забеспячэння і падтрымання міру і бяспекі ўнутры краін і ў стасунках паміж імі і што, у сваю чаргу, сацыяльнае развіццё і сацыяльная справядлівасць не могуць быць дасягнуты ў адсутнасць міру і бяспекі або ва ўмовах адсутнасці павагі да ўсіх правоў чалавека і асноўных свабодаў.

ААН зыходзіць з таго, што сацыяльная справядлівасць з'яўляецца асноватворным прынцыпам мірнага і шчаслівага суіснавання як у саміх краінах, так і паміж рознымі краінамі. ААН падтрымлівае прынцыпы сацыяльнай справядлівасці, заахвочваючы роўнасць паміж жанчынамі і мужчынамі або права карэнных народаў і мігрантаў. ААН садзейнічае забеспячэнню сацыяльнай справядлівасці, ухіляючы бар'еры, якія ўзнікаюць перад людзьмі праз іх прыкметы полу, узросту, расавай, этнічнай ці рэлігійнай прыналежнасці, культуры або наяўнасці інваліднасці.

Імкненне да сацыяльнай справядлівасці для ўсіх ААН бачыць у самым цэнтры сваёй глабальнай місіі па заахвочванні развіцця і павагі чалавечай годнасці.



## З паслання генсакратара ААН Пан Гі Муна з нагоды Дня

*«Давайце разам працаваць над тым, каб збалансаваць глабальную эканоміку і аформіць новую грамадскую дамову на XXI стагоддзе. Давайце акрэслім такі шлях развіцця, які выводзіць да бóльшай сацыяльнай справядлівасці і да будучыні, якая будзе нас задавальняць.»*

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА 4.BP.BLOGSPOT.COM

Асноватворным дакументам у гэтым напрамку з'яўляецца Дэкларацыя аб сацыяльнай справядлівасці ў мэтах справядлівай глабалізацыі, прынятая Міжнароднай арганізацыяй працы 10 чэрвеня 2008 года. У Дэкларацыі робіцца ўпор на гарантыі дасягнення справядлівых вынікаў для ўсіх з дапамогай забеспячэння занятасці, сацыяльнай абароны, сацыяльнага дыялогу і асноўных прынцыпаў і правоў на працоўным месцы. Прыняўшы гэты дакумент, прадстаўнікі ўрадаў і арганізацый працадаўцаў і работнікаў 182 дзяржаў – сябраў МАП узялі на сябе абавязацельствы пашыраць патэнцыйныя магчымасці МАП дзеля дасягнення гэтых мэтаў з дапамогай Праграмы годнай працы.




Банер Сусветнага дня сацыяльнай справядлівасці-2012.

^ БАНЕР З САЙТА GLOBEMEDUT.ORG

***Беларусь з'яўляецца сябрам МАП з 1954 года.*** *Дзейнасць Арганізацыі ў краіне грунтуецца на Праграме супрацоўніцтва (Country Objectives), якая базуецца на стратэгічных мэтах МАП і нацэлена на вырашэнне актуальных для рэспублікі сацыяльна-працоўных праблем.*

*Дзейнасць МАП у Беларусі каардынуецца размешчаным у Маскве субрэгіянальным бюро МАП для краін Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі пры агульнай каардынацыі Рэгіянальнага бюро МАП для краін Еўропы і Цэнтральнай Азіі (Жэнева, Швейцарыя). У сакавіку 1999 года ў Беларусі была заснавана пасада Нацыянальнага карэспандэнта МАП у Мінску.*

# 21

## Міжнародны дзень роднай мовы




Постэр, распрацаваны для Міжнароднага дня роднай мовы ЮНЕСКА ў 2009 годзе.

^ ФОТАЗДЫМАК З САЙТА UNESCO.ORG

Дзень абвешчаны Генеральнай канферэнцыяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры ў лістападзе 1999 года і ўпершыню адзначаўся 21 лютага 2000 года.

Дата яго правядзення была абрана ў знак памяці падзеяў 21 лютага 1952 года: у горадзе Дака, сталіцы цяперашняй дзяржавы Бангладэш, падчас разгону студэнцкай дэманстрацыі ад куляў паліцэйскіх загінулі пяцёра студэнтаў. Студэнты выйшлі на вуліцы з патрабаваннем надаць іх роднай бенгальскай мове статус дзяржаўнай.

У тагачасным Усходнім Пакістане ўзнік цэлы палітычны Рух за дзяржаўны статус бенгальскай мовы. Справа ў тым, што пасля сыходу з паўвострава Індастан англічанаў у 1947 годзе была ўтворана дзяржава — Пакістан, якая складалася з дзвюх частак, аддаленых адна ад другой на 1600 кіламетраў. Гэтыя рэгіёны рэзка адрозніваліся і культураю, і моваю: у Заходнім Пакістане пераважала мова урду, ва Усходнім — бенгальская мова.



**РАЗМАЎЛЯЦЬ З ЧАЛАВЕКАМ НА МОВЕ, ЯКУЮ ЁН РАЗУМЕЕ, — ЗНАЧЫЦЬ ЗВЯРТАЦЦА ДА ЯГО РОЗУМУ, АЛЕ РАЗМАЎЛЯЦЬ З ІМ НА ЯГО РОДНАЙ МОВЕ — ЗНАЧЫЦЬ ДАКРАНУЦЦА ДА ЯГО СЭРЦА.**

НЭЛЬСАН МАНДЭЛА



У памяць пра загінулых студэнтаў у горадзе Дака каля ўніверсітэта ўсталяваны помнік.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FOCUS-BD.BLOGSPOT.RU

Аднак у 1948 годзе ўрад Пакістана абвясціў урду адзінай дзяржаўнаю моваю на ўсёй тэрыторыі Пакістана. Гэтае рашэнне выклікала незадаволенасць большасці насельніцтва ўсходняй часткі краіны. Аднак урад не толькі не ўлічыў патрабаванняў насельніцтва ўсходніх правінцыяў, але і забараніў дэманстрацыі ў падтрымку бенгальскай мовы.

Трагічная гібель студэнтаў у горадзе Дака прывяла да масавых пратэстаў. Супраціў узначаліла левацэнтрысцкая партыя Авамі Ліг, якая заваявала масавую народную падтрымку ва Усходнім Пакістане. Дзякуючы моцнай хвалі супраціву, бенгальская мова нарэшце атрымала статус дзяржаўнай — у 1956 годзе. Рух за дзяржаўны статус бенгальскай мовы прывёў да росту самасвядомасці бенгальскага народу. І пасля нацыянальна-вызваленчай вайны ў 1971 годзе Усходні Пакістан адасобіўся ў самастойную дзяржаву — Бангладэш.

21 лютага ў Бангладэш адзначаецца як нацыянальнае свята — Дзень роднай мовы (International Mother Language Day). У памяць пра загінулых студэнтаў у горадзе Дака ўсталяваны помнік. А гэты дзень сімвалізуе правы нацыянальных меншасцяў на прызнанне сваёй мовы.

ЮНЕСКА абвясціла Міжнародны дзень роднай мовы, каб садзейнічаць моўнай і культурнай разнастайнасці, шматмоўю.

«Моўная разнастайнасць з'яўляецца нашай агульнай спадчынай. Гэта крохкая спадчына. З больш чым 6000 гутарковых моваў ва ўсім свеце амаль палова можа знікнуць да канца стагоддзя. На 96% моваў свету размаўляюць усяго толькі 4% насельніцтва планеты. Падрыхтаваны ЮНЕСКА Атлас моваў, якія ў свеце знаходзяцца пад пагрозай знікнення, дазваляе атрымаць уяўленне пра становішча ў гэтай галіне. Страта адной з моваў вядзе да збяднення чалавецтва. Гэта — крок назад у абароне правоў кожнага чалавека на выказванне сваіх меркаванняў, на навучанне і зносіны», — з паслання Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Ірыны Бокавай з нагоды Дня.

Жыццяздольнасць моваў залежыць ад усіх, хто на іх гаворыць і мабілізуе свае намаганні для іх абароны. ЮНЕСКА аддае належнае гэтым намаганням і сочыць за тым, каб іх голас быў пачуты ў інтарэсах распрацоўкі палітыкі, якая тычыцца адукацыі, развіцця і забеспячэння сацыяльнай згуртаванасці.



«Moder garod» («Наш гонар») — скульптурная кампазіцыя, таксама прысвечаная загінулым за родную мову бенгальскім патрыётам. У 2000 г. усе пяцёра яны пасмяротна ўзнагароджаны вышэйшай узнагародай Бангладэш «Ekushey Padak».

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА URALISTICA.COM

## 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

## 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | | | | | | |

# 03

# 08

# *Міжнародны жаночы дзень*

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый адзначае Міжнародны жаночы дзень (International Women's Day) дзеля заахвочвання і абароны раўнапраўя жанчынаў.

Свята шэраговых жанчын, якія сталі творцамі гісторыі — так ААН называе Міжнародны жаночы дзень і звяртаецца да шматвяковай гісторыі барацьбы жанчын за ўдзел у жыцці грамадства нароўні з мужчынамі. Яшчэ ў Старажытнай Грэцыі дзеля спынення вайны Лісістрата арганізавала сэксуальную забастоўку супраць мужчын; падчас Французскай Рэвалюцыі парыжскія жанчыны, якія выступалі за «свабоду, роўнасць і братэрства», арганізавалі марш на Версаль, каб запатрабаваць прадастаўлення жанчынам выбарчага права.

Ідэя правядзення Міжнароднага жаночага дня ўпершыню ўзнікла на пачатку XX стагоддзя, калі прамыслова развіты свет перажываў перыяд экспансіі і ўзрушэнняў, дэмаграфічнага буму і з'яўлення радыкальных ідэалогій.

Найбольш вызначальнымі ў гэтым сэнсе сталі наступныя гістарычныя падзеі.

1909 год. У адпаведнасці з заявай Сацыялістычнай партыі Амерыкі 28 лютага на ўсёй тэрыторыі Злучаных Штатаў адзначаўся першы нацыянальны жаночы дзень. Жанчыны працягвалі адзначаць гэты дзень у апошнюю нядзелю месяца да 1913 года.

1910 год. На паседжанні ў Капенгагене Сацыялістычны Інтэрнацыянал заснаваў міжнародны па сваім характары жаночы дзень, каб адзначыць рух за правы жанчын і дапамагчы ім здабыць усеагульнае выбарчае права. Гэтая прапанова атрымала аднадушную падтрымку канферэнцыі з удзелам больш за сотню жанчынаў з 17 краінаў, у тым ліку першых трох жанчынаў, абраных у фінскі парламент. Канкрэтная дата правядзення гэтага дня не была вызначана.

1911 год. На падставе прынятага ў Капенгагене рашэння Міжнародны жаночы дзень упершыню адзначаўся (19 сакавіка) у Аўстрыі, Германіі, Даніі і Швейцарыі — у мітынгах прынялі ўдзел звыш мільёна мужчын і жанчын.

Менш чым праз тыдзень пасля гэтага, 25 сакавіка, адбыўся пажар на швейнай фабрыцы кампаніі «Трайенгл Уэйст»

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА WOMENSRIGHTSNY.COM




Расія. 23 лютага (8 сакавіка) 1917 года.







Таронта (Канада). 8 сакавіка 2012 года.

ФОТАЗДЫМКІ HENRY CHAN З САЙТА FLICKR.COM/PEOPLE/HC916/

у Нью-Ёрку. У выніку трагедыі загінула больш за 140 працаўніц, у большасці сваёй гэта былі італьянскія і габрэйскія эмігранткі. Гэтая падзея аказала значны ўплыў на працоўнае заканадаўства ў Злучаных Штатах. І ўмовы працы, якія сталі прычынай гэтага бедства, згадваліся падчас правядзення ў наступныя гады Міжнароднага жаночага дня.

У рамках руху за мір, які зарадзіўся напярэдадні Першай сусветнай вайны, расійскія жанчыны адзначылі свой першы Міжнародны жаночы дзень у першую нядзелю лютага 1913 года. А ўжо на наступны, 1914 год у іншых краінах Еўропы 8 сакавіка жанчыны правялі мітынгі — альбо ў знак пратэсту, альбо ў знак салідарнасці са сваімі сёстрамі.

1917 год. Падчас вайны, якая забрала жыцці двух мільёнаў расійскіх салдат, расійскія жанчыны зноў выбралі апошнюю нядзелю лютага, каб правесці страйк з заклікам «за хлеб і мір». Палітычныя лідары палічылі гэта несвоечасовым, але жанчыны настаялі на сваім. Астатняе належыць гісторыі: праз чатыры дні цар быў вымушаны адмовіцца ад трону, а часовы ўрад надаў жанчынам права голасу. Гэта гістарычная нядзеля прыйшлася на 23 лютага па дзеючым на той час у Расіі юліянскім календары, аднак па грыгарыянскім, які выкарыстоўваўся ў іншых краінах свету, гэта было 8 сакавіка.

З цягам часу міжнародны жаночы рух паступова нарастаў і ўзмацняўся. Глабальныя жаночыя канферэнцыі, якія пачала праводзіць ААН, сталі важным імпульсам для скаардынаваных намаганняў у барацьбе за прадастаўленне жанчынам правоў і магчымасцяў удзельнічаць у палітычных і эканамічных працэсах.

Міжнародны жаночы дзень у сучасных умовах усё больш выкарыстоўваецца з мэтай нагадаць міжнароднай грамадскасці пра праблемы пэўных групаў жанчынаў. У такім кантэксце яго адзначаюць жаночыя групы ва ўсім свеце.

Афіцыйным святам 8 сакавіка з'яўляецца ў Афганістане, Арменіі, Азербайджане, Беларусі, Буркіна-Фасо, Камбоджы, Кітаі (толькі для жанчын), Грузіі, Гвінеі-Бісаў, Эрытрэі, Казахстане, Кыргызстане, Лаосе, Малдове, Манголіі, Чарнагорыі, Непале (толькі для жанчын), Расіі, Таджыкістане, Туркменістане, Угандзе, Украіне, Узбекістане, В'етнаме, Замбіі, на Кубе і Мадагаскары (толькі для жанчын).




Мельбурн (Аўстралія). 8 сакавіка 1975 года.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА VRROOM.NAA.GOV.AU

12

# *Сусветны дзень барацьбы супраць цэнзуры ў кіберпрасторы*




World Day Against Cyber Censorship.

Упершыню гэты дзень праводзіўся ў 2008 годзе міжнароднай арганізацыяй «Рэпарцёры без межаў» (Reporters Without Borders) пад патранажам ЮНЕСКА. Ён быў уведзены ў міжнародны каляндар з мэтай прыцягнення ўвагі грамадскасці да праблемы свабоднага доступу ў Сеціва па ўсім свеце. Міжнародная праваабарончая арганізацыя падкрэслівае: «Сусветны дзень барацьбы супраць кіберцэнзуры — гэта дзень прасоўвання і праслаўлення свабоднага Інтэрнэта як адчыненага акна ў свет, а таксама асуджэння пасягальніцтваў на свабодную плынь анлайнавай інфармацыі». «Рэпарцёры без межаў» заклікаюць міжнародную супольнасць штогод 12 сакавіка «абараняць канцэпцыю Інтэрнэта як свабоднай прасторы для кожнага чалавека, незалежна ад яго нацыянальнай прыналежнасці ці месцазнаходжання, і рэалізаваць ідэю сапраўды сусветнай павуціны хаця б на адзін дзень».

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА MUNDOMULA.LAMULA.PE



Кубінская кібер-дысідэнтка Ёані Санчэс добра вядомая не толькі на Кубе, але і за межамі краіны. Яе блог Generation Y, які крытыкуе палітыку ўладаў і забаронены кубінскім урадам, уганараваны шэрагам прэстыжных міжнародных прэмій у галіне журналісткі і блогінгу, але журналістцы не дазвалялі пакінуць краіну для іх атрымання.



Па звестках «Рэпарцёраў без межаў» на 2010 год, больш за сто кібер-дысідэнтаў знаходзілася за кратамі па ўсім свеце.

^ ФОТАЗДЫМАК З САЙТА THINKSWISSNY.ORG

Па звестках праваабаронцаў, у свеце больш за два дзясяткі краінаў абмяжоўваюць сваім грамадзянам доступ да Інтэрнэта. Аўтарытарныя рэжымы ў гэтым напрамку дзейнічаюць усё больш паспяхова.

Штогод «Рэпарцёры без межаў» 12 сакавіка публікуюць спіс «Ворагаў Інтэрнэта». Гэты спіс складаюць краіны, у якіх існуе прэвентыўная цэнзура і фільтрацыя інтэрнэт-кантэнту, накладаюцца абмежаванні на доступ да цэлага шэрагу нацыянальных і міжнародных рэсурсаў, свабодныя выказванні ў Сеціве пераследуюцца, а інтэрнэт-журналістаў нярэдка садзяць у турмы.

Беларуская дзяржава ўваходзіць у ганебныя спісы ад пачатку іх складання: у 2008 годзе, абвясціўшы пра намер выкарыстоўваць кітайскі досвед па блакаванні непажаданых сайтаў, патрапіла ў спіс краінаў, якія знаходзяцца пад наглядам абаронцаў свабоды слова, а ў 2012 годзе ўжо папоўніла спіс «ворагаў Інтэрнэта».

«Рэжым прэзідэнта Лукашэнкі ўзмацняе кантроль над Інтэрнэтам, пакуль краіна далей паглыбляецца ў палітычную ізаляцыю і эканамічны застой. Інтэрнэт-прастора, якую выкарыстоўваюць для распаўсюду інфармацыі і мабілізацыі пратэстаў, сур'ёзна пацярпела, калі ўлады адрэагавалі на «рэвалюцыю праз сацыяльныя медыя». Спіс заблакаваных вэб-сайтаў вырас, Інтэрнэт часткова блакаваўся падчас «маўклівых пратэстаў». Некаторыя беларускія інтэрнэт-карыстальнікі і блогеры былі арыштаваныя, іншыя былі запрошаныя на «прафілактычныя гутаркі» ў міліцыю — як спроба прымусіць іх спыніць дэманстрацыі і расповеды пра іх. Урад выкарыстоўваў twitter-паведамленні з мэтай запалохаць дэманстрантаў, а асноўны правайдэр замест доступу да анлайн-сацыяльнай сеткі «ВКонтакте» пераадрасоўваў на сайты, якія змяшчаюць шкодныя праграмы. Закон № 317-З, які ўступіў у сілу 6 студзеня 2012 года, замацаваў назіранне за Сецівам і захады кантролю», — паведамлялася ў прэс-рэлізе арганізацыі за 12 сакавіка 2012 года.

У Беларусі забароненыя сайты ПЦ «Вясна», «Хартыя'97», «Беларускі партызан» і блог Яўгена Ліпковіча ў ЖЖ.

**У шэрагах «Ворагаў Інтэрнэта» Беларусі складаюць кампанію дзяржавы з незайздроснай рэпутацыяй:**


- Бахрэйн


- В'етнам


- Іран


- Кітай


- Куба


- Бірма


- Паўночная Карэя


- Саудаўская Аравія


- Сірыя


- Туркменістан


- Узбекістан

# 15

# *Міжнародны дзень барацьбы з паліцэйскай жорсткасцю*



Упершыню гэты дзень адзначаўся ў 1997 годзе па ініцыятыве групы «Чорны сцяг» са Швейцарыі і канадскай групы з Манрэаля «Грамадзяне супраць паліцэйскай жорсткасці». Тады больш за 50 арганізацыяў і групаў прынялі ўдзел у акцыях пратэсту з асуджэннем праяваў несправядлівай жорсткасці з боку паліцэйскіх. Першапачаткова дата 15 сакавіка была вызначана выпадкова — была зручнай для арганізатараў акцый, бо ў 1997-м прыпадала на суботу. Аднак з 2000 года група «Чорны сцяг» пачала яе звязваць з інцыдэнтам, калі швейцарскія паліцэйскія збілі двух хлопчыкаў ва ўзросце 11 і 12 гадоў.

Ініцыятары правядзення Дня вітаюць любыя формы праявы салідарнасці і творчасці з асуджэннем гвалту з боку дзяржавы. Як зазначаецца ў звароце манрэальскай групы, «многія дзяржавы трымаюцца за кошт манаполіі на гвалт, а абаронца дзяржавы — паліцыя — з'яўляецца прыладай прыгнёту людзей. І не толькі бяздомных, эмігрантаў, каляровых, прастытутак, палітычных актывістаў, маргінальных слаёў грамадства — хаця гэтыя групы найперш становяцца ахвярамі паліцэйскай жорсткасці і судовай сістэмы». Аўтары звароту асаблівую ўвагу надаюць крымiналізацыі моладзі каляровых, бедных, што ў некаторых рэгіёнах свету дасягнула эпідэмічных маштабаў.

ФОТАЗДЫМАК DON EMMERT / AFP / GETTY IMAGES
З САЙТА PIXELNEWS.COM.UA




Нью-Ёркскі афіцэр паліцыі б'е ўдзельнікаў пратэсту «Займайце Уол-стрыт», 15 лістапада 2011 года ў Нью-Ёрку.

Традыцыйна ў адзначэнні Міжнароднага дня барацьбы з паліцэйскай жорсткасцю (International day against police brutality) актыўны ўдзел бяруць антыаўтарытарысцкія і анархісцкія групы розных краінаў. Аднак гэта не замінае палітычным рухам і грамадскім арганізацыям іншай скіраванасці выкарыстоўваць гэты дзень пратэсту з грамадска карыснымі мэтамі.

Беларускія праваабаронцы таксама ў гэты дзень стараюцца не прамінуць магчымасці, каб звярнуцца ў органы пракуратуры, унутраных справаў і ўстановы сістэмы выканання пакаранняў з пытаннем-заклікам «Навошта быць жорсткім?».

Дарэчы, у ЗША з 1995 года існуе традыцыя адзначаць Нацыянальны дзень барацьбы з паліцэйскай жорсткасцю (National Anti Police Brutality Day), які прыпадае на 22 кастрычніка.

# 15

# Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь

У 1994 годзе на 13-й сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання быў прыняты Асноўны Закон Рэспублікі Беларусь.

Канстытуцыя, якая абвяшчала краіну суверэннай і незалежнай рэспублікай, гарантавала народу галоўныя правы і свабоды, пачала распрацоўвацца амаль адразу пасля абрання дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання. Была створана спецыяльная камісія, куды ўвайшлі каля 90 чалавек. Пасля яны падзяліліся на дзве групы: пад кіраўніцтвам намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Васіля Шаладонава і на чале з Віктарам Ганчаром. Працэс распрацоўкі расцягнуўся на тры гады. Розныя варыянты друкаваліся на старонках «Народнай газеты». Па сутнасці, першая група прадстаўляла інтарэсы афіцыйнай улады, а другая — апазіцыі. Пасля пэўнага часу дэпутаты селі за адзін стол з мэтай аб'яднаць два варыянты. Але ў аснову Канстытуцыі 1994 года быў пакладзены праўладны праект Шаладонава.

Праект Канстытуцыі накіроўваўся для заключэння і кансультацыі ў іншыя краіны свету — Германію, Францыю, Злучаныя Штаты Амерыкі.

У рэшце рэшт, 15 сакавіка 1994 года, пасля працяглага працэсу галасавання сярод дэпутатаў, Канстытуцыя была прынята. Асноўны Закон падпісаў тагачасны старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб.

Першая Канстытуцыя суверэннай Беларусі абвясціла рэспубліку «унітарнай дэмакратычнай сацыяльна-прававой дзяржавай», усталяваўшы прэзідэнцкую форму дзяржаўнага кіравання.

У ліпені 1994 года першым прэзідэнтам Беларусі быў абраны Аляксандр Лукашэнка. І ўжо ў наступным годзе ён ініцыяваў рэферэндум, які зацвердзіў эканамічную інтэграцыю з Расіяй, надаў рускай мове статус дзяржаўнай, замяніў бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоню» на перапрацаваную савецкую сімволіку. 19 дэпутатаў апазіцыі БНФ, якія абвясцілі галадоўку ў знак пратэсту супраць рэферэндуму, былі збітыя ў Авальнай зале АМАПам і выкінутыя з будынка Дома ўраду.

У 1996 годзе дэпутаты паспрабавалі аб'явіць Лукашэнку імпічмент, сабралі 70 подпісаў, але прэзідэнта выратавала ўрадавая дэлегацыя з Масквы.

У гэтым жа годзе быў праведзены яшчэ адзін рэферэндум, які працягнуў першы тэрмін прэзідэнцтва Лукашэнкі на два гады і пашырыў яго паўнамоцтвы. Заканадаўчая ўлада пазбавілася прывілеяванага становішча і атрымала новую назву — Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь. Аднапалатны парламент стаў двухпалатным.



Мечыслаў Грыб з першымі выданнямі Канстытуцыі — падарункавым і кішэнным — для дэпутатаў Вярхоўнага Савета.



Падпісанне Канстытуцыі 15 сакавіка 1994 года. Фота з асабістага архіву Мечыслава Грыба.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА EURORADIO.FM

Наступны рэферэндум, 2004 года, зняў у Канстытуцыі абмежаванні на колькасць прэзідэнцкіх тэрмінаў.

З 2004 года Дзень Канстытуцыі ў Беларусі стаў працоўным днём.

*«Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прынятая Вярхоўным Саветам 15 сакавіка 1994 г., была пятай па ліку Канстытуцыяй у гісторыі Беларусі. Раней Канстытуцыі БССР прымаліся ў 1919, 1927, 1937, 1978 г.*

*Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь — вышэйшы закон, якім замацаваны прынцып вяршэнства права. Дзяржава, усе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у рамках Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю актаў заканадаўства.*

**Забеспячэнне правоў і свабодаў грамадзянаў Рэспублікі Беларусь – гэта вышэйшая мэта дзяржавы.**

*Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь устанаўлівае адказнасць дзяржавы перад грамадзянінам за стварэнне ўмоваў для свабоднага і годнага развіцця асобы, а таксама адказнасць грамадзяніна перад дзяржавай за няўхільнае выкананне абавязкаў, ускладзеных на яго Канстытуцыяй.»*



{ Меркаванне }

***Экс-старшыня Вярхоўнага Савета, папярэднік Мечыслава Грыба, Станіслаў Шушкевіч калісьці назваў Канстытуцыю 1994 года «па-сапраўднаму дэмакратычнай»*** *і выказаў гатоўнасць падпісацца пад кожным яе словам. Уладу прэзідэнта, прапісаную ў ёй, палітык назваў «мяккай». Аднак пасля двух рэферэндумаў, паводле яго словаў, беларусы атрымалі дзікую прэзідэнцкую рэспубліку. У выніку, паводле словаў сп. Шушкевіча, сёння мы маем не Канстытуцыю 1994 года, як пішуць, «са зменамі і дапаўненнямі», а Канстытуцыю 1996 года. «У ёй усе правы гарантаваныя, але механізм іх выканання не прапісаны. Тры незалежныя юрыдычныя камісіі Еўропы (у тым ліку найаўтарытэтная Венецыянская камісія) прыйшлі да высновы, што яна з'яўляецца нелегітымнай», — падсумаваў палітык у колішнім інтэрв'ю Tut.by.*

ФОТАЗДЫМАК СЯРГЕЯ ЯГЕЛО З САЙТА BNP.BY

# 21

## Міжнародны дзень барацьбы за ліквідацыю расавай дыскрымінацыі

Гэты міжнародны дзень абвешчаны Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у 1966 годзе.

Нагодай для абрання даты 21 сакавіка стала сумна вядомая падзея: у 1960 годзе ў паўднёва-афрыканскім мястэчку Шарпевіль паліцыя адкрыла агонь па чарнаскурых маніфестантах, якія пратэставалі супраць палітыкі апартэіду і абавязковай пашпартызацыі афрыканцаў у Паўднёвай Афрыцы. У выніку «шарпевільскай разні» было забіта 69 чалавек, у тым ліку жанчыны і дзеці, больш за 180 дэманстрантаў былі паранены.

Прычынай пратэстных настрояў насельніцтва Шарпевіля былі абмежаванні ў правах для чарнаскурых людзей. З 1945 года ў Паўднёва-Афрыканскім Саюзе дзейнічаў «Адзіны закон пра туземцаў у гарадскіх раёнах», які прадугледжваў для чарнаскурага насельніцтва шэраг прапускоў. У іх уносілася інфармацыя пра зарэгістраваны кантракт з наймальнікам і дазволы на пошукі працы ў пэўным раёне. У 1952 годзе выйшаў новы закон, цынічна названы «Аб адмене закона аб прапусках». Паводле яго, кожны чарнаскуры мужчына — незалежна ад таго, ці павінен ён быў раней насіць пропуск — мусіў мець пры сабе заўсёды адмысловую ўліковую кніжку. У ёй указваўся падатковы нумар яе ўладальніка, дазвол на знаходжанне ў гарадской зоне, штомесяц абнаўляўся подпіс працадаўцы,

УСЕ ЛЮДЗІ НАРАДЖАЮЦЦА СВАБОДНЫМІ І РОЎНЫМІ Ў СВАЁЙ ГОДНАСЦІ І ПРАВАХ.

ПЕРШЫ АРТЫКУЛ УСЕАГУЛЬНАЙ ДЭКЛАРАЦЫІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

уносіліся і іншыя звесткі. Яшчэ больш непрыемным за саму неабходнасць мець уліковую кніжку было тое, што чарнаскурыя ўладальнікі былі абавязаны паказваць яе па патрабаванні любога паліцэйскага і яшчэ 15 катэгорыяў чыноўнікаў. Адмова прад'явіць кніжку расцэньвалася як правапарушэнне, за якое афрыканец мог быць узяты пад арышт тэрмінам да 30 сутак. Цягам гэтага тэрміну паліцыя высвятляла яго асобу. За год — з 30 чэрвеня 1965-га па 30 чэрвеня 1966-га — за парушэнне закона пра прапускі было пакарана больш за 479 тысяч афрыканцаў. У часы шарпевільскага расстрэлу за такія парушэнні заводзіліся каля тысячы судовых справаў штодзень! Да 1966 года іх колькасць узрасла да 1300 за дзень. Дык вось у 1960 годзе ўрад Паўднёва-Афрыканскага Саюза ўпершыню за ўсю гісторыю краіны вырашыў пашырыць дзеянне закона і на жанчын. Гэтае рашэнне ўладаў і выклікала абурэнне даведзеных да адчаю жыхароў мястэчка Шарпевіль.

Ахвяраў расстрэлу пахавалі ў агульнай магіле, а іх пахаванне яшчэ больш згуртавала чарнаскурае насельніцтва ў змаганні за свае правы.

Расстрэл бяззбройных дэманстрантаў выклікаў абурэнне ва ўсім свеце. 1 красавіка 1960 года Савет Бяспекі ААН прыняў рэзалюцыю №134 з асуджэннем урада Паўднёва-Афрыканскага Саюза. А праз шэсць гадоў пасля трагічных падзеяў па рашэнні Генасамблеі ААН стаў адзначацца Міжнародны дзень барацьбы за выкараненне расавай дыскрымінацыі.

«Першы артыкул Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека абвяшчае, што «ўсе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах». Міжнародны дзень барацьбы за ліквідацыю расавай дыскрымінацыі (International Day for the Elimination of Racial Discrimination) нагадвае нам пра нашу калектыўную адказнасць за заахвочванне і абарону гэтага ідэалу», — звяртаецца да ўсіх людзей свету ААН.



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА UNICEF.PT

Постэр Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ) супраць расізму.

У Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы 21 сакавіка адзначаецца нацыянальнае свята — Дзень правоў чалавека. Штогод у гэты дзень сваякі ахвяраў шарпевільскага расстрэлу, удзельнікі падзеяў, якія выжылі, прыходзяць да магілы загінулых. Яны ўскладаюць кветкі і нагадваюць тым самым, што за сваю свабоду чарнаскурыя грамадзяне краіны заплацілі вельмі высокую цану і што абарона правоў чалавека застаецца для іх прыярытэтам.

**З прычыны росту заклапочанасці міжнароднай супольнасці праблемай расавай дыскрымінацыі Генасамблея ААН у 1963 годзе абвясціла Дэкларацыю аб ліквідацыі ўсіх формаў расавай дыскрымінацыі, у якой замацаваны чатыры галоўныя палажэнні:**



1. Усякая тэорыя расавага адрознення або перавагі ў навуковым сэнсе ілжывая, у маральным — заганная, ў сацыяльных дачыненнях — несправядлівая і небяспечная і не можа быць апраўдана ні ў тэорыі, ні на практыцы;
2. Расавая дыскрымінацыя, і асабліва палітыка урадаў, заснаваная на ідэях расавай перавагі або на расавай нянавісці, з'яўляецца парушэннем асноўных правоў чалавека і ставіць пад пагрозу прыязныя адносіны паміж народамі, супрацоўніцтва паміж дзяржавамі і міжнародны мір і бяспеку;
3. Расавая дыскрымінацыя наносіць шкоду не толькі тым, хто ёй падвяргаецца, але таксама і тым, хто яе праводзіць;
4. Стварэнне сусветнай супольнасці, вольнай ад расавай сегрэгацыі і дыскрымінацыі, якія спараджаюць нянавісць і адчужэнне, з'яўляецца адной з галоўных мэтаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

^ ФОТАЗДЫМАК З САЙТА POHWEIJUN.BLOGSPOT.RU









**у 1965 годзе**

Генасамблея прадставіла міжнароднай супольнасці прававы дакумент, прыняўшы Міжнародную канвенцыю аб ліквідацыі ўсіх формаў расавай дыскрымінацыі, якая ўступіла ў сілу ў 1969 годзе пасля таго, як 27 дзяржаў ратыфікавалі дакумент ці далучыліся да яго. Беларусь ратыфікавала гэты дакумент 8 траўня 1969 года, у бытнасць БССР.

Міжнародная канвенцыя аб ліквідацыі ўсіх формаў расавай дыскрымінацыі з'яўляецца самай даўняй Канвенцыяй ААН па правах чалавека, якую ратыфікавала найбольшая колькасць дзяржаў.

Акрамя замацавання абавязацельстваў дзяржаў-удзельніц, Канвенцыя прадугледзела стварэнне Камітэта па ліквідацыі расавай дыскрымінацыі.

24

# Міжнародны дзень права на ўстанаўленне ісціны ў дачыненні да грубых парушэнняў правоў чалавека і годнасці ахвяраў

Гэты міжнародны дзень Генеральная Асамблея ААН абвясціла ў снежні 2010 года. Адзначаючы гэту дату, арганізацыя аддае даніну памяці монсеньёру Оскару Арнульфу Рамэру — арцыбіскупу Сан-Сальвадорскаму, які быў заўзятым праваабаронцам. Ён быў застрэлены правымі баевікамі 24 сакавіка 1980 года падчас правядзення службы ў саборы — загінуў за тое, што не хацеў маўчаць і мірыцца з гвалтам, здзекамі і несправядлівасцю.

Глыбокі ўплыў на Оскара Рамэра аказала забойства яго сябра — святара-езуіта Руціліа Грандэ, арганізатара хрысціянскіх суполак сярод ніжэйшай сялянскай беднаты. Тады Рамэра заклікаў урад расследаваць акалічнасці смерці сябра, аднак яго патрабаванне праігнаравалі. А ў прэсе тым часам распачалася кампанія супраць, як іх назвалі, «святароў трэцяга свету», якіх абвінавацілі ў распальванні нянавісці і класавай барацьбы. Рамэра ператварыўся «з саюзніка алігархіі ў красамоўнага прадстаўніка беднаты».

Арцыбіскуп Сан-Сальвадорскі з яшчэ большым радыкалізмам пачаў выступаць супраць галечы, сацыяльнай няроўнасці, забойстваў і катаванняў, што зрабіла яго вядомым і за межамі краіны. У лютым 1980 года яму было прысвоена званне ганаровага доктара Каталіцкага ўніверсітэта горада Лёвэна. Падчас паездкі ў Еўропу Рамэра сустрэўся з папам Янам Паўлам ІІ і выказаў заклапочанасць тым, што адбываецца ў яго краіне.

У 1979 годзе ў Сальвадоры прыйшла да ўлады Рэвалюцыйная ўрадавая хунта. На адрас Рамэра амаль штодня паступалі пагрозы. Ён выступіў з асуджэннем ЗША за аказанне ваеннай дапамогі новаму ўраду і ў лютым 1980 года напісаў тагачаснаму прэзідэнту Джымі Картэру пра тое, што павелічэнне ваеннай дапамогі з боку ЗША «абвострыць несправядлівасць і рэпрэсіі», накіраваныя супраць людзей, якія часта змагаюцца за элементарныя чалавечыя правы. Урад ЗША ніяк не адгукнуўся на ўгаворванні арцыбіскупа.

Дзякуючы сваім пропаведзям і пасланням, напоўненым любоўю і спагадай да свайго народу, Оскар Рамэра вельмі хутка займеў ключавую ролю ў



Оскар Арнульф Рамэра, арцыбіскуп Сан-Сальвадорскі.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА SAINTSRESOURCE.COM

фармаванні грамадскай думкі. «Арцыбіскуп, а не хрысціянскія дэмакраты ва ўрадзе, з'яўляецца сапраўдным выразнікам настрояў шырокіх народных масаў краіны», — канстатаваў 22 сакавіка 1980 года, за два дні да забойства сальвадорскага арцыбіскупа, часопіс амерыканскіх езуітаў «Амерыка».

## «АРЦЫБІСКУП, А НЕ ХРЫСЦІЯНСКІЯ ДЭМАКРАТЫ ВА ЎРАДЗЕ, З'ЯЎЛЯЕЦЦА САПРАЎДНЫМ ВЫРАЗНІКАМ НАСТРОЯЎ ШЫРОКІХ НАРОДНЫХ МАСАЎ КРАІНЫ»

Забойства Оскара Рамэра адбылося праз дзень пасля пропаведзі, у якой ён заклікаў сальвадорскіх вайскоўцаў як набожных хрысціянаў спыніць гвалт і парушэнні правоў чалавека. Пахаванне Рамэра стала найбуйнейшай дэманстрацыяй ў гісторыі краіны Сальвадор, а сёй-той кажа, што і ў гісторыі Лацінскай Амерыкі: на памінальнай службе прысутнічала больш за 250 тысяч чалавек з розных краінаў свету. Прах Рамэра спачывае ў кафедральным саборы Сан-Сальвадора.

На сёння ў Лацінскай Амерыцы практычна няма ніводнага чалавека, які б нічога не ведаў пра арцыбіскупа Сальвадора Оскара Арнульфа Рамэра-і-Гальдамэсэ. Яго называюць не інакш як Святы беднякоў або Святы Рамэра Амерыкі. Па папулярнасці сальвадорскага арцыбіскупа можна параўнаць з Эрнэста Чэ Гевара. Іх імёны ў адным шэрагу змагароў, якія

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА STPKC.ORG



«Калі яны заб'юць мяне, я ўваскрэсну зноў у людзях Сальвадора». (Оскар Арнульфа Рамэра, 1980 год)

аддалі свае жыцці за лепшую будучыню народаў Лацінскай Амерыкі. Пра монсеньёра Рамэра складаюць песні, пішуць вершы, здымаюць фільмы. Як і Чэ Гевара, ён стаў легендай.

Афіцыйны даклад ААН 1993 года пацвярджае, што Оскар Рамэра загінуў ад рук правых эскадронаў смерці. У дакладзе гаворыцца, што загад пра забойства аддаў лідар Нацыяналістычнага рэспубліканскага альянсу, неафашыст і арганізатар эскадронаў смерці Раберта дэ Абюсон. У 2004 годзе суд ЗША па пазову праваабарончай арганізацыі «Цэнтр правасуддзя і адказнасці» прызнаў начальніка бяспекі пры Раберта дэ Абюсоне і актыўнага ўдзельніка эскадронаў смерці вінаватым у падрыхтоўцы і ўдзеле ў забойстве Оскара Рамэра. Паводле судовага рашэння вінаваты павінен быў сплаціць 10 мільёнаў даляраў за пазасудовыя забойствы і злачынствы супраць чалавечнасці.

# 24

# Гвалтоўны разгон акцыі пратэсту супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў-2006



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА SVARZHUK.VICTORYWARE.COM

Масавы пратэст у 2006 годзе на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску.

19 сакавіка 2006 года ў Беларусі праходзілі трэція прэзідэнцкія выбары. Пасля абвяшчэння перамогі Аляксандра Лукашэнкі (83 % галасоў выбаршчыкаў паводле ЦВК) некалькі тысяч чалавек выйшлі на Кастрычніцкую плошчу, каб выказаць пратэст супраць фальсіфікацыі выбараў, і засталіся там. Быў утвораны намётавы гарадок, які праіснаваў у цэнтры сталіцы з 20-га па 24 сакавіка.

Удзельнікі акцыі абаранялі права на свабодныя дэмакратычныя выбары.

У ноч на 24 сакавіка адбылася брутальная ліквідацыя намётавага гарадка спецпадраздзяленнямі міліцыі. А чацвёртай гадзіне раніцы на плошчы каля 300 чалавек былі арыштаваныя і адпраўленыя ў прыёмнік-размеркавальнік на Акрэсціна. Тэрміны арыштаў у большасці складалі ад 5 да 15 сутак. Пры затрыманні людзей жорстка збівалі нагамі і дубінкамі. Паводле звестак Праваабарончага цэнтра «Вясна», па ўсёй краіне па палітычных прычынах напярэдадні і пасля прэзідэнцкіх выбараў было затрымана ці арыштавана больш за 700 чалавек. Паводле звестак Беларускай асацыяцыі журналістаў, напярэдадні і пасля выбараў быў затрыманы, аштрафаваны ці пазбаўлены волі 31 журналіст.

**МЕСЦА ПРАТЭСТУ СТАЛА ПЛОШЧАЙ КАЛІНОЎСКАГА**

«Удзельнікамі пратэсту ў 2006 годзе былі студэнты, працоўныя, бізнэсмены і інжынеры, людзі з розных гарадоў і нават асобныя грамадзяне Расіі і Украіны, Польшчы і Канады, — узгадвае праваабаронца Алесь Бяляцкі ў кнізе «Верым. Можам. Пераможам». — Але што бянтэжыла ўлады, дык гэта тое, што ні штодзённыя затрыманні, ні выключэнне асвятлення на плошчы, ні дробныя правакацыі не спынялі прыток новых людзей у намётавы гарадок, якія цяклі туды штовечар шырокай ракой. Што прыемна ўразіла ў вясновых падзеях, дык гэта ўдзел у іх тысячаў і тысячаў маладых людзей, якія пераступілі мяжу страху».

Пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў падчас акцыі пратэсту агучыў ідэю назваць Кастрычніцкую плошчу імем Кастуся Каліноўскага: 22 сакавіка 1864 года быў пакараны смерцю герой паўстання супраць расійскага панавання Кастусь Каліноўскі.

# 25

# Міжнародны дзень салідарнасці з супрацоўнікамі, якія ўтрымліваюцца пад вартай, і зніклымі без вестак



Алек Колет — былы дырэктар Інфармацыйнага цэнтра ААН і журналіст

ФОТАЗДЫМАК MILTON GRANT З САЙТА UN.ORG

У гэты дзень Арганізацыя Аб'яднаных Нацый патрабуе неадкладнага вызвалення ўсіх сваіх супрацоўнікаў, якія ўтрымліваюцца пад вартай, і заклікае ўсе краіны аб'яднаць намаганні для абароны тысяч супрацоўнікаў ААН, якія з рызыкай для ўласнай бяспекі аказваюць дапамогу шматпакутнаму насельніцтву ў некаторых найбольш небяспечных рэгіёнах свету.

«Кожны напад на супрацоўніка ААН — гэта трагедыя для ахвяраў такіх нападаў, цяжкае злачынства, вінаватыя ў здзяйсненні якога павінны перасследавацца па законе, і спроба падарваць глабальную дзейнасць нашай арганізацыі ў імя міру, павагі да правоў чалавека і развіцця. Нашы дзеянні ў адказ павінны быць накіраваны на прадухіленне такіх выпадкаў і забеспячэнне абароны і справядлівасці», — заявіў Генсакратар арганізацыі Пан Гі Мун.

Дата для правядзення дня абраная не выпадкова: у 1985 годзе ўзброенымі баевікамі ў Бейруце быў выкрадзены Алек Колет — былы дырэктар Інфармацыйнага цэнтра ААН і журналіст, які працаваў па лініі Блізкаўсходняга агенцтва ААН для дапамогі палестынскім уцекачам і арганізацыі работ. Толькі праз 24 гады, у 2009 годзе, астанкі спадара Колета былі знойдзеныя ў ліванскай даліне Бека і перададзеныя сям'і. У гэты міжнародны дзень калегі аддаюць даніну яго памяці.

Гэты міжнародны дзень набывае ўсё больш важнае значэнне ў апошнія гады — па меры павелічэння колькасці нападаў

За 60 гадоў (1948—2008) больш за 2400 міратворцаў з 118 краінаў загінулі, выконваючы свой абавязак пад сцягам ААН.




МАЛЮНАК ERIC RUIN З САЙТА USPRISONCULTURE.COM

на персанал Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Гэта дзень мабілізацыі дзеянняў, патрабавання справядлівасці і ўмацавання рашучасці абараняць супрацоўнікаў і міратворцаў ААН, а таксама калегаў, якія прадстаўляюць няўрадавыя арганізацыі і сродкі масавай інфармацыі.

ААН звяртаецца да сваіх партнёраў з заклікам зрабіць усё магчымае, каб супрацоўнікі арганізацыі маглі выконваць сваю працу ў як мага больш бяспечнай абстаноўцы.

Краевугольным каменем прававога рэжыму, які забяспечвае абарону персаналу, што працуе ў небяспечных і неспрыяльных умовах, з'яўляецца Канвенцыя пра бяспеку персаналу ААН і звязанага з ёй персаналу 1994 года. Паводле апошняй інфармацыі на сайце ААН, па стане на 2012 год гэты дакумент быў ратыфікаваны толькі 90 краінамі-сябрамі ААН, і толькі 27 краінаў-сябраў ратыфікавалі Факультатыўны пратакол да Канвенцыі, прыняты ў 2005-м. Пратакол папаўняе прабел у Канвенцыі — пашырае рэжым прававой абароны не толькі на міратворчыя аперацыі, але і на ўсе іншыя аперацыі ААН па аказанні гуманітарнай і палітычнай дапамогі, а таксама на аперацыі па аказанні надзвычайнай гуманітарнай дапамогі.

ААН канстатуе, што значная большасць дзяржаў-сябраў арганізацыі пакуль не далучылася да гэтага рэжыму. Арганізацыя звяртаецца да іх з заклікам як мага хутчэй ратыфікаваць Канвенцыю пра бяспеку персаналу і Пратакол да яе ці далучыцца да гэтых важных міжнародных дакументаў.

Міжустаноўская сетка па пытаннях бяспекі ААН заснавана на тым прынцыпе, што асноўная адказнасць за ахову і бяспеку персаналу арганізацыі, іх сем'яў і ўласнасці, а таксама ўласнасці ААН кладзецца на ўрад прымаючай краіны.

# Страты ААН

**БАГДАД | 19 ЖНІЎНЯ 2003**

У выніку тэрарыстычнага нападу на штаб-кватэру ААН у Багдадзе 19 жніўня 2003 года загінулі 22 супрацоўнікі арганізацыі.



Фотаздымак REUTERS/Suhaib Salem: Амерыканскі салдат ля штаба ААН у Багдадзе.

**АЛЖЫР | 11 СНЕЖНЯ 2007 ГОДА**

17 супрацоўнікаў ААН страцілі свае жыцці, калі замінаваны аўтамабіль знішчыў офісы Праграмы развіцця ААН і нанёс сур'ёзныя пашкоджанні комплексу Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў.



**НІГЕРЫЯ | 26 ЖНІЎНЯ 2011 ГОДА**

26 жніўня 2011 года каля комплексу ААН у сталіцы Нігерыі Абуджы, дзе размяшчаліся 26 спецыялізаваных установаў і праграмаў арганізацыі, выбухнуў начынены выбухоўкай аўтамабіль. Усяго загінулі 24 чалавекі, з іх 12 былі супрацоўнікамі ААН, больш за 80 чалавек атрымалі раненні.



**АФГАНІСТАН | 1 КРАСАВІКА 2011 ГОДА**

У выніку здзейсненага ў Мазары-Шарыфе, Афганістан, нападу на аддзяленне ААН загінулі тры міжнародныя супрацоўнікі і чатыры супрацоўнікі службы бяспекі ААН.



Фотаздымак ААН/Крыстаф Верхелен: Прыспушчаны сцяг ААН перад будынкам штаб-кватэры Місіі ААН па садзейнічанні Афганістану (МООНСА) у Кабуле, 2.04.2011 года.

**З 1 лістапада 2011 года па 31 жніўня 2012 года** ў выніку зламысных дзеянняў, стыхійных бедстваў, няшчасных выпадкаў на працы або іншых надзвычайных сітуацый, знаходзячыся пры выкананні службовых абавязкаў, **загінулі 29 супрацоўнікаў ААН**.



Фотаздымак ААН/Альберт Гансалес Фаран: Кантынгент нігерыйскіх міратворцаў ЮНАМІД пасля засады, у якой загінулі чатыры іх суайчынніка.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТАЎ: UN.ORG, ST1.PROSTOINTERESNO.COM, GLOBALPOST.COM, NORWAY-UN.ORG, CDN.DAILYPOST.COM.NG

# 25

# Міжнародны дзень памяці ахвяраў рабства і трансатлантычнага гандлю рабамі




Тэма Дня ў 2011 годзе: «Трансатлантычны гандаль рабамі: жывая спадчына невядомых 30 мільёнаў чалавек».

ПОСТЭР З САЙТА UN.ORG

17 снежня 2007 года Генеральная Асамблея ААН прыняла рашэнне, што з 2008 года 25 сакавіка гэты міжнародны дзень будзе адзначацца штогод.

Аб чатырохсотгадовай гісторыі трансатлантычнага гандлю рабамі і яго незабыўных наступствах для ўсяго свету, гэтак жа як і пра ўнёсак рабоў у пабудову заняволілі іх, грамадстваў, якіх вядома няшмат. Такое няведанне спрыяла маргіналізацыі людзей афрыканскага паходжання ў краінах Еўропы і Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі.

Рабства і гандаль рабамі з'яўляюцца аднымі з найгрубейшых парушэнняў правоў чалавека ў гісторыі чалавецтва. Трансатлантычны гандаль рабамі — выключная ў сваім родзе з'ява у гісторыі з прычыны сваёй працягласці (чатырыста гадоў), маштабаў (прыблізна 17 мільёнаў чалавек, не лічачы тых, хто памёр у дарозе) і легітымізацыі, у прыватнасці ў адпаведнасці з законамі таго часу. Гэта была найбуйнейшая ў гісторыі дэпартацыя, і нярэдка трансатлантычны гандаль рабамі называюць першым прыкладам глабалізацыі. Цягнуўшыся з XVI па XIX стагоддзе, гандаль рабамі ахопліваў некалькі рэгіёнаў і кантынентаў: Афрыку, Паўночную і Паўднёвую Амерыку, Еўропу і Карыбскі басейн. У выніку мільёны афрыканцаў былі прададзеныя ў рабства і эксплуатаваліся еўрапейцамі.

Трансатлантычны гандаль рабамі ўяўляў сабой складаную і буйнамаштабную эканамічную сістэму. Асноўныя краіны, уцягнутыя ў гандаль рабамі, — Іспанія, Партугалія, Нідэрланды, Англія і Францыя — мелі магчымасць атрымліваць значны прыбытак на кожным адрэзку «трохкутнага» гандлёвага шляху, і многія еўрапейскія гарады квітнелі, дзякуючы прыбытку ад сельскагаспадарчай вытворчасці, якая была пабудавана і трымалася ў літаральным сэнсе «на спінах» афрыканскіх рабоў.

Практыка рабаўладання нярэдка апраўдвалася меркаваннямі філантрапічнага або рэлігійнага характару і нават была замацавана ў сумна вядомым «Чорным кодэксе» 1685 года. Гэтым французскім законам вызначаліся правы і абавязкі рабоў і іх гаспадароў у амерыканскіх калоніях і, у прыватнасці, сцвярджалася: «Мы аб'яўляем рабоў рухомай маёмасцю». «Чорны кодэкс» устанаўліваў жорсткую дысцыплінарную сістэму, якая прадугледжвала цялесныя пакаранні і клеймаванне за нязначныя правіны, разам з тым гэты закон нярэдка падаваўся як «карысць» для рабоў і сродак абароны ад злоўжыванняў з боку гаспадароў. Законам таксама

прадугледжваліся рэлігійныя святы, абавязковы ўдзел у каталіцкім набажэнстве, цярпімасць да змяшаных шлюбаў і меры па абароне сям'і.

Да канца XVIII стагоддзя ў ЗША і Вялікабрытаніі, а таксама ў іншых краінах Еўропы ўзмацнілася маральнае і палітычнае непрыманне гандлю людзьмі. Дзейнасць такіх арганізацый, як квакеры ў Паўночнай Амерыцы і «Таварыства за выкараненне рабагандлю» ў Вялікабрытаніі, спрыяла павышэнню інфармаванасці грамадскасці аб гандлю людзьмі з дапамогай заклікаў, кампаній байкоту і распаўсюду матэрыялаў, якія наглядна паказвалі ўмовы жыцця рабоў на гандлёвых суднах або падчас працы на плантацыях. Самі рабы таксама паўставалі супраць сваіх прыгнятальнікаў. Найбольш вядомым з такіх паўстанняў была рэвалюцыя на Гаіці ў 1791—1804 гадах.

Больш за дзвесце гадоў таму, у пачатку сакавіка 1807 г., прэзідэнт ЗША Томас Джэферсан падпісаў закон, які адмяніў гандаль людзьмі. Крыху пазней у тым жа месяцы парламент Вялікабрытаніі ў выніку намаганняў прыхільнікаў адмены рабства Уільяма Уілберфорса, прападобнага Джэймса Рамзэя і Джона Уэслі забараніў гандаль рабамі на ўсёй тэрыторыі Брытанскай імперыі. Надышоў час перамен. У наступныя гады іншыя еўрапейскія краіны ўслед гэтаму прыкладу прынялі законы пра забарону рабства. Аднак толькі праз 80 гадоў, пасля таго як Куба і Бразілія адмянілі рабства, адпаведна, у 1886 і 1888 гадах, з трансатлантычным гандлем рабамі было, нарэшце, скончана.

Спадчына трансатлантычнага рабагандлю з'яўляецца прадметам шматлікіх дыскусій. Гандаль рабамі, несумненна, прывёў да істотных стратаў у мове, культуры і рэлігіі мільёнаў паднявольных афрыканцаў. Перамяшчэнне такой





***«Рабства перайначваецца і зноў з'яўляецца ў сучасных формах,*** *уключаючы пазыковую кабалу, продаж дзяцей і гандаль жанчынамі і дзяўчынкамі для аказання сэксуальных паслугаў. Яго карані схаваныя ў невуцтве, нецярпімасці і сквапнасці. Мы павінны стварыць умовы, у якіх такія здзекі і жорсткасць будуць немагчымыя. Адным са шляхоў дасягнення гэтага з'яўляецца захаванне памяці аб мінулым і адданне належнага ахвярам трансатлантычнага гандлю рабамі».*

*З паслання генсакратара ААН Пан Гі Муна*

вялікай колькасці людзей з Афрыкі падарвала афрыканскую эканоміку.

Міжнародны дзень памяці ахвяраў рабства і трансатлантычнага гандлю рабамі ААН праводзіць дзеля ўшанавання памяці загінулых з прычыны рабства, а таксама тых, хто перажыў жахі «сярэдняга шляху» і змагаўся за вызваленне ад рабства. Акрамя таго, у гэты дзень праводзяцца абмеркаванні пытанняў, якія тычацца прычын, наступстваў і ўрокаў трансатлантычнага рабагандлю, каб павысіць інфармаванасць аб небяспеках расізму і расавых забабонаў.

## 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | | | | | |

## 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | | | | |

# 04

07

# Міжнародны дзень памяці пра генацыд у Руандзе

У 2003 годзе Генеральная Асамблея ААН абвясціла 7 красавіка Міжнародным днём памяці пра генацыд у Руандзе і заклікала ўсіх людзей зямлі ў гэты дзень роўна апоўдні ўшанаваць памяць загінулых хвілінай маўчання.



Масавыя забойствы працягваліся каля 100 дзён — з 7 красавіка да сярэдзіны ліпеня 1994 года.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА DOCUMENTINGREALITY.COM

У 1994 годзе міжнародная супольнасць была узрушана падзеямі ў цэнтральнаафрыканскай дзяржаве Руанда, дзе ўсяго за сто дзён больш за 800 тысяч жыхароў, у асноўным прадстаўнікі этнічнай групы тутсі, былі знішчаны апалчэнцамі і ўрадавымі войскамі хуту. Забойствы пачаліся на наступны дзень пасля таго, як самалёт з прэзідэнтамі Руанды і Бурундзі на борце (абодва хуту па нацыянальнасці) быў збіты пры прызямленні ў Кігалі, сталіцы Руанды. Прэзідэнты вярталіся з перамоў, скіраваных на ўмацаванне кроххай дамовы пра мір і спыненне канфлікту паміж урадам, у якім дамінавалі хуту, і паўстанцкай арміяй, якая складаецца ў асноўным з тутсі. Забойства прэзідэнтаў прывяло да таго, што вайна ўспыхнула зноў. Урадавыя войскі і апалчэнцы хуту заклікалі грамадзянскае насельніцтва да расправы над этнічнымі тутсі.

Яны сцвярджалі, што мірныя жыхары дапамагаюць паўстанцам тутсі, і выкарысталі гэта, каб апраўдаць масавыя напады на нявінных людзей. Невялікі міратворчы кантынгент, які быў накіраваны Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый для

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА VOICE-ONLINE.CO.UK



назірання за ходам мірных перамоў, не быў ўпаўнаважаны ўмешвацца. У дачыненні да папярэджання пра планаваны генацыд не былі прынятыя меры.

КОЛЬКАСЦЬ АХВЯР АЦЭНЬВАЕЦЦА АД 800 ТЫСЯЧ ДА 1 МІЛЬЁНА. З ІХ КАЛЯ 10% — ХУТУ. ХУТКАСЦЬ ЗАБОЙСТВАЎ У РУАНДЗЕ Ў ПЯЦЬ РАЗОЎ ПЕРАВЫШАЛА ХУТКАСЦЬ ЗАБОЙСТВАЎ У НЯМЕЦКІХ ЛАГЕРАХ СМЕРЦІ Ў ГАДЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ — 72 ТРУПА Ў ГАДЗІНУ.



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА KUVAT.UUSISUOMI.FI

Кофі Анан, 7-ы Генеральны сакратар ААН (1997—2006).

Наступствы генацыду ў Руандзе па-ранейшаму адчуваюцца як унутры краіны, так і ў суседніх дзяржавах, у тым ліку ва ўсходніх раёнах Дэмакратычнай Рэспублікі Конга, дзе вялікія раёны ў правінцыі Паўднёвая Ківу па-ранейшаму кантралююцца апалчэнцамі хуту з Руанды і іх мясцовымі саюзнікамі. Працягваюцца парушэнні правоў чалавека, у тым ліку выкраданні людзей, забойствы і згвалтаванні. Шырока распаўсюджаны сэксуальны гвалт, асабліва ў адносінах да жанчын і дзяцей.

У 2004 годзе, выступаючы перад удзельнікамі мемарыяльнай цырымоніі ў памяць пра ахвяраў генацыду ў Руандзе, тагачасны Генеральны сакратар ААН Кофі Анан заявіў, што міжнародная супольнасць «здрадзіла Руандзе». Ён падкрэсліў, што калі б тады дзяржавы-сябры дзейнічалі больш аператыўна і рашуча, трагедыю можна было б прадухіліць. У 1994 годзе Кофі Анан узначальваў Дэпартамент ААН па міратворчых аперацыях. Паводле яго слоў, ён прыкладаў усе намаганні для таго, каб дзяржавы-сябры паслалі свае войскі ў Руанду. Гэтага не адбылося. Заяўляючы, што генацыд не павінен больш паўтарыцца нідзе і ніколі, Кофі Анан заклікаў тады заснаваць надзейную сістэму яго папярэджання і прадухілення.

У 2005 годзе Генеральнай Асамблеяй была заснавана Праграма асветніцкай дзейнасці «Генацыд у Руандзе і Арганізацыя Аб'яднаных Нацый», якая праводзіцца Дэпартаментам грамадскай інфармацыі ААН. У гэтай праграме асноўная ўвага надаецца таму, каб атрымаць урокі з генацыду ў Руандзе, з тым, каб спрыяць недапушчэнню падобных актаў у будучыні, а таксама павышаць узровень інфармаванасці грамадскасці пра тыя наступствы генацыду, якія працягваюць зведваць тыя, што засталіся ў жывых, і тыя цяжкасці, з якімі яны сутыкаюцца ў далейшым.

08

# Міжнародны дзень цыган

8 красавіка 1971 года ў Лондане адбыўся Першы Сусветны цыганскі кангрэс, на якім прысутнічалі цыганскія дэлегаты з трыццаці дзяржаў. У тым жа годзе ў англійскай сталіцы быў створаны Міжнародны саюз цыган. Вынікам кангрэса стала прызнанне сябе цыганамі свету адзінай нетэрытарыяльнай нацыяй і прыняцце нацыянальных сімвалаў — сцяга і гімна. Дзень пачатку кангрэса, дзень самавызначэння нацыі, дзень цыганскага сцяга і гімна — усё гэта Міжнародны саюз цыганаў вырашыў аб'яднаць пад назвай — Дзень цыган.



Цыгане (рома) — адна з самых шматлікіх этнічных меншасцяў у Еўропе.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА GOLOS-AMERIKI.RU

Міжнародны дзень цыган — падзея не толькі для саміх цыган, але і для прыхільнікаў самабытнай цыганскай культуры, бо ў гэты дзень па ўсім свеце праходзяць разнастайныя канцэрты, прэзентацыі і фестывалі. Але ўсё часцей міжнародная супольнасць выкарыстоўвае гэты дзень для абмеркавання праблем цыган — адной з найменш абароненых этнічных меншасцяў на планеце.

У канцы XX — пачатку XXI стагоддзя Еўропу і Расію захліснула хваля цыганскіх міграцый. Дайшоўшыя да жабрацтва ці маргіналізаваныя цыгане з Румыніі, Заходняй Украіны і былой Югаславіі — былых сацыялістычных краін, дзе пасля развалу СССР паўсталі эканамічныя і сацыяльныя цяжкасці — адправіліся на заробкі ў Еўрапейскі саюз і Расію. У сучаснай Усходняй Еўропе і ўсё часцей у Заходняй Еўропе цыгане нярэдка становяцца аб'ектам дыскрымінацыі ў грамадстве. Праваабаронцы б'юць трывогу: улады часцяком з відавочнай прадузятасцю ставяцца да прадстаўнікоў гэтага народа, які стагоддзямі насяляе Еўропу і, тым не менш, дагэтуль уяўляе сабой загадку для суседзяў. Спецыялісты спрабуюць знайсці выйсце з вострага сацыяльнага крызісу, у якім апынуліся цыганскія абшчыны.

Як адзначаецца ў справаздачы Агенцтва па асноўных правах ЕС аб умовах жыцця цыган, у такіх еўрапейскіх краінах, як Літва, Чэхія, Францыя, Балгарыя, Грэцыя, Італія, цыганская нацыянальная меншасць жыве асобнымі суполкамі. Умовы жыцця цыган і іх інтэграцыю ў грамадства асабліва абцяжарваюць праблемы, звязаныя з жыллём, а таксама дыскрымінацыя гэтай нацыянальнай меншасці, якая праяўляецца ў дрэнных умовах жыцця, сегрэгацыі і прымусовым высяленні. Устаноўлена, што 70% цыган, якія пражываюць у ЕС, не ведаюць пра існаванне закона, які забараняе іх дыскрымінацыю пры прадастаўленні жылля, 71% цыган лічаць, што калі яны




ЮНІСЕФ заявіў, што быў «шакаваны і глыбока занепакоены» планамі Італіі па дактыласкапіі ўсіх цыганскіх дзяцей.

ФОТАЗДЫМАК AFP/GETTY З САЙТА TELEGRAPH.CO.UK

і паведамяць пра факты дыскрымінацыі, то ўсё роўна нічога не зменіцца, а 41% не ведае, як гэта зрабіць.

«Напэўна, самае бядотнае становішча цыган ва ўсёй Еўропе менавіта ў Румыніі... Цыгане ў Еўропе жывуць каля 800 гадоў. Хутчэй за ўсё, гэта ўсё ўскладнілася пасля 89–90 гадоў, калі распаўся ўсходні блок сацыялістычны, адбылася змена рэжымаў, рэзкае абнаўленне, і цыгане не паспелі перабудавацца з адной фармацыі ў іншую, яны вымушаныя былі заняцца нелегальнай міграцыяй, яны пайшлі з Румыніі, напрыклад, у Нямеччыну, у Францыю, у іншыя краіны, а там ім не рады. Сапраўды, яны парушылі заканадаўства ў тым сэнсе, што нелегальна знаходзяцца на гэтай тэрыторыі, але яны ўцякалі адтуль, дзе няма перспектыў, там няма магчымасці для занятасці, там няма магчымасці для адукацыі...




Пратэст супраць расісцкай заявы румынскага прэзідэнта Траяна Бэсеску аб тым, што нямногія рома хочуць працаваць, таму што аддаюць перавагу жыць з таго, што яны крадуць. Славенія, лістапад 2010 года.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА GOLOS-AMERIKI.RU

Зараз у Савеце Еўропы існуе форум па пытаннях развіцця цыганскага руху Еўропы, але пакуль што яго эфектыўнасць не зусім высокая, таму што, як мне здаецца, не ўсе краіны Еўропы сапраўды ўсвядомілі ўсю трагічнасць цыганскай праблемы. Таму што не падабаецца нелегальнае знаходжанне цыган, напрыклад, у Францыі толькі тады, калі цыганы прыходзяць у Францыю. Калі іх няма ў Даніі, то датчане гэтаму пытанню не надаюць увагі. Мяне вельмі палохаюць вынікі сацыялагічных замераў грамадскай думкі ў Еўропе. Калі пыталіся ў еўрапейцаў, каго б вы не хацелі бачыць у якасці сваіх суседзяў, і былі прадастаўлены пэўны пералік, 76% назвалі імёны цыган...» З інтэрв'ю Цімура Халілава, цыгана па паходжанні, рускай службе Радыё «Свабода» ад 22 студзеня 2010 г.

2005–2015 гады абвешчаныя Дэкадай інтэграцыі цыганоў, якая ўяўляе сабою унікальную міжнародную ініцыятыву, сфармуляваную вядучымі няўрадавымі і міжурадавымі арганізацыямі. Гэтая ініцыятыва адкрывае магчымасць для сумесных дзеянняў у мэтах паляпшэння становішча цыган.

***Цыгане (рома) — адна з самых шматлікіх этнічных меншасцяў у Еўропе, пласт этнічнага насельніцтва агульнага індыйскага паходжання.***

*Паходжанне назвы «цыганы» як экзоніма (гэта значыць з боку навакольнага насельніцтва) умоўна ўзыходзіць да XI ст. і ў далейшым замацавалася як адно з распаўсюджаных пазначэнняў еўрапейскіх цыган. Распаўсюджаная саманазва «ром», «рома» выкарыстоўваецца ў якасці абагульняючай назвы на палітычным узроўні для ўсіх еўрапейскіх цыган (па-ангельску Roms, Romanies). Цыганы жывуць у многіх краінах Еўропы, а таксама ў Паўночнай Афрыцы, Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы і Аўстраліі. Роднасныя еўрапейскім цыганам групы пражываюць таксама ў краінах Пярэдняй Азіі. Колькасць еўрапейскіх цыган, па розных ацэнках, вызначаецца ад 8 млн. і да 10–12 млн. чалавек.*

09

# Міжнародны Дзень моладзевых дзеянняў за правы чалавека

У гэты дзень маладыя людзі ў краінах Усходняй і Заходняй Еўропы ладзяць розныя акцыі і мерапрыемствы — грамадзянскія, міратворчыя, экалагічныя, антыфашысцкія і іншага кшталту. Актывісты як міжнародных сетак, так і невялікіх мясцовых групаў аб'ядноўваюцца ў падтрымку і абарону правоў чалавека.

Дзень моладзевых дзеянняў за правы чалавека пачаў адзначацца ў межах інтэрнацыянальнага праекта — Моладзевага праваабарончага руху, які пачаў дзейнічаць 8 жніўня 1998 года дзеля падтрымкі новага пакалення праваабаронцаў і грамадзянскіх актывістаў. Паступова ўтварылася паўнавартасная нефармальная супольнасць ці, як кажуць, сетка ў межах Моладзевага праваабарончага руху. Удзельнікі гэтай сеткі прадстаўляюць каля 40 краінаў на прасторы ад Сан-Дыега да Уладзівастока, ад Буэнас-Айрэса да Мурманска. У 2009 годзе Моладзевы праваабарончы рух атрымаў статус удзельніка пры Савеце Еўропы — адной з буйнейшых міжурадавых арганізацый па абароне правоў чалавека.

«Мы хочам будаваць свет, у якім усё залежыць не толькі ад грошай, межаў і моваў, але і ад павагі да чалавечай годнасці, — заяўляюць актывісты руху. — Мы хочам далучыць свой голас да соцень нашых аднагодкаў, каб аб'яднацца ў паўсядзённай працы, а часам і ў барацьбе».

У Дзень моладзевых дзеянняў за правы чалавека маладыя людзі з розных краінаў аб'ядноўваюцца пад сцягам актыўнасці на карысць абароны чалавечай годнасці і робяць усё магчымае дзеля ўмацавання гэтага агульнага пачуцця.

У гэтых намаганнях моладзь паступова набліжаецца да Сусветнага дня моладзевага служэння, які адзначаецца 21 красавіка. Канцэпцыя Дня заключаецца ў тым, што мільёны маладых людзей па ўсім свеце рэалізуюць розныя сацыяльназначныя праекты, накіраваныя на паляпшэнне жыцця грамадства. Таму ў красавіку па ўсім свеце традыцыйна праводзяцца грамадскія і адукацыйныя кампаніі, скіраваныя на актывізацыю грамадзянскага, свядомага патэнцыялу моладзі. У некаторых краінах СНД, як, напрыклад, у Расіі, з гэтай нагоды арганізуецца Вясновы Тыдзень Дабра — штогадовая валанцёрская акцыя.

Сусветны дзень моладзевага служэння таксама з'яўляецца часткай больш шырокага глабальнага руху па прызнанні важнасці моладзі і праводзіцца ў рамках Лісабонскай Дэкларацыі аб моладзі (1998 г.) і Пражскага Плана дзейнасці моладзі, прынятага на Сусветным форуме моладзі (1998 г.). Нараўне з Днём моладзі ААН і Міжнародным днём добраахвотнікаў, Сусветны дзень моладзевага служэння спрыяе прасоўванню актыўнасці маладых людзей.



International Youth Action Day for Human Rights.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА VIVIENDOLAMERCA.BLOGSPOT.RU

# 09

# *Першая маніфестацыя беларускіх хіпі*

9 красавіка 1970 года ў Мінску адбыўся стыхійны моладзевы мітынг прадстаўнікоў беларускага музычнага нонканфармізму, які быў разагнаны міліцыяй і ўнутранымі войскамі.

Паводле розных ацэнак, у акцыі ўзялі ўдзел ад 100 да 400 чалавек. Гэтыя хваляванні былі звязаны з забойствам мінскага хіпі Вячаслава Максакава (19.03.1952–07.04.1970) і праходзілі на месцы злачынства — па вуліцы Энгельса каля кінатэатра «Навіны дня» (цяпер — Малая сцэна Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы), за 300 метраў ад ЦК КПБ.

7 красавіка 1970 года Вячаслаў Максакаў і яго сябар Аляксандр Шарубаў былі спыненыя каля кінатэатра «Навіны дня» крыкамі нейкага хлопца «Хайль Гітлер!». Распачалася бойка, падчас якой незнаёмы выцягнуў з рукава штых і параніў хлопцаў — Максакава смяротна. 8 красавіка на месцы забойства нехта зрабіў графіці «Тут 7 красавіка забілі Славу Максакава». 9 красавіка па вяртанні з пахавання сябры забітага сталі выпадковымі сведкамі знішчэння графіці і, абураныя такімі дзеяннямі, яны спынілі гэта. Каля месца забойства пачалі збірацца людзі — і да кінатэатра пад'ехалі машыны з міліцыяй, якая загадала ўсім разысціся. На гэтыя патрабаванні ўдзельнікі выступлення сашчапілі рукі ў локцях і сталі ля сцяны. За кароткі час да міліцыі далучыліся байцы Белпалка (унутраныя

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА HIPPY.RU



«Пацыфік» — сімвал хіпі.

войскі), якія ачапілі вуліцу і паспрабавалі разарваць жывы ланцуг — паміж хіпі і ахоўнікамі парадку пачалася бойка. У выніку сутыкнення пэўная колькасць хіпі была затрыманая. Пазней затрыманых і магчымых удзельнікаў выступлення выключылі з навучальных установаў.

Пасля красавіцкага выступлення моладзі ўлады ўзмацнілі прэсінг на музычную контркультуру Мінска: міліцыя і так званыя добраахвотныя дружыннікі рабілі аблавы на хіпі, супраць хіпі як «ненадзейных» заводзілі адміністратыўныя справы, удзельнікаў хіпі-руху выключалі са школаў, вышэйшых навучальных установаў.

10

# Народнае пахаванне Ларысы Генюш — пад наглядам спецслужбаў



Фотаздымак Здзіслава Сіцькі з сайта svaboda.org

Жалобная працэсія на вуліцах Зэльвы.

10 красавіка 1983 года ў мястэчку Зэльва, што на Гродзеншчыне, праходзіла пахаванне паэткі і палітычнага вязня ГУЛАГу Ларысы Генюш. На пахаванне, нечакана для ўладаў, прыйшлі тысячы людзей. Прыехалі прадстаўнікі інтэлігенцыі з Мінска, Гродна, Наваполацка, Баранавічаў і іншых мясцінаў Беларусі. Прыехалі і былыя палітзняволеныя. Міліцыя і КДБ вялі назіранне і спрабавалі перашкодзіць традыцыйнаму рытуалу пахавання.

Даследчык творчасці Ларысы Генюш Міхась Скобла так распавёў пра тое, што адбылося ў дзень пахавання паэткі: «Калі нейкую з'яву немагчыма растлумачыць, кажуць, што адбыўся цуд. 10 красавіка 1983 года, у дзень пахавання Ларысы Генюш, ён адбыўся ў нясхільнай да цудаў Зэльве. Я апытаў дзясяткі відавочцаў, і ніхто мне не змог уцямна растлумачыць, як тады, пры моцнай яшчэ савецкай уладзе, у савецкім запалоханым і дарэшты кантраляваным мястэчку на вуліцу Савецкую прыйшлі тысячы савецкіх людзей, каб правесці ў апошні шлях несавецкую грамадзянку. Ніхто ж нікога з хаты не гнаў, з працы арганізавана не адпускаў. Наадварот, бралі на ўлік тых, хто падпісваў па-беларуску вянкі, хто збіраўся прысутнічаць на адпяванні ў царкве. І ўсё ж людзі прыйшлі. Як на маўклівую маніфестацыю, перамогшы вонкавы і ўнутраны страх, усім сваім выглядам нібы пацвярджаючы словы Ларысы Генюш: «Мы вам не племя слугаў, мы — народ!» Дарэмна пісьменнікаў з Гродна і Мінска па чарзе выклікалі ў райвыканкам і папярэджвалі, каб «никаких речей» тыя не прамаўлялі. На могілках выступілі Адам Мальдзіс і Уладзімір Арлоў, які прачытаў верш Сержука Сокалава-Воюша, напісаны на смерць паэткі.

Дарэмна ў Зэльву панаехала «службоўцаў у цывільным» з Ваўкавыска і Гродна, якія мусілі кантраляваць сітуацыю. Наўрад ці нехта з іх здабыў чарговую зорку на пагоны за тое сапраўды народнае пахаванне. «Дома свечкі даўно пагашаны, і магілкі пад снегам спяць. Дык няўжо і мяне, няшчасную, пад канвоем будуць хаваць?» — пыталася Ларыса Генюш у адным з апошніх сваіх вершаў. Спасцярога паэткі не спраўдзілася. Хавалі яе пад аховай любові ў атмасферы шчырага чалавечага смутку».

Ларыса Генюш — легенда беларускай паэзіі, грамадзянка БНР, вязень ГУЛАГу. У 1937–1947 гг. жыла ў Празе, брала ўдзел у працы Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), была Генеральным сакратаром урада і займалася захаваннем і



Юрка, Ларыса і Янка Геніюшы.
Прага, 1942 год.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА REPRESII-BY.INFO

ўпарадкаваннем архіва БНР. Ад 1945 г. савецкія ўлады дабіваліся выдання Геніюш і яе мужа, і іх перадалі савецкім уладам. Геніюш і яе муж Янка Геніюш утрымліваліся ў савецкіх турмах Вены і Львова, з канца 1948 г. — у турме ў Мінску, дзе Ларысу Геніюш дапытваў міністр Дзяржбяспекі БССР Лаўрэнці Цанава, які патрабаваў ад яе перадаць архівы БНР. Паэтка так апісала гэты допыт: «Стаю, бы ў боі, не з палахлівых, А ён — як звер: «Дзе ёсць архівы, аддай архівы мне БНР!»

У лютым 1949 г. Вярхоўны суд БССР прыгаварыў Ларысу Геніюш да 25 гадоў зняволення ў лагерах. На такі ж тэрмін быў асуджаны Янка Геніюш. Пакаранне паэтка адбывала ў лагерах Інта і Абедзе (Комі АССР) і ў Мардоўскай АССР. У 1956 г. разам з мужам былі часткова рэабілітаваныя, тэрмін пакарання быў зменшаны да 8 гадоў, якія ўжо прайшлі з моманту прысуду. Пасля

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА SVABODA.ORG



*«Воля – не тое,*
*што рукі развяжуць,*
*зменяць на большую*
*клетку малую.*
*Воля – не тое,*
*што «вольны ты» скажуць.*
*Воля – то воля, якую адчую.»*

Ларыса Геніюш

вызвалення яны пасяліліся на радзіме мужа ў Зэльве. Да самай смерці Ларыса Геніюш прынцыпова адмаўлялася прымаць савецкае грамадзянства. Дом Геніюшаў у Зэльве стаў прыцягальным асяродкам для творчай моладзі Беларусі. Нягледзячы на нагляд КДБ, тут бывалі частымі гасцямі паэты і пісьменнікі, мастакі, навукоўцы.

Вершы Ларысы Геніюш, напісаныя ў зняволенні, беларускія вязні вучылі на памяць і перадавалі адзін аднаму — ад барака да барака, ад лагера да лагера. Гэтыя вершы былі моцнай маральнай падтрымкай для зняволеных. Яны ўмацоўвалі іх маральна і не дазвалялі страціць надзею нават у нечалавечых умовах савецкіх канцэнтрацыйных лагераў.

# 11

# *Гвалтоўная расправа з дэпутатамі апазіцыі ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання*

11 красавіка 1995 года адбылося брутальнае збіццё дэпутатаў апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь 12-га склікання, якія ўдзельнічалі ў галадоўцы пратэсту супраць рэферэндума, які прапанаваў Аляксандр Лукашэнка. На рэферэндум выносіліся чатыры пытанні: пра скасаванне бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня» як дзяржаўных сімвалаў, пра скасаванне беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай мовы, пра эканамічную інтэграцыю з Расіяй і пра права прэзідэнта распускаць парламент. Дэпутаты палічылі ўсе гэтыя пытанні антыканстытуцыйнымі.

Апазіцыянераў збілі ноччу з 11 на 12 красавіка ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета. Пра падзеі гэтай ночы распавёў дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Сяргей Навумчык: «Ноччу спачатку прыйшоў начальнік службы аховы, дэпутат ВС Цесавец, прапанаваў нам пакінуць залу. Потым прыйшла група вайскоўцаў з палкоўнікам, заявілі, што будынак замінаваны. Мы сказалі, маўляў, ну калі замінаваны, шукайце бомбу ці што ў вас тут, мы не перашкаджаем. І сапраўды, сапёры недзе гадзіну шукалі ў Авальнай зале, нічога не знайшлі. А потым у дзве гадзіны ночы, калі мы ўжо леглі спаць каля той трыбуны, хто дзе, адчыніліся дзверы, увайшоў начальнік прэзідэнцкай

ФОТАЗДЫМАК СА СТАРОНКІ СЯРГЕЯ НАВУМЧЫКА Ў FACEBOOK


Праект

ПАСТАНОВА

ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню

У сувязі з тым, што прапанаваныя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь пытанні не адпавядаюць Законам Рэспублікі Беларусь, а менавіта:

Пытанні аб статусе рускай мовы і дачыненнях з Расійскай Федэрацыяй супярэчаць часткі 3 артыкула 3 Закона "Аб народным галасаванні /рэферэндуме/ у Рэспубліцы Беларусь", а пытанні аб Дзяржаўным гербе і сцягу, а таксама магчымасці роспуску Вярхоўнага Савета не маюць юрыдычнай дакладнасці і не даюць магчымасці атрымаць адназначны адказ.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Адхіліць прапанову Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму і мерах па яго забеспячэнню".

Старшыня Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь

падрыхтаваны апазіцыяй БНФ
не прынята

Як толькі А.Лукашэнка заявіў пра рэферэндум, дэпутаты апазіцыі БНФ падрыхтавалі юрыдычнае абгрунтванне абсурднасці яго прапановы. На сесіі яны даказвалі, што Лукашэнка ідзе на парушэнне не толькі законаў, але і Канстытуцыі. Гэты праект быў распаўсюджаны сярод дэпутатаў ВС 23 сакавіка 1995 года.

ФОТАЗДЫМАК СЯРГЕЯ ГРЫЦА З САЙТА SN-POLL.ORG



На фотаздымку: Зянон Пазняк, Лявонцій Зданевіч, Мікалай Крыжаноўскі, Ігар Гермянчук, Сяргей Папкоў, Алег Трусаў, Сяргей Навумчык, Лявон Баршчэўскі, Сяргей Антончык, Алесь Шут, Пётр Садоўскі, Валянцін Голубеў, Віталь Малашка, Юрый Беленькі. У прэзідыуме старшыня ВС Мечыслаў Грыб і яго намеснік Іван Бамбіза. У куце злева Аляксандр Лукашэнка. Раніца 11.04.1995 года.

Фотаздымкі з сайта svaboda.org



Сяргей Навумчык.



Пётр Садоўскі.

аховы Каралёў, увайшоў Цесавец і яшчэ адзін мажны суб'ект. Гэты апошні сказаў, што нам даецца пяць хвілін, каб мы пакінулі памяшканне, і што калі мы не пакінем — дык прымуць «адпаведныя захады». Пазняк сказаў, што не, мы нікуды не пойдзем, працягваем галадоўку ў Авальнай зале і пацвярджаем свае патрабаванні. Яны выйшлі, але ніякіх «пяці хвілін» не было — імгненна адчыніліся ўсе дзверы, і проста за некалькі секунд па перыметры залы забеглі людзі ў шлемах, са шчытамі, з аўтаматамі Калашнікава і, што зусім дзіўна, з гранатамётамі (я служыў у Савецкай арміі і магу адрозніць зброю). А па цэнтральным праходзе і, здаецца, нават з балкона — пасыпаліся людзі ў чорным, у чорных масках з прарэзамі для вачэй, у чорнай вопратцы.

Пазней тагачасны першы намеснік старшыні КДБ генерал-лейтэнант Кез прызнаў, што гэта была спецгрупа КДБ «Альфа». Тая самая «Альфа», якая бярэ тэрарыстаў. Адзін «альфавец» здольны супрацьстаяць дзесяці салдатам спецназа. Натуральна, што з намі яны маглі зрабіць што заўгодна. Але выглядае, была каманда не забіваць, а біць. Ну і накінуліся на нас і пачалі збіваць.

Збіццё здымалася на відэакасету... Гэта абсалютна дакладная інфармацыя, бо ўся наша галадоўка, калі ў зале запалілася святло, здымалася з балкона, прычым здымкі вяліся на дзве відэакамеры. Потым (і гэта было ў прамой трансляцыі з сесіі ВС, і засталося ў стэнаграме) Лукашэнка абяцаў, што пакажа па ТВ народу відэакадры... Насамрэч, калі б кадры збіцця паказалі, дык і вынікі галасавання на выбарах і рэферэндуме ў Беларусі былі б зусім іншыя».

Навуковец і дыпламат Пётр Садоўскі ў кнізе ўспамінаў «Мой шыбалёт» (2008) пісаў: «Цяпер шмат хто задумваецца: як гэта так стала, што ў краіне вырашае ўсё адзін чалавек? Ёсць пэўныя кропкі адліку, калі ўсё гэта пачалося. Першым тэстам для грамадства было збіццё дэпутатаў з апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання. Гэта адбылося 11 красавіка 1995 года. Як я памятаю і разумею тыя падзеі? Галадоўка апазіцыі БНФ, дакладней, яе фінал, запачаткавала эпоху знішчэння кароткай гісторыі беларускага парламентарызму пачатку і сярэдзіны 90-х гадоў. Як германіст, я знаходжу абсалютную сэнсавую і візуальную паралель гвалтоўнай расправы з дэпутатамі ў Мінску ў 1995 годзе з падзеямі 1933 года ў Браўншвайгу ў Нямеччыне. Там у гістарычным музеі горада захоўваецца здымак, дзе нацысцкія штурмавікі выводзяць пад рукі з будынка ратушы арыштаваных дэпутатаў».

# 22

# *Міжнародны дзень Маці-Зямлі*

Дзень нашага агульнага дома адзначаюць не толькі экалагічныя актывісты, бо яго мэта — аб'яднаць усіх людзей планеты ў справе абароны навакольнага асяроддзя. «Маці-Зямля» — гэта агульнапрынятая назва планеты Зямля ў шэрагу краінаў і рэгіёнаў. Яна адлюстроўвае ўзаемазалежнасць паміж чалавекам, іншымі жывымі істотамі і планетай, якую мы ўсе засяляем.

Свята было абвешчана Рэзалюцыяй, прынятай на 63-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 2009 годзе. Сааўтарамі гэтага дакумента выступілі больш за 50 дзяржаў-сябраў ААН. І з 2010 года Міжнародны дзень Маці-Зямлі адзначаецца штогод з мэтай павышэння ўзроўню дасведчанасці сусветнай грамадскасці ў актуальных праблемах планеты. У гэты дзень ААН звяртаецца да ўрадаў, дзелавых колаў і грамадзянаў усіх краінаў свету з заклікам ставіцца да нашай Маці-Зямлі з належнай павагай і клопатам.

У нашыя дні становяцца відавочнымі наступствы неруплівага стаўлення людзей да прыроднага капіталу. І самымі яскравымі з іх з'яўляюцца змяненне клімату і знясіленне азонавага пласту. Таксама адбываецца хуткая страта біялагічнай разнастайнасці, расце забруджванне прэснаводных і марскіх акваторый, пусцеюць землі і некалі багатыя рыбнымі рэсурсамі акіяны.

У пасланні з нагоды Міжнароднага дня Маці-Зямлі Генсакратар ААН Пан Гі Мун звяртае ўвагу на тое, што «наступствы нашага неруплівага прыродакарыстання ў найбольшай ступені адбіваюцца на становішчы такіх слаёў насельніцтва свету, як жыхары прыпустынных раёнаў, прадстаўнікі карэннага насельніцтва, сельская бедната і насельнікі ўбогіх трушчобаў у мегаполісах. Каб вырвацца з ціскоў галечы і дамагчыся дабрабыту, ім неабходныя, як мінімум, урадлівыя землі, чыстая вада і адэкватныя санітарна-гігіенічныя службы».



› ФОТАЗДЫМАК З САЙТА REDORBIT.COM

International Mother Earth Day.

ААН падкрэслівае, што абвяшчэнне гэтага Дня не падмяняе аналагічных мерапрыемстваў, напрыклад, Дня Зямлі, які адзначаецца 22 сакавіка, а, наадварот, заклікана ўмацаваць іх і надаць ім новы імпульс.

Штогод 22 красавіка навукоўцы ва ўсім свеце збіраюцца за круглым сталом для абмеркавання глабальных экалагічных праблем. Міжнародны дзень Маці-Зямлі лічыцца днём грамадскіх арганізацый, якія праводзяць у гэты дзень розныя экалагічныя мерапрыемствы і акцыі.

Дзень Маці-Зямлі 22 красавіка, як і Дзень Зямлі, які праводзіцца ў дзень вясновага раўнадзенства, дае магчымасць усім жадаючым прыняць удзел у рознага кшталту мерапрыемствах і акцыях — канферэнцыях, выставах, закрыцці аўтамабільнага руху на ажыўленых вуліцах буйных гарадоў, уборцы тэрыторыі і пасадцы дрэваў. Такім чынам кожны з нас, жыхары планеты Зямля, можа выказаць падзяку нашаму вялікаму агульнаму дому.

У рамках сістэмы ААН створана Праграма па навакольным асяроддзі — ЮНЭП. Яна спрыяе каардынацыі аховы прыроды на агульнасістэмным узроўні. Асноўнай мэтай ЮНЭП з'яўляецца арганізацыя і правядзенне мер, скіраваных на абарону і паляпшэнне навакольнага асяроддзя на карысць цяперашняга і будучых пакаленняў.

Дэвіз праграмы — «Навакольнае асяроддзе ў інтарэсах развіцця».



Праца ЮНЭП вядзецца ў сямі напрамках:

- Ранняе папярэджанне і ацэнка канфліктаў
- Імплементацыя экалагічнай палітыкі
- Тэхналогія, вытворчасць і эканоміка
- Рэгіянальнае супрацоўніцтва
- Экалагічнае права і Канвенцыі
- Абарона навакольнага асяроддзя на глабальным узроўні
- Камунікацыі і грамадская інфармацыя

Пад эгідай ЮНЭП штогод адзначаецца Сусветны дзень навакольнага асяроддзя.

***Зямля неверагодна багатая мінераламі*** *— навукоўцы класіфікавалі ўжо каля чатырох тысяч відаў мінералаў, прыкладна 200 з іх маюць практычнае значэнне. Штогод адкрываюцца ад 50 да 100 відаў мінералаў.*

*Падлічана, што* ***планеце Зямля прыкладна 4,5 мільярда гадоў****. Калі вы захочаце абыйсці вакол Зямлі, ідучы па экватары, то гэта будзе шлях даўжынёй амаль у 40 тысяч 10 кіламетраў. Адлегласць ад паверхні да цэнтра — 6 тысяч 378 кіламетраў. Прычым, сапраўды цвёрдыя пароды (літасфера) фармуюць пласт усяго каля 70 кіламетраў, а далей углыб — напаўвадкі і вадкі стан.*

*Даліна Смерці ў Каліфорніі і месца ў Лівіі, званае Эль Азіза, утрымліваюць рэкорды самых гарачых месцаў на Зямлі. Рэкорд Эль Азіза — 57,8 °C (13 верасня 1922 г.), рэкорд Даліны Смерці — 55,8 °C (10 ліпеня 1913 г.). А* ***самым халодным месцам на Зямлі прызнана Антарктыка****: 21 ліпеня 1983 г. на даследчай станцыі «Усход» было зарэгістравана -89 °C.*

# 26

# Пачатак дзейнасці «Вясны»

26 красавіка 1996 года лічыцца днём узнікнення праваабарончай ініцыятывы «Вясна-96» (пазней — Праваабарончы цэнтр «Вясна»). У гэты дзень актывісты арганізаваліся для пошуку затрыманых удзельнікаў акцыі «Чарнобыльскі шлях-1996».

## «Чарнобыльскі Шлях-1996»



Чарнобыльскі Шлях. Менск, 26.04.1996 г.



Удзельнікі шэсця нясуць чарнобыльскі звон.



Міліцыя перашкаджае шэсцю.



Удзельнікі шэсця ачэплены міліцыяй.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА G.IO.UA

Старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі згадвае: «Вясна 96-га года запомніцца назаўсёды шэрагам буйных спантаных акцый, якія прайшлі ў «свядомым» Мінску, бунтам вольнасці незадаволеных менчукоў. (...) Вясной 96-га Лукашэнка вырашыў даць бой вулічнай дэмакратыі. І калі акцыі 15 сакавіка (Дзень Канстытуцыі), 24 сакавіка (святкаванне Дня Незалежнасці) і 2 красавіка (дэманстрацыя пратэсту супраць саюзнай дамовы) прайшлі адносна спакойна, дык 26 красавіка на Чарнобыльскі шлях міліцыя атрымала дазвол на гвалт.

26–27 красавіка было арыштавана некалькі сотняў асобаў. Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык патрапілі ў СІЗА, яны абвясцілі галадоўку, якую трымалі па тры тыдні, аж пакуль іх, пад ціскам Ельцына, не выпусціў Лукашэнка. 27 красавіка было арыштавана амаль усё кіраўніцтва БНФ. За кратамі апынуліся Юрась Хадыка, Вячаслаў Сіўчык, Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч ды іншыя. Было адчуванне, што можа настаць і наступная хваля рэпрэсій і мы пойдзем следам за



Алесь Бяляцкі — старшыня ПЦ «Вясна» і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH).

ФОТАЗДЫМАК ЮЛІІ ДАРАШКЕВІЧ

арыштаванымі. Але ўлады праз некалькі дзён адкруцілі назад, і Вячорка з Баршчэўскім былі выпушчаныя.

Трэба было штосьці супрацьстаўляць гэтаму дзяржаўнаму гвалту. Неўзабаве на офісе БНФ па маёй ініцыятыве была сабрана група людзей, у якую ўваходзілі Галіна Вашчанка, Мая Кляшторная ды яшчэ некалькі асобаў, і якая распачала тэрміновыя дзеянні па зборы інфармацыі пра затрыманых, пошук дапамогі сем'ям. Хутка такую дапамогу ў выглядзе харчоў — макароны, алей, крупа — мне перадаў адзін з маіх добрых знаёмых, прозвішча якога пакуль што яшчэ рана называць. У музеі Багдановіча мы з супрацоўнікамі музея фасавалі гэтыя харчы ў поліэтыленавыя пакеты з фірменным знакам музея Багдановіча, а затым раздавалі пацярпелым ды іх сем'ям. Так, завезлі добры ворах харчоў дадому сем'ям Юрася Хадыкі ды Вячаслава Сіўчыка, якія яшчэ знаходзіліся ў вязніцы.

З 1996 года ў мяне захавалася копія заяўкі на пікет каля Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, падпісаная мною і яшчэ адным мінскім дэпутатам Уладзімірам Несцерам, дзе мы прасілі дазволіць нам правесці пікет 28 жніўня з 11.00 да 16.00 з тэмаю «Спыніць пераследаванне грамадзян па палітычных матывах». Напалоханыя грамадскай актыўнасцю ўлады пачалі перашкаджаць нават у правядзенні чыста культурніцкіх акцый. Так, 25 траўня ў дзень памяці Максіма Багдановіча каля яго помніка, дзе традыцыйна збіраліся людзі і музей Максіма Багдановіча праводзіў традыцыйную імпрэзу з выступамі і музычнай часткаю, былі затрыманыя некалькі чалавек, а на мяне, на той час яшчэ дырэктара музея Максіма Багдановіча, як на арганізатара «несанкцыянаванай акцыі» склалі пратакол і спрабавалі асудзіць.



Такі быў пачатак дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна». Таксама ад пачатку я ствараў хроніку рэпрэсаваных, першы варыянт якой з'явіўся ў кніжцы «Менская Вясна 96», а затым яна рэгулярна папаўнялася ў Беларускіх ведамасцях, якія на эміграцыі пачаў выдаваць Зянон Пазняк. Фіксацыя парушэнняў правоў чалавека стала адной з галоўных задач».

15 чэрвеня 1999 года арганізацыя была зарэгістраваная як Грамадскае аб'яднанне «Праваабарончы цэнтр «Вясна». Уяўляе сабой рэспубліканскае аб'яднанне з цэнтрам у горадзе Менску і рэгіянальнымі арганізацыямі ў большасці буйных гарадоў Беларусі.

Рашэннем Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь 28 кастрычніка 2003 года за ўдзел у назіранні падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 года Грамадскае аб'яднанне «Праваабарончы цэнтр «Вясна» было беспадстаўна пазбаўлена дзяржаўнай рэгістрацыі, а 6 сакавіка 2004 года ПЦ «Вясна» быў прыняты ў Міжнародную федэрацыю за правы чалавека (FIDH).



№15-16(87-88)
Жнівень 2001

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"

Уладзімір ГАНЧАРЫК і Сямён ДОМАШ: разам скрозь усе перашкоды...

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## "Я ўладу не аддам..."

Тое, як ідзе выбарчая кампанія ў Беларусі, ужо зараз дае падставы сцьвярджаць, што выбары прэзідэнта краіны — ня роўныя, не свабодныя, не дэмакратычныя...

### Хроніка

15 студзеня 1998 года ў свет выйшаў першы нумар «Права на Волю» — праваабарончага бюлетэня ПЦ «Вясна». Бюлетэнь выдаваўся рэгулярна, два разы на месяц, на беларускай, рускай і англійскай мовах. Ад пачатку свайго існавання выданне адлюстроўвала бягучую сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі, у ім друкаваліся хроніка парушэнняў правоў чалавека, інтэрв'ю з пацярпелымі ад дзеянняў уладаў, матэрыялы па гісторыі правоў чалавека і праваабарончай дзейнасці ў Беларусі і свеце.

## 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

## 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | |

# 05

# 03

# *Сусветны дзень свабоды друку*

У 1993 годзе Генеральная Асамблея ААН абвясціла 3 траўня Сусветным днём свабоды друку. Гэтае рашэнне з'явілася вынікам працы Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА, якая ў рэзалюцыі «Пра садзейнічанне забеспячэнню свабоды друку




ФОТАЗДЫМАК АРГАНІЗАЦЫІ WAN-IFRA СУМЕСНА З AGENCE FRANCE PRESSE

Маўчанне забівае дэмакратыю... Але свабодная прэса не маўчыць.

ў свеце» 1991 года прызнала, што свабодны, плюралістычны і незалежны друк з'яўляецца неабходным кампанентам любога дэмакратычнага грамадства.

Дзяржавы-сябры ЮНЕСКА прапанавалі для адзначэння Міжнароднага дня свабоды друку абраць дату 3 траўня невыпадкова. У гэты дзень у 1991 годзе ў сталіцы афрыканскай Рэспублікі Намібія — горадзе Віндхуку — была падпісана дэкларацыя па садзейнічанні забеспячэнню незалежнасці і плюралізму афрыканскага друку. Прымалася Віндхукская дэкларацыя падчас адмысловага семінара, арганізаванага ЮНЕСКА і Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый.

Сусветны дзень свабоды друку з'яўляецца штогадовым напамінам міжнароднай супольнасці пра тое, што свабода друку і свабода выказвання меркаванняў з'яўляюцца асноўнымі правамі, замацаванымі ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека: «Кожны мае права на свабоду меркавання і на свабоднае яго выказванне; гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных межаў» (Артыкул 19). У блізкіх да гэтай фармулёўках права на свабоду выказвання меркавання гарантуе і Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Свабода выказвання меркавання — ключавое права чалавека, якое мае асноватворную ролю ва ўмацаванні дэмакратыі. На самай першай сесіі ў 1946 годзе Генеральная Асамблея ААН прыняла Рэзалюцыю 59 (I), у якой гаворыцца: «Свабода інфармацыі — гэта фундаментальнае права чалавека і... аснова асноў усіх свабод, дзеля якіх створана Арганізацыя

Аб'яднаных Нацый». Камітэт па правах чалавека ААН выразна вызначыў важнасць свабоды выказвання меркавання ў дэмакратычным грамадстве: «Неабходны свабодны абмен інфармацыяй і ідэямі адносна грамадскіх і палітычных праблем паміж грамадзянамі, кандыдатамі і выбарнымі прадстаўнікамі. Пад гэтым разумеецца свабода прэсы і іншых СМІ даваць каментары па пытаннях грамадскай значнасці без цэнзуры або накладання абмежаванняў і інфармаваць грамадскасць. (...) Пад гэтым разумеецца, што грамадзяне, у прыватнасці праз СМІ, павінны мець шырокі доступ да інфармацыі і магчымасць распаўсюджваць інфармацыю і меркаванні пра дзеянні выбарных органаў і іх прадстаўнікоў».

Праз адзначэнне Дня свабоды друку ААН прадастаўляе міжнароднай супольнасці магчымасць аддаць даніну памяці прафесійным супрацоўнікам сродкаў масавай інфармацыі, якія загінулі падчас выканання сваіх абавязкаў, умацоўваючы рашучасць забяспечыць ахову і бяспеку журналістаў ва ўсім свеце.

3 траўня ўручаецца Сусветная прэмія ЮНЕСКА імя Гільерма Кана за ўнёсак у справу свабоды друку, заснаваная ў 1997 годзе ў памяць пра рэдактара калумбійскай штодзённай газеты «El Espectador». Гільерма Кана быў забіты ў 1986 годзе за крытыку магутных наркакартэляў, якія дзейнічалі ў яго краіне. Прэмія ўручаецца асобам ці арганізацыям, якія зрабілі ўнёсак у абарону свабоды выказвання меркаванняў у розных краінах свету, асабліва, калі іх дзейнасць спалучана з небяспекай для жыцця.




Шведска-эрытрэйскі журналіст Давіт Ісак без суда і следства больш за 10 гадоў у зняволенні за «здраду» ўраду Эрытрэі: у незалежнай газеце публікаваў паведамленні з патрабаваннямі дэмакратычных рэформаў.




Егіпецкія сілы бяспекі затрымліваюць фота-карэспандэнта падчас сутыкненняў перад будынкам Міністэрства ўнутраных спраў у Каіры. 5 лютага 2012 года.




Пратэст супраць законапраекта пра дзяржаўную таямніцу, які пагражае дэмакратыі і спыненню ціску карупцыянераў на аўтараў журналісцкіх расследаванняў. Кейптаун (ПАР), 22 лістапада 2011 года.

Фотаздымкі арганізацыі WAN-IFRA сумесна з Agence France-Presse

07

# Гвалтоўнае знікненне Юрыя Захаранкі



Юрый Захаранка (у цэнтры) і Генадзь Карпенка (справа).



Акцыя пратэсту ў 10-ю гадавіну знікнення Юрыя Захаранкі. Мінск, 7 траўня 2009 года.

^ ФОТАЗДЫМАК AP PHOTO/SERGEI GRITS З САЙТА NEWSHOPPER.SULEKHA.COM

7 траўня 1999 года пры нявысветленых абставінах знік Юрый Захаранка. У 1994—1996 гадах ён займаў пост міністра ўнутраных спраў, а ў 1998 годзе сышоў у апазіцыю.

Экс-міністр унутраных спраў, генерал міліцыі Юрый Мікалаевіч Захаранка быў выкрадзены ўвечары 7 траўня недалёка ад свайго дома. Расследаванне знікнення, якое вялося дзяржаўнымі следчымі органамі, не прынесла вынікаў. Сведкі выкрадання, знойдзеныя грамадскай камісіяй па пошуку Юрыя Захаранкі, сцвярджаюць, што ён быў схоплены і гвалтоўна звезены ў аўтамабілі невядомымі людзьмі.

Найбольш верагоднай прычынай выкрадання стала дзейнасць генерала, накіраваная на стварэнне Саюза афіцэраў — непадкантрольнай уладзе арганізацыі з вышэйшых чыноў міліцыі і Узброеных сілаў.

У 2001 годзе былі апублікаваныя матэрыялы, якія сведчылі пра існаванне ў краіне «эскадронаў смерці» — пастаўленай над законам сілавой структуры, створанай для фізічнага знішчэння іншадумцаў. Менавіта «эскадроны смерці» лічацца датычнымі да выкрадання Юрыя Захаранкі. Такую ж версію выказаў у кнізе «Расстрэльная каманда» былы начальнік СІЗА № 1 г. Мінска Алег Алкаеў.

У 1999—2000 гг. акрамя Юрыя Захаранкі ў Беларусі зніклі: першы віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Беларусі XIII склікання, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар, бізнесмен і грамадскі дзеяч Анатоль Красоўскі і журналіст Дзмітрый Завадскі.

Аўтар кнігі «Расстрэльная каманда» Алег Алкаеў, які жыве ў Германіі, у лістападзе 2012 года таемна прыязджаў у Беларусь — ён шукаў тут сляды зніклых палітыкаў. «Існуе шмат версій, напрыклад, што іх парэшткі перазахавалі і спалілі. Адной з мэтаў майго візіту была, у прыватнасці, відэакасета з запісам пакарання экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі. Яна існуе, і я хутка яе ўбачу. Тыя, хто зрабіў копіі, былі не прасцякі. У мінулым годзе мне прапаноўвалі купіць касету за 250 тысяч даляраў, але ў мяне няма такіх грошай... Кажуць, па заканчэнні часу цяжка шукаць доказы, тым больш схаваныя глыбока ў зямлі. Але ёсць шмат сведак, якія ведаюць, хто і што рабіў, і яны гатовыя адказваць на пытанні. Вядома, на ўмовах ананімнасці...» — сказаў Алкаеў «Deutsche Welle».

ЁСЦЬ ШМАТ СВЕДАК, ЯКІЯ ВЕДАЮЦЬ, ХТО І ШТО РАБІЎ, І ЯНЫ ГАТОВЫЯ АДКАЗВАЦЬ НА ПЫТАННІ

08-09

# Дні памяці і прымірэння, прысвечаныя памяці ахвяраў Другой сусветнай вайны

Дні памяці і прымірэння былі абвешчаныя 24 лістапада 2004 года Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якая прапанавала ўсім краінам-сябрам, а таксама арганізацыям сістэмы ААН, няўрадавым арганізацыям і прыватным асобам штогод адпаведным чынам адзначаць адзін з гэтых дзён (ці абодва дні) як даніну памяці ўсім ахвярам Другой сусветнай вайны. Тым самым не адмаўляецца, што дзяржавы — сябры ААН могуць мець свае дні перамогі, вызвалення і прымеркаваныя да іх святкаванні.

У адпаведнай Рэзалюцыі Генеральная Асамблея падкрэсліла, што гэта гістарычная падзея стварыла ўмовы для заснавання Арганізацыі Аб'яднаных Нацый: гісторыя арганізацыі пачыналася падчас Другой сусветнай вайны, калі прадстаўнікі 26 дзяржаў абавязаліся ад імя сваіх урадаў працягваць сумесную барацьбу супраць гітлераўскай кааліцыі. І, як вядома, існуе гістарычная аналогія: папярэднікам ААН была Ліга Нацый — арганізацыя, задуманая пры падобных абставінах падчас Першай сусветнай вайны. Ліга Нацый, заснаваная ў 1919 годзе «для развіцця супрацоўніцтва паміж народамі і забеспячэння ім міру і бяспекі», спыніла сваю дзейнасць з прычыны сваёй няздольнасці прадухіліць Другую сусветную вайну. Яе гістарычная спадчынніца — ААН — заклікана пазбавіць будучыя пакаленні ад бедстваў вайны.

Дні памяці і прымірэння адзначаюцца штогод 8 і 9 траўня, пачынаючы з 2005 года. Абвяшчаючы гэтыя даты, Асамблея ААН заклікала дзяржавы-ўдзельніцы аб'яднаць намаганні ў барацьбе з новымі выклікамі і пагрозамі пры цэнтральнай ролі ААН. Заклікала зрабіць усё магчымае для ўрэгулявання ўсіх спрэчак мірнымі сродкамі ў адпаведнасці са Статутам ААН, не ставячы пад пагрозу міжнародны мір і бяспеку.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА MIRPOZITIVA.RU



Time of remembrance and reconciliation.

# 17

# *Міжнародны дзень супраць гамафобіі*

Міжнародны дзень барацьбы з гамафобіяй адзначаецца 17 траўня — у гэты дзень у 1990 годзе Генеральная асамблея Сусветнай арганізацыі аховы здароўя выключыла гомасэксуальнасць са спісу псіхічных захворванняў.



International Day Against Homophobia (IDAHO).

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА STATIC.UN.ORG

Ідэя правядзення падобнага дня была рэалізавана ў 2003 годзе ў франкамоўнай канадскай правінцыі Квебек: арганізацыя «Fondation Émergence» абвясціла адзін з чэрвеньскіх дзён Народным днём супраць гамафобіі. Услед за гэтым, у жніўні 2004 года, французскі універсітэцкі лектар і актывіст кампаній за правы чарнаскурых, геяў, лесбіянак, бісэксуалаў і транссэксуалаў Луі-Жорж Тэн выступіў з прапановай адзначаць аналагічны дзень у сусветным маштабе — для прыцягнення грамадскай увагі да геяў, лесбіянак, бісэксуалаў і транссэксуалаў, асабліва ў тых краінах, дзе пытанні сэксуальнасці да гэтага часу лічацца табу, а сэксуальныя меншасці падвяргаюцца дыскрымінацыі. Тэн выказаў надзею, што гэты дзень дапаможа змяніць да лепшага жыццё тых людзей, якія ў гэтым больш за ўсё маюць патрэбу: «Мы хочам паказаць, што барацьба з гамафобіяй — гэта справа не толькі саміх геяў, лесбіянак і транссэксуалаў, гэтая барацьба — таксама справа ўладаў і воля ўсяго грамадства».

Для абвяшчэння Дня арганізацыйным камітэтам была апублікавана складзеная Луі-Жорж Тэнам петыцыя «За міжнародны дзень барацьбы з гамафобіяй», звернутая да ААН, урадаў і парламентаў усіх краін. Да 17 траўня 2005 года, пасля гадавой кампаніі, «апеляцыю IDAHO» падпісалі каля 24 тысяч чалавек з такіх арганізацый, як Міжнародная асацыяцыя лесбіянак і геяў (ILGA), Міжнародная камісія па правах геяў і лесбіянак (IGLHRC), Сусветны кангрэс ЛГБТ-іудэяў, Кааліцыя афрыканскіх лесбіянак і т. п.

У 2006 годзе ў Еўрапейскім парламенце адбыўся семінар па тэме Міжнароднага дня барацьбы з гамафобіяй, на якім выступіў Луі-Жорж Тэн. Старшыня Еўрапарламента Жазэп Барэль зрабіў заяву аб прызнанні гэтага міжнароднага дня.

ПОСТЭР З САЙТА UNESCOGLOBE.WORDPRESS.COM




«Давайце пагаворым пра дыскрымінацыю!» — першае мерапрыемства IDAHO, арганізаванае ў штаб-кватэры ЮНЕСКА. 17 траўня 2011 года.

Асноўнымі мэтамі правядзення Дня названыя:

- працідзеянне любому фізічнаму, маральнаму і сімвалічнаму гвалту ў дачыненні да людзей з іншай сэксуальнай арыентацыяй або гендэрнай ідэнтыфікацыяй;
- падтрымка і каардынацыя ўсіх ініцыятыў па ўсім свеце, якія дапамагаюць усім грамадзянам дасягнуць роўных правоў;
- праява салідарнасці з усімі лесбіянкамі, геямі, бісэксуаламі і транссэксуаламі свету, у тым ліку там, дзе яны не маюць магчымасці выступаць за свае правы;
- правядзенне больш шырокай кампаніі па абароне правоў чалавека.

Прызнанне гэтага Дня ставіць пэўныя абавязацельствы перад міжнароднай супольнасцю, якая ўжо аб'ядналася ў барацьбе з многімі іншымі формамі дыскрымінацыі і сацыяльнага гвалту, але пакуль яшчэ ў большасці дзяржаў не аказала шырокай падтрымкі ў барацьбе за правы сэкс-меншасцяў.

У 2012 годзе ў Міжнародны дзень супраць гамафобіі Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека Наві Пілэй прыцягнула ўвагу да таго, што ў амаль 80 краінах свету існуюць законы, якія крыміналізуюць паводзіны гомасэксуалістаў. «Калі я кажу пра гэтыя праблемы, некаторыя абвінавачваюць мяне ў тым, што я прасоўваю «новыя правы» або «спецыяльныя правы» для лесбіянак, геяў, бісэксуалаў і транссэксуалаў. Але тут няма новага або асаблівага — гаворка ідзе пра права на жыццё, бяспеку чалавека і права на свабоду ад дыскрымінацыі», — заявіла спадарыня Пілэй і дадала, што гэтыя і іншыя правы з'яўляюцца ўніверсальнымі. Галоўны праваабаронца

ФОТАЗДЫМКІ АНТОНА МАТОЛЬКІ З САЙТА TOXABY.LIVEJOURNAL.COM





Разгон удзельнікаў акцыі «Славянскі гей-прайд 2010». Мінск, 15 траўня 2010 года.

падкрэсліла, што ў розных кутках свету асобы нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі падвяргаюцца ганенням, нападам, арыштам, катаванням і нават забойствам за іх любоўныя адносіны. Вярхоўны камісар сказала, што трэба змагацца з гвалтам і нянавісцю, а не з любоўю, і заклікала дзяржавы супрацьстаяць гамафобіі і адмяніць дыскрымінацыйныя законы.

Міжнародны дзень супрацьстаяння гамафобіі афіцыйна прызнаны ў шэрагу краін — Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі, Люксембургу, Мексіцы, Бразіліі, Коста-Рыцы. Адной з асноўных ініцыятыў арганізатараў Дня з'яўляецца растлумачэнне мэтаў і прычын яго правядзення ў адукацыйных установах.

# 21

# Дзень народзінаў Андрэя Сахарава

21 траўня 1921 года ў Маскве нарадзіўся Андрэй Сахараў — сусветна вядомая асоба, савецкі фізік-акадэмік, грамадскі дзеяч, дысідэнт і праваабаронца. Гэты дзень з'яўляецца своеасаблівым «прафесійным святам» праваабаронцаў.

Штогод прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці ў дзень народзінаў Сахарава ладзяць мерапрыемствы кшталту Сахараўскай маёўкі, Фестывалю свабоды. І ўсе, хто хацеў бы выказаць Сахараву сваю павагу і ўдзячнасць за ўсё, што ён зрабіў, прыходзяць да так званай «Сахарніцы» — так называюць музей і грамадскі цэнтр у Маскве, якія носяць імя праваабаронцы і навукоўца.

З канца 1960-х гадоў Андрэй Сахараў з'яўляўся адным з лідараў праваабарончага руху ў СССР. Шырокай грамадскасці ён стаў вядомы пасля выступленняў на 1-м З'ездзе народных дэпутатаў СССР у 1989 годзе. Да таго часу імя акадэміка ў Савецкім Саюзе з'яўлялася дзяржаўнай таямніцай (паколькі ён лічыцца стваральнікам савецкай тэрмаядзернай бомбы). А пасля, калі вучоны з сусветным прызнаннем, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру за 1975 год, адзначаны і вышэйшымі дзяржаўнымі ўзнагародамі, стаў крытыкаваць камуністычную ўладу Саветаў, яго імя патрапіла пад забарону.

Ён заклікаў савецкія ўлады да рэформаў, якія спрыяюць захаванню правоў чалавека ў адпаведнасці з прынцыпамі Дэкларацыі правоў чалавека ААН. Яго імкненне азнаёміць

ФОТАЗДЫМАК ЮРЫЯ РОСТА З САЙТА GEO.RU



Па словах Сяргея Кавалёва, Андрэй Сахараў адчуваў «чужы боль уласнай скурай». Стомленасць і трывога прыкметныя на яго твары пасля паездкі ў Нагорны Карабах у 1989 годзе — ён наведваў пацярпелых падчас вулічных сутыкненняў.

са сваёй прапановай шырокую грамадскасць паслужыла імпульсам для стварэння праваабарончай арганізацыі. Так ён стаў адным з заснавальнікаў «Маскоўскага Камітэта правоў чалавека». Пад мэтамі праваабарончага камітэта, створанага ў 1970 годзе, могуць падпісацца многія сучасныя праваабарончыя арганізацыі: ліквідацыя практыкі закрытых судовых працэсаў; прыняцце новага закона аб друку, які гарантуе доступ грамадскасці да ўсёй наяўнай інфармацыі; рэформа сістэмы месцаў зняволення; амністыя для палітычных зняволеных; адмена смяротнага пакарання; адкрыццё межаў і забарона на выкарыстанне псіхіятрычных установаў у палітычных мэтах.

У праваабарончай дзейнасці Андрэя Сахарава быў цэлы шэраг вельмі адважных па тых часах дзеянняў і заяваў.

У 1960-х — пачатку 1970-х гадоў ён ездзіў на працэсы над дысідэнтамі. Дарэчы, падчас адной з такіх паездак у 1970 годзе ў Калузе ён і пазнаёміўся з Аленай Бонэр, з якой ажаніўся ў 1972 годзе. І ёсць меркаванне, што пераключэнне з навуковай працы на праваабарончую дзейнасць адбылося менавіта пад яе ўплывам.

У 1974 годзе Сахараў сабраў у сябе на кватэры прэс-канферэнцыю, на якой паведаміў замежным журналістам пра Дзень палітвязняў у СССР.

У 1975 годзе ён напісаў кнігу «Пра краіну і свет». У тым жа годзе Сахараву была прысуджана Нобелеўская прэмія міру. А ў савецкіх газетах публікаваліся калектыўныя лісты дзеячоў навукі і культуры з асуджэннем палітычнай дзейнасці Сахарава.

У верасні 1977 года ён звярнуўся з лістом у арганізацыйны камітэт па праблеме смяротнага пакарання, у якім выступіў за адмену яго ў СССР і ва ўсім свеце.

У снежні 1979 года і студзені 1980 года выступіў з шэрагам заяваў супраць уводу савецкіх войскаў у Афганістан, якія былі апублікаваныя ў заходнім друку.

22 студзеня 1980 года па дарозе на працу Андрэй Сахараў быў затрыманы і са сваёй другой жонкай Аленай Бонэр без суда сасланы ў горад Горкі. За сваю праваабарончую дзейнасць ён быў пазбаўлены ўсіх савецкіх узнагародаў і прэмій і высланы з Масквы. У ссылцы ён правёў амаль сем гадоў.

На працягу ўсяго часу ссылкі Сахарава, нобелеўскага лаўрэата, у многіх краінах свету ішла кампанія ў яго абарону. З ссылкі ён быў вызвалены з пачаткам перабудовы. І ў канцы 1986 года разам з Аленай Бонэр Сахараў вярнуўся ў Маскву.

У лістападзе-снежні 1988 года адбылася першая паездка Сахарава за мяжу, дзе ён сустракаўся з прэзідэнтамі Рональдам Рэйганам, Джорджам Бушам, Франсуа Мітэранам, Маргарэт Тэтчэр.

У 1989 годзе ён быў абраны народным дэпутатам СССР, у траўні-чэрвені таго ж года ўдзельнічаў у І З'ездзе народных дэпутатаў СССР у Крамлёўскім палацы з'ездаў, дзе яго выступы часцяком глушыліся «апладысментамі», выкрыкамі з залы, свістам з боку часткі дэпутатаў — «агрэсіўна-паслухмянай большасці». У лістападзе 1989 года ён прадставіў «праект новай Канстытуцыі», у аснове якой ляжала абарона правоў асобы і права ўсіх народаў на дзяржаўнасць.

14 снежня 1989 года Андрэй Сахараў памёр ад сардэчнага прыступу ў сваёй маскоўскай кватэры. Пахаваны на Востракоўскіх могілках у Маскве.

У 1980 годзе Нарвежскі Хельсінкскі камітэт заснаваў Прэмію свабоды імя Андрэя Сахарава — пры яго згодзе і падтрымцы. Яна прысуджаецца з 1984 года. У 1988 годзе Еўрапейскі парламент заснаваў Прэмію «За свабоду думкі» імя Андрэя Сахарава, якая прысуджаецца штогод за «дасягненні ў справе абароны правоў чалавека і яго асноўных свабодаў, а таксама за павагу міжнароднага заканадаўства і развіццё дэмакратыі».



Сахараў у аэрапорце ў Ерэване, 1989 год.

ФОТАЗДЫМАК ЮРЫЯ РОСТА З САЙТА GEO.RU

# 28

## Amnesty International. Кропка адліку

28 траўня 1961 года ў брытанскай газеце «The Observer» быў апублікаваны артыкул юрыста Пітэра Бененсона «Забытыя вязні», які абазначыў пачатак кампаніі за амністыю вязняў сумлення. Ініцыятыва, якая пачалася з кароткага звароту, неўзабаве перарасла ў міжнародны рух.

Як пасля распавядаў Пітэр Бененсон, 19 лістапада 1960 года ён ехаў у лонданскім метро, калі ў газеце яму трапіўся артыкул пра двух партугальскіх студэнтаў, якіх прысудзілі да сямі гадоў пазбаўлення волі за тое, што яны паднялі тост за свабоду. Пазней у артыкуле «Забытыя вязні» Бененсон так апісаў сваю рэакцыю: «У любы дзень, разгарнуўшы газету, вы знойдзеце аповяд пра тое, што кагосьці дзесьці пасадзілі ў турму, катавалі ці пакаралі смерцю толькі за тое, што яго меркаванне сталася непрымальным для ўладаў. (...) У чытача з'яўляецца ванітнае пачуццё бяссілля. Між тым, калі агіду многіх людзей аб'яднаць у адзіны парыў, можна шмат чаго дамагчыся».

Гэтая публікацыя ў «The Observer» прыцягнула ўвагу чытачоў да становішча людзей, якіх «заключылі ў турму, катавалі ці пакаралі смерцю толькі за тое, што іх меркаванне або рэлігійныя перакананні сталіся непрымальнымі для ўладаў». У артыкуле гаварылася, што такія парушэнні ўрадамі артыкулаў 18 і 19 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека носяць глабальны характар і адбываюцца ва ўмовах парушэння свабоды прэсы, права на палітычную апазіцыю і своечасовы і адкрыты разгляд у бесстаронніх судах, а таксама права на прытулак. Публікацыя Бененсона, прадубляваная мноствам міжнародных выданняў, паслужыла пачаткам кампаніі Appeal for Amnesty 1961 (Кампанія за амністыю — 1961), мэта якой заключалася ў аператыўнай мабілізацыі шырокай грамадскай думкі ў абарону асобаў, якіх Бененсон назваў вязнямі сумлення.

У ліпені 1961 года, вырашыўшы, што зварот складзе аснову працы пастаянна дзеючай арганізацыі, юрыст Пітэр Бененсон заснаваў у Лондане арганізацыю, якая 30 верасня 1962 года атрымала афіцыйную назву — Amnesty International.

Асноўная мэта гэтага міжнароднага руху — абараняць асоб, пазбаўленых волі за мірнае выказванне меркавання, і гарантаваць прызнанне артыкулаў 18 і 19 Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека ва ўсім свеце.



Пітэр Бененсон (1921—2005). Штогод у дзень заснавання «Амністыі» прынята запальваць свечку — у памяць пра тых, каго не змаглі вызваліць з няволі, хто загінуў у лагерах або быў закатаваны ў турэмных камерах. Для астатніх яна служыць напамінам пра «забытых вязняў».

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА PINTEREST.COM



ФОТАЗДЫМАК З АРХІВУ ПЦ «ВЯСНА»

Фотавіншаванне Amnesty International да 50-годдзя беларускаму вязню сумлення — кіраўніку ПЦ «Вясна» Алесю Бяляцкаму. На фота: супрацоўнікі Міжнароднага сакратарыяту Amnesty International у галоўным офісе арганізацыі ў Лондане.

Amnesty International працуе па сямі галоўных напрамках: правы жанчын, правы дзяцей, выкараненне катаванняў і адмена смяротнага пакарання, правы бежанцаў, правы вязняў сумлення, абарона чалавечай годнасці. У шэрагу іншых арганізацыя мае наступныя канкрэтныя мэты: адмяніць смяротнае пакаранне; спыніць пазасудовыя кары і «знікненні»; забяспечыць адпаведнасць умоў утрымання ў турмах міжнародным стандартам у галіне правоў чалавека; гарантаваць своечасовыя і справядлівыя судовыя разбіральніцтвы па справах усіх палітычных зняволеных; гарантаваць бясплатную адукацыю дзецям ва ўсім свеце; змагацца з беспакаранасцю праз органы судова-прававой сістэмы; пакласці канец вярбоўцы і выкарыстанню дзяцей-салдат; вызваліць усіх вязняў сумлення; умацоўваць эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы абяздоленага насельніцтва; абараняць інтарэсы праваабаронцаў; заахвочваць рэлігійную цярпімасць; спыніць катаванні і жорсткае абыходжанне; пакончыць з незаконнымі забойствамі ва ўмовах узброеных канфліктаў і абараняць правы бежанцаў, мігрантаў і просьбітаў прытулку.

Праца Amnesty International нацэлена не толькі на ўрады, але і на няўрадавыя арганізацыі і прыватных асоб (недзяржаўных суб'ектаў).

«Amnesty International бачыць свет такім, у якім кожны чалавек карыстаецца ўсімі правамі, замацаванымі ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншых міжнародных стандартах у галіне правоў чалавека. Для дасягнення гэтай мэты Amnesty International прымае даследаванні і дзеянні, накіраваныя на папярэджанне і спыненне сур'ёзных парушэнняў правоў на фізічную і псіхалагічную недатыкальнасць, на свабоду сумлення і самавыражэння, на свабоду ад дыскрымінацыі ў кантэксце сваёй працы па прасоўванні правоў чалавека». Статут Amnesty International, прыняты на 27-м пасяджэнні Міжнароднага савета, 2005 г.

Amnesty International узнагароджана Нобелеўскай прэміяй міру 1977 года «За абарону чалавечай годнасці ад катаванняў, гвалту і распаду», а таксама прэміяй ААН у галіне правоў чалавека.




Артыкул «Забытыя вязні» ў «The Observer».



Сімвалам Amnesty International стала свечка, апавітая калючым дротам.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТАЎ LACALMETTE.MIDIBLOGS.COM, 50JAAR.AMNESTY.NL

## 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

## 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | | | | | | |

# 06

# 01

# Міжнародны дзень абароны дзяцей



International Children's Day.

Пасля Другой сусветнай вайны, самай разбуральнай за ўсю гісторыю чалавецтва, паўстала неабходнасць у цвёрдай упэненасці, што ніводнае дзіця ў свеце больш не спазнае бедстваў новай вайны. Падчас Першага Міжнароднага жаночага кангрэсу, які адбыўся ў 1945 годзе ў Парыжы, прагучала клятва: «Мы ўрачыста клянёмся змагацца за стварэнне ўмоваў для шчаслівага і гарманічнага развіцця нашых дзяцей і будучых пакаленняў... Мы ўрачыста клянёмся нястомна змагацца за забеспячэнне трывалага міру ва ўсім свеце як адзінай гарантыі шчасця нашых сем'яў і шчасця нашых дзяцей». У лістападзе 1949 года Міжнародная дэмакратычная федэрацыя жанчын прыняла рашэнне – штогод 1 чэрвеня адзначаць як Дзень абароны дзяцей.

Першы Міжнародны дзень абароны дзяцей быў праведзены ў 1950 годзе ў 51 краіне.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА GOODSONHEALTH.FILES.WORDPRESS.COM




ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FREEHDWALL.COM

ААН падтрымала гэтую ініцыятыву і абвясціла абарону правоў, жыцця і здароўя дзяцей адным з прыярытэтных напрамкаў сваёй дзейнасці.

Міжнародны дзень абароны дзяцей (International Children's Day) – гэта, перш за ўсё, напамін дарослым пра неабходнасць захавання правоў дзяцей на жыццё, на свабоду меркавання і рэлігіі, на адукацыю, адпачынак і вольны час, на абарону ад фізічнага і псіхалагічнага гвалту, на абарону ад эксплуатацыі дзіцячай працы як неабходных умоваў для фармавання гуманнага і справядлівага грамадства.

У 1959 годзе ААН прыняла Дэкларацыю правоў дзіцяці, у якую ўвайшлі артыкулы, што заклікаюць бацькоў, дзяржаўныя органы, мясцовыя ўлады і ўрад, няўрадавыя арганізацыі прызнаць выкладзеныя ў іх правы і свабоды дзяцей і імкнуцца



Школьнікі разглядаюць падарункі, якія яны атрымалі ў гонар Міжнароднага дня абароны дзяцей. Індыя.



Жанчыны-зняволеныя са сваімі дзецьмі чакаюць святочнага абеду, адзначаючы Міжнародны дзень абароны дзяцей у Пнампені, Камбоджа.

ФОТАЗДЫМАК AFP/GETTY IMAGES/TANG CHHIN SOTHY
З САЙТА SUPERCOOLPICS.COM

да іх выканання. Дэкларацыя насіла толькі рэкамендацыйны характар і не мела абавязковай сілы. Першым і асноўным міжнародна-прававым дакументам, у якім правы дзіцяці разглядаліся на ўзроўні міжнароднага права, стала Канвенцыя пра правы дзіцяці, прынятая ААН 20 лістапада 1989 года. Канвенцыю падпісала 61 краіна, 13 ліпеня 1990 года Канвенцыя была ратыфікавана ў СССР.

Дзеці складаюць прыкладна 20–25% насельніцтва ў кожнай краіне. У розных краінах існуюць рознага кшталту пагрозы, ад якіх іх неабходна абараняць. У развітых краінах гэта адмоўныя наступствы тэлепрагглядаў (за апошнія 20 гадоў больш за тысячу сур'ёзных даследаванняў, праведзеных у ЗША, прадэманстравалі, што дзеці схільныя капіяваць у жыцці тыя жорсткія дзеянні, якія бачаць на экране). У Заходняй Еўропе заклапочаныя занадта ранні сэксуальным развіццём дзяцей, у Японіі асноўную небяспеку бачаць у разбурэнні традыцыйных метадаў выхавання і ўсё больш шырокім пранікненні заходніх звычак і формаў паводзінаў. У найменш развітых краінах Афрыкі і Азіі дзецям пагражаюць голад, СНІД, непісьменнасць і ваенныя канфлікты.

## МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ ЗАЎСЁДЫ АДЗНАЧАЕЦЦА ПРАВЯДЗЕННЕМ РОЗНЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ, МЭТА ЯКІХ — ПРЫЦЯГНУЦЬ УВАГУ ДА СТАНОВІШЧА ДЗЯЦЕЙ УСЯГО СВЕТУ

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FREEHDWALL.COM



# 03

# *Адкрылася праўда пра Курапаты*



Урочышча Курапаты.

Фотаздымак Дзмітрыя Крываноса з сайта photoclub.by

3 чэрвеня 1988 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» быў апублікаваны артыкул Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці». Беларуская і сусветная грамадскасць даведалася пра масавыя расстрэлы ва ўрочышчы Курапаты.

На падставе публікацыі 14 чэрвеня 1988 года Пракуратурай БССР была заведзена крымінальная справа.

Выяўлена, што пахаваныя паходзілі з розных мясцінаў Беларусі. Значная іх частка была з Заходняй Беларусі, далучанай да БССР у 1939 годзе. У адных даследаваных магілах былі выяўлены рэшткі адзення і абутку савецкай вытворчасці, у іншых — заходняй, таксама быў знойдзены абутак вытворчасці краінаў Балтыі.

Першае следства па факце масавых расстрэлаў скончылася ў лістападзе 1988 года, і па яго выніках Генеральны пракурор БССР Георгій Тарнаўскі паведаміў, што ў Курапатах пахаваныя не менш за 30 тысяч чалавек. Да такой самай лічбы можна прыйсці, аналізуючы вынікі комплекснай судова-медыцынскай і крыміналістычнай экспертызы, якая выявіла, што ў 6 даследаваных пахаваннях былі знойдзеныя рэшткі не менш за 356 чалавек. Улічваючы, што колькасць пахаванняў складае 510, можна зрабіць выснову, што колькасць пахаваных у Курапатах людзей складае не менш за 30 тысяч чалавек.

Паводле даведніка «Беларусь», выдадзенага ў 1995 годзе, колькасць ахвяраў складала да 100 тысяч чалавек.

30 лістапада 1993 года Курапаты былі занесеныя ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь як «Месца знішчэння ахвяраў палітычных рэпрэсій 30—40-х гадоў XX стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты» і помнік гісторыі міжнароднага значэння.

У ліпені 1988 года, пасля адкрыцця першых фактаў пра злачынствы ў Курапатах, па ініцыятыве Мемарыяльнай і іншых камісій Беларускага фонду культуры быў створаны «Камітэт-58» — арганізацыйная праваабарончая група, якая выступала за абнародванне праўды пра сталінскі тэрор.

Фотаздымак з сайта vytoki.net




Шэсце на Курапаты, 1988 год.



У верасні 2001 года пачалося пашырэнне Мінскай кальцавой дарогі праз Курапаты — кругласутачная народная вахта ў абарону мемарыялу доўжылася 250 дзён.

Фотаздымак з архіва Уладзіміра Кішкурны

# 04

## Міжнародны дзень нявінных дзяцей — ахвяраў агрэсіі

Міжнародны дзень нявінных дзяцей — ахвяраў агрэсіі (International Day of Innocent Children Victims of Aggression) адзначаецца штогод у гадавіну бамбардзіроўкі жылых кварталаў Бейрута ізраільскімі ўзброенымі сіламі (4 чэрвеня 1982 года).



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FREEHDWALL.COM

Сусветная арганізацыя аховы здароўя: гвалт над дзецьмі з'яўляецца глабальнай праблемай з сур'ёзнымі пажыццёвымі наступствамі.

Генеральная Асамблея ААН абвясціла гэты міжнародны дзень 19 жніўня 1982 года на надзвычайнай спецыяльнай сесіі па пытанні пра Палестыну, «ва ўзрушэнні ад велізарнай колькасці нявінных палестынскіх і ліванскіх дзяцей — ахвяраў актаў агрэсіі Ізраіля».

«Мы павінны памятаць пра святы абавязак, замацаваны ў Дэкларацыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пра правы дзіцяці, забяспечыць, каб усе дзеці, без выключэння, карысталіся асаблівай абаронай. Для іх павінны быць створаны магчымасці і спрыяльныя ўмовы, каб яны маглі развівацца ў нармальным і здаровым асяроддзі, ва ўмовах свабоды і годнасці, і расці ў атмасферы любові і бяспекі... Занадта шмат дзяцей трагічна пацярпелі ў выніку агрэсіі і гвалту. Развіццё ўсё больш складаных і разбуральных відаў зброі, войны прынеслі сур'ёзныя наступствы для мірных грамадзянаў, сярод якіх найбольш ўразлівыя — дзеці.



5-ы Генеральны сакратар ААН (1982—1991) Хаўер Перэс дэ Куэльяра.

У выніку міжнародных канфліктаў незлічонае мноства дзяцей былі забітыя ці скалечаныя, і многія з тых, хто выжыў, страцілі сваіх бацькоў і не маюць сродкаў да існавання. Яны з'яўляюцца асноўнымі ахвярамі, няздольнымі жыць у міры і

## Статыстыка

*Узровень дзіцячай смяротнасці ў найменш развітых краінах амаль у два разы вышэйшы за аналагічны паказчык у развітых.*

### *Кожнае дзясятае дзіця*

*рэгулярна становіцца ахвярай агрэсіўных паводзінаў дарослых.*

**З 1996 года**

**6 млн** *дзяцей атрымалі раненні і калецтвы*

**12 млн** *дзяцей сталі бяздомнымі ў зонах канфліктаў*

*больш за* **20 млн** *дзяцей былі вымушаныя пакінуць свае дамы і разам са сваімі сем'ямі перайсці на становішча бежанцаў*

*каля* **2 млн** *дзяцей загінулі ў выніку ваенных дзеянняў*

*баевікі ва ўзброеных канфліктах на планеце эксплуатуюць больш за* **250 тысяч** *дзяцей-салдат*

*Але дзеці гінуць не толькі ў зоне ваенных дзеянняў. Хваля небывалых па амаральнасці тэрарыстычных нападаў, якая прайшла па свеце і таксама забрала шматлікія жыцці нявінных дзяцей, пазначыла новае вымярэнне пагрозы, якая зыходзіць ад міжнароднага тэрарызму, для ўсяга чалавецтва.*



згодзе, як гэта прадугледжана ў Статуце. Страшны лёс такіх дзяцей з'яўляецца пераканаўчым напамінам пра тое, што першая мэта нашай арганізацыі — пазбавіць будучыя пакаленні ад бедстваў вайны і што, нягледзячы на ўсе нашыя намаганні, канфлікты працягваюць пераследваць чалавецтва. І пакуль такое становішча спраў захоўваецца, маладыя і нявінныя будуць паранейшаму сярод груп, якія плацяць самую высокую цану агрэсіі ў яе розных формах...» З паслання 5-га Генеральнага сакратара ААН Хаўера Перэса дэ Куэльяра з нагоды Дня (1983 год).

Мэтай Міжнароднага дня нявінных дзяцей — ахвяраў агрэсіі з'яўляецца спроба адчуць боль і пакуты дзяцей усяго свету, якія падвяргаюцца фізічнаму гвалту, маральна-псіхічнай і духоўнай апрацоўцы. Гэты Дзень пацвярджае абавязацельствы ААН у пытанні пра абарону іх правоў.

ФОТАЗДЫМАК CECILIO M. RICARDO JR. З САЙТА PINGNEWS.COM



Афганістан: лётчык ваенна-паветраных сілаў з дзяўчынкай-бежанкай. Кабул, 8 красавіка 2007 года.




Іракскі хлопчык на дзіцячым антываенным мітынгу ў Багдадзе. 31 снежня, 2002 года.

ФОТАЗДЫМАК ASSOCIATED PRESS/ NASSER NASSER З САЙТА OHMYNEWS.COM

05

# Сусветны дзень навакольнага асяроддзя

У 1972 годзе Генеральная Асамблея ААН абвясціла Сусветны дзень навакольнага асяроддзя (World Environment Day) і заклікала ўрады і арганізацыі сістэмы ААН штогод праводзіць у гэты дзень на сусветнай аснове мерапрыемствы, якія пацвярджаюць іх памкненне да захавання і паляпшэння навакольнага асяроддзя, з мэтай паглыблення ведаў пра навакольнае асяроддзе.

THINK•EAT•SAVE WORLD ENVIRONMENT DAY 5 JUNE

Выбар даты абгрунтаваны тым, што 5 чэрвеня 1972 года ў Стакгольме адкрылася Канферэнцыя ААН па праблемах акаляючага чалавека асяроддзя, услед за якой была створана Праграма ААН па навакольным асяроддзі — ЮНЭП.

Асноўную задачу Дня ААН фармулюе так: «Надаць экалагічным праблемам чалавечае вымярэнне; даць людзям магчымасць стаць актыўнымі ўдзельнікамі ўстойлівага і справядлівага працэсу развіцця; садзейнічаць разуменню таго, што абшчыны маюць выключна важную ролю ў справе змены стаўлення да экалагічных пытанняў, і прапагандаваць развіццё партнёрскіх адносін, з тым, каб усе краіны і народы маглі жыць у бяспечнай і квітнеючай будучыні».

Сярод асноватворных міжнародных дакументаў па абароне навакольнага асяроддзя — Дэкларацыя Канферэнцыі Арганізацыі Аб’яднаных Нацый па праблемах акаляючага чалавека асяроддзя (1972), Рыа-дэ-Жанэйрская дэкларацыя па навакольным асяроддзі і развіцці (1992), Ёханэсбургская дэкларацыя па ўстойлівым развіцці (2002), а таксама шэраг канвенцый і рэзалюцый Генеральнай Асамблеі і Эканамічнага і Сацыяльнага Савета ААН (ЭКАСАС).

Сусветны дзень навакольнага асяроддзя адзначаюць па-рознаму — арганізацыяй вулічных шэсцяў, веласіпедных прабегаў, канцэртаў у абарону навакольнага асяроддзя, школьных конкурсаў на лепшае сачыненне або плакат па гэтай тэме, мерапрыемстваў па пасадцы дрэў, а таксама правядзеннем кампаній па ўтылізацыі адходаў і ўборцы смецця ды іншых мерапрыемстваў. У многіх краінах гэтая штогадовая падзея выкарыстоўваецца для прыцягнення ўвагі і ініцыявання дзеянняў на палітычным узроўні.

Кіраўнікі дзяржаў, прэм’ер-міністры і міністры па навакольным асяроддзі выступаюць з заявамі, у якіх абавязваюцца клапаціцца пра нашу планету. Больш сур'ёзныя абавязацельствы тычацца стварэння пастаянных ўрадавых структур, якія займаюцца пытаннямі аховы навакольнага асяроддзя і эканамічнага планавання. Гэты дзень таксама дае магчымасць падпісаць або ратыфікаваць міжнародныя канвенцыі па навакольным асяроддзі.



ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА FREEHDWALL.COM

# 12

# *Сусветны дзень барацьбы з дзіцячай працай*

У 2002 годзе Дзень быў абвешчаны Міжнароднай арганізацыяй працы (МАП) дзеля прыцягнення ўвагі грамадскасці да набіраючага ходу ў розных краінах руху за забарону дзіцячай працы, асабліва яе найгоршых формаў.

Дзіцячай працай называюць сітуацыі, у якіх дзяцей на рэгулярнай аснове прыцягваюць да працы. Сёння ў даволі вялікай колькасці краінаў па ўсім свеце да дзіцячай працы ставяцца як да незаконнай эксплуатацыі. А раней праца дзяцей была вельмі пашырана. Вобласці яе прымянення сталі масава скарачацца пасля прыняцця і прызнання Канцэпцыі бяспекі працы і правоў дзяцей. Дзеці ў цывілізаваных сучасных краінах часта працуюць у такой сферы, як шоў-бізнэс, да якой адносіцца тэатр, кіно і эстрада. Але нярэдка сустракаюцца і выпадкі ўцягвання дзяцей у злачынную дзейнасць, якая ўключае папрашайніцтва, парнаграфію і прастытуцыю. Афрыканскія ж дзеці ўзброяюцца для ўдзелу ў баявых дзеяннях, да чаго іх таксама прымушаюць.

Дзіцячая праца, з пункту гледжання Міжнароднай арганізацыі працы і ААН, расцэньваецца як эксплуатацыя. Згодна з Артыкулам 32 Канвенцыі пра правы дзіцяці, дзецям гарантуецца абарона ад выканання ўсялякай працы і ад эканамічнай эксплуатацыі, калі гэтая праца ўяўляе небяспеку для здароўя дзіцяці і перашкаджае яму атрымліваць адукацыю, наносіць шкоду яго разумоваму, фізічнаму, маральнаму, сацыяльнаму і духоўнаму развіццю.



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА 24.MEDIA.TUMBLR.COM >



У большасці краінаў дзіцячая праца лічыцца формай эксплуатацыі і прызнаная незаконнай.

Сусветны дзень барацьбы з дзіцячай працай (World Day Against Child Labour) заклікаsuccessfully надаць новы імпульс руху за забарону дзіцячай працы. Вынікам яго намаганняў з'яўляецца павелічэнне колькасці краінаў, якія ратыфікавалі адпаведныя Канвенцыі Міжнароднай арганізацыі працы — №182 і №138.

Аднак паміж ратыфікацыяй канвенцый па дзіцячай працы і канкрэтнымі дзеяннямі краінаў па вырашэнні гэтай праблемы назіраецца сур'ёзны разрыў. Пра гэта гаворыцца ў дакладзе Міжнароднай арганізацыі працы пад назвай-заклікам «Спыніць дзіцячую працу: ад абавязацельстваў да дзеянняў» (2012).

Прэзентуючы даклад, Генеральны дырэктар МАП Хуан

Самавія заявіў наступнае: «Як мы можам супакойвацца, калі 215 мільёнаў дзяцей у свеце ўсё яшчэ вымушаныя працаваць, каб выжыць, а больш за палову з іх з'яўляюцца ахвярамі найгоршых формаў дзіцячай працы, такіх як рабства і ўдзел ва ўзброеных канфліктах. Мы не павінны дапусціць, каб задача выкаранення дзіцячай працы перайшла ў шэраг другасных задачаў у сферы развіцця. Усе дзяржавы — разам і паасобку — павінны імкнуцца да дасягнення гэтай мэты».

Апублікаваныя Міжнароднай арганізацыяй працы 1 чэрвеня 2012 года ацэнкі маштабаў прымусовай працы сведчаць: каля 5 мільёнаў дзяцей з'яўляюцца ахвярамі прымусовай працы, што ўключае працу ў такіх умовах, як камерцыйная сэксуальная эксплуатацыя і пазыковая кабала. І гэтыя ацэнкі, па меркаваннях экспертаў, з'яўляюцца няпоўнымі.

Згаданыя Канвенцыя №138 пра мінімальны ўзрост найму на працу і Канвенцыя №182 пра найгоршыя формы дзіцячай працы маюць найбольшую колькасць ратыфікацыяў. Са 185 дзяржаваў, якія з'яўляюцца сябрамі Міжнароднай арганізацыі працы, 88% ратыфікавалі першую, а 95,1% — другую. Пастаўлена задача дамагчыся ўсеагульнай ратыфікацыі гэтых дзвюх канвенцый да 2015 года.

Пры гэтым, па звестках з даклада, станоўчыя змены ў плане скарачэння дзіцячай працы не такія маштабныя, як няздольнасць краінаў перайсці ад прыняцця абавязацельстваў да канкрэтных дзеянняў. Найбольшы разрыў паміж прынятымі абавязацельствамі і канкрэтнымі дзеяннямі адзначаецца ў нефармальнай эканоміцы — там адбываецца вялікая частка парушэнняў асноватворных правоў у сферы працы. Дзеці ў сельскіх раёнах, у тым ліку дзеці мігрантаў і прадстаўнікоў карэнных народаў, з'яўляюцца найбольш уразлівымі ў плане рызык дзіцячай працы.

Аўтары даклада таксама адзначаюць, што да нацыянальных судоў даходзіць адносна невялікая колькасць выпадкаў дзіцячай працы. Санкцыі за парушэнне заканадаўства ў гэтай сферы часцяком бываюць занадта нязначнымі і неэфектыўнымі, каб паставіць бар'ер перад эксплуатацыяй дзяцей. Аналітыкі лічаць, што для гэтага трэба зрабіць яшчэ вельмі шмат. Пры гэтым яны паказваюць і на сур'ёзныя станоўчыя зрухі, адзначаныя ў шэрагу краінаў у плане ўдасканалення заканадаўства і правапрымяняльнай практыкі. Гаворка ідзе пра такія станоўчыя змены:

- Рост колькасці краінаў, якія прынялі нацыянальныя планы барацьбы з дзіцячай працай;
- Вялікая колькасць новых заканадаўчых забаронаў, устаноўленых з мэтай выяўлення і прадухілення небяспечных формаў дзіцячай працы;
- Большая колькасць заканадаўчых актаў, накіраваных на барацьбу з дзіцячай прастытуцыяй і выкарыстаннем дзяцей для вырабу парнаграфічнай прадукцыі;
- Прыкметны рост маштабаў міжнароднага супрацоўніцтва і ўзаемнай дапамогі паміж дзяржавамі — сябрамі МАП, у прыватнасці, па пытаннях, датычных гандлю дзецьмі.

Канвенцыі МАП разам з іншымі міжнароднымі прававымі актамі ў галіне правоў дзяцей, правоў працоўных і правоў чалавека закладаюць асновы для распрацоўкі заканадаўства, палітыкі і практычных мераў, накіраваных на барацьбу з дзіцячай працай.

# 13

## Першы публічны пратэст у пасляваеннай Беларусі

13 чэрвеня 1984 года адбылася першая ў пасляваеннай гісторыі Беларусі акцыя пратэсту пад лозунгам «Руйнуецца помнік гісторыі».

Пікет зладзілі сябры моладзевага творчага згуртавання «Беларуская майстроўня» каля будынка Мінскага гарадскога тэатра, дзе ў 1852 годзе была пастаўлена опера з лібрэта Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Сялянка» на музыку Станіслава Манюшкі. Будынак тэатра знаходзіўся па вуліцы Інтэрнацыянальнай, 28.



Вінцук Вячорка, удзельнік акцыі пратэсту.

Узгадвае ўдзельнік акцыі Вінцук Вячорка: «Да нас падышлі міліцыянты і сказалі, што мы шумім і перашкаджаем людзям адпачываць. Хоць адначасова чыгунная баба грукатала на ўвесь Мінск. Напад на чарговы будынак у цэнтры горада прымусіў нас выйсці на вуліцу. Мы наўрад ці ўсведамлялі, што гэта была першая публічная акцыя пратэсту ў паваеннай гісторыі краіны. Яна сведчыла пра тое, што моладзевы нацыянальны рух перайшоў ад культуралагічных акцый да адкрытай формы палітычнага пратэсту.

У ліку ўдзельнікаў акцыі былі 13 чалавек. Мы сталі на ходніку і пачалі скандаваць: «Руйнуецца помнік гісторыі!». Потым пад'ехала «Волга», некалькі «воронков», нас усіх «запакавалі» ў гэтыя машыны і адвезлі ў Цэнтральны РУУС. Там мы правялі ноч. У выніку кожнаму з нас на працу, вучобу ці, як мне, у аспірантуру прыйшла папера з інфармацыяй пра тое, што быў затрыманы, і з патрабаваннямі прыняць «адпаведныя меры». Абвінавачванне гучала як «парушэнне грамадскага парадку», гэта значыць, што мы шумелі і заміналі жыхарам адпачываць. Нам забаранілі збірацца ў Палацы прафсаюзаў на спеўкі».

Студэнтка кансерваторыі Ларыса Сімаковіч была выключана з навучальнай установы. Пасля гэтага актывам «Беларускай майстроўні» быў створаны клуб імя Уладзіміра Караткевіча, які праіснаваў усё лета 1984 года. У 1985 годзе на базе «Беларускай майстроўні» ўтварылася таварыства «Талака». Такім чынам, у 80-я гады развіваецца рух беларускага культурнага супраціву, што становіцца магчымым праз культурны і ідэалагічны застой савецкага рэжыму.



Былы будынак гарадскога тэатра па вул. Інтэрнацыянальнай, 28. Мінск, 1969 год.

ФОТАЗДЫМАК ЗЯНОНА ПАЗНЯКА З САЙТА SVABODA.ORG

# 15

# *Сусветны дзень распаўсюду інфармацыі пра злоўжыванні ў дачыненні да людзей сталага веку*

Генеральная Асамблея ААН абвясціла ў рэзалюцыі 66/127 гэты Дзень, калі ўвесь свет выказвае нязгоду са злоўжываннямі ў дачыненні да некаторых з прадстаўнікоў нашых старэйшых пакаленняў і іх пакутамі.

Глабальная колькасць людзей ва ўзросце 60 гадоў і старэй больш чым падвоіцца — з 542 мільёнаў чалавек у 1995 годзе прыкладна да 1,2 мільярда чалавек ў 2025 годзе. Паводле ацэнак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, 4—6% пажылых людзей ва ўсім свеце пакутуюць ад праблемы жорсткага абыходжання, якая выяўляецца ў той ці іншай форме — фізічнай, эмацыйнай, фінансавай. ААН акцэнтуе ўвагу на выніках апошніх даследаванняў: злоўжыванні, адсутнасць клопату і гвалт у дачыненні да пажылых людзей як дома, так і ў спецыялізаваных установах значна больш пашыраныя, чым гэта прызнаецца ў цяперашні час.

Пра праблему жорсткага абыходжання з пажылымі людзьмі, якая існуе як у краінах, якія развіваюцца, так і ў развітых краінах, мала звестак на глабальным узроўні. Паказчыкі ці магчымыя ацэнкі пашыранасці гэтай праблемы ёсць толькі ў асобных развітых краінах — у межах ад 1% да 10%. ААН канстатуе, што ў многіх частках свету жорсткае абыходжанне з людзьмі сталага веку не прызнаецца значнай праблемай і для яе рашэння не прымаецца належных мераў. Нават сёння жорсткае абыходжанне з пажылымі людзьмі працягвае заставацца табу і ў значнай меры недаацэньваецца або ігнаруецца грамадствамі ва ўсім свеце. Аднак усё больш фактычных звестак сведчыць пра тое, што жорсткае абыходжанне з пажылымі людзьмі з'яўляецца важнай праблемай грамадскай аховы здароўя і грамадства.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА RANDALLDSMITH.COM



Правы пажылых людзей падзяляюць на тры асноўныя катэгорыі: абарона, удзел і стаўленне.



ФОТАЗДЫМАК ANDRE ARMENT З САЙТА LEPSER.RU

*Жорсткае абыходжанне з пажылымі людзьмі вызначаецца як «здзяйсненне якіх-небудзь разавых або паўтаральных актаў або адсутнасць належных дзеянняў у рамках якіх-небудзь стасункаў, якія прадугледжваюць давер, што прычыняе шкоду пажылому чалавеку або выклікае ў яго стрэс». Жорсткае абыходжанне з пажылымі людзьмі можа мець розныя формы, такія як фізічнае, псіхалагічнае або эмацыйнае, сэксуальнае і фінансавае жорсткае абыходжанне. Яно таксама можа быць вынікам наўмыснага і ненаўмыснага грэблівага стаўлення.*

«Такія злоўжыванні з'яўляюцца недапушчальным замахам на чалавечую годнасць і правы чалавека, і, што яшчэ горш, падобныя выпадкі часта застаюцца невядомымі, а вінаватыя — беспакаранымі», — заяўляе ААН і падкрэслівае, што правы чалавека, якія ёсць у пажылых людзей, з'яўляюцца гэтак жа абсалютнымі, як і правы чалавека, якімі валодаюць усе людзі.

## 4—6% ПАЖЫЛЫХ ЛЮДЗЕЙ ВА ЎСІМ СВЕЦЕ ПАКУТУЮЦЬ АД ПРАБЛЕМЫ ЖОРСТКАГА АБЫХОДЖАННЯ

«Павага да старэйшых з'яўляецца неад'емным складнікам многіх грамадстваў. Па меры павелічэння працягласці жыцця людзей і прасоўвання наперад нашых намаганняў у галіне забеспячэння ўстойлівага і ўсёахопнага развіцця настае час з новай сілай і ў больш шырокіх маштабах выказаць нашу ўдзячнасць тым, хто дасягнуў старэчых гадоў. Сучасная цывілізацыя зможа апраўдаць сваю назву толькі ў тым выпадку, калі ў ёй будуць захоўвацца традыцыі шанавання, павагі і абароны пажылых чальцоў грамадства», — гаворыцца ў пасланні Генсакратара ААН Пан Гі Муна з нагоды Дня.

ААН заклікае ўрады і ўсе зацікаўленыя бакі распрацоўваць і праводзіць у жыццё больш эфектыўныя стратэгіі папярэджання злоўжыванняў і больш строгія законы і палітыку ў мэтах вырашэння ўсіх аспектаў праблемы жорсткага абыходжання з людзьмі сталага веку: «Давайце разам весці працу па стварэнні аптымальных умоваў для жыцця пажылых людзей і па забеспячэнні ім магчымасці зрабіць максімальны ўнёсак у наш свет».

# 19

# Дзень народзінаў Аун Сан Су Чжы

19 чэрвеня 1945 года нарадзілася адна з самых вядомых у свеце дысідэнтаў, лаўрэатка Нобелеўскай прэміі міру 1991 года — лідар дэмакратычнай грамадскасці Бірмы Аун Сан Су Чжы (Aung San Suu Kyi).

Аун Сан Су Чжы з'яўляецца уплывовай абаронцай правоў і свабоды ў Бірме — краіне, дзе з 1962 года ва ўладзе знаходзіўся ваенны ўрад. Яна нарадзілася ў партовым горадзе Рангун, сталіцы Бірмы, а адукацыю атрымала ў Оксфардскім універсітэце. Актыўную дзейнасць у палітычнай сферы пачала ў 1988 годзе, калі бірманская хунта сілай падавіла масавае народнае паўстанне, забіўшы тысячы грамадзянаў. Су Чжы напісала адкрыты ліст да ўрада з просьбай сфармаваць незалежны камітэт для правядзення дэмакратычных выбараў. Нягледзячы на забарону ўрада на сходы колькасцю больш за чатырох чалавек, Су Чжы выступала перад вялікімі аўдыторыямі па ўсёй Бірме ў якасці Генеральнага сакратара нядаўна сфармаванай Нацыянальнай лігі за дэмакратыю.

Улады, занепакоеныя ростам папулярнасці жанчыны-палітыка, у 1989 годзе змясцілі яе пад хатні арышт. У тым жа годзе Бірма была перайменаваная ў М'янму, а яе сталіца Рангунэ — у Янгон. Нягледзячы на ўтрыманне свайго лідара пад арыштам, Нацыянальная ліга за дэмакратыю ў 1990 годзе перамагла на выбарах, атрымаўшы 82% месцаў у парламенце. Але ваенная дыктатура адмовілася прызнаць вынікі выбараў.

ФОТАЗДЫМАК АРГАНІЗАЦЫІ WAN-IFRA СУМЕСНА З AGENCE FRANCE-PRESSE




«Што, калі б яе словы ніколі не былі пачутыя?» Аун Сан Су Чжы — першая ў свеце, каго заходнія журналісты ў XXI стагоддзі ўганаравалі званнем «герой нашага часу».

Тым часам дзейнасць Су Чжы атрымала прызнанне за мяжой. За дасягненні ў барацьбе за дэмакратыю і правы чалавека ў 1990 годзе яна стала лаўрэатам прэмій імя Торальфа Рафто і Андрэя Сахарава, а на наступны год — лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру. Атрымаць гэтую прэстыжную ўзнагароду яна не змагла, паколькі практычна ўвесь час знаходзілася ў зняволенні.

Так, у 1995 годзе пасля перамоваў з прадстаўнікамі хунты Су Чжы была вызваленая з-пад хатняга арышту і працягнула палітычную дзейнасць. Яна не скарысталася магчымасцю пакінуць краіну, асцерагаючыся, што кіруючы рэжым не дазволіць ёй вярнуцца на радзіму. Папулярнасць Су Чжы ў краіне і за мяжой расла, і ў 2000 годзе ўлады вярнулі яе пад хатні арышт. Чарговае вызваленне адбылося двума гадамі пазней, аднак у 2003 годзе аўтакартэж лідара Нацыянальнай лігі за дэмакратыю падвергнуўся нападу праўрадавых баевікоў, а сама Су Чжы ізноў апынулася пад хатнім арыштам. Увосень 2007 года ў Бірме пачаліся масавыя народныя хваляванні. Пад ціскам ААН і міжнароднай супольнасці ўлады пайшлі на перамовы са Су Чжы, але пасля адмовіліся ад іх, спаслаўшыся на непадатлівасць лідара апазіцыі. У траўні 2008 года ў Бірме адбыўся рэферэндум, на якім была зацверджана новая канстытуцыя краіны. Аднак улады не далі Су Чжы прыняць удзел у абмеркаванні, а таксама забаранілі ёй займаць любыя дзяржаўныя пасады. Неўзабаве пасля рэферэн-думу лідэру апазіцыі быў падоўжаны на год тэрмін хатняга арышту. Яшчэ праз год, у траўні 2009-га, Су Чжы была абвінавачаная ў парушэнні правілаў арышту. У выніку суду дысідентцы пагражала пяць гадоў турмы. У жніўні 2009 года яе асудзілі на тры гады папраўчых работ, аднак кіраўнік хунты Тан Швэ спецыяльным рашэннем замяніў гэтае пакаранне на 18 месяцаў хатняга арышту. Тым не менш, у лістападзе 2010 года, неўзабаве пасля парламенцкіх выбараў у Бірме, Су Чжы была вызваленая.

У красавіку 2012 года Нацыянальная ліга за дэмакратыю, прыняўшы ўдзел у давыбарах у парламент, атрымала 43 з 45 вакантных дэпутацкіх месцаў у заканадаўчым органе. 2 траўня 2012 года Аун Сан Су Чжы стала дэпутатам ніжняй



ФОТАЗДЫМАК FIDH




Прэзідэнт FIDH Суэр Белхасен і Аун Сан Су Чжы з постэрам Алеся Бяляцкага. Парыж, ліпень 2012 года.

палаты парламента Бірмы. Яна стала настолькі ўплывовай, што яе называюць адным з найбольш верагодных кандыдатаў на пасаду прэзідэнта на выбарах у 2015 годзе.

16 чэрвеня 2012 году 67-гадовая заўзятая змагарка за дэмакратычныя свабоды і правы чалавека атрымала на цырымоніі ў Осла Нобелеўскую прэмію міру. Праз 21 год пасля прысуджэння ўзнагароды!

Ва ўрачыстай прамове Аун Сан Су Чжы падзялілася сваімі перажываннямі: «Часта падчас хатняга арышту я адчувала, што больш не з'яўляюся часткай свету... Прэмія дала мне магчымасць зноў адчуць рэальнасць, апынуцца сярод людзей, прарваць ізаляцыю. Я зразумела ўсю важнасць Нобелеўскай прэміі — яна прыцягнула ўвагу свету да барацьбы за дэмакра-тыю і за правы чалавека ў Бірме. Нашая краіна не будзе забытая».

Нобелеўская лаўрэатка заклікала сусветную грамадскасць працягнуць барацьбу за вызваленне палітвязняў Бірмы. Неабыякавая яна і да лёсу палітвязняў з іншых таталітарных краінаў. У 2011 годзе Аун Сан Су Чжы далучылася да міжнароднай кампаніі ў абарону беларускага праваабарон-цы — кіраўніка ПЦ «Вясна» і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алеся Бяляцкага.

# 20

# *Сусветны дзень бежанцаў*

У 2000 годзе Генеральная Асамблея ААН пастанавіла, што, пачынаючы з 2001 года, 20 чэрвеня будзе адзначацца як Сусветны дзень бежанцаў (World Refugee Day). Падставай для гэтага паслужыла 50-я гадавіна Канвенцыі пра статус бежанцаў 1951 года.




У Сусветны дзень бежанцаў паўднёваафрыканцы пратэстуюць супраць закрыцця офіса па прыёму бежанцаў у Кейптаўне, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка.

ФОТАЗДЫМАК ASSOCIATED PRESS / SCHALK VAN ZUYDAM З САЙТА SUPERCOOLPICS.COM

На працягу многіх гадоў розныя краіны і рэгіёны адзначалі ўласныя памятныя дні і нават тыдні, прысвечаныя бежанцам. Адзін з самых вядомых — Дзень афрыканскіх бежанцаў, які адзначаецца 20 чэрвеня. Арганізацыя афрыканскага адзінства (з ліпеня 2002 года — Афрыканскі саюз) пагадзілася з тым, каб аднначасова адзначаўся міжнародны Дзень бежанцаў.

Бежанцы вызначаюцца як асобы, якія збеглі са сваіх краінаў па прычыне абгрунтаванай боязі пераследу з-за расавай, рэлігійнай прыналежнасці, грамадзянства, палітычных поглядаў ці прыналежнасці да пэўнай сацыяльнай групы і не могуць ці не хочуць вяртацца. Вызначэнне прававога статусу бежанцаў змяшчаецца ў дзвюх міжнародных дамовах — Канвенцыі пра статус бежанцаў 1951 года і Пратаколе да яе 1967 года.

Па інфармацыі ААН, больш за 42 мільёны жыхароў планеты былі вымушаныя пакінуць свае дамы і абшчыны. За гэтымі лічбамі стаіць нешта большае за простую статыстыку: гэта канкрэтныя людзі і сем'і, у якіх карэнным чынам змянілася жыццё, абшчыны былі знішчаныя, а будучыня застаецца незразумелай.

Упраўленне Вярхоўнага камісара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па справах бежанцаў (УВКБ) — вядучая гуманітарная ўстанова ў сістэме ААН па аказанні дапамогі бежанцам. Яго найважнейшай функцыяй з'яўляецца прадастаўленне міжнароднай абароны — спроба забяспечыць павагу асноўных правоў чалавека ў дачыненні да бежанцаў, у тым ліку атрымання прытулку, а таксама недапушчэнне

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА GLOGSTER.COM







Каля 350 бежанцаў УВКБ сабрала ў Батанічным садзе Багора (Інданэзія). 20 чэрвеня 2011 года.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА CWSINDONESIA.OR.ID




Фotaздымак з сайта coloribus.com

прымусовага вяртання нікога з іх у краіну, дзе яны маюць падставы баяцца рэпрэсій.

Нягледзячы на тое, што мандат УВКБ прадугледжвае абарону і дапамогу бежанцам, туды ўсё часцей звяртаюцца з просьбамі аб аказанні дапамогі больш шырокаму колу асобаў, якія знаходзяцца ў становішчы, аналагічным становішчу бежанцаў. Сюды ўваходзяць унутрана перамешчаныя асобы, былыя ўцекачы, якія маюць патрэбу ў кантролі і дапамозе УВКБ пасля вяртання дадому; асобы без грамадзянства; тыя, хто атрымаў часовую абарону за межамі сваёй краіны, але не атрымаў паўнавартаснага юрыдычнага статусу бежанцаў. Сёння бежанцы складаюць больш за палову групы асобаў, праблемамі якіх займаецца УВКБ.

«З апошняга даклада УВКБ пра глабальныя тэндэнцыі відаць,



Фотаздымак з сайта coloribus.com




што тэмпы перамяшчэння людзей апярэджваюць меры, якія прымаюцца ў сувязі з гэтай з'явай. Мы павінны сумесна дамагацца мабілізацыі палітычнай волі і кіраўніцтва ў мэтах папярэджання і спынення канфліктаў, якія выклікаюць патокі бежанцаў. Дамогшыся аднаўлення бяспекі, мы павінны імкнуцца ліквідаваць прычыны, якія ляжаць у аснове канфлікту, забяспечыўшы стабільнае вяртанне бежанцаў з дапамогай прадастаўлення ім доступу да магчымасцяў жыццезабеспячэння, паслугаў і правапарадку». З паслання Генсакратара ААН Пан Гі Муна з нагоды Дня.

ААН заклікае, нягледзячы на паўсюдныя бюджэтныя цяжкасці, не адварочвацца ад тых, хто трапіў у бяду: «Людзі становяцца бежанцамі, калі ў іх няма выбару. Наш жа выбар павінен палягаць у аказанні ім дапамогі».

# 23
## *Міжнародны дзень удоваў*

У сувязі з неабходнасцю надання асаблівай увагі становішчу удоваў усіх узростаў, якія жывуць у розных рэгіёнах і культурным асяроддзі, Генеральная Асамблея ААН абвясціла 23 чэрвеня 2011 года першым Міжнародным днём удоваў.

«Наконт іх не вядзецца статыстыка, іх не заўважаюць даследчыкі, пра іх не клапоцяцца дзяржаўныя і мясцовыя ўлады, іх абыходзяць увагай арганізацыі грамадзянскай супольнасці — становішча ўдоваў застаецца практычна малапрыкметным. Разам з тым жорсткае стаўленне да ўдоваў і іх дзяцей з'яўляецца ў наш час адным з найбольш сур'ёзных парушэнняў правоў чалавека і перашкодаў на шляху развіцця. Мільёны ўдоваў у свеце вымушаны жыць ва ўмовах крайняй галечы, астракізму, гвалту, з падарваным здароўем, не маючы даху над галавой, падвяргаючыся дыскрымінацыі паводле законаў і звычаяў», — тлумачыць ААН такі свой крок.

Усе ўдовы павінны карыстацца правамі, замацаванымі ў Канвенцыі пра ліквідацыю ўсіх формаў дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын і іншых міжнародных дамовах пра абарону правоў чалавека. Але, як канстатуе ААН, у рэчаіснасці ж звычаі і абрады, а таксама традыцыйныя рытуалы смутку і пахавання тлумачацца такім чынам, што нярэдка ўдовы пазбаўляюцца практычна ўсіх агульнапрызнаных правоў.

З амаль 245 мільёнаў удоваў у свеце больш за 115 мільёнаў жывуць у крайняй галечы. У краінах, дзе бушуюць канфлікты, жанчыны нярэдка становяцца ўдовамі ў маладым узросце і павінны несці вялікі цяжар клопату пра дзяцей ва ўмовах баявых дзеянняў і перамяшчэння насельніцтва без якой-небудзь дапамогі і падтрымкі. Акрамя таго, у перыяды гвалту і ўзрушэнняў многія адносна маладыя жанчыны, нечакана заўдавеўшы, становяцца ахвярамі жорсткага абыходжання. Некаторыя з удоваў — непаўналетнія або нават яшчэ больш юнага ўзросту. Смерць мужа можа асудзіць іх на поўнае нягодоў жыццё да канца сваіх дзён. Там, дзе статус жанчыны з'яўляецца вытворным ад статусу яе мужа, уступленне ў шлюб — жадае яна гэтага ці не — застаецца адзіным спосабам аднаўлення яе статусу ў грамадстве.

У Міжнародны дзень удоваў ААН заклікае дзяржавы і грамадскасць узяць на сябе абавязацельства прыкладаць усе намаганні для спынення любой дыскрымінацыі ў дачыненні да ўдоваў ва ўсім свеце і для прадастаўлення ім магчымасці цалкам карыстацца іх правамі чалавека. Гэта будзе ў сваю чаргу спрыяць павышэнню дабрабыту іх дзяцей, абшчын і грамадства ў цэлым.




Міжнародны дзень удоваў: «Прыадкрыць заслону».




Афганскія ўдовы ў цэнтры размеркавання прадуктаў харчавання ў Кабуле. 26 студзеня 2006 года.

ФОТАЗДЫМАК REUTERS/AHMAD MASOOD
З САЙТА TOTALLYCOOLPIX.COM

# 26

# Сусветны дзень у падтрымку ахвяраў катаванняў




Банер з сайта worldwithouttorture.org

26 чэрвеня 1987 года ўступіла ў сілу Канвенцыя супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання.

У 1997 годзе па рэкамендацыі Эканамічнага і Сацыяльнага Савета (ЭКАСАС) Генеральная Асамблея ААН абвясціла 26 чэрвеня Міжнародным днём у падтрымку ахвяраў катаванняў. Гэты дзень праводзіцца з мэтай выкаранення катаванняў і забеспячэння эфектыўнага функцыянавання Канвенцыі.

На працягу ўсёй сваёй гісторыі ААН асуджала катаванні як адно з самых бесчалавечных дзеянняў, якія ўжываюцца аднымі людзьмі ў дачыненні да іншых. Катаванні прымяняюцца дзеля падаўлення чалавечай асобы і таптання ўласцівага



чалавеку пачуцця ўласнай годнасці і з'яўляюцца злачынствам у адпаведнасці з прынцыпамі міжнароднага права. Ва ўсіх адпаведных дакументах катаванні строга забараняюцца і не могуць быць апраўданыя ні пры якіх абставінах.

Міжнародная супольнасць асудзіла катаванні і іншыя жорсткія, бесчалавечныя або прыніжаючыя годнасць віды абыходжання і пакарання ў прынятай ААН у 1948 годзе Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. У 80–90-х гадах быў дасягнуты прагрэс як у плане выпрацоўкі прававых нормаў і дакументаў, так і ў прыняцці канкрэтных мераў па забароне катаванняў. У 1981 годзе Генеральная Асамблея заснавала Добраахвотны фонд ААН для ахвяраў катаванняў — для фінансавання арганізацый, якія займаюцца аказаннем дапамогі ахвярам і іх сем'ям. У 1984 годзе Генеральнай Асамблеяй была прынята Канвенцыя супраць катаванняў, якая ўступіла ў сілу ў 1987 годзе.

***«Катаванне» азначае любое дзеянне, якім якой-небудзь асобе наўмысна прычыняецца моцны боль ці пакуты, фізічныя або маральныя,***

*каб атрымаць ад яго або ад трэцяй асобы звесткі або прызнанні, пакараць яе за дзеянне, якое здзейсніла яна або трэцяя асоба або ў здзяйсненні якога яна падазраецца, а таксама запалохаць ці прымусіць яе ці трэцюю асобу, альбо па любой прычыне, заснаванай на дыскрымінацыі любога характару, калі такі боль або пакуты прычыняюцца дзяржаўнай службовай асобай ці іншай асобай, якая выступае ў афіцыйнай якасці, або па іх падбухторванні, або з іх ведама або маўклівай згоды. У гэтае вызначэнне не ўключаюцца боль або пакуты, якія ўзнікаюць толькі ў выніку законных санкцый, неаддзельныя ад гэтых санкцый або выклікаюцца імі выпадкова». Канвенцыя супраць катаванняў (артыкул 1, параграф 1).*




International Day in Support of Victims of Torture

постэр з сайта lissnup.wordpress.com

Кантроль за выкананнем Канвенцыі дзяржавамі-ўдзельніцамі ажыццяўляе орган з незалежных экспертаў — Камітэт супраць катаванняў. Першы Спецыяльны дакладчык па пытанні пра катаванні (незалежны эксперт, якому было даручана прадстаўляць інфармацыю пра становішча спраў з прымяненнем катаванняў ва ўсім свеце) быў прызначаны Камісіяй па правах чалавека ў 1985 годзе. У той жа перыяд Генеральная Асамблея прымала рэзалюцыі, у якіх падкрэслівалася роля работнікаў аховы здароўя ў справе абароны зняволеных і затрыманых асобаў ад катаванняў, і выпрацавала асноўныя прынцыпы абыходжання са зняволенымі або затрыманымі асобамі.

«Гэтая жорсткая і бесчалавечная практыка па-ранейшаму паўсюдна ўжываецца. Штодня жанчыны, мужчыны і дзеці падвяргаюцца катаванням або жорсткаму абыходжанню з намерам знішчыць іх пачуццё ўласнай годнасці або чалавечага гонару. У некаторых выпадках такая практыка прымяняецца дзяржавай наўмысна з мэтай запалохаць сваё насельніцтва. У многіх краінах народы, якія законна патрабуюць свабоды і правоў чалавека, падвяргаюцца жорсткім рэпрэсіям. Нават пасля змены рэжымаў катаванні па-ранейшаму прымяняюцца, захоўваецца культура беспакаранасці», — заявіў Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун з нагоды 25-годдзя прыняцця Канвенцыі супраць катаванняў.

ААН звяртае ўвагу на абавязак дзяржаў не толькі прадухіляць катаванні, але і своечасова прадастаўляць усім ахвярам катаванняў эфектыўныя сродкі прававой абароны, кампенсацыю і адпаведную сацыяльную, псіхалагічную і медыцынскую дапамогу, іншыя формы рэабілітацыі. І Генеральная Асамблея, і Савет па правах чалавека настойліва заклікаюць дзяржавы ствараць і падтрымліваць такія рэабілітацыйныя цэнтры або ўстановы.

Забарона на катаванні з'яўляецца адным з элементаў звычайнага міжнароднага права і мае абавязковы характар для ўсіх сябраў міжнароднай супольнасці, незалежна ад таго, ці ратыфікавала дадзеная дзяржава міжнародныя дамовы, якія прама забараняюць прымяненне катаванняў.

ААН прызнае важную ролю НДА ў барацьбе супраць катаванняў. Адпаведныя эксперты, уключаючы Спецыяльнага дакладчыка па пытанні пра катаванні і Спецыяльнага дакладчыка па пытанні пра гвалт у адносінах да жанчынаў, а таксама дамоўныя кантрольныя органы, як Камітэт супраць катаванняў, шырока карыстаюцца інфармацыяй, якую даводзяць да іх НДА і індывідуальныя асобы.

## 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

## 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

# 07

# 07

# *Гвалтоўнае знікненне Дзмітрыя Завадскага*

Журналіст Дзмітрый Завадскі знік 7 ліпеня 2000 года пры нявысветленых абставінах. У гэты дзень ён паехаў у аэрапорт «Мінск-2», каб сустрэць калегу Паўла Шарамета. Яго аўтамабіль быў знойдзены ў аэрапорце, але самога журналіста больш ніхто не бачыў.

Дзмітрый Завадскі нарадзіўся 28 жніўня 1972 года ў Мінску. У 1994—1997 гадах з'яўляўся асабістым тэлеаператарам Аляксандра Лукашэнкі. Потым працаваў аператарам Грамадскага расійскага тэлебачання (ОРТ). З кастрычніка 1999-га па травень 2000-га знаходзіўся ў Чачні, дзе разам з Паўлам Шараметам здымаў для ОРТ фільм «Чачэнскі дзённік».

Па факце знікнення Дзмітрыя Завадскага была ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле «забойства», аднак потым абвінавачанне было перакваліфікавана на «выкраданне і незаконнае пазбаўленне чалавека волі».

14 сакавіка 2002 года Мінскі абласны суд прызнаў вінаватымі ў выкраданні Завадскага афіцэраў спецпадраздзялення МУС «Алмаз» — Валерыя Ігнатовіча і Максіма Маліка (асуджаныя на пажыццёвае зняволенне), былога курсанта Акадэміі МУС Аляксея Гуза (асуджаны на 25 гадоў пазбаўлення волі), а таксама грамадзяніна Сяргея Савушкіна (асуджаны на 25 гадоў, але выйшаў на волю значна раней). Па версіі пракуратуры, у Ігнатовіча быў матыў для здзяйснення злачынства — помста. У адным з інтэрв'ю «БДГ» Дзмітрый Завадскі распавёў, што чуў ад калегаў у Чачні гісторыю пра арышт беларуса, які прайшоў спецпадрыхтоўку ў мінскім «Алмазе», але ніякіх прозвішчаў там названа не было.

Суд праходзіў у закрытым парадку, таму доказы віны асуджаных не выйшлі за сцены суда. Ніхто з іх сваёй віны не прызнаў.

«Я ўпэўнена на 100 %, што ўлады і пракуратура, у прыватнасці, ведаюць, што адбылося і з якіх прычынаў, — заявіла маці зніклага журналіста Вольга Завадская. — Здаецца, ужо выкарыстаныя ўсе магчымасці ўнутры краіны, каб дамагчыся хоць нейкага тлумачэння ад уладаў і пракуратуры».

27 лістапада 2003 г. суд Фрунзенскага раёна горада Мінска прызнаў зніклага журналіста памерлым. Між тым цела Дзмітрыя Завадскага дагэтуль не знойдзена.

У 1999—2000 гадах, акрамя Дзмітрыя Завадскага, у Беларусі зніклі першы віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Беларусі XIII склікання, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар, бізнэсмэн і грамадскі дзеяч Анатоль Красоўскі, экс-кіраўнік МУС Юрый Захаранка.

ПОСТЭР З САЙТА GDB.RFERL.ORG






Маці Дзмітрыя Завадскага: «Я ўпэўненая, што ўлады ведаюць праўду».

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА BELSAT.EU

# 09-10

## Выступ Міхася Кукабакі супраць русіфікацыі Беларусі

9–10 ліпеня 1978 года нарыс беларускага дысідэнта Міхася Кукабакі пра русіфікацыю Беларусі «Скрадзеная Бацькаўшчына» быў зачытаны на «Нямецкай хвалі». 19 кастрычніка аўтар быў арыштаваны, а нарыс увайшоў у матэрыялы абвінавачання па чарговай крымінальнай справе, узбуджанай супраць яго.

Свой знакаміты нарыс, прысвечаны новай для яго тэме планавай русіфікацыі Беларусі, Міхась Кукабака напісаў у Бабруйску, куды вярнуўся ў жніўні 1976 года. (Гэтаму папярэднічалі шэсць гадоў зняволення, каля пяці з якіх ён утрымліваўся ў псіхіятрычных лякарнях.)

«...Я ўжо не спрабаваў шукаць нешта памятнае ў гэтым горадзе. Спускаючыся да чыгуначнага пераезду, што на вуліцы Бахарава, заўважыў папераджальны надпіс ля шлагбаўма: «Берегись поезда!» І адразу ўзгадалася. Бо ж 25 гадоў таму тут было напісана: «Сцеражыся цягніка!» І толькі ўнізе — рускі пераклад. Цяпер беларускі выраз знік. Да ўласнага здзіўлення, мяне гэта непрыемна закранула. Нечакана я ўсвядоміў сябе беларусам. Бо тут спакон веку жылі мае дзяды і прадзеды. Сама зямля гэтая складаецца з праху незлічоных пакаленняў маіх суродзічаў. І я, іх нашчадак, маю бясспрэчнае права не толькі на гэтую зямлю, але і на сваю родную мову, на права быць беларусам.

Цяпер ужо свядома я стаў разглядаць надпісы на шыльдах крамаў, устаноў. Пераважная большасць іх — на рускай мове. І толькі прыкметны беларускі акцэнт у мінакоў нагадвае, што ты знаходзішся не ў Кастраме або Іванава. На базары часам можна пачуць беларускую мову. Гэтыя, відаць, з вёсак прыехалі. Усё ж планавая асіміляцыя яшчэ не завершаная, хоць яе поспехі відавочныя...» — так Кукабака апісаў уражанні ад сустрэчы з Бабруйскам, з якога ён з'язджаў адразу пасля заканчэння рамесніцкай вучэльні на працы ў Сібір.

Міхась Кукабака запісаў на магнітную стужку тэкст гэтага нарыса, а таксама тэкст уласнага артыкула «Абарона правоў чалавека і разрадка — непадзельныя». Стужка трапіла на Захад. Тэкст нарыса «Скрадзеная Бацькаўшчына» зачытваўся радыёстанцыяй «Нямецкая хваля» 9 і 10 ліпеня 1978 года. Пазней ён таксама друкаваўся ў розных эміграцыйных выданнях (напрыклад, «Время и Мы»



Міхась Кукабака — на пярэднім плане справа.

ФОТАЗДЫМАК З АРХІВУ МІХАСЯ КУКАБАКІ




Amnesty International: «Міхась Кукабака. Беларускі рабочы зняволены ў Савецкім Саюзе за абарону правоў чалавека». Чэрвень 1988 года.

^ ПЛАКАТ З САЙТА VYTOKI.NET

(Мюнхен), 1986, № 3). Савецкія ўлады за гэты нарыс абвінавацілі Кукабаку ў скажэнні «ленінскай нацыянальнай палітыкі». Артыкул «Абарона правоў чалавека і разрадка — непадзельныя» быў прысвечаны тэме пашырэння праблематыкі правоў чалавека па-за межы ўнутраных справаў кожнага ўрада, інтэрнацыяналізацыі гэтай праблемы. Тэкст артыкула ў лістападзе 1977 года зачытваўся радыёстанцыяй «Свабода».

Яшчэ адзін нарыс Міхася Кукабакі — «Спатканне з дзяцінствам» — быў прысвечаны антымілітарысцкай тэме, за што аўтара абвінавацілі ў абгаворванні Савецкай арміі. Кукабака пашыраў таксама «Адкрыты ліст міністру аховы здароўя СССР», скіраваны супраць выкарыстання псіхіятрыі ў палітычна-рэпрэсіўных мэтах. Распаўсюджваў Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека.

«У маім пашпарце запісана: нацыянальнасць — беларус; месца нараджэння — г. Бабруйск. Тут жылі мае бацькі, адсюль яны пайшлі на фронт і не вярнуліся. Тут жа я, круглы сірата, выхоўваўся ў дзіцячым доме. Але цяпер у гэтым горадзе для мяне не знайшлося ні даху над галавой, ні добрай працы. Улады прапаноўваюць мне з'ехаць адсюль. Куды? — Хоць у Хабараўск, мы ахвотна выпішам табе туды квіток, — казаў мне Марат Цімафеевіч Кузняцоў, галоўны лекар абласной псіхіятрычнай бальніцы. Але ж у межах калючага дроту, які аперазаў краіну на многія тысячы кіламетраў, законы (а дакладней беззаконне) усюды аднолькавыя. Ці то ў Хабараўску, Уладзіміры ці ў Бабруйску», — пісаў ён у «Скрадзенай Бацькаўшчыне».

У красавіку 1977 года Міхась Кукабака звяртаўся з заяваю пра выезд з СССР: «Мне, простаму працоўнаму, адмовілі і ў гэтым праве. У праве, якое не падлягае сумневу ў цывілізаваных краінах».

Пасля вяртання ў Беларусь Кукабаку двойчы (увосень 1976 года і ўвосень 1977 года) прымусова змяшчалі ў Магілёўскую псіхіятрычную лякарню з дыягназам шызафрэнія і параноідальны сіндром. Працоўная камісія іншадумцаў вызначыла гэты факт як «тыповы прыклад выкарыстання псіхіятрыі ў рэпрэсіўных палітычных мэтах» і звярнулася з лістамі-пратэстамі ў Міністэрства аховы здароўя СССР і непасрэдна ў лякарню.

У кастрычніку 1978 года Міхась Кукабака быў арыштаваны, а 20–21 чэрвеня 1979 года ў Бабруйску над ім адбыўся суд. На судзе ён заявіў, што камунізм савецкага ўзору — сістэма поўнага задушэння і разбурэння асобы, а СССР — не што іншае, як бязмежны канцэнтрацыйны лагер. Кукабака прыйшоў да поўнага разрыву з сістэмай і афіцыйна адмовіўся ад савецкага грамадзянства, патрабаваў выпусціць яго з СССР. Ён быў асуджаны на тры гады лагераў агульнага рэжыму паводле артыкула 186-1 Крымінальнага кодэкса БССР.

# 18

# Міжнародны дзень Нэльсана Мандэлы

У лістападзе 2009 года Генеральная Асамблея ААН абвясціла 18 ліпеня Міжнародным днём Нэльсана Мандэлы ў знак прызнання ўнёску былога прэзідэнта Паўднёвай Афрыкі ў справу міру і свабоды.

Тым самым ААН прадэманстравала «прызнанне жыццёвых каштоўнасцяў Нэльсана Мандэлы і яго адданага служэння чалавецтву ў галіне ўрэгулявання канфліктаў, міжрасавых стасункаў, пашырэння і абароны правоў чалавека, у справе прымірэння, у забеспячэнні гендэрнай роўнасці, правоў дзяцей і іншых уразлівых групаў насельніцтва, а таксама паляпшэння становішча самых бедных і слаба развітых сацыяльных групаў. Тым самым ААН падкрэсліла яго ўнёсак у міжнародную барацьбу за дэмакратыю і садзейнічанне справе ўстанаўлення міру ва ўсім свеце».

Пройдземся жыццёвымі сцяжынамі гэтага чалавека.

18 ліпеня 1918 года. Нэльсан Халілала Мандэла нарадзіўся ў невялікай паўднёва-афрыканскай вёсцы Мвеза.

1943 год. 25-гадовым уступіў у Афрыканскі нацыянальны кангрэс (АНК) і пачаў актыўна працаваць над тым, каб пакласці канец палітыцы апартэіду, якую праводзіла кіруючая Нацыянальная партыя. Праз год сумесна з іншымі заснаваў Моладзевую лігу АНК, а ў 1948 годзе быў абраны яе нацыянальным сакратаром.



Фотаздымак з сайта tour-smart.co.uk



Нэльсан Мандэла — адзін з самых вядомых змагароў за правы чалавека ў перыяд апартэіду, за што 27 гадоў сядзеў у турме.

1952 год. Распачалася кампанія «Выклік». Гэта масавая кампанія грамадзянскага непадпарадкавання, скіраваная супраць дыскрымінацыйных законаў. Мандэла быў абраны яе нацыянальным кіраўніком.

1956–1961 гады. Мандэла праходзіў як адзін са 156 абвінавачаных у крымінальным працэсе па справе пра дзяржаўную здраду.

21 сакавіка 1960 года. У горадзе Шарпевіле адбываецца крывавая расправа паліцэйскіх з насельніцтвам. Неўзабаве ўрад аб'яўляе надзвычайнае становішча і арыштоўвае каля 18 тысяч удзельнікаў супраціву. Афрыканскі нацыянальны кангрэс трапляе пад забарону, Мандэла сыходзіць у падполле.

1961 год. Сфармавана ўзброенае крыло АНК на чале з Мандэлам, якое атрымала назву «Дзіда нацыі».

1962 год. Мандэла едзе за мяжу — у краіны Афрыкі і Еўропу.

5 жніўня 1962 года. Мандэла арыштаваны за незаконны выезд з краіны і падбухторванне да страйку. Асуджаны да пяці гадоў пазбаўлення волі.

Ліпень 1963 года. Арышт дзеячаў Афрыканскага нацыянальнага кангрэсу ў Рывоніі. Мандэла абвінавачаны разам з імі.

12 чэрвеня 1964 года. Асуджаны да пажыццёвага зняволення і адпраўлены ў турму.

На судзе, дзе Мандэлу судзілі за яго дзейнасць, ён заявіў: «Я змагаўся супраць перавагі белых, і я змагаўся супраць перавагі чорных. Мой ідэал — дэмакратычнае, свабоднае грамадства, у якім усе людзі жывуць разам у гармоніі, маючы роўныя магчымасці. Дзеля гэтага ідэалу я жыву і спадзяюся яго ўвасобіць. Але калі спатрэбіцца, дзеля гэтага ідэалу я гатовы і памерці».

Нэльсан Мандэла, асуджаны да пажыццёвага зняволення, стаў яркім сімвалам супраціву для набіраючага моц руху супраць апартэіду. Ён нязменна адмаўляўся здаць свае палітычныя пазіцыі ў абмен на сваю свабоду. У рэшце рэшт, у лютым 1990 года, вызваліўшыся з турмы, ён з яшчэ большай энергіяй узяўся за барацьбу супраць падаўлення, каб дасягнуць мэтаў, якія ён і іншыя людзі паставілі перад сабой амаль чатыры дзесяцігоддзі таму.

1993 год. Стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру.

Красавік 1994 года. У Паўднёвай Афрыцы адбыліся першыя ўсеагульныя выбары з прадастаўленнем поўных выбарчых правоў усім жыхарам шматнацыянальнай краіны. АНК атрымаў перамогу з пераважнай большасцю галасоў.

Травень 1994 года. Мандэла прайшоў цырымонію інаўгурацыі як першы чарнаскуры прэзідэнт у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. Займаў гэтую пасаду да 1999 года, пасля сышоў у адстаўку. У гады яго прэзідэнцтва краіна адышла ад праўлення меншасці і апартэіду, ён заваяваў павагу па ўсім свеце за сваю дзейнасць па ўрэгуляванні рознагалоссяў як унутры краіны, так і ў міжнародным маштабе.

«Рашэнне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый абвесціць 18 ліпеня Міжнародным днём Нэльсана Мандэлы — для мяне занадта вялікі гонар. Я хацеў бы, каб гэты дзень быў прысвечаны не ўшанаванню аднаго чалавека, а памяці мільёнаў людзей, якія зрабілі свой унёсак у барацьбу за свабоду ва ўсім свеце...

Давайце будзем памятаць, што свабода ад галечы, голаду і хваробаў, доступ да якаснай адукацыі з'яўляюцца такімі ж задачамі ў барацьбе за правы чалавека, як і свабода ад палітычнага прыгнёту.

Няхай Міжнародны дзень Нэльсана Мандэлы дапаможа ажыццяўленню гэтых задач». З ліста Мандэлы ў ААН, 2010 год.




Нефармальная сустрэча Генеральнай Асамблеі ААН: «Стварэнне неабыякавага свету — погляд Нэльсана Мандэлы». 18 ліпеня 2012 года.



«Дзейнічай! Усяляй надзею!»: Супрацоўнікі ААН кормяць бяздомных у Нью-Ёрку. 18 ліпеня 2012 года.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА UN.ORG

# 30

# Міжнародны дзень сяброўства

Генеральная Асамблея ААН абвясціла 30 ліпеня Міжнародным днём сяброўства (International Day of Friendship), зыходзячы з таго, што сяброўства паміж народамі, краінамі, культурамі і асобамі можа натхніць на намаганні па забеспячэнні міру і дае магчымасць навесці масты паміж грамадствамі, якія паважаюць культурную разнастайнасць.

Ініцыятыва правядзення Дня была прапанаваная ЮНЕСКА. Услед за гэтым у сваёй рэзалюцыі ад 20 лістапада 1997 года Генеральная Асамблея вызначыла культуру міру як каштоўнасці, погляды і тыпы паводзінаў, якія адпрэчваюць гвалт і скіраваныя на прадухіленне канфліктаў праз ліквідацыю іх карэнных прычынаў з тым, каб вырашыць праблемы.

У 1998 годзе Генеральная Асамблея абвясціла Міжнароднае дзесяцігоддзе культуры міру і ненасілля ў інтарэсах дзяцей планеты (2001–2010). Было прызнана, што ў выніку розных формаў гвалту на ўсіх узроўнях грамадства ва ўсім свеце дзецям прычыняюць вялікую шкоду і пакуты. Асамблея таксама прызнала ролю адукацыі ў прапагандзе культуры міру і ненасілля сярод дзяцей: «Калі дзеці навучацца жыць у міры і гармоніі, гэта будзе садзейнічаць умацаванню міжнароднага міру і супрацоўніцтва».

Фотаздымак Michael Maher з сайта michaelnichols.org



*«Сяброўства — гэта адзінае, што можа калі-небудзь аб'яднаць увесь свет»*

Вудра Вільсан



International Day of Friendship.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА UN.ORG

У прынятых у 1999 годзе Дэкларацыі і Праграме дзеянняў у галіне культуры міру вызначаны восем сфераў актывізацыі мерапрыемстваў урадамі, арганізацыямі і прыватнымі асобамі для дасягнення культуры міру:

- станаўленне культуры міру пасродкам адукацыі;
- садзейнічанне ўстойліваму эканамічнаму і сацыяльнаму развіццю;
- заахвочванне павагі да ўсіх правоў чалавека;
- забеспячэнне роўнасці паміж жанчынамі і мужчынамі;
- умацаванне дэмакратычнага ўдзелу;
- садзейнічанне ўзаемаразуменню, талерантнасці і салідарнасці;
- аказанне падтрымкі камунікацыі і свабоднаму пашырэнню інфармацыі і ведаў на аснове шырокага ўдзелу;
- садзейнічанне ўмацаванню міжнароднага міру і бяспекі.

Генеральная Асамблея заклікала дзяржавы, міжнародныя арганізацыі і групы грамадзянскай супольнасці, адзначаючы гэты Дзень, арганізоўваць мерапрыемствы і ініцыятывы, якія будуць спрыяць намаганням міжнароднай супольнасці і будуць скіраваны на заахвочванне дыялогу паміж цывілізацыямі, салідарнасці, паразумення і прымірэння.

## КАЛІ МЫ СЯБРУЕМ АДЗІН З АДНЫМ, МЫ НАЎПРОСТ ЗНАЁМІМСЯ З РАЗНАСТАЙНАСЦЮ НАВАКОЛЬНАГА СВЕТУ І РОЗНЫМІ КРОПКАМІ ГЛЕДЖАННЯ

«Калі мы сябруем адзін з адным, мы наўпрост знаёмімся з разнастайнасцю навакольнага свету і рознымі кропкамі гледжання. Сяброўства дастаўляе нам радасць і дапамагае ў цяжкую хвіліну, хаця нават самыя моцныя адносіны могуць падвяргацца выпрабаванням. Тыя ж прынцыпы, на якіх будуюць адносіны самыя лепшыя сябры — давер, павага і ўзаемавыгадныя рашэнні, маюць таксама важную ролю ў супольнасці дзяржаў.

Прэзідэнт ЗША Вудра Вільсан аднойчы сказаў: «Сяброўства — гэта адзінае, што можа калі-небудзь аб'яднаць увесь свет...» Давайце абавязуемся сумесна дамагацца ўмацавання сяброўства і пабудовы мірнага і вечна квітнеючага свету, у якім будуць развівацца старыя і ўсталёўвацца новыя сяброўскія сувязі». З Паслання Генсакратара ААН Пан Гі Муна з нагоды першага Міжнароднага дня сяброўства. 30 ліпеня 2011 года.

Гэты міжнародны дзень таксама заснаваны на прызнанні актуальнасці і важнасці значэння сяброўства як праявы ва ўсіх людзей ва ўсім свеце высакароднага і каштоўнага пачуцця.

## 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | |

## 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

# 08

# 04

# Міжнародны дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю і праваабарончым рухам Беларусі

У 2012 годзе шэраг няўрадавых арганізацый і кааліцый выступілі з ініцыятывай абвяшчэння гэтага міжнароднага дня, абраўшы для яго правядзення дату 4 жніўня — дзень арышту вядомага беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

Кіраўнік Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) 24 лістапада 2011 года быў асуджаны на чатыры з паловай гады пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму за «ўтойванне ад падатковых органаў даходаў у асабліва буйным памеры». Алесь Бяляцкі сваёй віны не прызнаў, заявіўшы падчас суду, што гэтая крымінальная справа ад пачатку да канца мае палітычны падтэкст: «Праваабарончай дзейнасцю я займаюся практычна ўсё маё жыццё. І пры такой кепскай сітуацыі, якая склалася ў краіне перманентна на працягу апошніх гадоў, натуральна, што крымінальны пераслед мог пачацца ў кожную хвіліну, у кожны год. І тое, што магло адбыцца — адбылося. Таму я не шкадую ні пра адзін свой крок, зроблены за гэтыя 30 гадоў у плане абароны дэмакратыі, правоў чалавека ў Беларусі. Я гэта рабіў свядома».



Зняволенне Алеся Бяляцкага з боку грамадзянскай супольнасці краіны і міжнароднай супольнасці было расцэнена як расправа і помста ўладаў за яго шматгадовую праваабарончую дзейнасць, а таксама як імкненне знішчыць Праваабарончы цэнтр «Вясна» і запалохаць увесь праваабарончы рух Беларусі. У жніўні 2011 года Amnesty International прызнала Алеся Бяляцкага вязнем сумлення, назваўшы крымінальны пераслед у дачыненні да яго часткай «даўняга прыгнёту актывістаў грамадзянскай супольнасці і праваабаронцаў Беларусі». У лістападзе 2012 года Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прызнала зняволенне Алеся Бяляцкага адвольным, якое з'явілася вынікам ажыццяўлення ім універсальна прызнаных правоў чалавека, і запатрабавала ад беларускага ўраду вызвалення праваабаронцы з выплатай яму кампенсацыі. Міжнародная супольнасць за час зняволення двойчы вылучыла Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру, дэманструючы тым самым сваю салідарнасць.

Арганізатары Дня салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю і праваабарончым рухам Беларусі, якімі выступілі Камітэт міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, Цэнтр грамадзянскіх свабод (Кіеў, Украіна), Хельсінкскі фонд па правах чалавека (Варшава, Польшча), Маскоўская Хельсінкская група (Масква, Расія), Міжнародны Моладзевы праваабарончы рух, тлумачаць мэту яго правядзення ў сваім маніфесце: «Мы ствараем гэты дзень не для падтрымкі якіх-небудзь апазіцыйных палітычных сілаў. У гэты дзень павінны гучаць не заклікі да звяржэння існуючага рэжыму ў Беларусі, а заклікі да выканання краінай узятых на сябе міжнародных абавязацельстваў у галіне абароны правоў чалавека».

Гэты міжнародны дзень заклікаhistы падтрымаць грамадзянскіх актывістаў Беларусі, якія працягваюць прасоўваць і абараняць стандарты правоў чалавека і вяршэнства права, новыя ідэі і ініцыятывы, дапамагаць людзям. І ўсё гэта — насуперак сістэматычнаму парушэнню фундаментальных правоў: свабоды сходаў, аб'яднання, выказвання меркаванняў — тых асноў, без якіх грамадзянская супольнасць існаваць не можа.

Арганізатары Дня заклікаюць неабыякавых грамадзянаў з розных краінаў праз лакальныя кампаніі і акцыі ў сваіх гарадах прыцягнуць увагу да сітуацыі ў Беларусі і падтрымаць тых людзей, якія змагаюцца за свабоду ва ўмовах пастаяннага ціску і пераследу.

У першы год правядзення мерапрыемства падтрымалі больш чым у 18 краінах свету, у ліку якіх Расія, Украіна, Літва, Польшча, Чэхія, Швецыя, Швейцарыя, Італія, ЗША, Куба, Грузія, Таджыкістан, Арменія.

Сімвалам Дня стала блакітная валошка.

Акцыі салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі ў 2012 годзе:




Германія




Расія



Чэхія

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА BY.SOLI-DAY.ORG

# 06

# *Дзень Хірасімы*

Дзень Хірасімы адзначаецца міжнароднай супольнасцю як Сусветны дзень барацьбы за забарону ядзернай зброі.

Штогод у гэты дзень праходзяць шматлікія акцыі анархістаў у многіх краінах свету. У Злучаных Штатах Амерыкі таксама праводзяцца акцыі пратэсту, скіраваныя на знішчэнне ядзернай зброі.

6 жніўня 1945 года амерыканскі бамбардзіроўшчык скінуў на Хірасіму першую ў гісторыі чалавецтва баявую атамную бомбу. Праз тры дні, 9 жніўня 1945 года, атамнаму бамбаванню падвергнуўся іншы японскі горад — Нагасакі. Пажары знішчылі большую частку будынкаў. У выніку абодвух бамбаванняў, па некаторых звестках, пацярпелі каля 300 тысяч чалавек — былі забітыя, зніклі без вестак, каля 200 тысяч падвергліся радыёактыўнаму апраменненню. Паводле афіцыйных японскіх дадзеных, на канец сакавіка 2009 года ў жывых лічыліся звыш 235 тысяч «хібакуся» — людзей, якія пацярпелі ад уздзеяння атамных бамбаванняў Хірасімы і Нагасакі. Гэтая лічба ўключае ў сябе дзяцей, якія нарадзіліся ў жанчын, што падвергліся ўздзеянню радыяцыі ад выбухаў. Колькасць памерлых, паводле гэтых афіцыйных звестак, на жнівень 2009 года склала больш за 413 тысяч.

6 жніўня 1955 года ў Хірасіме адбылася першая міжнародная канферэнцыя за забарону атамнай і вадароднай зброі. А ўжо ў 1985 годзе паўднёвая частка Ціхага акіяна была абʼяўлена бязʼядзернай зонай паводле Дамовы Раратонга.

Хірасіма стала сімвалам барацьбы супраць зброі масавага знішчэння. У самім горадзе штогод 6 жніўня праходзіць цырымонія памяці. Напамінам пра жахлівую трагедыю служыць некрануты кавалак зямлі ў цэнтры горада з застаўшыміся пасля выбуху руінамі.

Пад лозунгам «Не — вайне і ядзернай зброі!» штогод у Японіі арганізуецца «Марш міру». Па 13 маршрутах, што звязваюць усе 47 прэфектураў краіны,

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА BIGPICTURE.RU



Ядзерны «грыб» над Хірасімай. Выбуховая хваля хутка рассейвалася, прычыніўшы шкоду будынкам і людзям у радыусе 3,2 км.

ФОТАЗДЫМАК SHIGEO HAYASHI З САЙТА NUCLEARDARKNESS.ORG





Актывісткі Саюза аўстралійскіх жанчын падчас Дня Хірасімы.
Брысбэн (Аўстралія), 1964 год.



Дзясяткі тысяч людзей адзначылі 67-ю гадавіну атамнага бамбавання Хірасімы запускам папяровых ліхтарыкаў па рацэ Матаясу.
Японія, 2012 год.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FRESHER.RU

удзельнікі маршу праходзяць больш за 10 тысяч кіламетраў і сканчаюць сваё шэсце 6 жніўня ў хірасімскім Парку міру, размешчаным вакол эпіцэнтра атамнага выбуху.

Помнік ахвярам Хірасімы — шэры бетонны шацёр, раскінуты сярод зеляніны парку. Усярэдзіне помніка — вапнавая пліта, пад ёй — куфар з імёнамі загінулых. «Спіце спакойна, памылка не паўторыцца» — надпіс на брацкай магіле. Непадалёк ад помніка знаходзіцца Мемарыяльны музей міру. Ля музея вісіць звон, надпіс на якім кажа: «Няхай кожны, хто праходзіць міма, ударыць у звон, каб той заўсёды нагадваў нам пра пагрозу атамнай вайны». Штогадовы рытуал памятнай цырымоніі ўключае хвіліну маўчання і журботныя ўдары памінальнага звана.

У 2011 годзе на жалобнай цырымоніі, прысвечанай 66-й гадавіне атамнай бамбардзіроўкі Хірасімы, былі ўзняты пытанні бяспекі атамнай энергетыкі і развіцця аднаўляльных крыніцаў энергіі.

{ Успаміны відавочцаў }

***«Асляпляльны выбліск, выбух, свядомасць падаўленая, хваля гарачага ветру, і ў наступны момант усё вакол загараецца.***

*Цішыня, якая настала ўслед за грукатам ні з чым не параўнальнай, датуль нечуванай сілы, парушаецца трэскам агню, які разгараецца. Пад абломкамі дома, які рухнуў, гінуць людзі, гінуць у вогненным кальцы, апрытомнеўшы і спрабуючы выратавацца... Імгненне — і з людзей спадае ўспыхнулае адзенне, успушваюцца рукі, твар, грудзі, лопаюцца барвовыя пухіры, лахманы скуры спаўзаюць на зямлю... Гэта прывіды. З паднятымі рукамі яны рухаюцца натоўпам, агучваючы паветра крыкамі болю. На зямлі груднее дзіця, маці мёртвая. Але ні ў каго няма моцы прыйсці на дапамогу, падняць. Аглушаныя і абпаленыя людзі, ашалеўшы, збіліся ў равучы натоўп і слепа тыкаюць у пошуках выйсця... Ні з чым не параўнальная, трагічная карціна: людзі страцілі апошнія прыкметы чалавечага розуму... На скалечаных людзей хлынулі чорныя патокі дажджу. Потым вецер прынёс задушлівы смурод...» Лаўрэаты Міжнароднай прэміі міру мастакі Іры і Тосіка Марукі — відавочцы выбуху ў Хірасіме.*

# 09

# *Міжнародны дзень карэнных народаў свету*

У 1994 годзе Генеральная Асамблея ААН абвясціла Міжнародны дзень карэнных народаў свету (International Day of the World's Indigenous Peoples).







Генсакратар Пан Гі Мун на мерапрыемстве ААН да Дня карэнных народаў і арганізатар мерапрыемства Раберта Барэра. 2010 год.

ФОТАЗДЫМАК ААН / EVAN SHNAYDER З САЙТА UN.ORG

Карэннымі лічацца малыя народы, першабытнікі, якія захавалі сваю мову, нягледзячы на каланізацыю і глабалізацыю, традыцыйныя сістэмы жыццезабеспячэння і спрадвечныя формы промыслаў. Часцей за ўсё прадстаўнікі гэтых народаў жывуць у цяжкадаступных месцах. На сённяшні дзень агульная колькасць карэнных народаў у свеце ацэньваецца прыкладна ў 370 мільёнаў чалавек. Яны жывуць больш чым у 70 краінах і прадстаўляюць больш за пяць тысяч моваў і культураў на ўсіх кантынентах.

Карэнныя народы непарыўна звязаныя са сваім асяроддзем. Часта кажуць, што яны з'яўляюцца захавальнікамі зямлі – сваёй зямной маці, прамаці ўсяго жывога. Іншымі словамі, яны лічаць сябе духоўнымі кіраўнікамі краінаў, у той час як ўрады і палітычныя лідары, як правіла, не з'яўляюцца прадстаўнікамі карэннага насельніцтва. У цяперашні час многія карэнныя народы змагаюцца за тое, каб застацца на сваёй зямлі і захаваць за сабой права на свае прыродныя рэсурсы. Шмат хто з іх ужо даўно пазбаўленыя сваёй зямлі, сваёй мовы і традыцыйнага ладу жыцця – у выніку пазбаўленыя ўсяго.

Ва ўсім свеце шырока прызнаецца, што карэнныя народы належаць да катэгорыі найбольш абяздоленых і ўразлівых.

У маштабах усяго свету расце ўсведамленне важнага значэння культурнай разнастайнасці і ўнёску карэнных народаў у развіццё сучаснага грамадства, і іх правы атрымліваюць усё большае прызнанне на міжнародным узроўні. І калі першапачаткова за іх правы выступалі ў асноўным экалагічныя арганізацыі, то з сярэдзіны 1970-х гадоў карэнныя народы пачалі самастойна займацца гэтым – на нацыянальным і міжнародным узроўнях.

13 верасня 2007 года была прынята Дэкларацыя ААН пра правы карэнных народаў. Яе праект распрацоўваўся і афіцыйна абмяркоўваўся на працягу 20 гадоў.




Дэкларацыя ААН пра правы карэнных народаў.

Ключавыя аспекты Дэкларацыі:

- Сямнаццаць з сарака пяці артыкулаў Дэкларацыі датычацца культуры карэнных народаў і спосабаў яе абароны і пашырэння шляхам заахвочвання да непасрэднага ўдзелу карэнных народаў у працэсе прынияцця рашэнняў і пра-

дастаўлення ім доступу да такіх рэсурсаў, як адукацыя на роднай мове і іншых.

- Пятнаццаць артыкулаў Дэкларацыі тычацца ўдзелу карэнных народаў у прыняцці рашэнняў, якія ўплываюць на іх жыццё, у тым ліку рэальнага ўдзелу ў дэмакратычнай форме праўлення дзяржавай.
- Дэкларацыя пацвярджае права карэнных народаў на самавызначэнне і прызнае права на існаванне і правы на зямлю, тэрыторыю і рэсурсы.
- У Дэкларацыі прызнаецца, што карэнныя народы, пазбаўленыя сродкаў да існавання, маюць права на абгрунтаванае і справядлівае пакрыццё.
- Важным з'яўляецца тое, што ў Дэкларацыі прызнаецца незаконнай дыскрымінацыя карэнных народаў, заахвочваецца поўны і эфектыўны ўдзел карэнных народаў у прыняцці ўсіх рашэнняў, якія закранаюць іх, а таксама іх права развівацца адасоблена, згодна са сваім уласным поглядам на эканамічнае і сацыяльнае развіццё.

Іншыя органы ААН таксама звяртаюцца да правоў карэнных народаў у розных канвенцыях, напрыклад Канвенцыі № 169 Міжнароднай арганізацыі працы і Канвенцыі аб біялагічнай разнастайнасці.

У цяперашні час прадстаўнікі карэнных народаў рэгулярна бяруць удзел у рабоце Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і многіх іншых міжнародных органаў і глабальных мерапрыемстваў. З 2000 года пад эгідай ААН дзейнічае пастаянны форум карэнных народаў свету са штогадовымі сесіямі ў Нью-Ёрку.

ФОТАЗДЫМАК REUTERS/RICARDO MORAES
З САЙТА 24.MEDIA.TUMBLR.COM



Дзяўчынка з племя індзейцаў-каяпа — наведвальніца першай асамблеі карэнных народаў з нагоды канферэнцыі «Рыа+20» у вёсцы Кары-Ака, Рыа-дэ-Жанейра, 14 чэрвеня 2012 года.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА RAIPON.ORG



Фотаздымак з выставы Хабэча Яўнгада «Будучыня Зямлі Ямала».





Удзельнікі канцэрта ансамбляў малых карэнных народаў Расіі. Масква, 9 жніўня 2011 года.

ФОТАЗДЫМКІ ALEXEI VITVITSKIY
З САЙТА PANZICOV.LIVEJOURNAL.COM

# 12

# *Міжнародны дзень моладзі*

Генеральная Асамблея ААН 17 снежня 1999 года ў рэзалюцыі 54/120 падтрымала рэкамендацыю Сусветнай канферэнцыі міністраў па справах моладзі 1998 года пра абвяшчэнне 12 жніўня Міжнародным днём моладзі (International Youth Day).




2010—2011 быў абвешчаны ААН Міжнародным годам моладзі.

БАНЕР З САЙТА WORDPRESS.COM

Праз адзначэнне гэтай даты ААН заклікае міжнародную супольнасць працягваць разам дамагацца прадастаўлення маладым мужчынам і жанчынам больш шырокіх магчымасцяў і задавальнення іх законных патрабаванняў пра забеспячэнне павагі, развіцця і годнай працы: «Інвеставанне ў моладзь забяспечыць значныя дывідэнды і лепшую будучыню для ўсіх».

«Змяніць наш свет» — у 2011 годзе ААН прапагандавала гэтую тэму Дня як запаведзь, якая заўсёды павінна служыць крыніцай натхнення для маладых людзей. У пасланні Генеральнага сакратара Пан Гі Муна з гэтай нагоды сказана: «У вельмі значнай часткі моладзі свету, якая



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА BLOG.PEERTRANSFER.COM



Паводле ўніверсальнага вызначэння ААН, да моладзі адносяцца людзі ва ўзросце ад 15 да 24 гадоў.

налічвае больш за мільярд чалавек, няма адукацыі, свабоды і магчымасцяў, якія яна заслугоўвае. Аднак нягледзячы на гэтыя праблемы і ў некаторых выпадках — з прычыны іх існавання — усё больш маладых людзей аб'ядноўваюць свае намаганні дзеля пабудовы лепшай будучыні. У 2010 годзе яны дамагліся дзіўных вынікаў, згарнуўшы дыктатарскія рэжымы і пасеяўшы надзеі ў розных рэгіёнах і ва ўсім свеце».

Сярод адметных якасцяў моладзі ААН называе «адкрытасць мыслення і вострае ўспрыманне новых тэндэнцый, і яна прыўносіць сваю энергію, ідэі і мужнасць у працэс рашэння найбольш складаных і важных праблем, якія стаяць перад чалавецтвам. Яна часта лепш за старэйшыя пакаленні ўсведамляе, што дзеля дасягнення нашых агульных мэтаў мы можам пераадольваць нашыя рэлігійныя і культурныя

рознагалоссі. Маладыя людзі абараняюць правы прыгнечаных людзей, у тым ліку тых, хто пакутуе ад дыскрымінацыі па прыкмеце полу, расы і сэксуальнай арыентацыі. Яны займаюцца рашэннем складаных пытанняў, з тым каб спыніць распаўсюд ВІЧ. Часта яны з'яўляюцца галоўнымі прапагандыстамі ўстойлівага развіцця і «зялёнага» ладу жыцця».

У 1985 годзе ААН правяла першы Міжнародны год моладзі. Праз дзесяць гадоў Генеральная Асамблея прыняла Сусветную праграму дзеянняў, датычную моладзі, якая замацавала асновы палітыкі і прынцыпы дзейнасці асобных дзяржаў і падтрымкі гэтай дзейнасці сусветнай супольнасцю ў мэтах паляпшэння жыцця маладога пакалення. Праграма была пашырана ў 2007 годзе і мае 15 галоўных накірункаў:

- Адукацыя
- Занятасць
- Голад і галеча
- Ахова здароўя
- Навакольнае асяроддзе
- Злоўжыванне наркатычнымі сродкамі
- Злачыннасць сярод непаўналетніх
- Арганізацыя вольнага часу
- Дзяўчаты і маладыя жанчыны
- Глабалізацыя
- Інфармацыйна-камунікацыйныя тэхналогіі
- ВІЧ / СНІД
- Узброеныя канфлікты
- Пытанні адносін паміж пакаленнямі
- Паўнапраўны і эфектыўны ўдзел моладзі ў жыцці грамадства і ў працэсе прыняцця рашэнняў

Сёння Сусветная праграма мае ключавую ролю ў развіцці моладзі. Яна прадугледжвае меры па ўзмацненні дзейнасці дзяржаў у дачыненні да маладога пакалення, а таксама крокі па павышэнні якасці і пашырэнні магчымасцяў, даступных маладым людзям, для таго, каб яны маглі прымаць усебаковы, эфектыўны і канструктыўны ўдзел у жыцці грамадства.

Праграма, якая тычыцца моладзі, з'яўляецца каардынацыйным цэнтрам звязанай з моладдзю дзейнасці ў ААН. У яе рамках праводзіцца шырокі спектр мерапрыемстваў, скіраваных на заахвочванне развіцця моладзі — садзейнічанне распрацоўцы стратэгій міжурадавых арганізацый, правядзенне аналітычных даследаванняў, павышэнне эфектыўнасці працы ААН з моладдзю з дапамогай пашырэння супрацоўніцтва паміж арганізацыямі сістэмы ААН праз Міжустановачную сетку па развіцці моладзі.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА UN.ORG



Маладыя людзі на адкрыцці Міжнароднага года моладзі ў зале Генеральнай Асамблеі ААН.




Амаль 85% моладзі пражывае ў краінах, якія развіваюцца. Да 2025 года гэты паказчык вырасце да 89,5%.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FREETHECHILDREN.COM

# 19

## Сусветны дзень гуманітарнай дапамогі

Гэтая дата з'яўляецца напамінам пра адну з самых трагічных падзеяў у гісторыі ААН: 19 жніўня 2003 года тэрарыст-смяротнік падарваў штаб-кватэру ААН у сталіцы Ірака — Багдадзе. Тады загінулі 22 чалавекі. Сярод іх быў Сержыу Віейра ды Мелу, Спецыяльны прадстаўнік Генеральнага сакратара ў Іраку, як казалі, «лепшы з лепшых» з плеяды аанаўцаў.

Фотаздымак з сайта e-south.blog.lemonde.fr



Сержыу Віейра ды Мелу.

Сержыу Віейра ды Мелу — бразільскі дыпламат, доктар філасофіі і сацыялогіі. Нарадзіўся ў Рыа-дэ-Жанейра ў 1948 годзе, вышэйшую адукацыю атрымаў у Парыжы. У апараце ААН працаваў з 1969 года, і вялікую частку сваёй працоўнай дзейнасці ён знаходзіўся на службе ва Упраўленні Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў у Жэневе. Таксама працаваў у гуманітарных і міратворчых місіях у Бангладэш, Судане, на Кіпры, у Мазамбіку і Перу. Акрамя таго, у цэнтральных установах ААН у Нью-Ёрку займаў пасады намесніка Генеральнага сакратара па гуманітарных пытаннях і Каардынатара надзвычайнай дапамогі.

У 2002 годзе Віейра ды Мелу быў прызначаны Вярхоўным камісарам ААН па правах чалавека, змяніўшы на гэтай пасадзе экс-прэзідэнта Ірландыі Мэры Робінсан. У траўні 2003 года тагачасны Генеральны сакратар ААН Кофі Анан прызначыў яго сваім адмысловым прадстаўніком у Іраку. Віейра ды Мелу заняў гэты пост на чатырохмесячны тэрмін. Бразільскаму дыпламату была даверана жыццёва важная місія ў галіне забеспячэння гуманітарнай дапамогай жыхароў Ірака, а таксама ў галіне рэканструкцыі краіны і заснавання нацыянальных і рэгіянальных кіруючых структураў.

Сержыу Віейра ды Мелу загінуў ва ўзросце 55 гадоў.




Паводле даследавання Калумбійскага ўніверсітэта, 20% супрацоўнікаў гуманітарных місій пакутуюць ад дэпрэсіі. Прычыны — складаныя умовы працы, слабая сацыяльная падтрымка, схільнасць да дэпрэсіі і згрызоты сумлення, бо бачаць цяжкае становішча людзей, але не могуць дапамагчы.

Рашэнне аб устанаўленні Сусветнага дня гуманітарнай дапамогі абумоўлена рэзалюцыяй Генасамблеі ААН, прынятай 11 снежня 2008 года.

Міжнародная супольнасць упершыню адзначыла гэты памятны дзень 19 жніўня 2009 года. У штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку адбылося мерапрыемства, падчас якога Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун, супрацоўнікі Сакратарыята, дыпламаты і госці ўшанавалі памяць людзей, якія загінулі, дапамагаючы тым, хто больш за ўсё ў гэтым мае патрэбу. Цырымонія праходзіла ў мемарыяльнай зале, дзе пад шклом захоўваецца разарваны сцяг ААН, які 19 жніўня 2003 года лунаў у Багдадзе на гасцініцы «Канал», якую падарваў тэрарыст-смяротнік.

У Сусветны дзень гуманітарнай дапамогі аддаецца належнае тым, хто аддаў свае жыцці пры выкананні гуманітарнага доўгу, і тым, хто працягвае дапамагаць мільёнам людзей. Дзень таксама падкрэслівае ўсё яшчэ існую неабходнасць у гуманітарнай дапамозе па ўсім свеце і важнасць міжнароднага супрацоўніцтва па яе аказанні.

Кожны год бедствы прычыняюць мільёнам людзей велізарныя пакуты. Звычайна ахвярамі становяцца самыя малазабяспечаныя і ўразлівыя людзі, якія жывуць у неспрыяльных умовах.

Гуманітарныя работнікі імкнуцца забяспечыць жыццёва неабходную дапамогу і доўгатэрміновую рэабілітацыю тым, хто пакутуе ад бедстваў, — незалежна ад месца іх пражывання, нацыянальнасці, сацыяльнай прыналежнасці, рэлігіі, полу, расы або якіх-небудзь іншых прыкметаў. І гуманітарныя работнікі павінны мець доступ да тых, хто мае патрэбу ў дапамозе. Яны могуць аказваць дапамогу ў розных частках свету, але большасць з іх займаюцца аказаннем дапамогі ў сваіх уласных краінах. Яны з'яўляюцца прадстаўнікамі розных культураў, ідэалогій і і валодаюць розным вопытам, але іх усіх аб'ядноўвае прыхільнасць да гуманістычных прынцыпаў.

АДНАК КАБ ВЫКОНВАЦЬ ГЭТУЮ ВЫСАКАРОДНУЮ МІСІЮ — СУПРАЦЬСТАЯЦЬ ПАГРОЗАМ ВА ЎМОВАХ НАДЗВЫЧАЙНЫХ АБСТАВІНАЎ І ВОЙНАЎ, — ЯНЫ МАЮЦЬ ПАТРЭБУ Ў ДАПАМОЗЕ. ЯНЫ МАЮЦЬ ПАТРЭБУ Ў ТЫМ, КАБ ПРЫКЛАДАЛІСЯ ЎСЕ НАМАГАННІ ДЛЯ ЗАБЕСПЯЧЭННЯ ІХ АБАРОНЫ, БЯСПЕКІ І НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

ААН нагадвае, што гуманітарная дапамога заснавана на такіх асноватворных прынцыпах, як гуманнасць, бесстароннасць, нейтральнасць і незалежнасць.

Падобна Сержыу Віейра ды Мелу і яго мужным калегам, якія загінулі ў той страшны дзень, гуманітарныя работнікі ААН і сёння адпраўляюцца ў неспакойныя рэгіёны для аказання дапамогі людзям. Для іх забытых канфліктаў быць не можа. І Фонд імя Сержыу Віейра ды Мелу дзеля працягу пачатай ім справы заснаваў штогадовую прэмію яго імя, якая прысуджаецца за выдатныя заслугі ў мірным урэгуляванні канфліктаў.

# 29

# Міжнародны дзень дзеяння супраць ядзерных выпрабаванняў

29 жніўня было абранае Генеральнай Асамблеяй ААН у якасці штогадовай памятнай даты ў барацьбе супраць ядзерных выпрабаванняў, паколькі азначае сабой той дзень, калі ў 1991 годзе быў назаўжды закрыты адзін з найбуйнейшых у свеце палігонаў для ядзерных выпрабаванняў у Сяміпалацінску (Казахстан).



75—80% усіх тэстаў праводзяцца ў мэтах распрацоўкі новай ядзернай зброі.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА GRUPORUSTRESINAR.COM.BR

У снежні 2009 года Генеральная Асамблея аднагалосна прыняла рэзалюцыю 64/35, якая абвясціла гэтую дату. Рэзалюцыя заклікае да больш актыўнай асветы і інфармавання людзей «пра наступствы выпрабавальных выбухаў ядзернай зброі і любых іншых ядзерных выбухаў і неабходнасць іх спынення як аднаго са сродкаў дасягнення мэты пабудовы свету, вольнага ад ядзернай зброі». З ініцыятывай прынящця гэтай рэзалюцыі, якая мае вялікую колькасць аўтараў і суаўтараў, выступіла Рэспубліка Казахстан.




ФОТАЗДЫМАК З САЙТА NONUKES.NL

Асноўныя тыпы ядзерных выпрабаванняў: надземныя, падземныя, у верхніх пластах атмасферы, падводныя.

Міжнародны дзень дзеянняў супраць ядзерных выпрабаванняў (International Day against Nuclear Tests) упершыню быў праведзены ў 2010 годзе. З таго часу штогод дата адзначаецца правядзеннем ва ўсім свеце ўзгодненых мерапрыемстваў — сімпозіумаў, канферэнцыяў, выставаў, конкурсаў, публікацыяў, лекцыяў у акадэмічных інстытутах, інфармацыйных перадачаў. У ААН таксама ладзіцца шэраг мерапрыемстваў.

Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун з усёй яснасцю заявіў: «Свет, свабодны ад ядзернай зброі, стаў бы глабальным грамадскім дабром самага высокага парадку». У траўні 2010 года ўсе дзяржавы — удзельнікі Дамовы пра нераспаўсюд ядзернай зброі, ахарактарызаваўшы дасягненне забароны ядзерных выпрабаванняў як «жыццёва важную» задачу, узялі на сябе абавязацельства працаваць у гэтым напрамку.

Грамадзянская супольнасць з самага пачатку ядзернага стагоддзя адыгрывала бачную ролю ў намаганнях, скіраваных на поўнае спыненне выпрабаванняў ядзернай зброі. Фізікі, сейсмолагі і іншыя навукоўцы, лекары і юрысты, жаночыя арганізацыі, навукова-даследчыя інстытуты і НДА па пытаннях раззбраення, мэры гарадоў і парламентарыі, людзі, якія падвергліся ўздзеянню радыёактыўных забруджвальных рэчываў у выніку выпрабаванняў у атмасферы, і ахвяры, якія перажылі атамныя бамбардзіроўкі ў Хірасіме і Нагасакі, а таксама шырокая грамадскасць — усе яны прымалі ўдзел у гэтых намаганнях. Вось толькі некаторыя з асноўных крокаў гэтай дзейнасці.

У 50-я гады фізікі і жаночыя арганізацыі прыцягнулі ўвагу да небяспекі выпрабаванняў у атмасферы для здароўя, паказаўшы, у прыватнасці, на наяўнасць радыёізатопаў у зубах дзяцей. Гэтая кампанія дапамагла дамагчыся заключэння Дамовы пра частковую забарону ядзерных выпрабаванняў, што забараняе іх правядзенне пад вадой, у атмасферы і ў касмічнай прасторы, але не забараняе іх правядзенне пад зямлёй.

У 80-я гады амерыканскія групы правялі масавыя пратэсты на ядзерным палігоне ў Невадзе ў ЗША. Тады ж магутная кампанія супраць ядзерных выпрабаванняў — Рух Невада-Сяміпалацінск — паўстала ў Казахстане, дзе знаходзіўся савецкі ядзерны палігон. Шырокамаштабныя акцыі і кампаніі былі праведзены супраць французскіх ядзерных выпрабаванняў у Ціхім акіяне ў 80-я і 90-я гады.

Пачынаючы з 1985 года НДА прымаюць актыўны ўдзел у працэсе разгляду ходу ажыццяўлення Дамовы пра нераспаўсюджванне ядзернай зброі (ДНЯЗ). Было прынята рашэнне дамагацца прыхільнасці да Дамовы пра ўсеабдымную забарону ядзерных выпрабаванняў (ДУЗЯВ). Такое рашэнне ўпершыню было прынята ў сувязі з падаўжэннем у 1995 годзе дзеяння ДНЯЗ і пацверджана зноў падчас канферэнцый па разглядзе дзеяння Дамовы ў 2000 і 2010 гадах.




У 90-я гады НДА і парламентарыі надалі імпульс правядзенню ў 1991 годзе канферэнцыі пра ўнясенне паправак у Дамову пра частковую забарону ядзерных выпрабаванняў, каб надаць ёй усеабдымны характар. Гэта дазволіла закласці асновы для правядзення перамоваў па ДУЗЯВ.

Няўрадавыя навукова-даследчыя і інфармацыйна-асветніцкія групы ажыццяўлялі кантроль над ходам перамоваў, якія ўвянчаліся ў 1996 годзе прыняццем ДУЗЯВ.

НДА правялі шэраг кампаній, каб пераканаць урады сваіх краінаў весці перамовы па ДУЗЯВ і затым ратыфікаваць Дамову. Некаторыя з іх таксама выступалі з крытыкай эксперыментальных і звышмагутных вылічальных цэнтраў, якія прызначаліся для замены ядзерных выпрабаванняў.

Міжнародны дзень дзеянняў супраць ядзерных выпрабаванняў закліканы актывізаваць дзеянні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, дзяржаў-сябраў, міжурадавых і няўрадавых арганізацый, акадэмічных установ, моладзевых сетак і сродкаў масавай інфармацыі па інфармаванні, асвеце і падкрэсленні неабходнасці забароны ядзерных выпрабаванняў як каштоўнага кроку ў пабудове больш бяспечнага свету.

# 30

# *Міжнародны дзень ахвяраў гвалтоўных знікненняў*

Упершыню гэтая дата адзначалася пад эгідай ААН у 2011 годзе. Прызнаючы глабальны маштаб злачынства, які знаходзіць адлюстраванне ў штогадовых дакладах Працоўнай групы ААН па гвалтоўных і недобраахвотных знікненнях, аўтарытэтная арганізацыя далучылася да сем'яў зніклых, якія адзначаюць гэты дзень на працягу амаль трох дзесяцігоддзяў.




International Day of the Victims of Enforced Disappearances.

Постэр з сайта wordpress.com

У рэзалюцыі, якая абвяшчала Міжнародны дзень зніклых людзей, Генеральная Асамблея ААН выказала сур'ёзную занепакоенасць, у прыватнасці, павелічэннем колькасці гвалтоўных знікненняў у розных рэгіёнах свету і колькасцю паведамленняў пра пераслед, жорсткае абыходжанне і запалохванні, якім падвяргаюцца сведкі знікненняў або сваякі зніклых асобаў.

Гвалтоўныя знікненні калісьці асацыяваліся толькі з рэжымам ваеннай дыктатуры. А ў наш час могуць здзяйсняцца ў складаных сітуацыях унутраных канфліктаў, асабліва ў якасці сродку палітычнага падаўлення

Фотаздымак з сайта acnudh.org



Ясмінка Джумхур (злева), эксперт Працоўнай групы ААН па гвалтоўных знікненнях падчас візіту ў Чылі ў жніўні 2012 года.

апанентаў. Асаблівую заклапочанасць ААН у гэтай праблеме выклікаюць:

- бесперапынны пераслед абаронцаў правоў чалавека, сваякоў пацярпелых, сведак і адвакатаў, якія займаюцца выпадкамі гвалтоўных знікненняў;
- выкарыстанне дзяржавамі антытэрарыстычнай дзейнасці ў якасці апраўдання за парушэнне сваіх абавязацельстваў;
- усё яшчэ шырока пашыраная практыка беспакаранасці ў дачыненні да гвалтоўных знікненняў.

Застаўшыся без абароны закона і «знікшы» для грамадства,

людзі фактычна пазбаўляюцца ўсіх правоў і цалкам залежаць ад ласкі сваіх выкрадальнікаў. Пры знікненні чалавека парушаюцца: права на прызнанне яго правасуб'ектнасці; права на свабоду і бяспеку асобы; права не падвяргацца катаванням і іншым жорсткім, бесчалавечным ці зніштальным годнасць відам абыходжання і пакарання; права на жыццё, калі зніклы чалавек забіты; права на індывідуальнасць; права на справядлівае судовае разбіральніцтва і на судовыя гарантыі; права на эфектыўны сродак абароны, уключаючы пакрыццё і кампенсацыю; права ведаць праўду пра абставіны знікнення.

Знікненні людзей, як правіла, цягнуць за сабой таксама парушэнні розных эканамічных, сацыяльных і культурных правоў: права на абарону сям'і і аказанне ёй дапамогі; права на дастатковы жыццёвы ўзровень; права на здароўе; права на адукацыю.

Працоўная група па гвалтоўных або недобраахвотных знікненнях была заснаваная ў 1980 годзе Камісіяй ААН па правах чалавека. У яе склад уваходзяць пяцёра экспертаў. Яны разглядаюць паведамленні пра зніклых людзей, дасланыя іх сваякамі або праваабарончымі арганізацыямі. Пераканаўшыся, што гэтыя паведамленні адказваюць шэрагу крытэраў, Працоўная група перадае матэрыялы па канкрэтных выпадках дзяржаўным органам адпаведных краінаў і звяртаецца з запытам пра правядзенне расследавання.

Асноватворным дакументам па гэтай праблеме з'яўляецца Міжнародная канвенцыя для абароны ўсіх асобаў ад гвалтоўных знікненняў. Прынятая ААН у 2006 годзе, Канвенцыя ўступіла ў сілу 23 снежня 2010 года, калі колькасць краін-удзельніц дасягнула 20. Мэтай Канвенцыі з'яўляецца абарона ад гвалтоўных знікненняў, якія вызначаюцца ў Артыкуле 2:





ФОТАЗДЫМАК OHCHR

Мемарыял ў гонар ахвяраў гвалтоўных знікненняў.

## ААН: «ГВАЛТОЎНАЕ ЗНІКНЕННЕ — АКТ, ЯКІ ЗВОДЗІЦЬ НА НІШТО САМУ СУТНАСЦЬ ЧАЛАВЕЦТВА І СУПЯРЭЧЫЦЬ ФУНДАМЕНТАЛЬНЫМ КАШТОЎНАСЦЯМ ЛЮБОГА ГРАМАДСТВА»

«арышт, затрыманне, выкраданне або пазбаўленне волі ў любой іншай форме прадстаўнікамі дзяржавы ці ж асобамі або групамі асоб, якія дзейнічаюць з дазволу, пры падтрымцы або са згоды дзяржавы, пры наступнай адмове прызнаць факт пазбаўлення волі або ўтойванні звестак пра лёс ці месцазнаходжанне зніклай асобы, з прычыны чаго гэта асоба пакінута без абароны закона».

Для кантролю над выкананнем Канвенцыі 31 траўня 2011 года Нью-Ёрку быў заснаваны Камітэт па гвалтоўных знікненнях. У адпаведнасці з Канвенцыяй у Камітэт могуць уваходзіць толькі прадстаўнікі краінаў, якія ратыфікавалі гэты дакумент.

На пачатак 2013 года Канвенцыю падпісалі 91 краіна-ўдзельніца ААН, ратыфікавалі або далучыліся да дакумента 37 краінаў. Беларусі ў спісе гэтых краінаў няма.

## 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | | | | | | |

## 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | | | | | |

# 09

# 08

# Міжнародны дзень пашырэння пісьменнасці

Штогадовы Міжнародны дзень пісьменнасці (International Literacy Day) быў абвешчаны ЮНЕСКА ў 1966 годзе па рэкамендацыі Сусветнай канферэнцыі міністраў адукацыі па ліквідацыі непісьменнасці. Канферэнцыя праходзіла ў Тэгеране ў верасні 1965 года, і ўрачыстае адкрыццё мерапрыемства прыпала на 8 верасня. Гэтая дата і была абраная для адзначэння Дня ў сістэме Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.




Як адзначае ААН, «пісьменнасць — сапраўднае свята для чалавецтва, якое дасягнула ўражальнага прагрэсу ў гэтай галіне, давёўшы колькасць пісьменных людзей у свеце да чатырох мільярдаў. Аднак пісьменнасць для ўсіх — і дзяцей, і моладзі, і дарослых — яшчэ не да канца дасягнутая мэта».

Паводле статыстычных звестак, менш за 50 краінаў свету забяспечваюць усеагульны доступ да пачатковай адукацыі. І каля 20% дарослага насельніцтва свету з'яўляецца непісьменным.

Па дадзеных ЮНЕСКА, у свеце налічваецца больш за 790 мільёнаў непісьменных дарослых, у асноўным — дзяўчат і жанчын, а каля 67 мільёнаў дзяцей школьнага ўзросту не ахопленыя нават пачатковай адукацыяй. Таксама прыблізна 72 мільёны падлеткаў пазбаўленыя магчымасці рэалізаваць сваё права на адукацыю.



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА WORDPRESS.COM

Пісьменнасць робіць людзей носьбітамі пераменаў, дазваляючы ім рабіць усвядомлены выбар і пашыраючы правы і магчымасці.

У 11 краінах — Беніне, Буркіна-Фасо, Гамбіі, Гвінеі, Гаіці, Малі, Нігеры, Сенегале, Сьера-Леоне, Чадзе і Эфіопіі — больш за 50% дарослых з'яўляюцца непісьменнымі. Больш за палову непісьменных дарослых усяго свету пражывае ў Паўднёвай Азіі. Далей ідуць краіны Афрыкі на поўдні ад Сахары (21,4%),

Фотаздымак AP / Channi An
з сайта blogs.sacbee.com



Школа для дзяцей трушчобаў на ўскраіне Джаму (Індыя). 8 верасня 2009 года.



Дзеці з малазабяспечаных сем'яў у мабільнай школьнай праграме. Раён трушчобаў у цэнтры Нью-Дэлі (Індыя). 8 верасня 2009 года.

Фотаздымак AP / Kevin Frayer
з сайта blogs.sacbee.com

Усходняя Азія і краіны Ціхаакіянскага рэгіёна (12,8%), арабскія краіны (7,6%), краіны Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна (4,6%), Паўночнай Амерыкі, Еўропы і Цэнтральнай Азіі (2%).

Сайт ААН цытуе словы Генсакратара арганізацыі Пан Гі Муна з нагоды Міжнароднага дня пашырэння пісьменнасці: «Выдаткі велізарныя. Непісьменнасць паглыбляе цыклы галечы, падрывае здароўе і памнажае страты. Яна аслабляе абшчыны і падрывае дэмакратычныя працэсы, прыводзячы да маргіналізацыі і адчужэння. Гэтыя і іншыя наступствы могуць спалучацца адно з адным, дэстабілізуючы грамадства. Правядзенне Міжнароднага дня пісьменнасці дае магчымасць зноў пацвердзіць нашу прыхільнасць да дасягнення мэты забеспячэння таго, каб усе людзі ўмелі чытаць і пісаць».

У 2002 годзе Генеральнай Асамблеяй ААН было абвешчана «Дзесяцігоддзе пісьменнасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый».

Да сваёй мэты ААН ідзе пакрокава, і гэта адбіваецца на тэмах Міжнароднага дня пісьменнасці: «Пісьменнасць забяспечвае ўстойлівае развіццё», «Здароўе і пісьменнасць», «Пісьменнасць пашырае асабістыя магчымасці», «Значэнне пісьменнасці для жанчын», «Пісьменнасць і мір».

Па словах генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Ірыны Бокавай, «пісьменнасць з'яўляецца адной з неабходных умоваў міру, паколькі нясе ў сабе шматлікія перавагі, якія закранаюць гуманітарную, культурную, сацыяльную, палітычную і эканамічную сферы». Таму штогод Арганізацыя ААН па пытаннях адукацыі, навукі і культуры заклікае ўрады, міжнародныя арганізацыі, грамадзянскую супольнасць і прыватны сектар зрабіць справу пашырэння пісьменнасці сваім палітычным прыярытэтам.

Пытанні забеспячэння і падтрымання пісьменнасці закранаюцца ў рознага кшталту міжнародных дакументах — у рэзалюцыях Генеральнай Асамблеі ААН, Сацыяльнага і Эканамічнага Савета ААН, у дакладах Генеральнага сакратара, у Дэкларацыях па пытаннях адукацыі.

І, вядома ж, гэтае пытанне не абмінаецца асноватворным дакументам — Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека. Артыкул 26 Дэкларацыі гарантуе кожнаму чалавеку права на адукацыю. У гэтым артыкуле сцвярджаецца, што «Адукацыя павінна быць бясплатнай сама меней ў тым, што датычыць пачатковай і агульнай адукацыі. Пачатковая адукацыя павінна быць абавязковай. Тэхнічная і прафесійная адукацыя павінна быць агульнадаступнай, і вышэйшая адукацыя павінна быць аднолькава даступнай для ўсіх на падставе здольнасцяў кожнага». Таксама ў Артыкуле 26 адзначаецца, што «адукацыя павінна быць накіраваная на павелічэнне павагі да правоў чалавека і асноўных свабодаў».

# 08

# *Міжнародны дзень салідарнасці журналістаў*

Дзень быў заснаваны ў 1958 годзе па рашэнні IV Кангрэса Міжнароднай арганізацыі журналістаў, які праходзіў у Бухарэсце. Паводле задумы ўдзельнікаў кангрэса, у гэты дзень журналісты ўсіх краінаў павінны дэманстраваць свету сваю згуртаванасць, асабліва ў справе абароны сваіх правоў.




Дата была абраная ў памяць пра пакаранага смерцю ў нацысцкай Германіі 8 верасня 1943 года чэхаславацкага журналіста Юліюса Фучыка. Ён быў адным з лідараў антыфашысцкага руху Чэхаславакіі. Кнігу «Рэпартаж з пятлёй на шыі», напісаную ім у турме, з часам пераклалі на 70 моваў. У 1950 годзе за гэтую кнігу аўтар быў пасмяротна ўдастоены Міжнароднай прэміі міру.

Традыцыйна ў Дзень салідарнасці журналістаў праходзяць сходы і канферэнцыі, на якія з'язджаюцца журналісты з самых розных краінаў свету. На гэтых прафесійных з'ездах прадстаўнікі чацвёртай улады дзеляцца сваім прафесійным вопытам і адзначаюць найбольш годных у сваім асяродку. Так, Пулітцэраўская прэмія — адна з найбольш прэстыжных узнагародаў ЗША ў галіне літаратуры, журналістыкі, музыкі і тэатра — амаль заўсёды ўручаецца 8 верасня, у Міжнародны дзень салідарнасці журналістаў.






Паштоўка Беларускай асацыяцыі журналістаў да дня прафесійнай салідарнасці.

*«Салідарнасць — гэта дзейная неабыякавасць, гатоўнасць падтрымаць і прыйсці на дапамогу. Часта — адзіны спосаб адстаяць свае інтарэсы.*

*Міжнародны дзень салідарнасці журналістаў адзначаецца ў свеце з 1958 года. З таго часу мінула ўжо больш за паўстагоддзя. Але сэнс слова «салідарнасць» не змяніўся, як не знікла і патрэба ў журналісцкай салідарнасці, асабліва ў Беларусі. Вельмі важна, каб мы, беларускія журналісты, адчувалі сябе прафесійнай супольнасцю і ўнутры краіны. Будзьма неабыякавымі. Будзьма салідарнымі!»*

*З віншавання прэс-службы БАЖ 2012 года.*

# 15

# *Міжнародны дзень дэмакратыі*

Гэты дзень быў абвешчаны ў азнаменаванне прыняцця Міжпарламенцкім саюзам у 1997 годзе Усеагульнай дэкларацыі пра дэмакратыю і адзначаецца пачынаючы з 2008 года.

Усеагульная дэкларацыя пра дэмакратыю служыць падмогай, калі гаворка ідзе пра асноўныя прынцыпы дэмакратыі, элементы і стандарты дэмакратычнага праўлення і міжнародныя аспекты дэмакратыі.




International Day of Democracy.

### *Слова «дэмакратыя»*

*паходзіць ад двух старажытнагрэцкіх слоў, якія абазначаюць «народ» і «ўлада», і традыцыйна перакладаецца як «улада народа». Пад гэтым тэрмінам маецца на ўвазе палітычны лад, у аснове якога ляжыць метад калектыўнага прыняцця рашэнняў з роўным уздзеяннем удзельнікаў на вынік працэсу або на яго істотныя стадыі.*

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прапанавала дзяржавам, а таксама рэгіянальным, міжурадавым і няўрадавым аб'яднанням прыняць гэты міжнародны дзень як нагоду звярнуць увагу на стан дэмакратыі ў свеце.

«Дэмакратыя — гэта не толькі мэта, але і працэс, і толькі пры поўным удзеле і падтрымцы міжнароднай супольнасці, дзяржаўных органаў улады, грамадства і асобных грамадзянаў ідэалы дэмакратыі можна ажыццявіць для кожнага чалавека ў кожным кутку свету, — гаворыцца на старонцы Дня на сайце ААН. — Дэмакратыя забяспечвае натуральныя ўмовы для абароны і эфектыўнай рэалізацыі правоў чалавека. Гэтыя каштоўнасці адлюстраваны ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і дадаткова растлумачаны ў Міжнародным пакце пра грамадзянскія і палітычныя правы, дзе замацавалася сукупнасць палітычных правоў і грамадзянскіх свабодаў, якія з'яўляюцца апірышчам сапраўды дэмакратычных дзяржаў».

Сувязь паміж дэмакратыяй і правамі чалавека зафіксавана ў Артыкуле 21 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, які абвяшчае:

«Воля народа павінна быць асновай улады ўрада; гэта воля павінна знаходзіць выяўленне ў перыядычных і нефальсіфікаваных выбарах, якія павінны праводзіцца пры ўсеагульным і роўным выбарчым праве, шляхам тайнага галасавання або з дапамогай іншых раўназначных форм, што забяспечваюць свабоду галасавання».

У адным з пасланняў генсакратара ААН Пан Гі Муна з нагоды Міжнароднага дня дэмакратыі гаворыцца, што Арганізацыя Аб'яднаных Нацый «робіць больш за любую іншую арганізацыю для развіцця і ўмацавання дэмакратычных інстытутаў і

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА EUROPARL.EUROPA.EU



Назіральнікі Еўрасаюза на прэзідэнцкіх выбарах у Нігерыі 2007 года.




Кенійская моладзь адзначае Міжнародны дзень дэмакратыі. 2011 год.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА DEMOTIX.COM

практыкі ва ўсім свеце. Яна падтрымлівае свабодныя і справядлівыя выбары, стымулюе ўдзел грамадзянскай супольнасці ў жыцці краінаў і спрыяе ўсталяванню дыялогу ў тых выпадках, калі бакі заходзяць у тупік у выніку спрэчнага галасавання. Арганізацыя Аб'яднаных Нацый выступае ў ролі пасярэдніка ў складаных палітычных сітуацыях у мэтах папярэджання канфліктаў і спрыяе стварэнню падсправаздачных механізмаў забеспячэння бяспекі ў постканфліктныя перыяды. Яна накіроўвае экспертаў для садзейнічання ўмацаванню вяршэнства закона, стварэння шматпартыйнай структуры і фармавання эфектыўнай і падсправаздачнай дзяржаўнай адміністрацыі, структур амбудсмэнаў, органаў па барацьбе з карупцыяй і ўстановаў па забеспячэнні гендэрнай роўнасці».

Пан Гі Мун пры гэтым падкрэслівае, што «ва ўсіх гэтых намаганнях Арганізацыя Аб'яднаных Нацый не імкнецца экспартаваць або падтрымліваць якую-небудзь канкрэтную нацыянальную ці рэгіянальную мадэль дэмакратыі. Арганізацыя выходзіць з таго разумення, што дэмакратычныя ідэалы вынікаюць з філасофій і традыцый усіх раёнаў свету, што эфектыўнае дэмакратычнае кіраванне спрыяе павышэнню якасці жыцця людзей ва ўсім свеце і што дэмакратыя з'яўляецца асновай трывалага міру, бяспекі і развіцця».

## ААН: «ДЭМАКРАТЫЯ — УНІВЕРСАЛЬНАЯ МАДЭЛЬ, НЕ ЧУЖАЯ НІ АДНОЙ КУЛЬТУРЫ. ЯНА ПАВІННА ПАХОДЗІЦЬ АД ВОЛІ НАРОДА І СТВАРАЦЦА ПРЫ ПАДТРЫМЦЫ МАГУТНАЙ І АКТЫЎНАЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ»

Паводле пазіцыі ААН, ключавое значэнне для доўгатэрміновага поспеху дэмакратыі мае дэмакратычная адукацыя. Грамадзяне ўсіх краінаў павінны выразна і ў поўным аб'ёме разумець свае правы і абавязкі, асабліва гэта тычыцца тых краінаў, якія толькі нядаўна перайшлі да пабудовы больш дэмакратычнага грамадскага ладу. Такія пытанні, як «Чаму я павінен галасаваць?», «Як я магу паўплываць на маіх лідараў?», «Чаго я магу чакаць ад абраных мною службовых асобаў?» або «Якія мае канстытуцыйныя правы?», неабходна вырашаць праз грамадзянскія інстытуты. Адказы на іх трэба шукаць у свабоднай прэсе і ў навучальных класах. Устойлівая культура дэмакратыі можа паўстаць толькі ў краіне адукаванага грамадзянскага насельніцтва, канстатуе ААН.

# 16

# *Заснаванне Беларускай асацыяцыі журналістаў*

16 верасня 1995 года было заснавана грамадскае аб’яднанне «Беларуская асацыяцыя журналістаў» (БАЖ).




Часопіс «Абажур» выдаецца БАЖ са снежня 2000 года.

Асноўнай мэтай дзейнасці ГА «БАЖ» з’яўляецца: садзейнічанне рэалізацыі грамадзянскіх, эканамічных, сацыяльных, культурных і прафесійных правоў і законных інтарэсаў сяброў арганізацыі, іх творчаму самавыяўленню і росту прафесійнага майстэрства, стварэнне ўмоў для забеспячэння свабоды слова і друку, права на бесперашкоднае атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне інфармацыі.

У БАЖ налічваецца больш за 1000 сяброў, якія працуюць у розных перыядычных выданнях, на радыё і тэлебачанні, у выдавецкіх кампаніях. Некаторыя сябры арганізацыі з'яўляюцца супрацоўнікамі дзяржаўных СМІ. Акрамя цэнтральнага офіса ў Мінску, асацыяцыя мае пяць рэгіянальных філіялаў.

З 1997 года БАЖ — асацыяваны сябра Міжнароднай федэрацыі журналістаў (IFJ). У 2003 годзе Сусветная асацыяцыя газет (WAN) узнагародзіла БАЖ «Залатым пяром свабоды» (Golden Pen of Freedom prize).

У снежні 2004 года Еўрапейскі парламент уганараваў БАЖ прэміяй імя Сахарава «За свабоду думкі». У чэрвені 2011 года Атлантычная Рада Злучаных Штатаў Амерыкі ўзнагародзіла БАЖ «Прэміяй Свабоды Атлантычнай Рады». Разам з журналісцкай арганізацыяй ёю былі ўганараваныя незарэгістраваны Праваабарончы цэнтр «Вясна» і беларускі «Свабодны тэатр».



Старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА N-EUROPE.EU

З 1998 года БАЖ стала вядзе маніторынг парушэнняў свабоды выказвання і правоў СМІ. У арганізацыі існуе сетка ўласных карэспандэнтаў па ўсёй Беларусі, якія аператыўна збіраюць і дасылаюць інфармацыю пра стан СМІ ў сваім рэгіёне.

Падчас выбарчых кампаній у 2004, 2006, 2007 і 2010 гадах БАЖ вёў маніторынг асвятлення тэмы выбараў беларускімі СМІ. Журналісты ў Мінску і рэгіёнах рабілі колькасны і якасны аналіз публікацый і праграм у




Акцыя салідарнасці сяброў Беларускай асацыяцыі журналістаў з калегам Антонам Сурапіным, абвінавачаным па так званай справе пра «плюшавы дэсант». Мінск, 18 ліпеня 2012 года.

ФОТАКАЛАЖ З САЙТА BAJ.BY

дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, фіксуючы час, адведзены розным суб'ектам выбарчага працэсу, і адзначаючы манеру іх рэпрэзентацыі. Аналітычныя заключэнні з апрацаванымі дадзенымі маніторынгу кожныя два тыдні прэзентаваліся на спецыяльных прэс-канферэнцыях, рассылаліся ў электронным выглядзе і размяшчаліся на сайце БАЖ на беларускай, рускай і англійскай мовах.

БАЖ з'яўляецца ўнікальнай крыніцай інфармацыі пра сітуацыю ў сферы СМІ ў Беларусі. Гэтая інфармацыя змяшчаецца на інтэрнэт-сайце baj.by, а таксама рассылаецца ў электронным выглядзе па больш чым дзвюх сотнях адрасоў беларускіх і замежных калегаў і партнёраў БАЖ. Інфармацыя маніторынгу БАЖ шырока выкарыстоўваецца ў СМІ.



# БАЖНЫ ДЗЕНЬ

«Дзень адчыненых дзвярэй» для новапрынятых сяброў Беларускай асацыяцыі журналістаў упершыню ладзіўся 1 лютага 2013 года.




Ідэя назвы «БАЖны дзень» нарадзілася падчас імпрэзы ў старшыні арганізацыі Жанны Літвіной.




Намеснік старшыні Андрэй Бастунец распавёў пра парушэнні правоў СМІ і журналістаў ды пра праграму па бяспецы журналістаў.



Сайт baj.by прэзентавала галоўны рэдактар Вольга Бабак.




Пра карпаратыўны часопіс «Абажур» распавёў галоўны рэдактар Уладзімір Дзюба.




Кампанію «За экалагічны дабрабыт» прадставіў яе арганізатар Андрусь Клікуноў.



Намесніца старшыні Аліна Суравец заклікала да імпэтнага ўдзелу ў жыцці БАЖу.

# 16

# Гвалтоўнае знікненне Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага



Віктар Ганчар (злева)
і Анатоль Красоўскі (справа).

16 верасня 1999 года з ужываннем гвалту былі выкрадзены першы віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Беларусі XIII склікання, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар і бізнесмен, грамадскі дзеяч Анатоль Красоўскі.

Увечары яны пайшлі ў лазню, якая знаходзіцца ў Мінску па вуліцы Фабрычнай, 20. Апошні раз іх бачылі, калі абодва выйшлі з гэтага будынка і селі ў машыну Красоўскага. На месцы здарэння — вуліцы Фабрычнай — былі знойдзеныя аскепкі шкла і сляды крыві. Аналіз сабраных у справе доказаў, у тым ліку паказанняў сведак, дае падставу меркаваць, што Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага гвалтоўна выкралі невядомыя асобы.

Паводле сведчання колішняга начальніка мінскага СІЗА № 1 Алега Алкаева, Віктар Ганчар і Анатоль Красоўскі былі выкрадзеныя і расстраляныя па загадзе асобаў, набліжаных да ўлады. Са слоў праваабаронцы Гары Паганяйла (у свой час ён быў адвакатам сем'яў зніклых палітыкаў), справу аб знікненні Ганчара і Красоўскага намінальна працягвае расследаваць пракуратура Мінска. «Пракуратура рэгулярна паведамляе, што праводзяцца следчыя дзеянні, аднак ні аб выніках гэтых следчых дзеянняў, ні аб іх сутнасці нікому не паведамляецца. Улады чакаюць, калі знікненню Ганчара і Красоўскага споўніцца 15 гадоў, і тады гэтая справа можа быць спыненая з прычыны тэрміну даўнасці. Рэальнае расследаванне справы можа аднавіцца ў выпадку змены ўлады. Тады гэтая справа атрымае іншую кваліфікацыю — напрыклад, паводле артыкула 128 Крымінальнага кодэкса, які прадугледжвае выкраданне і знікненне чалавека, звязанае з ягонай палітычнай дзейнасцю, як злачынства супраць бяспекі чалавецтва. Такія злачынствы не маюць тэрміну даўнасці».

У 1999–2000 гадах таксама бясследна зніклі журналіст Дзмітрый Завадскі і экс-кіраўнік МУС Юрый Захаранка. Днём памяці ахвяраў гвалтоўных знікненняў стала 16-е чысло кожнага месяца.




Акцыя салідарнасці каля беларускай амбасады ў Гаазе. 16 снежня 2012 года.




Акцыя салідарнасці каля кінатэатра «Масква» ў Мінску. 16 снежня 2008 года.



Пікет на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску, у якім удзельнічае жонка зніклага Ірына Красоўская.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТАЎ MOYBY.COM, SVABODA.ORG, ORSHATUT.BY

# 21

# *Міжнародны дзень міру*




International Day of Peace.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FACEBOOK.COM




Дэманстрацыя міратворцаў ААН.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА SAYNOTOVIOLENCE.ORG

Генеральная Асамблея ААН абвясціла гэтую дату дзеля азнаменавання і ўмацавання ідэалаў міру як унутры дзяржаваў і народаў, так і паміж імі.

Дзень быў заснаваны Генеральнай Асамблеяй ААН яшчэ ў 1981 годзе і з 1982-га адзначаўся кожны трэці аўторак верасня — у дзень адкрыцця чарговых сесій Генасамблеі. А ў 2001 годзе гэты орган прыняў рэзалюцыю, у якой пастанавіў, што з 2002 года Міжнародны дзень міру будзе адзначацца 21 верасня — як дзень адмовы ад гвалту і спынення агню. ААН прапанавала ўсім краінам і народам спыняць у гэты дзень ваенныя дзеянні ці ж адзначаць яго правядзеннем адукацыйных і інфармацыйных акцый па праблемах міру.

У пацверджанне мэтанакіраванасці ААН у пытанні падтрымання міжнароднага міру і бяспекі ў лістападзе 1984 года быў прыняты вельмі важны дакумент — Дэкларацыя пра права народаў на мір. У гэтым дакуменце ААН:

- урачыста абвяшчае, што народы нашай планеты маюць святое права на мір;
- урачыста заяўляе, што захаванне права народаў на мір і садзейнічанне яго ажыццяўленню — адны з асноўных абавязкаў кожнай дзяржавы;
- падкрэслівае, што забеспячэнне ажыццяўлення права народаў на мір патрабуе, каб палітыка дзяржаў была зарыентаваная на ліквідацыю пагрозы вайны, перш за ўсё ядзернай, на выключэнне прымянення сілы ў міждзяржаўных стасунках і вырашэнне міжнародных спрэчак мірнымі сродкамі на аснове Статута ААН;
- заклікае ўсе дзяржавы і міжнародныя арганізацыі ўсяляк садзейнічаць забеспячэнню гэтага права народаў на мір шляхам прыняцця належных мераў як на нацыянальным, так і на міжнародным узроўні.

Сярод асноватворных тэматычных дакументаў ААН таксама прынята Дэкларацыя пра культуру міру, а таксама канвенцыі і дэкларацыі па пытаннях раззбраення.

Кожны Міжнародны дзень міру прысвячаецца пэўнай тэме — такім чынам акцэнтуецца ўвага на розных аспектах пытання пра захаванне міру. «Правы чалавека і падтрыманне міру» — так гучала тэма Дня ў 2008 годзе, калі адзначаліся 60-я гадавіна падпісання Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і 60-я гадавіна аперацый ААН па падтрыманні міру. Святкаванне Дня міру паслужыла нагодай задумацца над найважнейшай праблемай — узаемасувяззю паміж мірам і правамі чалавека, непарыўнасць якіх прызнаецца ўсё шырэй.

## 2013

| П | В | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

## 2014

| П | В | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

# 10

# 01

# *Міжнародны дзень пажылых людзей*

У рэзалюцыі ад 14 снежня 1990 года Генеральная Асамблея ААН пастанавіла лічыць 1 кастрычніка Міжнародным днём пажылых людзей (International Day of Older Persons).




ПОСТЭР З САЙТА UN.ORG

Міжнародная супольнасць пачала надаваць асаблівую ўвагу становішчу пажылых людзей у Венскім міжнародным плане дзеянняў па праблемах старэння, прынятым на Сусветнай асамблеі па праблемах старэння ў 1982 годзе. Прынцыпы ААН у дачыненні да пажылых людзей, прынятыя ў 1991 годзе, Глабальныя мэтавыя паказчыкі ў вобласці старэння да 2001 года, прынятыя ў 1992 годзе, і Дэкларацыя па праблемах старэння 1992 яшчэ больш паглыбілі разуменне міжнароднай супольнасцю асноўных патрабаванняў для забеспячэння дабрабыту пажылых людзей.

Палітычная дэкларацыя і Мадрыдскі міжнародны план дзеянняў па праблемах старэння 2002 года, прынятыя падчас другой Сусветнай

ФОТАЗДЫМАК SHIHO FUKADA FOR NPR З САЙТА NORTHCOUNTRYPUBLICRADIO.ORG



Джону Дэвіду 73 гады. Ён, трэнер па фітнесу, дапамагае пажылым людзям Нью-Ёрка заставацца здаровымі і падцягнутымі.

асамблеі па праблемах старэння ў Мадрыдзе, узмацнілі палітычны кансэнсус, надаўшы асаблівую ўвагу развіццю і міжнароднаму супрацоўніцтву і дапамозе ў гэтай сферы. У палітычнай дэкларацыі дзяржавы пацвердзілі сваю прыхільнасць справе заахвочвання і абароны правоў чалавека і заклікалі выкараніць дыскрымінацыю, грэблівае стаўленне, жорсткае абыходжанне і гвалт у дачыненні да пажылых людзей. У Мадрыдскім міжнародным плане дзеянняў утрымліваліся канкрэтныя кіруючыя ўказанні адносна такіх аспектаў, як права на працу, права на здароўе, забеспячэнне актыўнага

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА LEPSER.RU



СААЗ: мужчыны паміраюць раней за жанчын з-за курэння і алкагольнай залежнасці.




Самая высокая працягласць жыцця ў свеце ў японскіх жанчын — 85,6 года. У будучыні Японія можа стаць краінай адзінокіх старых.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА WORDPRESS.TOKYOTIMES.ORG

ўдзелу і роўнасці магчымасцяў на працягу ўсяго жыцця, пры гэтым падкрэслівалася важнасць забеспячэння ўдзелу пажылых людзей у працэсах прыняцця рашэнняў на ўсіх узроўнях.

Нягледзячы на адсутнасць канкрэтных палажэнняў, прысвечаных непасрэдна людзям сталага веку, большасць базавых дамоваў па правах чалавека ўключае значную колькасць абавязацель стваў у адносінах да іх. Гэтыя дакументы дастасавальныя да пажылых асобаў таксама, як і да ўсіх іншых людзей. І яны забяспечваюць абарону іх асноўных правоў чалавека, уключаючы права на найвышэйшы дасягальны ўзровень фізічнага і псіхічнага здароўя, права на свабоду ад катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання, права на роўнасць перад законам, а таксама права на дастатковы жыццёвы ўзровень і права не падвяргацца дыскрымінацыі на якіх бы там ні было падставах.

## Статыстыка

1950

2010

*З 1950-га па 2010 год працягласць жыцця на агульнасусветным узроўні павялічылася з 46 да 68 гадоў. І, як прагназуецца, дасягне 81 года да канца гэтага стагоддзя. У цяперашні час колькасць жанчын ва ўзросце 60 гадоў і старэй перавышае колькасць мужчын адпаведнага ўзросту, па некаторых ацэнках, на 66 мільёнаў. Сярод асобаў ва ўзросце 80 гадоў і старэй жанчын амаль у два разы больш за мужчын. А сярод асобаў, якія дасягнулі стогадовага ўзросту, — у 4—5 разоў больш. У 2050 годзе ўпершыню за ўсю гісторыю чалавецтва колькасць людзей ва ўзросце за 60 гадоў у свеце дасягне двух мільярдаў (больш за 20% насельніцтва) — іх стане больш за дзяцей.*

У будучыні найбольш значны і імклівы рост колькасці пажылых людзей будзе адзначаны ў свеце, які развіваецца. Гэта сведчыць пра тое, што асаблівым патрэбам і праблемам многіх пажылых людзей неабходна надаваць асаблівую ўвагу. Не менш важным з'яўляецца і тая акалічнасць, што большасць мужчын і жанчын сталага ўзросту могуць і далей рабіць важнейшы ўнёсак у функцыянаванне грамадства, калі ім будуць гарантаваныя для гэтага адпаведныя ўмовы. У аснове ўсіх намаганняў, якія прымаюцца ў гэтым напрамку, ляжаць правы чалавека.

# 02

# *Міжнародны дзень негвалтоўных дзеянняў*

Гэты дзень быў зацверджаны Рэзалюцыяй Генеральнай Асамблеі ААН ад 15 чэрвеня 2007 года. Дата абраная не выпадкова: 2 кастрычніка нарадзіўся Махатма Гандзі, лідар руху за незалежнасць Індыі.




ПОСТЭР З САЙТА CYBERSTAMPS.COM

У адпаведнасці з рэзалюцыяй ААН, Міжнародны дзень негвалтоўных дзеянняў (International Day of Non-Violence) служыць дадатковай падставай для іх прапаганды, у тым ліку шляхам асветніцкай і грамадска-растлумачальнай працы. У дакуменце пацвярджаецца «універсальная значнасць прынцыпу негвалтоўнасці», а таксама жаданне «зацвердзіць культуру міру, цярпімасці, разумення і негвалтоўнасці».

Дзяржаўны міністр па міжнародных справах Індыі Ананд Шарма, уносячы гэтую рэзалюцыю ад імя 140 аўтараў на разгляд Генасамблеі, заявіў, што «шырокі і разнастайны спектр



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА JCEWORLD.BLOGSPOT.RU

«Вялікая душа» — тытул, які ўпершыню ўжыў у адносінах да Гандзі знакаміты індыйскі пісьменнік Рабіндранат Тагор.

стваральнікаў дакумента з'яўляецца адлюстраваннем пачуцця глыбокай павагі да Махатмы Гандзі, а таксама заўсёды актуальнага значэння яго філасофскіх поглядаў». У сваім выступе ён прывёў наступнае выказванне Гандзі: «негвалтоўнасць з'яўляецца найвялікшай сілай у руках чалавецтва. Яна мацней за самую моцную разбуральную зброю».

«Існуе шмат такога, за што я гатовы памерці, але няма нічога такога, за што я быў бы гатовы забіць» — гэта таксама знакамітыя словы заснавальніка філасофіі негвалтоўных дзеянняў.

Махатма Гандзі нарадзіўся ў 1869 годзе ў горадзе Порбандар індыйскага штата Гуджарат. З 1893 па 1914 год жыў у Паўднёвай Афрыцы, дзе кіраваў рухам супраць расавай дыскрымінацыі. У 1915 годзе Гандзі вярнуўся ў Індыю і ўзначаліў вызваленчую барацьбу. Ён быў ідэйным кіраўніком



Скульптура К.Ф. Рэйтэрсворда «Не — гвалту» перад уваходам у комплекс Цэнтральных установаў ААН у Нью-Ёрку.

ФОТАЗДЫМАК ААН З САЙТА UN.ORG

партыі Індыйскі нацыянальны кангрэс і неаднаразова абіраўся яе прэзідэнтам. Прапаведаваў нягвалт, выступаў за адзінства індусаў і мусульманаў, за ліквідацыю каставай і сацыяльнай няроўнасці, за адмену недатыкальнасці. У 1942 годзе ўзначаліў антыанглійскі рух і неаднаразова арыштоўваўся англійскімі ўладамі.

Ён напісаў аўтабіяграфічную кнігу «Маё жыццё» і пры жыцці быў названы Махатма, што ў перакладзе з санскрыту азначае «вялікая душа». У 1948 годзе падчас малітвы Махатма Гандзі быў забіты індускім фанатыкам.

Негвалтоўны супраціў адмаўляе выкарыстанне фізічнага гвалту для дасягнення сацыяльных ці палітычных зменаў. Усе негвалтоўныя дзеянні прынята падзяляць на тры асноўныя катэгорыі: выказванне пратэсту і пераканання — у прыватнасці, праз маршы, пікеты; адмова ад супрацоўніцтва і негвалтоўнае ўмяшанне.

Байкот, страйк, галадоўка, эканамічныя санкцыі, эмбарга — усе гэтыя тэрміны абазначаюць праявы негвалтоўнай барацьбы людзей за свае правы.

«Любы ўрад можа кіраваць столькі, колькі крыніцы яго сілы папаўняе супрацоўніцтва, падпарадкаванне і паслухмянасць асобных людзей і грамадскіх інстытуцый. У адрозненне ад гвалту палітычнае непадпарадкаванне мае ўнікальную здольнасць: яно перакрывае такія крыніцы ўлады», — сцвярджае амерыканскі грамадскі дзеяч Джын Шарп, аўтар кнігі «Ад дыктатуры да дэмакратыі», якая стала класічным кіраўніцтвам па тактыцы і стратэгіі негвалтоўнага супраціву.

Негвалтоўныя формы сацыяльнай барацьбы, якія нярэдка характарызуюцца як «палітыка простых людзей», прынятыя шырокімі масамі насельніцтва ва ўсім свеце.




Афіцыйны канверт з паштовай адміністрацыі ААН у Нью-Ёрку.



Статуя Махатмы Гандзі ва Усходняй Індыі.

ФОТАЗДЫМАК XINHUA/STRINGER З САЙТА NEWS.CN

# 10

# Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання

Ініцыятарам правядзення Дня з'яўляецца Сусветная кааліцыя па забароне смяротнага пакарання — аб'яднанне юрыдычных асацыяцый, прафсаюзаў, мясцовых і рэгіянальных органаў улады, а таксама праваабарончых арганізацыяў. Кааліцыя мае на мэце паўсюдную забарону на гэты від вышэйшай меры пакарання.




Постэр з сайта taedp.org.tw

Смяротнае пакаранне з'яўляецца крайняй формай пазбаўлення чалавека яго правоў — праз наўмыснае пазбаўленне жыцця дзяржавай. Гэта жорсткае, бесчалавечнае і прыніжаючае чалавечую годнасць пакаранне. Яно парушае права на жыццё, абвешчанае ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Аўтарытэтныя праваабарончыя арганізацыі, як Amnesty International, якая ўваходзіць у Кааліцыю, выступаюць супраць смяротнага пакарання ва ўсіх выпадках без выключэння, незалежна ад характару злачынства, характарыстык злачынца і спосабу, якім дзяржава пазбаўляе жыцця асуджанага.



Фотаздымак Yoshikazu Tsuno/AFP/Getty Images

Актывісты Amnesty International з Японіі пратэстуюць супраць смяротнага пакарання, якое дагэтуль выкарыстоўваецца ў сучасным свеце.

Amnesty International канстатуе, што ў свеце застаецца ўсё менш краінаў, дзе ў якасці вышэйшай меры выкарыстоўваецца смяротнае пакаранне. У сакавіку 2012 года арганізацыя абнародавала свой тэматычны даклад, паводле якога цягам папярэдняга года са 193 дзяржаваў-сябраў ААН 20 прывялі ў выкананне смяротныя прысуды — гэты паказчык на 30 працэнтаў ніжэйшы за аналагічны 10 гадоў таму. У 20 краінах свету былі пакараныя смерцю не менш за 676 чалавек. Большасць з іх — у Іраку, Іране, Йемене, Кітаі, Саудаўскай Аравіі, Паўночнай Карэі, Самалі і ЗША. У Кітаі пакаралі смерцю больш людзей, чым ва ўсіх астатніх краінах свету, разам узятых, аднак праўдзівы маштаб невядомы, паколькі гэтыя







Amnesty International:
Смерць смяротнай кары!

ПОСТЭРЫ TBWA/PARIS
FOR AMNESTY INTERNATIONAL

звесткі з'яўляюцца дзяржаўнай таямніцай. На Блізкім Усходзе колькасць пацверджаных пакаранняў смерцю ўзрасла амаль на 50%.

У справаздачы адзначаецца, што адзінай еўрапейскай краінай, якая прымяняе смяротнае пакаранне, застаецца Беларусь. Двое зняволеных былі расстраляныя ў 2010 годзе, яшчэ двое — у 2012 годзе. У абодвух выпадках Камітэт ААН па правах чалавека зарэгістраваў скаргі асуджаных і заклікаў урад Беларусі не прыводзіць смяротныя прысуды ў выкананне да разгляду скаргаў Камітэтам, нагадвае Amnesty International.

Увядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі з'яўляецца неабходнай умовай для сяброўства краіны ў Савеце Еўропы. Гэта міжнародная структура каля 30 гадоў працавала над забаронай смяротнага пакарання ў Еўропе. За апошнія больш чым дзесяць гадоў ні ў адной з 47 краінаў у складзе Савета Еўропы не быў выкананы ні адзін смяротны прысуд. У большасці з гэтых краінаў смяротнае пакаранне юрыдычна забароненае.

Еўрасаюз выкарыстоўвае ўсе існуючыя інструменты дыпламатыі і супрацоўніцтва ў памкненні да адмены смяротнага пакарання, заклікае тыя краіны, дзе смяротная кара ўсё яшчэ прымяняецца, больш жорстка абмяжоўваць яе прымяненне і настойвае на тым, каб гэты від пакарання прыводзіўся ў выкананне ў адпаведнасці з міжнароднымі мінімальнымі стандартамі.

26 верасня 2007 года Камітэт міністраў Савета Еўропы заснаваў «Еўрапейскі дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання», які праводзіцца штогод таксама 10 кастрычніка. Гэта лічыцца ўнёскам еўрапейскіх краінаў у Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання.

19 кастрычніка 2009 года ў Беларусі пачалася кампанія Савета Еўропы «За адмену смяротнага пакарання».

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА
FAIRANDUNBALANCEDBLOG.BLOGSPOT.COM




Брытанская актрыса Кіра Найтлі — супраць смяротнага пакарання.



Актывісты AI з Сеула (Паўднёвая Карэя) — супраць смяротнай кары ва ўсім свеце.

ФОТАЗДЫМАК LEE MYUNG-GEUN / REUTERS
З САЙТА ETODAY.RU

# 10

# Дзень памяці Марэка Навіцкага

Міжнародная праваабарончая супольнасць 10 кастрычніка адзначае Дзень памяці Марэка Навіцкага, які пайшоў з жыцця ў гэты дзень у 2003 годзе. Гэта адзін з самых вядомых еўрапейскіх экспертаў па правах чалавека, заснавальнік Хельсінкскага фонду па правах чалавека ў Варшаве, стваральнік школы для праваабаронцаў усяго свету.



Праваабаронца Марэк Навіцкі (1947—2003).

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА HFHRPOL.WAW.PL

Марэк Навіцкі, фізік па адукацыі, у 1972—1981 гадах працаваў на факультэце матэматыкі і фізікі Варшаўскага універсітэта. У 60-х гадах быў адным са стваральнікаў студэнцкага альпінісцкага руху ў Польшчы, а ў далейшым — старшынёй Федэрацыі акадэмічных альпінісцкіх клубаў і сябрам праўлення Польскага Саюза альпіністаў. У 1980—1981 гады — актывістам Незалежнага самакіравальнага прафсаюза «Салідарнасць» у рэгіёне Мазоўша, кіраваў камісіяй па перамовах, а пазней — групай па тэхнічнай арганізацыі акцый пратэсту. Падчас ваеннага становішча быў пазбаўлены волі і пабываў у трох лагерах.

Пасля вызвалення Марэк Навіцкі заснаваў падпольную друкарню «Нейтрына». Быў галоўным рэдактарам падпольнага штоквартальніка «Правапарадак. Лісты пра права і бясправе», дзе публікаваўся пад псеўданімам Ман.

У 1982 годзе ў ліку прадстаўнікоў апазіцыйнай інтэлігенцыі быў адным са стваральнікаў падпольнага Хельсінкскага камітэта і суаўтарам першай справаздачы пра парушэнне правоў і свабодаў чалавека ў Польшчы (пасля яна стала штогадовай), якая таемна была перададзена на Захад, там перакладзена на англійскую і французскую мовы і прадстаўлена ўрадавым дэлегацыям — удзельнікам Мадрыдскай канферэнцыі НБСЕ. На думку многіх палітолагаў, дакумент значна паўплываў на ход канферэнцыі. Хельсінкскі камітэт прадстаўляў таксама спецыяльныя рапарты, напрыклад, па просьбе Міжнароднай арганізацыі працы або Камітэта па правах чалавека ААН, калі польскі ўрад павінен быў прадставіць свой рапарт, датычны выканання Польшчай нормаў Міжнароднага пакта пра грамадзянскія і палітычныя правы.

Пасля падзення камунізму ў Польшчы сябры Хельсінкскага камітэта заснавалі Хельсінкскі фонд па правах чалавека ў Польшчы. Марэк Навіцкі стаяў на чале фонда з 1990 года. У цяперашні



Марэк Навіцкі быў экспертам пры АБСЕ і ААН.



Шматлікія калегі ўзгадваюць яго як харызматычнага лектара.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА HFHRPOL.WAW.PL

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА HFHR.PL




Шыльда Хельсінкскага фонду па правах чалавека ў Варшаве.



Па запрашэнні Хельсінкскага фонду ў Польшчы двойчы пабываў Далай-Лама.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА HFHRPOL.WAW.PL

час Хельсінкскі фонд па правах чалавека з'яўляецца адной з самых вопытных і прафесійна дзеючых няўрадавых арганізацый у Еўропе.

Марэк Навіцкі шматразова прыцягваўся ў якасці эксперта ў галіне правоў чалавека міжнароднымі арганізацыямі, такімі як АБСЕ ці ААН, а таксама камісіямі абедзвюх палат польскага парламента. Быў суаўтарам «Хартыі правоў і свабод», якая аказала немалаважны ўплыў на польскую канстытуцыю.

Марэк Навіцкі быў аўтарам шматлікіх публікацый і сцэнарыяў фільмаў на тэмы па гісторыі і філасофіі правоў чалавека, адным са стваральнікаў адукацыйных праграм і, найперш, выдатным лектарам. Ён быў ініцыятарам шырокамаштабнай адукацыйнай дзейнасці ў галіне правоў чалавека, стваральнікам Школы правоў чалавека Хельсінкскага фонду. Ён натхняў і падтрымліваў рух па абароне правоў чалавека ў аўтарытарных дзяржавах і ў новых дэмакратыях, у асаблівасці ў Польшчы і краінах былога Савецкага Саюза.

Амаль да канца свайго жыцця Марэк Навіцкі ездзіў з лекцыямі па Расіі, Сярэдняй Азіі і Каўказу. І, дзякуючы сваёй сіле і харызме, стаў сімвалам мірнай барацьбы за годнасць і правы чалавека.

# МАРЭК НАВІЦКІ –

## пра барацьбу за правы чалавека:

*Журналісты часта задаюць пытанне: які сэнс займацца правамі чалавека, калі «у нас ужо запанавала дэмакратыя». Яны атаясамліваюць дэмакратыю з уладай большасці, доказам чаго — на іх думку — з'яўляюцца свабодныя сумленныя выбары. Аднак, як паказвае гісторыя, улада большасці можа апынуцца вельмі жорсткай у адносінах да асобных людзей і розных меншасцяў. Менавіта большасць вынесла смяротны прысуд Сакрату, і наўрад ці мы палічым, што гэта добра сведчыць пра палітычны лад Афінаў. Калі мы папросім групу людзей скласці спіс з 10 або 20 прыкмет, якія характарызуюць альбо іх саміх, альбо іх становішча, то апынецца, што ў такіх спісах пераважаюць уласцівасці, характэрныя для меншасцяў. Большасць жа звычайна забывае пра праблемы меншасцяў, а некаторыя з гэтых праблемаў нават выклікаюць варожасць у большасці. Значыць, неабмежаваная ўлада большасці з'яўляецца пагрозай для асобных асобаў і групаў. І таму ў нашым разуменні дэмакратыя — гэта абмежаваная ўлада большасці, абмежаваная ўсімі правамі і свабодамі, якія належаць асобным людзям. І большасць не мае права парушаць гэтыя правы і свабоды. Такім чынам, правы і свабоды чалавека абмяжоўваюць волю большасці.*

# 11

# *Міжнародны дзень дзяўчынак*

19 снежня 2011 года Генеральная Асамблея ААН прыняла рэзалюцыю, у якой абвясціла 11 кастрычніка Міжнародным днём дзяўчынак у знак прызнання правоў дзяўчынак і ўнікальных праблемаў, з якімі яны сутыкаюцца ва ўсім свеце.




ПОСТЭР З САЙТА BLUEVEINS.ORG

Правядзенне гэтага міжнароднага дня дазваляе засяродзіць увагу на неабходнасці вырашэння праблем дыскрымінацыі, гвалту і жорсткага абыходжання, з якімі сутыкаюцца дзяўчынкі, і заахвочваць пашырэнне іх правоў і магчымасцяў, ажыццяўленне іх правоў чалавека.

Першае святкаванне Дня ў 2012 годзе было прысвечанае дзіцячым шлюбам, якія ўяўляюць сабой парушэнне асноўных правоў чалавека і ўплываюць на ўсе аспекты жыцця дзяўчынак. Дзіцячыя шлюбы пазбаўляюць дзяўчынак дзяцінства, прымушаюць іх перарываць сваю адукацыю, абмяжоўваюць іх магчымасці, павышаюць небяспеку падвергнуцца гвалту і дамаганням, пагражаюць іх здароўю і, такім чынам, уяўляюць сабой перашкоду для развіцця здаровых абшчынаў.

ФОТАЗДЫМАК K.M. CHAUDARY / ASSOCIATED PRESS
З САЙТА LATIMESBLOGS.LATIMES.COM



Калі школьніца Малала Юсафзай, параненая баевікамі за феміністкія выказванні ў блогу, знаходзілася ў шпіталі, у Пакістане ААН правяла першы Дзень дзяўчынак. 2012 год.

Паводле статыстыкі ААН, па свеце ў цэлым прыкладна трацiна маладых жанчын ва ўзросце ад 20 да 24 гадоў — каля 70 мільёнаў чалавек — выйшлі замуж да дасягнення 18-гадовага ўзросту. Нягледзячы на скарачэнне агульнай долі малалетніх нявест за апошнія 30 гадоў, праблему дзіцячых шлюбаў ніяк не ўдаецца выкараніць, асабліва ў сельскіх раёнах і сярод найбольш абяздоленых слаёў насельніцтва. У выпадку захавання цяперашняй тэндэнцыі на працягу бліжэйшага дзесяцігоддзя колькасць дзяўчынак, якія выйшлі замуж да дасягнення 18-гадовага ўзросту, павялічыцца да 150 мільёнаў.

У якасці адной з найлепшых стратэгій абароны дзяўчынак ад дзіцячых шлюбаў ААН бачыць адукацыю: калі яны могуць

працягваць школьную адукацыю і пазбягаць ранніх шлюбаў, яны ствараюць тым самым ўмовы для лепшага жыцця для сябе і сваіх сем'яў. А калі яны ўжо выйшлі замуж у раннім узросце, то доступ да адукацыі, эканамічных магчымасцяў і паслугаў у галіне аховы здароўя, уключаючы папярэджанне ВІЧ і ахову сэксуальнага і рэпрадуктыўнага здароўя, дапаможа ім ўзбагаціць сваё жыццё і палепшыць сваю будучыню.

ААН заяўляе, што інвестыцыі ў дзяўчынак — гэта маральны імператыў, пытанне забеспячэння элементарнай справядлівасці і роўнасці. Гэта — абавязак паводле Канвенцыі пра правы дзіцяці і Канвенцыі пра ліквідацыю ўсіх формаў дыскрымінацыі ў адносінах да жанчынаў. Гэта мае таксама вельмі важнае значэнне для дасягнення Мэтаў развіцця тысячагоддзя, прасоўвання эканамічнага росту і пабудовы мірнага, згуртаванага грамадства.

Арганізацыя настойліва заклікае ўрады, абшчынных і рэлігійных лідараў, грамадзянскую супольнасць, прыватны сектар і сем'і заахвочваць захаванне правоў дзяўчынак, у тым ліку ў рамках выканання палажэнняў адпаведных канвенцый, Пекінскай дэкларацыі, Платформы дзеянняў і Праграмы дзеянняў Міжнароднай канферэнцыі па народанасельніцтве і развіцці.



Міжнародны дзень дзяўчынак у пасольстве Канады ў Афганістане.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА AFGHANISTAN.GC.CA

ФОТАЗДЫМКІ STEPHANIE SINCLAIR З САЙТА DAILYMAIL.CO.UK



Емен. Маладыя дзяўчыны сядзяць ў доме.



Емен. Тахані — 8, яе мужу Маджэду — 27 (на пярэднім плане).



Азія, 14-гадовая маці, мые дачку-немаўля, побач гуляе яе двухгадовая дачка.

# 17

# Міжнародны дзень барацьбы за ліквідацыю галечы

Дата была абвешчана ў 1992 годзе па рашэнні Генеральнай Асамблеі ААН. 17 кастрычніка 1987 года на парыжскай плошчы Тракадэра сабралася каля ста тысяч чалавек, каб ушанаваць памяць усіх, хто стаў ахвярай голаду, гвалту і галечы. Плошча Тракадэра, напэўна, была абраная невыпадкова: тут стаіць знакаміты палац Шаё, у якім у 1948 годзе адбылося падпісанне Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.




ПОСТЭР З САЙТА FAMVIN.ORG

Удзельнікі мітынгу, сабраўшыся, каб абвясціць галечу адным з парушэнняў правоў чалавека, адкрылі Памятны камень. Гэта просты камень з надпісамі, якія пацвярджаюць стаўленне прысутных да праблемы галечы. Людзі тады паабяцалі, што будуць змагацца з галечай і сачыць за тым, каб правы чалавека не парушаліся.

З тых часоў кожны год у сямнаццаты кастрычніцкі дзень людзі самых розных саслоўяў, перакананняў і сацыяльнага паходжання збіраюцца каля памятнага каменя, каб аддаць даніну памяці ахвярам галечы. І такіх камянёў нямала, яны ёсць у многіх краінах. Адзін з іх знаходзіцца ў садзе Цэнтральных установаў ААН у Нью-Ёрку. І менавіта каля яго Сакратарыят ААН праводзіць штогадовую ўрачыстую цырымонію.

Мэтай правядзення гэтага Дня з'яўляецца павышэнне ўзроўню ўсведамлення неабходнасці змагацца за ліквідацыю галечы і беднасці ва ўсіх краінах, асабліва ў тых, што развіваюцца.

Артыкул 25 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека абвяшчае наступнае:

«Кожны чалавек мае права на такі жыццёвы ўзровень, уключаючы ежу, адзенне, жыллё, медыцынскі догляд і неабходнае сацыяльнае абслугоўванне, які неабходны для падтрымання здароўя і дабрабыту яго самога і яго сям'і, і права на забеспячэнне на выпадак беспрацоўя, хваробы, інваліднасці, удаўства, наступлення старасці ці іншага выпадку страты сродкаў да існавання па незалежных ад яго акалічнасцях».

На Саміце тысячагоддзя, які ААН склікала ў 2000 годзе, сусветныя лідары паставілі мэтай да 2015 года скараціць удвая долю насельніцтва, якое жыве ва ўмовах крайняй галечы, — тых, чый даход складае менш за адзін даляр у дзень.

ФОТАЗДЫМАК EPA / GLENN HUNT
З САЙТА FLICKR.COM




Мітынг у рамках кампаніі «Зробім беднасць гісторыяй» заклікае сусветных лідараў прыняць меры супраць беднасці ў Велінгтоне. Аўстралія, 10 верасня 2005 года.



Сям'я перад сваім часовым домам у Кібера, найбуйнейшых трушчобах Кеніі, якія сталі домам для больш чым мільёна чалавек, 4 траўня 2005 года.

ФОТАЗДЫМАК EPA / STEPHEN MORRISON
З САЙТА FLICKR.COM

# 19

# *Заснаванне «Мартыралогу Беларусі»*



Пасяджэнне 19 кастрычніка 1988 года ў тагачасным Доме кіно. Васіль Быкаў вылучае Зянона Пазняка на пасаду старшыні «Мартыралогу». Злева — супрацоўнік ЦК КПБ Расціслаў Бузук і вядучы сходу, пісьменнік Міхась Дубянецкі.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА SVABODA.ORG

19 кастрычніка 1988 года ў Доме кіно (касцёл Святых Сымона і Алены) у Мінску адбыўся ўстаноўчы сход гісторыка-асветніцкага Таварыства памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсій «Мартыралог Беларусі». Гэтая праваабарончая арганізацыя ставіла на мэце раскрыць сталінскія злачынствы і правесці дэсталінізацыю ў краіне, ушанаваць памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсій.

Падчас сходу быў заснаваны аргкамітэт па стварэнні Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне». На сходзе прысутнічалі каля 400 чалавек.

Заснаванню першай праваабарончай аргнізацыі папярэднічала праца, падчас якой арганізацыйная група «Камітэт-58» падрыхтавала праекты Статута і дэкларацыі таварыства і сумесна з творчымі саюзамі кінематаграфістаў, мастакоў, пісьменнікаў і рэдакцыяй газеты

ФОТАЗДЫМАК БЮЛЕТЭНЯ З САЙТА VYTOKI.NET




У студзені 1989 года таварыства выпусціла самвыдавецкі бюлетэнь «Мартыралог», у якім былі змешчаныя праграмныя дакументы.

«Літаратура і мастацтва» склікала ўстаноўчы сход, на якім разгледзелі і прынялі праекты дакументаў таварыства і сталі яго ўстаноўчымі арганізацыямі.

У Грамадскую раду таварыства ўвайшлі: У. Арлоў, А. Белавусаў, В. Быкаў, А. Белязо, А. Вярцінскі, В. Вячорка, С. Грахоўскі, У. Дамашэвіч, С. Дубавец, А. Дудараў, М. Дубянецкі, М. Ждановскі, С. Законнікаў, В. Івашкевіч, А. Каламіец, А. Касько, У. Конан, У. Крукоўскі, М. Купава, В. Ляшковіч, В. Манаеў, А. Марачкін, З. Пазняк, М. Пташук, Т. Раманькова, А. Рашчынскі, А. Сідарэвіч, М. Ткачоў, М. Чарняўскі, Э. Ялугін. Старшынёй Грамадскай рады быў абраны Зянон Пазняк.

У якасці асноўных таварыства ставіла перад сабой наступныя задачы:

- выявіць, даследаваць і зрабіць вядомай грамадскасці інфармацыю пра злачынствы таталітарнай улады;
- высветліць пайменна колькасць ахвяраў сталіншчыны ў Беларусі, увекавечанне іх памяці;
- стварыць навукова-даследчы, асветніцкі, архітэктурна-мемарыяльны комплекс «Мартыралог Беларусі» ў Мінску, помнікі і абеліскі замучаным і забітым людзям.

# 24
# Дзень Арганізацыі Аб'яднаных Нацый

У 1945 годзе 24 кастрычніка ўступіў у сілу Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. 31 кастрычніка 1947 года Генеральная Асамблея ў сваёй рэзалюцыі абвясціла 24 кастрычніка – гадавіну прыняцця Статута – Днём Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Гэта было зроблена для таго, каб азнаёміць сусветную грамадскасць з мэтамі і дасягненнямі ААН і разам з тым атрымаць падтрымку дзейнасці арганізацыі.



United Nations Day.

І толькі ў снежні 1971 года Дзень ААН набыў міжнародны статус. Тады Генеральная Асамблея прапанавала краінам-сябрам адзначаць 24 кастрычніка як дзяржаўнае свята, зрабіўшы яго выхадным днём.

Беларусь уваходзіць у ААН з красавіка 1945 года. На той час з 16 рэспублік Савецкага Саюза ў шэрагі сябраў-заснавальнікаў арганізацыі былі прынятыя толькі Беларусь і Украіна – на той падставе, што панеслі найбольшыя ахвяры падчас вайны.

Фотаздымак з сайта anapet.info



Будынак штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку.

На цяперашні момант у ААН уваходзяць 192 дзяржавы. Кожная з іх таксама з'яўляецца сябрам Генеральнай Асамблеі ААН. У нашыя дні 24 кастрычніка ў розных краінах адзначаюць па-рознаму. Напрыклад, у Даніі, Швецыі і Фінляндыі на гэту дату прыпадае Дзень сцяга. А ў Злучаных Штатах Амерыкі з нагоды Дня выходзіць пасланне прэзідэнта. Святочны канцэрт па традыцыі ладзіцца ў зале Генеральнай Асамблеі ў Нью-Ёрку, дзе знаходзіцца пастаянная штаб-кватэра арганізацыі, будоўля якой была закладзена ў Дзень ААН у 1949 годзе. Сярод святочных мерапрыемстваў Дня – сустрэчы, сходы, дыскусійныя «круглыя сталы». Часам ладзяцца спецыяльныя мерапрыемствы, падчас якіх сябры ААН з дапамогай электронных сродкаў камунікацыі праводзяць тэлемасты з рознымі гарадамі свету.

«Мы жывем у вельмі напружаныя часы — у эпоху карэнных зменаў і глыбокіх пераўтварэнняў. Адбываецца нарастанне такіх праблем, як пагрозы бяспекі, няроўнасць і нецярпімасць. Глабальныя і нацыянальныя ўстановы праходзяць праверку на трываласць. У гэты адказны перыяд Арганізацыя Аб'яднаных Нацый не павінна адставаць ні па адным з кірункаў сваёй дзейнасці — свет, развіццё, правы чалавека, вяршэнства права і пашырэнне правоў і магчымасцяў жанчын і моладзі ў свеце».
З паслання Генсакратара ААН з нагоды Дня 2012 года.



Супрацоўнікі ААН і валанцёры распавядаюць пра правы чалавека ў Дзень адчыненых дзвярэй у Жэневе. 15 верасня 2012 года.

ФОТАЗДЫМАК INGVIL SAHR ROOSENDAAL З САЙТА FLICKR.COM

Адным з першых дакументаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў стала Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, прынятая ў снежні 1948 года. І абарона правоў чалавека, гарантаваных гэтым універсальным дакументам, з'яўляецца вызначальнай у дзейнасці арганізацыі.

З моманту ўтварэння ААН былі абвешчаныя асноўныя правы і свабоды грамадзянаў, замацаваны прыярытэт гэтых правоў, а іх абарона стала галоўным абавязкам дзяржаваў. З 1993 года ў ААН працуе Упраўленне Вярхоўнага камісара па правах чалавека, якое сочыць за захаваннем і абаронай правоў, замацаваных Дэкларацыяй. У арганізацыі створаны механізмы для маніторынгу ў галіне правоў чалавека, сярод іх — Савет па правах чалавека.

# *Старонка з гісторыі ААН*

У 1945 годзе прадстаўнікі 50 краінаў сабраліся ў Сан-Францыска (ЗША) на Канферэнцыі Аб'яднаных Нацый па стварэнні міжнароднай арганізацыі, каб распрацаваць Статут ААН. У аснову працы дэлегаты паклалі прапановы, выпрацаваныя прадстаўнікамі Вялікабрытаніі, Кітая, Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў у Думбартон-Оуксе ў жніўні — кастрычніку 1944 года. Статут быў падпісаны 26 чэрвеня 1945 года прадстаўнікамі 50 краінаў. Польшча, не прадстаўленая на Канферэнцыі, падпісала яго пазней і стала 51-й дзяржавай-заснавальніцай.

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый афіцыйна існуе з 24 кастрычніка 1945 года — да гэтага дня Статут быў ратыфікаваны Вялікабрытаніяй, Кітаем, Савецкім Саюзам, Злучанымі Штатамі, Францыяй і большасцю іншых яго падпісантаў.



Канферэнцыя ў Сан-Францыска 25 красавіка — 26 чэрвеня 1945 года: рэгістрацыя Статута ААН.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА TUMBLR.COM



Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА UNYANET.ORG

# 29

# Масавы расстрэл беларускай інтэлігенцыі

У ноч з 29-га на 30 кастрычніка 1937 года ў сутарэннях мінскай унутранай турмы НКВД, «амерыканкі», былі расстраляныя больш за 100 прадстаўнікоў беларускай інтэлектуальнай эліты — выбітных дзеячаў культуры, мастацтва і навукі, а таксама грамадскіх і палітычных дзеячаў тагачаснай БССР.

Сярод расстраляных на працягу гэтай ночы былі 22 беларускія літаратары: крытыкі і публіцысты Макар Шалай, Якаў Бранштэйн, Віктар Вайноў, Хацкель Дунец, Язэп Каранеўскі, Саламон Левін, Пятро Хатулёў, Павел Шастакоў і Аляксей Кучынскі; паэты Міхась Чарот, Анатоль Вольны, Зяма Півавараў, Алесь Дудар, Майсей Кульбак, Юрка Лявонны, Валерый Маракоў, Ізі Харык і Арон Юдэльсон; празаікі Васіль Сташэўскі, Васіль Каваль, Платон Галавач і Міхась Зарэцкі. У наступную ноч крывавы спіс дапоўнілі журналіст Прохар Іспраўнік, празаік Янка Нёманскі, паэты Юлій Таўбін і Тодар Кляшторны. Усіх іх абвінавацілі ў нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыйнай дзейнасці.

Старэйшая дачка Тодара Кляшторнага шасцігадовая тады Тадзіяна сам арышт бацькі не запомніла, а вось адзінае наведванне яго перад расстрэлам у турме адклалася ў дзіцячай памяці на ўсё жыццё: «Памятаю, як цяпер — мне тады было шэсць гадоў — зайшлі мы, і бацька прыйшоў, нейкі следчы яго прывёў. Я яго не пазнала: твар быў у крывападцёках, ніводнага гузіка, валасамі зарослы, такі бледны... Маці гаворыць: што з табой здарылася, чаму ты такі? Ён адказвае: не хвалюйся, хутка прыйдзе час — я выйду адсюль. Глядзі дзяцей, глядзі, каб сама добра (яна была тады ўжо цяжарная трэцяй нашай сястрычкай). Ён ні ў чым нам не прызнаўся, але маці ўвесь час плакала. Праз пяць хвілін яго павялі ад нас за турэмныя краты, і больш мы яго не бачылі».

Праведзеныя карнымі органамі масавыя рэпрэсіі беларускай інтэлігенцыі ў 1937–1938 гадах былі афіцыйна падсумаваныя дакументам, які называўся «Вынікі разгрому антысавецкага падполля ў БССР». Паводле яго, у азначаны час было арыштавана 2570 прадстаўнікоў усіх прафесійных катэгорый беларускай інтэлігенцыі разам з кіраўнікамі розных ведамстваў. Сярод іх 23 чалавекі працавалі ў цэнтральным савецкім і партыйным кіраўніцтве, 56 — у наркамаце, 179 былі высокапастаўленыя апаратчыкі, 20 — акадэмікі і навуковыя супрацоўнікі Акадэміі навук. Адзіная віна гэтых людзей — «сны аб Беларусі», як роспачна-трапна сказаў у сваім знакамітым вершы Янка Купала.

Невінаватасць большай часткі з іх была потым прызнаная савецкімі судамі. Такім чынам, у гэтыя дні рэпрэсіі, якія чыніла кіраўніцтва СССР у тыя гады па ўсёй краіне, дасягнулі ў Беларусі свайго піку.



Маладыя літаратары ў Мінску: Алесь Дудар, Васіль Каваль, Аркадзь Мардвілка, Ізраэль Плаўнік, Вішнеўская, Мікола Нікановіч, Зінаіда Бандарына, Ілары Барашка. Роўна палова была рэпрэсаваная.



Такім турма зрабіла Алеся Дудара (справа). Ён загінуў у 32 гады.

ФОТАЗДЫМКІ СА ЗБОРНІКА «РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА»

# 30

# Першы масавы мітынг у Беларусі

Першы масавы мітынг у Беларусі і адзін з самых масавых мірных мітынгаў на прасторы тагачаснага СССР адбыўся ў Мінску 30 кастрычніка 1988 года — у дзень памінання продкаў «Дзяды». Ён быў жорстка разагнаны ўладамі — з выкарыстаннем слёзатачывага газу і вадамётнай тэхнікі.




Шматтысячны мітынг-рэквіем памяці продкаў «Дзяды-88» гвалтоўна разагнаны атрадамі міліцыі і ўнутранных войскаў.

Заяўка на правядзенне «Дзядоў-88» была пададзена ад Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Гэта была «нефармальная» арганізацыя маладых пісьменнікаў, якая дзейнічала ў 1986–1989 гадах. Яе старшынёй з'яўляўся Алесь Бяляцкі. Ён, адзін з арганізатараў акцыі, атрымаў афіцыйнае па-пярэджанне пракуратуры — што ў выпадку масавых беспарадкаў будзе прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, і ўпершыню быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.

У той жа дзень Алесь зрабіў падрабязнае апісанне мітынгу і свайго затрымання.

«Апісваю сённяшні бурны дзень, 30 кастрычніка 88 года, калі ТМЛ «Тутэйшыя» вырашылі правесці Дзяды. Аб тым, як нам іх не дазвалялі — гэта асобная гісторыя. Сёння я паехаў туды, да Маскоўскіх могілкаў а 12 гадзіне (мітынг-рэквіем быў прызначаны а 14-й), бо спадзяваўся наладзіць хоць якую сувязь з міліцыянтамі, каб яны далі нам магчымасць правесці мітынг.

Ля скверу [сёння сквер на перасячэнні праспекту Незалежнасці і вуліцы Кастуся Каліноўскага. — рэд.] віселі дзве шыльды з абвесткамі аб кары пры парушэнні закона. Народу яшчэ не было. Дзьмуў халодны вецер. (...)

Пачалі а першай падыходзіць паступова людзі. (...) Таўпіліся цывільныя дружыннікі, размахвалі рукамі, як яны будуць біць «сіцылістаў», атрымоўвалі інструктаж. (...) Без пятнаццаці два люд паваліў натоўпам. Яшчэ раней перакрылі метро, пусцілі ў аб'езд аўтобусы, таму, як высветлілася пазней, частка народу спазнілася і людзі ішлі да паловы на трэцюю. Я ўсіх папярэджваў, што а другой выходзім на пляц [пляцоўка ў скверы за перасячэннем пр. Незалежнасці і вул. Кастуся Каліноўскага. — рэд.]. Потым мы пайшлі назад. Міліцыянты стаўпіліся ля перакрыжавання. Паўз Каліноўскага стаялі аўтобусы, перамежаваныя «Вол-



Людская плынь сцякалася да Маскоўскіх могілак.



Аўтобусы былі набітыя міліцыянерамі, яны нават стаялі.

ФОТАЗДЫМАК ІГАРА ЧАРНЯЎСКАГА З САЙТА VYTOKI.NET

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА FRANAK.LIVEJOURNAL.COM

гамі», пасажыркі (аўтобусы — А.Б.) былі набітыя пад завязку міліцыянтамі, яны нават стаялі. Калі мы падышлі да перакрыжавання, народ, я не бачыў з-за чаго, пачаў кідацца на міліцыю. Потым я пачуў, што схапілі Купаву [мастак, грамадскі дзеяч. — рэд.], Марачкіна [мастак, грамадскі дзеяч — рэд.], кідаўся Тарасаў [беларускі пісьменнік, публіцыст. — рэд.], я стаў супакойваць усіх, не ведаючы, чаму народ кідаецца на міліцыю.

## НЕЗАДОЎГА ДА ДЗЯДОЎ БЫЛІ ЎТВОРАНЫЯ «МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ» І АРГКАМІТЭТ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ. СТВАРЭННЕ БНФ ШАКАВАЛА ЎЛАДЫ І ВЫКЛІКАЛА Ў ІХ ЖАДАННЕ ЗАЦІСНУЦЬ ГАЙКІ

За перакрыжаваннем стаяў Пазняк [беларускі гісторык, публіцыст, адзін з лідараў беларускага адраджэння ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў. — рэд.]. Я падышоў. «Ну што, пачынаем? — спытаўся ён. «Хадземце», — сказаў я і хацеў пайсці на цэнтр пляца. Пазняка абкружылі чатыры ў цывільным. Хтосьці схапіў аднога і закрычаў: «Пазняка забіраюць!» Я схапіўся за другога і таксама зароў тое ж. У гэты момант падбег міліцыянт і пырснуў аэразолем мне ў твар. Я адразу перастаў бачыць. Ірвануўся ад яго, вырваўся і трохі прабег. У гэты час міліцыянты, што стаялі побач, пачалі хапаць хлопца з магнітафонам. Я крыкнуў яму: «Бяжы!» Ён ірвануўся, але там яго ўжо чакалі яшчэ двое. Я ўжо інстынктыўна пачаў дапамагаць, ірвануўся да іх. Мяне падхапілі ззаду і павялі. Усё. Узялі.

Я рвануўся, але яны ўтрымлівалі мяне, ды і не ўбяжыш, бо вялі пасярэдзіне Каліноўскага, увесь народ стаяў па баках і глядзеў. З вачэй цяклі слёзы і з носа таксама. Нейкі новы міліцыянт заламаў мне руку (...) Я паспрабаваў пасміхнуцца. Вось была, мусіць, карціна — мокры твар і скрыўленая пахмылка (...) У міліцыі Першамайскага раёна міліцыянт, злы на мяне, напісаў пратакол, у якім сцвярджаў, што я выкрыкваў антысавецкія лозунгі. Калі старлей (старэйшы лейтэнант) даведаўся, каго я прадстаўляю (Таварыства маладых літаратараў, аспірант), пратакол быў перапісаны і зноў за подпісам сведкаў. Вось так рэчы! Скончылася тым, што мой інтэлігентны выгляд і спакойная размова з суддзёю абышлася толькі ў 200 р. Хаця маглі як арганізатару ўляпіць і 15 сутак».

Дзелячыся ўспамінамі праз 20 гадоў, Алесь Бяляцкі сказаў, што падчас акцыі «Дзяды» ў 1988 годзе беларусы ўпершыню за 70 гадоў кінулі выклік уладзе.



Затрыманне ўдзельніка акцыі.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FRANAK.LIVEJOURNAL.COM

# 30

# *Міжнародны дзень салідарнасці палітвязняў*



Юрый Галанскоў, Аляксандр Гінзбург, Аляксей Дабравольскі, Вера Лашкова.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА MEMO.RU

У 1974 годзе на прэс-канферэнцыі для заходніх журналістаў, арганізаванай на кватэры дысідэнта Андрэя Сахарава ў Маскве, 30 кастрычніка было абвешчана Днём палітвязня ў СССР.

Штуршком да кансалідацыі руху супраць палітычнага пераследу ў СССР паслужыў самы маштабны палітычны працэс, які праходзіў у Маскве ў студзені 1968 года. Гэта так званы «Працэс чатырох»: па артыкуле 70 КК «антысавецкая агітацыя і прапаганда» судзілі маладых людзей — Аляксандра Гінзбурга, Юрыя Галанскова, Аляксея Дабравольскага, Веру Лашкову.

Цэнтральным пунктам абвінавачвання супраць Гінзбурга было складанне ім «Белай кнігі» — дакументальнага зборніка матэрыялаў пра справу пісьменнікаў Андрэя Сіняўскага і Юлія Даніэля. Галанскову ставілі ў віну, галоўным чынам, складанне ім машынапіснага грамадска-палітычнага і літаратурна-філасофскага альманаха «Фенікс-66» (таксама яго абвінавацілі ў незаконных валютных аперацыях). Дабра-вольскаму — аўтарства аднаго з тэкстаў, змешчаных у «Феніксе-66». Лашковай — тэхнічную дапамогу ў перадруку абодвух зборнікаў. Акрамя таго, падсудным інкрымінавалася «злачынная сувязь» з эмігранцкай антысавецкай арганізацыяй «Народна-працоўны саюз». У разгорнутай падчас суду шырокай кампаніі ў савецкай прэсе асабліва акцэнтавалася менавіта гэтая частка абвінавачвання. Юрый Галанскоў быў прысуджаны да сямі гадоў лагера, Аляксандр Гінзбург — да пяці гадоў, Аляксей Дабравольскі, які актыўна супрацоўнічаў са следствам і абвінавачваннем, — да двух гадоў. Вера Лашкова атрымала адзін год пазбаўлення волі, але была вызваленая праз некалькі дзён пасля суда.

З моманту іх арышту аднадумцы збіралі подпісы пад петыцыямі ў іх абарону, праводзілі мітынгі.




«Белая Кніга» — адзінае самае поўнае выданне стэнаграмы працэсу Андрэя Сіняўскага і Юлія Даніэля.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА ANTOLOGY.IGRUNOV.RU



ИЗ ЗАЛА СУДА

ЗАТЯНУТЫЕ ОДНИМ ПОЯСОМ

Артыкул пра «Справу чатырох», апублікаваны ў газеце «Известия» 16 студзеня 1968 года.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА MEMO.RU

Самым яркім эпізодам стаў зварот Ларысы Багараз і Паўла Літвінава «Да сусветнай грамадскасці» ў дні суда. Ён узняў у многіх краінах хвалю пратэстаў не толькі супраць гэтага працэсу, але і наогул супраць праследу іншадумцаў у СССР (што разглядалі як спробу рэстаўрацыі сталінізму).

Пратэстная кампанія вакол «Працэсу чатырох» была самай шырокай — па падліках першага сацыёлага праваабарончага руху Андрэя Амалерыка, у ёй прыняло ўдзел, сама меней, 738 чалавек. Улічваючы, што на той момант са смерці Сталіна мінула толькі 15 гадоў, гэтую лічбу называюць велізарнай.

Узнікненне ідэі дня салідарнасці палітвязняў звязваюць са смерцю фігуранта «Працэсу чатырох» — публіцыста і паэта Юрыя Галанскова. Ён памёр 4 лістапада 1972 года ў лякарні ў мардоўскім лагеры, год і два месяцы не дажыўшы да канца свайго сямігадовага тэрміну. Яму было 33 гады.

Пасля яго смерці, па некаторых звестках, палітвязні Кранід Любарскі



БЕЗ СНИСХОЖДЕНИЯ!

Читатели «Комсомольской правды» об отщепенцах, осуждённых советским судом

Водгукі чытачоў «Камсамольскай праўды» на публікацыю «У лакеях» (ад 16 студзеня 1968 года) аб фігурантах «Працэсу чатырох».

і Аляксей Мурржэнка, якія былі сасланыя ў Дубраўны лагер у Мардовію, распрацавалі план, паводле якога дзень 30 кастрычніка мусіў быць абвешчаны Днём палітвязня ў Савецкім Саюзе. Гэта ідэя хутка пашырылася — і ў месцах пазбаўлення волі, і ў асяродку былых палітвязняў і праваабаронцаў. І праз два гады ў Маскве на кватэры Андрэя Сахарава, вядомага савецкага навукоўцы, дысідэнта і праваабаронцы, падчас адмысловай прэс-канферэнцыі сябры Ініцыятыўнай групы па абароне правоў чалавека агучылі рашэнне савецкіх палітвязняў пра абвяшчэнне Дня палітвязня ў Савецкім Саюзе. У 1974 годзе палітвязні СССР адзначылі гэты дзень галадоўкай.

У 1991 годзе дзень 30 кастрычніка атрымаў назву Дня памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Аднак у 2006 годзе шэраг расійскіх праваабарончых і палітычных арганізацыяў выступілі з заявай пра тое, што перайменаванне ў Дзень памяці адбылося зарана, паколькі ў краіне з'явіліся палітычныя вязні і колькасць іх узрастае хуткімі тэмпамі.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА MEMO.RU

## 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | |

## 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

# 11

01

# Заснаванне Беларускага Хельсінкскага Камітэта

1 лістапада 1995 года было заснавана РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» (БХК) — як рэакцыя на грамадска-палітычную сітуацыю ў Беларусі. Зняслаўленне нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга стала своеасаблівым каталізатарам для стварэння гэтай праваабарончай арганізацыі. Заснавальнікамі БХК сталі вядомыя грамадскія, палітычныя і культурныя дзеячы краіны: Васіль Быкаў (першы старшыняНазіральнага Сойма БХК), Рыгор Барадулін, Радзім Гарэцкі, Святлана Алексіевіч, Генадзь Бураўкін, Юрый Хадыка, Карлас Шэрман і іншыя.

Першым старшынёй аб'яднання была Таццяна Працька. Сёння старшынёй з'яўляецца Алег Гулак, сябра Грамадска-кансультацыйнага савета пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

БХК выяўляе выпадкі парушэння правоў чалавека, аказвае прававую дапамогу канкрэтным людзям (штогод у БХК прыходзіць да 2000 скаргаў), рэгулярна праводзіць праваабарончыя семінары і трэнінгі па навучанні моладзевых актывістаў і юрыстаў, займаецца выданнем спецыяльнай літаратуры, арганізоўвае разнастайныя мерапрыемствы з мэтай прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемаў парушэння правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь.

БХК праводзіць аналіз заканадаўства і выступае з прапановамі па яго ўдасканаленні: падрыхтаваныя прапановы, якія

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА SVABODA.ORG



Старшыня БХК Алег Гулак.

ФОТАЗДЫМАК ANTON SURYAPIN З САЙТА BNP.BY



Старшыня юрыдычнай камісіі БХК Гары Паганяйла.

датычацца Крымінальнага кодэкса, працоўнага заканадаўства, законаў аб сродках масавай інфармацыі, выбарах, а таксама Канстытуцыі краіны.

Прадстаўнікі БХК працуюць у 12 гарадах рэспублікі. Сябры арганізацыі ўдзельнічалі ў працы місій Міжнароднай Хельсінкскай Федэрацыі і, у прыватнасці, даследавалі сітуацыю з правамі чалавека ў Прыднястроўі (Малдова), на Паўночным Каўказе (Расійская Федэрацыя), у Таджыкістане, Узбекістане і Украіне.

06

# Міжнародны дзень прадухілення эксплуатацыі навакольнага асяроддзя падчас вайны і ўзброеных канфліктаў

У лістападзе 2001 года Генеральная Асамблея ААН абвясціла 6 лістапада Міжнародным днём прадухілення эксплуатацыі навакольнага асяроддзя падчас вайны і ўзброеных канфліктаў (International Day for Preventing the Exploitation of the Environment in War and Armed Conflict).

Чалавецтва заўсёды лічыла ваенныя страты па колькасці забітых і параненых салдат і мірных жыхароў, разбураных гарадоў і інфраструктуры, а навакольнае асяроддзе заставалася ціхай і непрыкметнай ахвярай вайны. Для перамогі ў вайне засыпаліся студні, спальвалі пасевы, высякаліся лясы, знішчаліся ўгоддзі і выразалася жывёла.

Акрамя таго, Праграма ААН па навакольным асяроддзі (ЮНЭП) выявіла, што за апошнія 60 гадоў, прынамсі, 40% усіх унутраных канфліктаў былі звязаныя з эксплуатацыяй прыродных рэсурсаў, ці гэта будуць каштоўныя рэсурсы, такія як драўніна, алмазы, золата і нафта, ці дэфіцытныя рэсурсы, такія як ўрадлівыя землі і вада. Было таксама ўстаноўлена, што канфлікты, звязаныя з прыроднымі рэсурсамі, удвая часцей за іншыя маюць рэцыдывы.

ФОТАЗДЫМАК RUSLAN KADIEV З САЙТА DEVIANTART.COM




ААН: трывалы мір і развіццё ў постканфліктны перыяд немагчымыя без аховы навакольнага асяроддзя і рацыянальнай эксплуатацыі прыродных рэсурсаў.

Навакольнаму асяроддзю па-ранейшаму наносіцца шкода ў выніку ваенных дзеянняў. У той жа час працягвае павялічвацца попыт на прыродныя рэсурсы ў інтарэсах задавальнення ўсё большых запатрабаванняў насельніцтва Зямлі. Нестабільныя дзяржавы, у тым ліку постканфліктныя краіны, могуць сутыкнуцца з сур'ёзным канкурэнтным попытам на рэсурсы ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі. І сітуацыя толькі пагоршыцца пад уздзеяннем прагназуемых наступстваў змены клімату ў плане доступу да водных рэсурсаў, харчовай бяспекі, павышэння ўзроўню Сусветнага акіяна і характару размеркавання насельніцтва», — папераджальна заявіў Генсакратар ААН Пан Гі Мун у пасланні з нагоды Дня ў 2011 годзе.

# 09

# Міжнародны дзень супраць фашызму, расізму і антысемітызму

У ноч з 9 на 10 лістапада 1938 года на тэрыторыі Германіі і Аўстрыі прайшла серыя габрэйскіх пагромаў. Арганізаваная нацыстамі «Крыштальная ноч» ці «Ноч пабітых вітрынаў» стала першай масавай акцыяй фізічнага гвалту Трэцяга рэйха ў адносінах да габрэяў.



Назва «Крыштальная ноч» — ад аскепкаў вітрынаў, пабітых пагромшчыкамі.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА THE-BLOG-THIEF.BLOGSPOT.COM

Толькі ў першую ноч пагромаў ад рук нацыстаў загінуў 91 чалавек. Усяго ж у тыя дні загінулі больш за 1300 габрэяў — і гэта толькі афіцыйныя звесткі, якія ёсць у распараджэнні Гістарычнага музея ФРГ. 30 тысяч габрэяў былі схопленыя і адпраўленыя ў канцлагеры. Па ўсёй Германіі былі разбураны 267 сінагогаў і абшчынаў, больш за 7,5 тысячы крам і майстэрняў, якія належалі габрэям. Тратуары нямецкіх гарадоў былі ўсеяныя аскепкамі бітага шкла, якое даждлжом асыпалася з вокнаў разбураных і падпаленых нацыстамі габрэйскіх дамоў — менавіта таму гітлераўцы і празвалі ноч з 9 на 10 лістапада 1938 года «крыштальнай». І менавіта таму сёння гэта назва ў Германіі не ўжываецца афіцыйна: сумную дату 9 лістапада нямецкія ўлады называюць «Ноччу імперскіх пагромаў». Тым не менш, у многіх краінах Еўропы, дзе адзначаюць яе ўгодкі, людзі выкарыстоўваюць менавіта гэтую назву, укладаючы ў яе іншы сэнс, чым гэта рабілі нацысты: «Крыштальная ноч» нагадвае ім пра крохкасць чалавечага жыцця, пра тое, як лёгка разбіць чыёсьці існаванне і як немагчыма сабраць аскепкі разам.

ФОТАЗДЫМАК WIENER LIBRARY З САЙТА STOREFRONTWINDOWS.BLOGSPOT.COM




У сучаснай Германіі гэтую сумную дату афіцыйна называюць «Ноччу імперскіх пагромаў».

Пасля «Крыштальнай ночы» паток габрэйскіх эмігрантаў з Германіі і Аўстрыі рэзка павялічыўся, аднак нават у кастрычніку 1941 года ў гэтых краінах усё яшчэ заставалася прыкладна 164 тысячы габрэяў.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА YADVASHEM.ORG





У Германіі было адкрыта Цэнтральнае бюро габрэйскай эміграцыі для «заахвочвання» выезду габрэяў з краіны.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА XROADS.VIRGINIA.EDU

Паводле ацэнак гісторыкаў, практычна поўная адсутнасць рэакцыі на пагром як унутры самой Германіі, так і ў іншых краінах Еўропы развязала фашыстам рукі і паслужыла стымулам да пачатку масавага знішчэння еўрапейскіх габрэяў.

Пытанні антысемітызму ў сучасным свеце адыходзяць на другі план перад такімі праблемамі, як антымігранцкая істэрыя або ісламафобія. Але трэба памятаць, што Халакост — гэта не толькі праблема аднаго народа, а прыклад таго, да чаго прыводзіць палітыка «пошуку казла адпушчэння» і перакананні ў перавазе адной нацыі над іншымі.

У 70-ю гадавіну сумна знакамітай «Крыштальнай ночы», у 2008 годзе, па ўсёй Еўропе — ад Малдовы да Італіі, ад Латвіі да Вялікабрытаніі — добраахвотнікі раздавалі на вуліцах гарадоў адмыслова падрыхтаваныя нагрудныя знакі: празрыстыя Зоркі Давіда, «крыштальныя аскепкі» з надпісам на многіх еўрапейскіх мовах: «9 лістапада 1938 года — ніколі зноў!». І пэўнае «Ніколі зноў!» павінна стаць гарантам будучыні і адказам тым, хто прапаноўвае абмежаваць права адной групы людзей толькі таму, што яны чамусьці «не такія, як мы».

Палітычны экстрэмізм, тэрарызм, розныя формы нацыянальнай нецярпімасці, агрэсія, жорсткасць і гвалт зараз спрабуюць нахабна гаспадарыць на планеце, робячы немагчымым мірнае суіснаванне нацый і цэлых народаў. Важна разумець прыроду гэтых з'яваў і даваць ім адэкватную ацэнку, абапіраючыся пры гэтым на сусветны вопыт.

{ Версія }

*Афіцыйна падзеі «Крыштальнай ночы» з'яўляюцца рэакцыяй на забойства чыноўніка пасольства Германіі ў Парыжы Эрнста фон Рата маладым габрэйскім беженцам 7 лістапада 1938 года. Тады міністр прапаганды Ёзэф Гебельс заявіў, што прыйшоў час нанесці ўдар па габрэях.*

*«Гэта здарылася ў Парыжы, у гадавіну мюнхенскага путчу. Сямнаццацігадовы габрэй Грыншпан увайшоў у нямецкае пасольства і стрэлам з толькі што набытага пісталета забіў першага супрацоўніка, які трапіўся яму насустрач, маладога дарадцу фон Рата. У паліцыі Грыншпан заявіў, што хацеў адпомсціць за тое зло, якое немцы прычыняюць габрэям. Абурэнне, якое паднялося ў Германіі, усяляк распальвалася гебельсаўскай прапагандай, прэсай і радыё...» — так гэты гістарычны факт апісаны ў рамане Вернана Крэса «Зэкамерон XX стагоддзя».*

# 15

# *Міжнародны дзень пісьменніка ў зняволенні*

Штогод 15 лістапада адзначаецца Міжнародны дзень пісьменніка ў зняволенні (International Day of the Imprisoned Writer). Гэтая ініцыятыва належыць Міжнароднаму ПЭН-клубу (PEN International).

PEN (ПЭН) — абрэвіятура ад англійскіх слоў poet («паэт»), essayist («эсэіст»), novelist («раманіст»), якая ўтварае слова PEN («аўтаручка»). Арганізацыя PEN International, заснаваная




ў Лондане ў 1921 годзе, на сучасным этапе ўключае 144 цэнтры і ахоплівае больш за 100 краінаў свету.

Мэта Міжнароднага ПЭН-клуба — садзейнічанне творчаму супрацоўніцтву пісьменнікаў усяго свету. Таксама арганізацыя падтрымлівае пісьменнікаў, якія знаходзяцца ў турэмным зняволенні, маюць матэрыяльныя цяжкасці або замоўчваюцца палітычнымі рэжымамі, што ўдзельнікамі клуба вызначаецца як рэпрэсіўныя меры супраць пісьменнікаў.

Не з’яўляючыся палітычнай арганізацыяй, Міжнародны ПЭН-клуб мае кансультатыўны статус у Арганізацыі Аб’яднаных Нацый і ЮНЕСКА.

15 лістапада 1960 года на Міжнародным кангрэсе ў Бразіліі быў створаны Камітэт «Пісьменнікі ў зняволенні» Міжнароднага ПЭН-клуба — як вынік нарастаючай трывогі ў сувязі са спробамі прымусіць замаўчаць крытычныя галасы ва ўсім свеце.

Штогод у гэты дзень уся пэнаўская супольнасць успамінае пра забітых за мінулы год ва ўсім свеце пісьменнікаў і журналістаў. Канадка Мар'яна Ботсфард Фрэйзер, старшыня камітэта, высока ацэньвае вядучую ролю групы, якой яна кіруе, у маніторынгу парушэнняў правоў чалавека на планеце за мінулыя паўстагоддзя. «У гэты дзень мы хочам прыцягнуць увагу сусветнай грамадскасці да абуральных выпадкаў запалохванняў і фізічных расправ над пісьменнікамі і журналістамі, арыштаў і нават забойстваў толькі за тое, што яны скарысталіся сваім правам на свабоду слова», — падкрэслівае яна значэнне Міжнароднага дня пісьменніка ў зняволенні.

Камітэт выкарыстоўвае розныя формы дзейнасці — напісанне лістоў і зваротаў, спробы ўздзейнічаць на ўрады і ўзаемадзеянне з міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі. Сябры ПЭН-цэнтраў усяляюць упэўненасць у пісьменнікаў і журналістаў, якія пакутуюць у зняволенні, лістамі, а таксама падтрымліваюць матэрыяльна іх сем’і.

Кожны год камітэт вылучае некалькі найбольш абуральных выпадкаў з пісьменнікамі з розных рэгіёнаў свету і звяртае да іх увагу сусветнай супольнасці.

16

# Міжнародны дзень талерантнасці

Падчас 28-й Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў 1995 годзе была зацверджана Дэкларацыя прынцыпаў цярпімасці. Артыкулам 6 Дэкларацыі быў урачыста абвешчаны Міжнародны дзень, прысвечаны цярпімасці. У 1997 годзе Генеральная Асамблея ААН прапанавала дзяржавам-сябрам адзначаць гэтую дату.

Дэкларацыя пацвярджае, што цярпімасць — гэта не саступка або ласка. За гэтым азначэннем стаіць «павага, прыняцце і правільнае разуменне багатай шматстайнасці культур нашага свету, нашых формаў самавыяўлення і спосабаў праяваў чалавечай індывідуальнасці. Гэта стаўленне, якое фармуецца на аснове прызнання ўніверсальных правоў і асноўных свабодаў чалавека». Дэкларацыя абвяшчае «прызнанне таго, што людзі па сваёй прыродзе адрозніваюцца знешнім выглядам, становішчам, маўленнем, паводзінамі, каштоўнасцямі і маюць права жыць у міры і захоўваць сваю індывідуальнасць».




International Day for Tolerance.



Пад мазаічным пано «Залатое правіла» Нормана Роквела (ЗША) з людзьмі розных нацыянальнасцяў напісана: «Стаўся да іншых так, як хочаш, каб ставіліся да цябе».

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА UN.ORG



Пры рэжыме апартэіду ў Паўднёвай Афрыцы міжрасавыя шлюбы лічыліся незаконнымі. Аднак дзецям расавая дыскрымінацыя чужая.

Дэкларацыя вызначае талерантнасць не толькі як маральны абавязак, але і як палітычную і прававую патрэбу асобных людзей, групаў і дзяржаў. Яна ўсталёўвае яе прамую сувязь з міжнародна-прававымі актамі ў галіне правоў чалавека, прынятымі за апошнія пяцьдзясят гадоў, і заклікае дзяржавы, калі гэта неабходна, распрацаваць новае заканадаўства з мэтай забеспячэння ў грамадстве раўнапраўнага падыходу і роўнасці магчымасцяў для ўсіх групаў і асобных людзей.

Разам з абуральнай несправядлівасцю і жорсткасцю, дыскрымінацыя і маргіналізацыя з'яўляюцца найбольш частымі формамі неталерантнасці.

Сярод метадаў барацьбы з неталерантнасцю ААН называе:

- Заканадаўства
  Кожная дзяржава нясе адказнасць за забарону і пакаранне злачынстваў, якія здзяйсняюцца на глебе нянавісці і дыскрымінацыі.
- Адукацыю
  Выхаванне талерантнасці праз адукацыю павінна тычыцца ўсіх узроставых групаў і прымяняцца паўсюль.
- Доступ да неабходнай інфармацыі
  Нецярпімасць асабліва небяспечная, калі выкарыстоўваецца для дасягнення палітычных ці тэрытарыяльных амбіцый асобных асобаў або групы асобаў. Абмежаваць магчымасці падбухторшчыкаў можна праз распрацоўку мераў па заахвочванні свабоды і разнастайнасці меркаванняў прэсы, з тым каб даць магчымасць грамадскасці правесці рысу паміж фактамі і меркаваннямі.
- Асабістую дасведчанасць людзей
  Кожны павінен задаць сабе пытанне: ці з'яўляюся я памяркоўным чалавекам? Ці пазбягаю я тых, хто адрозніваецца ад мяне? Ці абвінавачваю я іх у сваіх праблемах?
- Рашэнні на мясцовым узроўні
  Негвалтоўныя акцыі — сродак выкарыстання масавага патэнцыялу ў змаганні з праявамі нецярпімасці, жорсткасці і нянавісці.

«Адзначаючы гэтую міжнародную дату, давайце запомнім: актыўная талерантнасць пачынаецца з кожнага з нас, кожны дзень», — заклікае ААН.



Асноўныя прынцыпы талерантнасці:

- Найперш — адмаўленне ад гвалту як непрымальнага сродку далучэння чалавека да якой-небудзь ідэі. Выбар мусіць быць добраахвотным, мусіць захоўвацца свабода сумлення і шчырасць перакананняў.
- Уменне прымусіць сябе, не змушаючы іншых. Страх і прымус звонку не спрыяюць умацаванню талерантнасці, хоць часам і выкарыстоўваюцца як выхаваўчы фактар з мэтай дысцыплінаваць людзей.
- Талерантнасць, у еўрапейскім разуменні, задае прыклад «законапаслухмянасці» — падпарадкавання законам, традыцыям і звычаям. Важным фактарам грамадскага развіцця з'яўляецца падпарадкаванне законам, а не волі нейкай большасці ці нейкай адной асобы.
- Прыняцце іншага чалавека — адрознага паводле нацыянальных, расавых, культурных, рэлігійных і іншых прыкметаў.

У 1995 годзе ў азнаменаванне Года ААН, прысвечанага цярпімасці, ЮНЕСКА заснавала Прэмію імя Маданжыта Сінгха. Яна прысуджаецца за актыўную дзейнасць у навуковай, мастацкай, культурнай ці камунікатыўнай галінах, скіраваную на стварэнне атмасферы цярпімасці і негвалтоўных дзеянняў. Прэмія была заснаваная дзякуючы шчодрым ахвяраванням індыйскага мастака, пісьменніка і дыпламата Маданжыта Сінгха, які стаў паслом добрай волі ЮНЕСКА. Прысуджаецца раз на два гады — 16 лістапада. Лаўрэатамі могуць стаць як установы, арганізацыі, так і асобы, якія вядуць эфектыўную дзейнасць па зацвярджэнні талерантнасці і нягвалту ў грамадстве.

20

# Сусветны дзень дзіцяці




БАНЕР З САЙТА SEPTEMBERMEDIA.RO

Universal Children's Day.

У 1954 годзе Генеральная Асамблея ААН рэкамендавала ўсім краінам-сябрам увесці ў практыку святкаванне гэтай даты як дня сусветнага братэрства, ўзаемаразумення дзяцей і прысвяціць яго дзейнасці, скіраванай на забеспячэнне дабрабыту дзяцей ва ўсім свеце. 20 лістапада было абранае таму, што ў гэты дзень у 1959 годзе Генасамблея ААН прыняла Дэкларацыю правоў дзіцяці, а ў 1989 годзе – Канвенцыю пра правы дзіцяці.

Штогод 11 мільёнаў дзяцей паміраюць, не дажыўшы да свайго пятага дня нараджэння, яшчэ дзясяткі мільёнаў застаюцца фізічна або разумова хворымі, не маючы магчымасці для сталення, жыцця і развіцця. Такая статыстыка прыводзіцца ў інфармацыйным паведамленні ААН з нагоды Дня дзіцяці. Многія з гэтых смерцяў выкліканы хваробамі, якія лёгка прадухіляюцца ці лёгка вылечваюцца; іншыя – згубнымі наступствамі галечы, невуцтва, дыскрымінацыі і гвалту. Усе разам гэтыя прычыны прыносяць цяжкія страты сем'ям, абшчынам, дзяржавам і ўсяму свету, канстатуе ААН.

НА МІЖНАРОДНЫМ УЗРОЎНІ ШЫРОКУЮ ПРАЦУ ПА ЎСІХ АСПЕКТАХ ДЗІЦЯЧАГА ЗДАРОЎЯ — АД ПЕРАДРОДАВАГА ПЕРЫЯДУ ДА ЮНАЦТВА — ВЯДЗЕ ДЗІЦЯЧЫ ФОНД АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ, ЦІ ЮНІСЕФ (UNICEF).

Фонд прымае меры па забеспячэнні цяжарным жанчынам доступу да належнага медыцынскага назірання да і падчас родаў, умацаванні магчымасці для сем'яў спраўляцца з дзіцячымі хваробамі ў хатніх умовах, кансультуе абшчыны па пытаннях забеспячэння максімальнага ўзроўню аховы здароўя. Дзіцячы фонд не аддзяляе дапамогу маці і дзіцяці. Сярод асноўных мэтаў арганізацыі – барацьба з галечай, скарачэнне смяротнасці дзяцей і маці, пашырэнне даступнасці пачатковай адукацыі для дзяцей. У дасягненні гэтых і іншых мэтаў ЮНІСЕФ дапамагаюць больш за 180 паслоў добрай волі.




Прадстаўнік ЮНІСЕФ у РБ Юрый Аксамітны і Максім Мірны на цырымоніі прызначэння.



Максім Мірны ў ролі Пасла добрай волі ЮНІСЕФ даў майстар-клас для юных тэнісістаў.

^ ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА UNICEF.BY

У 2011 годзе знакаміты ва ўсім свеце беларускі тэнісіст Максім Мірны быў прызначаны Паслом добрай волі ЮНІСЕФ. Прадстаўнік Беларусі далучыўся да шэрагу такіх вядомых асобаў, як акцёр Пірс Броснан, спявак Робі Вільямс, мадэль Клаўдыя Шыфер, тэнісіст Новак Джокавіч, гоншчык «Формулы-1» Фернанда Алонса.

«Безумоўна, гэта знакавы момант у маім жыцці, таму што, акрамя ўсіх маіх спартыўных дасягненняў, асабістых, сямейных пытанняў, гэта чарговы важны жыццёвы крок, да якога я стаўлюся з усёй адказнасцю», — заявіў Максім Мірны падчас афіцыйнай цырымоніі прызначэння. Ужо ў ролі Пасла добрай волі ЮНІСЕФ спартсмен дадаў: «У мяне цудоўныя адносіны з маім бацькам, я сам — бацька ўжо траіх дзяцей. Таму востра адчуваю праблемы дзяцей у свеце і, у прыватнасці, у Беларусі. Хачу, каб жыццё кожнага дзіцяці набывала гарманічны характар і паўнавартаснае развіццё. Я маю намер прыкласці максімальныя намаганні, каб увасобіць гэта ў жыццё, зрабіць жыццё дзяцей як мага больш шчаслівым».

Да пачатку дзейнасці ЮНІСЕФ у Беларусі можна аднесці ўдзел Фонду ў падрыхтоўцы і апублікаванні ў 1995 годзе Нацыянальнага даклада «Дзеці і жанчыны Беларусі: сёння і заўтра». У сакавіку 1997 года была арганізавана праца беларускага аддзялення рэгіянальнага прадстаўніцтва ЮНІСЕФ, якое падтрымлівае праграмы і праекты, распрацаваныя сумесна з урадавымі і грамадскімі арганізацыямі Беларусі.

{ Даследаванне }

*У 2012 годзе Сусветная арганізацыя аховы здароўя апублікавала даклад «Сацыяльныя дэтэрмінанты здароўя і дабрабыту падлеткаў», які выяўляе няроўнасці паміж краінамі. Напрыклад, паказчыкі залішняй масы цела і атлусцення ў дзяўчынак вар'іруюцца ад 30% у Злучаных Штатах Амерыкі да толькі 5% у Швейцарыі. Паказчыкі тытунекурэння, якія досыць падобныя ў 11-гадовым узросце (менш за 1%), ужо ў 15 гадоў рэзка адрозніваюцца па краінах. Калі ў Аўстрыі і Літве доля 15-гадовых хлопчыкаў і дзяўчынак, якія кураць, перавышае 25%, то ў Нарвегіі і Партугаліі яна складае 10%. Гэта дазваляе меркаваць, што, змяніўшы кантэкст сацыяльнага асяроддзя, можна палепшыць здароўе падлеткаў.*

21

# Заснаванне Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе

21 лістапада 1990 года большасцю еўрапейскіх урадаў, Канадай, ЗША і СССР была падпісаная Парыжская хартыя для новай Еўропы — перспектыўны дакумент, які заклаў асновы Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ).

OSCE
ORGANIZATION FOR SECURITY AND CO-OPERATION IN EUROPE

Асноўнай задачай Парыжскай хартыі было замяніць былыя рознагалоссі і супярэчнасці на прасторы ад Ванкувера да Уладзівастока новымі інстытутамі агульнай бяспекі. Краіны-ўдзельніцы паабяцалі паляпшаць адносіны паміж сабой, лічыць бяспеку еўраатлантычнай прасторы непадзельнай і супрацоўнічаць на аснове ўзаемапавагі і агульных дэмакратычных каштоўнасцяў.

На працягу 15 гадоў да гэтага функцыянавала Нарада па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (НБСЕ) — як серыя нарадаў і сустрэч, на якіх абмяркоўваліся новыя абавязацельствы, а таксама рэгулярна разглядалася іх рэалізацыя. У НБСЕ прымалі ўдзел 35 дзяржаў. Развіццё сітуацыі з бяспекай у Еўропе ў 90-х гадах і, што асабліва важна, распад Югаславіі і Савецкага Саюза прывялі да фундаментальных зменаў у НБСЕ. Гэтыя змены знайшлі сваё адлюстраванне на Будапешцкім саміце 1994 года, дзе назва была зменена з НБСЕ на АБСЕ.

АБСЕ, узяўшы за аснову шырокую канцэпцыю бяспекі, займаецца ў роўнай меры і правамі чалавека. Арганізацыя разумее бяспеку шырэй за проста адсутнасць вайны. У якасці аднаго з яе дзесяці кіруючых прынцыпаў у Хельсінкскім Заключным акце прызнаецца «павага да правоў чалавека і асноўных свабодаў, уключаючы свабоду думкі, сумлення, рэлігіі або перакананняў». Гэта ўяўляе сабой важны этап у гісторыі абароны правоў чалавека. Упершыню прынцыпы правоў чалавека былі ўключаныя ў сістэму рэгіянальнай бяспекі як выразна акрэсленая і неад'емная частка, на той жа аснове, што і ваенна-палітычныя і эканамічныя пытанні.

Гэтае прызнанне падмацавана шматлікімі дакументамі, прынятымі пазней. Сярод гэтых прынцыпаў няма галоўных і другарадных, і ні адзін урад не можа заяўляць, што ён павінен забяспечыць палітыка-эканамічную бяспеку да таго, як зоймецца пытаннямі правоў чалавека і дэмакратыі.

Згодна з канцэпцыяй АБСЕ, свабоднае грамадства, якое дазваляе кожнаму чалавеку паўнавартасна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці, з'яўляецца гарантыяй ад канфліктаў і нестабільнасці. Так, напрыклад, выгнанне асобных асобаў або групаў з грамадства, часам па этнічнай прыкмеце, прыводзіць да напругі, а часам нават да ўзброеных канфліктаў.

Яшчэ адным прыкладам можа служыць уплыў на бяспеку крызісаў, звязаных з бежанцамі і часта выкліканых масавымі парушэннямі правоў чалавека.

У тэрміналогіі АБСЕ выкарыстоўваецца выраз «чалавечае вымярэнне» — для апісання комплексу нормаў і мераў, звязаных з правамі чалавека і дэмакратыяй, якія разглядаюцца ў рамках АБСЕ як адно з трох вымярэнняў бяспекі, разам з ваенна-палітычным і эканоміка-экалагічным. Гэты тэрмін паказвае таксама, што нормы АБСЕ ў гэтай галіне ахопліваюць больш шырокую сферу за традыцыйнае права ў галіне правоў чалавека. Пытанні чалавечага вымярэння абмяркоўваюцца на штогадовай канферэнцыі па аглядзе выканання абавязацельстваў у гуманітарнай сферы, якая праводзіцца ў Варшаве.

Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ), якое працуе ў Варшаве з 1990 года, займаецца садзейнічаннем у правядзенні выбараў і маніторынгам за імі, падтрымкай дэмакратычных інстытутаў, НДА, правоў чалавека. Вярхоўны камісар па справах нацыянальных меншасцяў, які функцыянуе з 1992 года ў Гаазе, — інструмент прэвентыўнай дыпламатыі. Яго асноўная задача — папярэджанне на як мага больш ранняй стадыі канфліктаў на этнічнай глебе. Прадстаўнік па свабодзе СМІ, які працуе з 1997 года ў Вене, аказвае садзейнічанне ўрадам дзяржаў у развіцці свабоднай прэсы.

Парламенцкая Асамблея АБСЕ створана ў 1991 годзе ў якасці самастойнай парламенцкай структуры. Складаецца з парламентарыяў краінаў АБСЕ, якія збіраюцца два разы на год на летнія і зімовыя сесіі ў адной з дзяржаў-удзельніц. Рэзалюцыі Асамблеі не маюць абавязковай сілы для ўрадаў.

На сённяшні дзень АБСЕ з'яўляецца найбуйнейшай у свеце рэгіянальнай арганізацыяй па бяспецы, налічваючы 57 дзяржаў-удзельніц. Арганізацыя кіруецца прынцыпамі роўнага партнёрства, салідарнасці і транспарэнтнасці. Усе дзяржавы-ўдзельніцы маюць роўны статус.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТАЎ: GDB.VOANEWS.COM, CHARTER97.ORG, DITORD.COM.









## У 2011 годзе офіс АБСЕ ў Мінску спыніў сваю працу.

*Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка рэзка раскрытыкаваў пазіцыю АБСЕ наконт прэзідэнцкіх выбараў, якія адбыліся 19 снежня 2010 года. У выніку беларускія ўлады не працягнулі мандат офіса АБСЕ, які працаваў на тэрыторыі рэспублікі з 2003 года. Дазвол скончыўся 31 снежня 2010 года.*

# 21

# Сусветны дзень тэлебачання

У снежні 1996 года Генеральная Асамблея ААН абвясціла 21 лістапада Сусветным днём тэлебачання (World Television Day) у якасці аднаго з сімвалаў улады, якую маюць над розумамі чалавецтва новыя СМІ.



ААН: тэлебачанне не павінна распаўсюджваць нецярпімасць, стэрэатыпы і бесчалавечнасць.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА GLOWIMAGES.NL

Сусветны дзень тэлебачання па сваёй сутнасці хутчэй прысвечаны той філасофіі, якую прыўносіць у нашае жыццё тэлебачанне, а не яго тэхнічным аспектам. У сучасным свеце тэлебачанне з'яўляецца сімвалам сувязі і глабалізацыі.

Дата была абраная ў азнаменаванне першага Сусветнага тэлевізійнага форуму, які адбыўся 21–22 лістапада 1996 года. На ім вядучыя дзеячы сродкаў масавай інфармацыі сустрэліся пад эгідай ААН для абмеркавання пытання пра ўсё большае значэнне тэлебачання ў сучасным свеце і для разгляду шляхоў магчымага ўмацавання свайго ўзаемнага супрацоўніцтва.

Усё, што мы бачым па тэлебачанні, прама або апасродкавана, фармуе нашае жыццё і аказвае на яго ўздзеянне. Тэлебачанне нас выхоўвае, інфармуе, забаўляе, дае нам ўказанні і ўплывае на нас у многіх адносінах. Моладзь больш адчувальная да візуальнага ўздзеяння, і мы цалкам можам чакаць фармавання ў яе новых сістэм каштоўнасцяў.

На сайце ААН выкладзена бачанне ролі тэлебачання ў працэсе развіцця сучаснага грамадства: «Наш свет, у якім усё ўзаемазалежна, мае патрэбу ва ўніверсальным і недыскрымінацыйным інфармацыйным грамадстве, якое прасоўвае паразуменне і ўзаемную талерантнасць і падтрымлівае плюралізм поглядаў. Тэлебачанне можа зрабіць сур'ёзны ўклад у гэтым кірунку шляхам вытворчасці і распаўсюджвання як у развітых, так і ў краінах, якія развіваюцца, перадачаў з разнастайным высакаякасным зместам, якія адлюстроўваюць нацыянальныя і мясцовыя культуры і важныя для мясцовых суполак. Тэлебачанне можа таксама прадаставіць экран для таго, каб з яго гучалі галасы ўсіх членаў грамадства, а не толькі самых уплывовых. І, як і іншыя сродкі масавай інфармацыі, як радыё і Інтэрнэт, тэлебачанне павінна паклапаціцца аб тым, каб не стаць сродкам для распаўсюджвання нецярпімасці, стэрэатыпаў і бесчалавечных матэрыялаў».

Заснаванне Дня з боку ААН стала прызнаннем нарастальнага ўздзеяння, якое аказвае тэлебачанне на працэсы прыняцця рашэнняў, прыцягваючы ўвагу ўсяго свету да канфліктаў і пагрозаў міру і бяспецы, а таксама яго патэнцыйнай ролі ў факусаванні ўвагі на іншых вялікіх праблемах, уключаючы эканамічныя і сацыяльныя пытанні. Тэлебачанне, такім чынам, было прызнана ў якасці важнага інструмента арыентацыі, напрамку і маніторынгу грамадскай думкі. Цяжка пераацаніць яго ўплыў і ўздзеянне на сусветную палітыку.

# 24

# *Забарона газеты «Свабода»*



Рэдактар «Свабоды» Ігар Германчук (1961—2002).

^ ФОТАЗДЫМАК З САЙТА SVABODA.ORG

24 лістапада 1997 года паводле рашэння Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь была забаронена агульнанацыянальная газета «Свабода». Фармальнай падставай стаў шэраг папярэджанняў ад Дзяржаўнага камітэта па друку. Вышэйшы гаспадарчы суд разглядаў справу ўсяго 15 хвілін.

Упершыню газета «Свабода» з'явілася ў 1902 годзе, але царская паліцыя паспела канфіскаваць увесь наклад да таго, як ён пачаў распаўсюджвацца. Так скончыўся першы этап існавання газеты.

У 1990 годзе выданне «Свабоды» было адноўленае групай маладых журналістаў. Першы нумар газеты выйшаў 25 сакавіка 1990 года і быў прымеркаваны да 73-й гадавіны ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, таму з'явіўся пад назвай «Дзень Волі». Да жніўня 1991 года газета выходзіла нелегальна. Толькі распад СССР дазволіў свабодна друкаваць і распаўсюджваць газету. З пачаткам прэзідэнцкага праўлення



«Хартыя-97» пайшла ў пасольствы (стар. 2)
Зварот Зянона Пазьняка да грамадзянаў Беларусі (стар. 4)

СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар
Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец - рэдакцыя
газеты СВАБОДА
Наклад 90 000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 21 лістапада 1997 г. | № 129 | Кошт свабодны

**Паступіла каманда: СВАБОДУ закрыць!**

*Мы атрымалі важную інфармацыю: Вышэйшаму гаспадарчаму суду загадана тэрмінова прыняць рашэнне аб закрыцці газеты СВАБОДА*

Такое ўказанне паступіла ў суд з прэзідэнцкай адміністрацыі. Судовае пасяджэнне пачнецца ў панядзелак, 24 лістапада. Каб дапамагчы суду, Дзяржаўны камітэт па друку 19 лістапада апэратыўна вынес СВАБОДЗЕ адразу два «папярэджанні аб парушэнні закона».

**«Ноч сцягоў» у Беларусі**

**Больш за дваццаць бел-чырвона-белых сцягоў былі вывешаныя ў розных гарадах Беларусі ў ноч з серады на чацвер.**

Акцыя выглядае як добра падрыхтаваная і скаардынаваная па часе, што наводзіць на думку аб дзейнасці разгалінаванай і моцнай арганізацыі. Але дагэтуль ніхто з партыяў ці палітычных аб'яднанняў не ўзяў на сябе адказнасць за «ноч сцягоў».

Шасць на адкаго. Ён быў супраць рэферэндуму.

Нумар «Свабоды» ад 21 лістапада 1997 года з інфармацыяй пра закрыццё выдання. З архіва Паліны Сцепаненка.

Аляксандра Лукашэнкі газета стала ўсё часцей «наступаць на мазалі» дзеючай уладзе. Шукаліся ўсе магчымыя і немагчымыя падставы, каб прымусіць «Свабоду» замоўкнуць назаўсёды. Пад канец 1997 года газета атрымала адразу некалькі папярэджанняў ад Дзяржаўнага камітэта па друку — паводле беларускага заканадаўства, на падставе двух з іх ужо можна закрываць выданне, а «Свабода» мела ажно шэсць папярэджанняў.

За некалькі дзён да суда газеце накіравалі адразу два «папярэджанні аб парушэнні закона». Да прыкладу, адно з іх было вынесена за артыкул «Дзяды ў Мінску», дзе чыноўнікі ўбачылі правядзенне паралелі паміж падзеямі 1937 года і нашага часу. Маўляў, артыкул быў накіраваны на запалохванне грамадзянаў Беларусі «рэпрэсіямі».




Фотаздымак з уласнага архіва Паліны Сцепаненка

Пікет у падтрымку «Свабоды» на плошчы Якуба Коласа ў Мінску.

## У НАС ЗАЎСЁДЫ БЫЛІ НЯПРОСТЫЯ АДНОСІНЫ З УЛАДАЙ. ПРЫ КАМУНІСТАХ ГЭТА БЫЛО ПАЎПАДПОЛЬНАЕ ВЫДАННЕ. А З ПРЫХОДАМ ЛУКАШЭНКІ ДА ЎЛАДЫ ГАЗЕТУ СТАЛА РАБІЦЬ ЦЯЖЭЙ, ЧЫМ ПРЫ КАМУНІСТАХ.

Галоўны рэдактар газеты «Свабода» Ігар Германчук распавядаў у 1998 годзе: «У нас заўсёды былі няпростыя адносіны з уладай. Пры камуністах гэта было паўпадпольнае выданне. А з прыходам Лукашэнкі да ўлады газету стала рабіць цяжэй, чым пры камуністах. У 1997 годзе пачалі арыштоўваць журналістаў падчас асвятлення імі дэманстрацый апазіцыі. У 1997 годзе была моладзевая маніфестацыя, недазволеная ўладамі. Натуральна, моладзь пайшла на маніфестацыю. Натуральна, я паслаў на гэтую акцыю аднаго з карэспандэнтаў. Потым мы атрымалі паведамленне, што ён быў арыштаваны міліцыяй. Тады я накіраваў на месца падзеяў яшчэ двух журналістаў, іх таксама арыштавалі на падыходзе да месца акцыі. У адзін вечар былі схопленыя тры нашыя журналісты. А ўсяго у гэты вечар было арыштавана каля 20 журналістаў. Іх, безумоўна, выпусцілі праз чатыры-пяць гадзін, але без усялякіх тлумачэнняў. Я патрабаваў, каб пракуратура правяла расследаванне, але мае настойлівыя патрабаванні былі праігнараваныя. Такім чынам, у 1997 годзе пачаў прымяняцца гвалт супраць журналістаў. А затым прэзідэнт Лукашэнка, у рэшце рэшт, вырашыў забараніць газету. У выніку пятнаццаціхвіліннага разбіральніцтва, якое было фармальным, суд забараніў газету. Фармальна гэта зрабіў суд, хаця дакладна было вядома, што гэта распараджэнне Лукашэнкі. Газета выходзіла восем гадоў, а за 15 хвілін яе забаранілі».



Барыс Хамайда, віцебскі распаўсюднік незалежнай прэсы, неаднаразова затрымліваўся за «Свабоду».

Фотаздымак з сайта news.vitebsk.cc

З 16 студзеня 1998 года «Свабода» стала выходзіць пад новай назвай — «Навіны». 24 верасня 1999 года суд задаволіў іск Дзяржаўнага сакратара Савета Бяспекі Віктара Шэймана да газеты памерам у 15 мільярдаў рублёў. З верасня газета «Навіны» спыніла выхад. 25 лютага 2000 года выпуск аднаўляецца — выходзіць васьміпалосны першы нумар газеты «Наша Свабода», якая была забаронена ў 2002 годзе.

# 25

# Міжнародны дзень барацьбы за ліквідацыю гвалту ў дачыненні да жанчын




Гэты міжнародны дзень Генеральная Асамблея ААН абвясціла ў снежні 1999 года. Жанчыны-актывісткі з усяго свету адзначаюць 25 лістапада ў знак барацьбы супраць гвалту, пачынаючы з 1981 года. Гістарычнай перадумовай стала падзея, якая адбылася ў 1961 годзе ў Дамініканскай Рэспубліцы: па загадзе дамініканскага дыктатара Рафаэля Трухільё (Rafael Trujillo) былі па-зверску забітыя тры сястры Мірабал, якія з'яўляліся вядомымі палітычнымі актывісткамі.

20 снежня 1993 года Генеральная Асамблея ААН прыняла Дэкларацыю па выкараненні гвалту ў адносінах да жанчын. З'яўленне гэтага дакумента было выклікана трывогамі ААН наконт таго, што «магчымасці дасягнення жанчынамі юрыдычнай, сацыяльнай, палітычнай і эканамічнай роўнасці ў грамадстве абмяжоўваюцца, у прыватнасці, сталым і эндэмічным характарам гвалту». Дэкларацыя абвяшчалася як прызнанне настойлівай неабходнасці «універсальнага

ПОСТЭР З САЙТА MIRIAMESLSITE.WEEBLY.COM




Карані гвалту над жанчынамі палягаюць у гістарычнай няроўнасці ў стасунках паміж мужчынамі і жанчынамі.

прымянення ў адносінах да жанчын правоў і прынцыпаў, якія тычацца роўнасці, бяспекі, свабоды, недатыкальнасці і годнасці ўсіх людзей». Гэтыя правы і прынцыпы замацаваныя ў міжнародных дакументах, у тым ліку ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Міжнародным пакце пра грамадзянскія і палітычныя правы, Міжнародным пакце пра эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы, Канвенцыі пра ліквідацыю ўсіх формаў дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын і ў Канвенцыі супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання.

Праз шэсць гадоў пасля абвяшчэння Дэкларацыі Генеральная Асамблея ААН абвясціла Міжнародны дзень барацьбы за ліквідацыю гвалту ў адносінах да жанчын і прапанавала

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА HUNGEREE.COM



Мастацкая выстава супраць гвалту ў дачыненні да жанчын. Буэнас-Айрэс (Аргентына), 25 лістапада 2012 года.




«Працэс рэфармавання Бірмы павінен спыніць гвалт у дачыненні да жанчын!» Бірма, 2012 год.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА BURMAPARTNERSHIP.ORG

ўрадам, міжнародным і няўрадавым арганізацыям праводзіць у гэты дзень мерапрыемствы, накіраваныя на прыцягненне ўвагі грамадскасці да гэтай праблемы.

У асобных краінах на гэты конт існуюць свае традыцыі. Напрыклад, у Канадзе штогод адзначаецца Нацыянальны дзень памяці і дзеяння ў супраць гвалту над жанчынамі (National Day of Remembrance and Action on Violence Against Women). Гэты дзень, які прыпадае на 6 снежня, нагадвае канадцам пра падзеі Манрэальскага пагрому 1989 года, калі 14 жанчын былі ізаляваныя і па-зверску забітыя. У гэты дзень у Канадзе праходзяць начныя дзяжурствы, палітычныя дэбаты і іншыя мерапрыемствы, скіраваныя на ліквідацыю гвалту над жанчынамі.

Асобнай вялікай тэмай з'яўляецца гвалт у сям'і, ад якога пакутуе немалая колькасць жанчын. Гэтым пытаннем займаецца ўсё большая колькасць праваабарончых арганізацыяў. Праваабаронцы заклікаюць усіх ахвяраў гвалту звяртацца па дапамогу, а не трываць боль і знявагу.

Гвалту супраць жанчынаў павінны супрацьстаяць поўнае грамадскае непрыманне і адпаведная заканадаўчая база.

Сімвалам супраць усіх формаў гвалту над жанчынамі і захавання мацярынства з'яўляецца белая стужачка. У апошнія гады яе існаванне паступова становіцца вядомым ва ўсё большай колькасці краінаў.

## *У 2008 годзе Генсакратар ААН Пан Гі Мун разгарнуў кампанію за спыненне гвалту над жанчынамі.*

*«Выродлівыя праявы гвалту ў дачыненні да жанчын і дзяўчынак маюць месца на ўсіх кантынентах, ва ўсіх краінах і культурах, — заявіў ён. — Настаў час засяродзіць увагу на канкрэтных мерах, якія ўсе мы: дзяржавы-сябры, сям'я Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, грамадзянская супольнасць і індывідуальныя асобы (жанчыны і мужчыны) — можам і павінны прыняць дзеля прадухілення і выкаранення гэтага зла. Настала пара прабіць брэш у гэтай сцяне маўчання і зрабіць так, каб прававыя нормы сталі рэчаіснасцю ў жыцці жанчын».*

*Таксама запушчана сумесная ініцыятыва 12 установаў ААН — «Дзеянні ААН супраць сэксуальнага гвалту ў канфліктах».*




ААН: «Разам пакончым з гвалтам у дачыненні да жанчын».

ПОСТЭР З САЙТА UN.ORG

# 30

# «Гарады за жыццё — гарады супраць смяротнага пакарання»

Міжнародная акцыя «Гарады за жыццё — гарады супраць смяротнага пакарання» ладзіцца ў тых краінах, дзе смяротная кара ўжо на практыцы не прымяняецца.

Ініцыятарам штогадовай акцыі з'яўляецца рымская «Абшчына Святога Ігідзія», якую падтрымлівае Amnesty International і іншыя ўдзельнікі Сусветнай кааліцыі супраць смяротнага пакарання. Упершыню акцыя была праведзеная ў 2002 годзе. Дата 30 лістапада абраная таму, што ў гэты дзень яшчэ ў 1786 годзе ў італьянскім княстве Таскана ўпершыню ў гісторыі еўрапейскіх дзяржаваў было адмененае смяротнае пакаранне.

Ініцыятыва «Абшчыны Святога Ігідзія» з'яўляецца самай буйной у свеце у барацьбе за неад'емнае права чалавека на жыццё. Калі ў першай міжнароднай акцыі ў 2002 годзе бралі ўдзел каля 80 гарадоў, то ў 2012 годзе колькасць гарадоў-удзельнікаў дасягнула 1500 з 90 краінаў свету, у шэрагу якіх 69 сталіц. Падчас акцыі гарады без смяротнага пакарання падсвятляюць свае знакамітыя архітэктурныя помнікі і плошчы-сімвалы ў падтрымку права на жыццё. У гэты дзень звычайна ладзяцца канцэрты, сустрэчы, маніфестацыі, дыскусіі на тэму смяротнай кары. Праваабаронцы, грамадскія актывісты і простыя грамадзяне такім чынам спрабуюць давесці, што гэты від пакарання непрымальны ва ўсіх без выключэння выпадках: «Любы смяротны прысуд — гэта

CITIES FOR LIFE
CITIES AGAINST THE DEATH PENALTY
Comunità di Sant'Egidio

знявага чалавечай годнасці, любое пакаранне смерцю — гэта прыкмета культуры гвалту, а не сродак яго стрымання».

На момант прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ў 1948 годзе толькі восем краінаў цалкам адмовіліся ад прымянення вышэйшай меры пакарання. У цяперашні час больш за дзве траціны дзяржаў адмянілі смяротнае пакаранне ў заканадаўчым парадку ці ж не ўжываюць яго на практыцы.

Нягледзячы на тое, што ўлады Беларусі не адмаўляюцца ад смяротнага пакарання, праваабаронцы і грамадскія актывісты штогод 30 лістапада далучаюцца да ініцыятывы «Гарады за жыццё — гарады супраць смяротнага пакарання» — сімвалічна падсвятляюць свечкамі Чырвоны касцёл у Мінску, сярод іншага выказваючы спадзяванне, што рэлігійныя канфесіі ў краіне будуць больш актыўна выказвацца па пытанні смяротнага пакарання.

# 2013

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

# 2014

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

# 12

03

# Міжнародны дзень інвалідаў

14 кастрычніка 1992 года Генеральная Асамблея ААН абвясціла 3 снежня Міжнародным днём інвалідаў.

Інваліднасць — гэта медыцынскі стан ці сур'ёзна парушаная функцыя арганізма, што істотна абмяжоўвае магчымасці індывіда ў кантэксце стандартных нормаў для асобных групаў. Гэты тэрмін часта выкарыстоўваецца для абазначэння індывідуальных функцый арганізма, уключаючы фізічныя недахопы, сэнсарныя, кагнітыўныя ці інтэлектуальныя парушэнні, псіхічныя захворванні, а таксама розныя віды хранічных захворванняў.

Па ўсім свеце людзі з інваліднасцю дэманструюць больш нізкія вынікі ў дачыненні да здароўя, больш нізкія дасягненні ў галіне адукацыі, меншую эканамічную актыўнасць і больш высокія паказчыкі беднасці, чым не інваліды. Збольшага гэта звязана з тым, што інваліды сутыкаюцца з бар'ерамі, якія перашкаджаюць іх доступу да паслугаў, якія для многіх з нас з'яўляюцца звыклымі, такіх як ахова здароўя, адукацыя, занятасць і транспарт, а таксама інфармацыя.



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА SUNSEEKERMOBILITY.COM

Кожны заслугоўвае магчымасці працаваць ва ўмовах роўнасці, бяспекі і павагі чалавечай годнасці.

Гэтыя перашкоды могуць прымаць розныя формы, якія датычацца ў тым ліку фізічнага асяроддзя, заканадаўства, палітыкі, грамадскіх адносінаў ці дыскрымінацыі.

Людзі з абмежаванымі магчымасцямі падвергнутыя больш высокай рызыцы гвалту. Паводле статыстыкі, дзеці з абмежаванымі магчымасцямі амаль у чатыры разы часцей за іх здаровых аднагодкаў падвяргаюцца гвалту. У дарослых з некаторымі абмежаванымі формамі інваліднасці ў 1,5 разы больш шанцаў стаць ахвярай гвалту. У дарослых з парушэннямі псіхічнага здароўя амаль у чатыры разы больш шанцаў стаць ахвярай гвалту. Павышэнню рызыкі гвалту ў дачыненні да людзей з абмежаванымі магчымасцямі садзейнічаюць такія фактары, як стыгма, дыскрымінацыя і невуцтва, а таксама адсутнасць сацыяльнай падтрымкі для тых, хто клапоціцца пра іх.

**1** больш за **МЛРД**

чалавек у свеце маюць тую ці іншую форму інваліднасці, а гэта кожны сёмы

**100** больш за **МЛН**

інвалідаў — дзеці. Дзеці з абмежаванымі магчымасцямі амаль у чатыры разы часцей падвяргаюцца гвалту, чым іх здаровыя аднагодкі

## Лічбы і факты ААН

**80%**

усіх людзей з абмежаванымі магчымасцямі пражываюць у краінах, якія развіваюцца

**50%**

інвалідаў не могуць дазволіць сабе паслугі ў галіне аховы здароўя

**155 КРАІН**

падпісалі Канвенцыю аб правах інвалідаў

*Канвенцыя пра правы інвалідаў прызнае, што наяўнасць бар'ераў уяўляе сабой цэнтральны кампанент інваліднасці. У адпаведнасці з дакументам, канцэпцыя інваліднасці эвалюцыянуе «у ходзе пераадолення людзьмі з парушэннямі розных паводніцкіх і экалагічных бар'ераў, якія перашкаджаюць іх поўнаму і эфектыўнаму ўдзелу ў жыцці грамадства нароўні з іншымі».*




*Дaступнасць і інтэграцыя — асноўныя правы асобаў з абмежаванымі магчымасцямі, якія замацаваны ў Канвенцыі, з'яўляюцца не толькі мэтамі, але і перадумовамі для ажыццяўлення іншых правоў. Канвенцыя (артыкул 9, «даступнасць») імкнецца надзяліць інвалідаў магчымасцю весці незалежны лад жыцця і прымаць актыўны ўдзел ва ўсіх аспектах жыцця і развіцця грамадства. Яна заклікае дзяржавы-ўдзельніцы прымаць належныя меры для забеспячэння таго, каб інваліды мелі доступ да ўсіх аспектаў жыцця грамадства на роўных з іншымі, а таксама для выяўлення і ліквідацыі перашкодаў і бар'ераў, якія замінаюць даступнасці.*

*Факты і вопыт паказваюць, што ў многіх рэгіёнах свету адсутнасць інфармацыі і неразуменне канцэпцыі «даступнасці» па-ранейшаму з'яўляюцца перашкодай на шляху ліквідацыі ўсіх відаў бар'ераў у грамадстве.*

03

# Дзень нараджэння Міхася Кукабакі



Міхась Кукабака.
Масква, сакавік 2013 года.

ФОТАЗДЫМАК ВАЛЯНЦІНЫ ТРАЦЯК

Міхась Кукабака — беларускі дысідэнт і праваабаронца, аўтар публіцыстычных матэрыялаў, якія ў 1970—1980-я распаўсюджваліся праз самвыдат і замежныя радыёстанцыі, шматразовы палітычны вязень.

Міхась Кукабака нарадзіўся ў 1936 годзе ў Бабруйску ў працоўна-сялянскай сям'і. Выхоўваўся ў бабруйскім дзіцячым прытулку, бо бацька загінуў падчас савецка-фінскай вайны ў 1939 годзе, а маці памерла ў 1947 годзе. Скончыў рамесніцкую вучэльню і быў накіраваны на працу ў Сібір, у Ангарск. Пасля пераязджаў у розныя рэгіёны СССР — Казахстан, Украіну. У жніўні 1968 года быў выкліканы ў Дарніцкі ваенкамат Кіева. Там Кукабака заявіў, што «калі накіруеце ў Чэхаславакію, павярну аўтамат супраць вас: саўдзельнікам злачынства савецкага ўрада не буду, выступлю на баку чэхаславацкага народа». Таксама перадаў намесніку Генеральнага консула Чэхаславакіі свой артыкул з асуджэннем уводу савецкіх войскаў і папрасіў перадаць гэты тэкст на Захад. Тады з цяжкасцю Кукабака выратаваўся ад псіхушкі. Давялося з'ехаць з Кіева ў горад Аляксандраў Уладзімірскай вобласці, дзе ўладкаваўся працаваць на радыёзавод. КДБ вызначыў, што Кукабака настойліва шукае кантактаў з заходнімі карэспандэнтамі. 14 красавіка 1970 года быў арыштаваны. Падчасператрусу быў знойдзены напісаны ім «Адкрыты ліст англійскаму пісьменніку Айвару Мантэгю» ў абарону Анатоля Кузняцова, аўтара «Бабінага яра». Гэты артыкул быў адказам на паклёпніцкую публікацыю англійскага літаратара ў газеце «Комсомольская правда». Напачатку абвінавачванне следства грунтавалася на артыкуле 70 КК РСФСР «антысавецкая агітацыя і прапаганда», затым было перакваліфікаванае на артыкул 190-1 «распаўсюд заведама ілжывых выдумак, якія ганьбяць савецкі, дзяржаўны і грамадскі лад».

Пазней, ужо ў 1990 г., Міхась Кукабака так адказваў на пытанне аб тым, з чаго пачыналася ягонае іншадумства: «У мяне [была] звычайная біяграфія звычайнага, простага чалавека... Мае погляды фарміраваліся выключна на аснове асабістага досведу. Я не слухаў замежныя перадачы, не чытаў самвыдатаўскай літаратуры, нават не ведаў, што такая ўвогуле існуе. Таму маё грамадзянскае «сталенне» праходзіла даволі павольна... Я толькі дзесьці на мяжы свайго 30-годдзя пачаў сур'ёзна раздумваць аб рэвалюцыі і яе выніках, аб тым, у імя якой будучыні краіна забрала мільёны жыццяў...»

У 1970 годзе для Міхася Кукабакі пачалася доўгая турэмна-лагерная адысея. За адмову дапамагчы КДБ у фальсіфікацыі кампрамату на заходненямецкага дыпламата Мюлера КДБ параіў Інстытуту імя Сербскага абвясціць Кукабаку шызафрэнікам, што і было зроблена. 4 лістапада 1970 года судовая калегія па крымінальных справах Уладзімірскага абласнога суда пастанавіла, што дзеянні Кукабакі «ўяўляюць асаблівую грамадскую небяспеку», і накіравала яго на прымусовае псіхіятрычнае «лячэнне». У пастанове суда прыводзіліся такія прыклады злачыннай дзейнасці: «На вечарынцы пад Новы год у жаночым інтэрнаце... усхваляў жыццё народу за мяжою і паклёпнічаў на становішча рабочага класа ў СССР»; «У лютым 1970 года падчас прыборкі тэрыторыі радыёзавода... варожа адгукаўся пра лозунг: «Жыць і працаваць па-ленінску»... Асуджаны быў накіраваны ў спецпсіхлякарню ў горад Сычоўка Смаленскай вобласці, дзе правёў 986 дзён, пасля быў пераведзены ва Уладзімірскую псіхлякарню. Быў вызвалены толькі ў траўні 1976 года. У той жа год доктар Валашановіч засведчыў Міхася Кукабаку як здаровага, але сам адкрыў сваё імя толькі пасля таго, як з'ехаў на Захад.

Некаторы час Кукабака жыў у Маскве, але потым вярнуўся ў Бабруйск. Там ён напісаў свае знакамітыя нарысы «Скрадзеная Бацькаўшчына», «Спатканне з дзяцінствам», «Абарона правоў чалавека і разрадка — непадзельныя». Распаўсюджваў Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека.

Міхася Кукабаку ўвосень 1976 г. і ўвосень 1977 г. прымусова змяшчалі ў Магілёўскую псіхіятрычную лякарню з дыягназам шызафрэнія і паранаідальны сіндром, што Працоўная камісія іншадумцаў вызначыла  як «тыповы прыклад выкарыстання псіхіятрыі ў рэпрэсіўных палітычных мэтах».

Агулам Міхась Кукабака асуджаны паводле палітычных матываў чатыры разы і правёў у турмах, лагерах і вар'ятнях каля 17 гадоў. Быў апошнім палітвязнем, які пакінуў папраўчую калонію, вядомую як «Перм-36». Пасля вызвалення неаднаразова звяртаўся з патрабаваннямі сваёй юрыдычнай рэабілітацыі. Толькі 10 снежня 1990 года Прэзідыум Вярхоўнага суда БССР адмяніў вердыкт Судовай калегіі па крымінальных справах Магілёўскага абласнога суда ад 21 чэрвеня 1979 года і пастанову Судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР ад 24 ліпеня 1979 года. Справа была спынена «паводле матываў адсутнасці... складу злачынства». Да таго моманту ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 21 красавіка 1989 года быў адменены артыкул 186 КК БССР.

Цяпер Міхась Кукабака жыве ў Маскве, да пенсіі працаваў у Маскоўскай Хельсінкскай Групе. Пасля абвяшчэння Беларуссю незалежнасці рабіў спробы пераехаць у Мінск, дзеля гэтага нават звяртаўся ў беларускі парламент. Але гэтая ідэя не была рэалізаваная.

Фотаздымак з сайта 5slujba-ukgb-mo.livejournal.com




Міхась Кукабака (першы злева) у пікеце супраць карнай псіхіятрыі.



Вахта салідарнасці з вязнем М. Кукабакам каля будынка савецкага пасольства ў Лондане. 30 кастрычніка 1987 года.

Фотаздымак з сайта vytoki.net

# 05

# *Мітынг галоснасці*

5 снежня 1965 года ў Маскве адбылася першая ў часы савецкай улады маніфестацыя пад праваабарончымі лозунгамі. У Дзень Канстытуцыі грамадзяне выйшлі на Пушкінскую плошчу з патрабаваннем выконваць Асноўны Закон. «Мітынг галоснасці» — падзея, якая доўжылася лічаныя хвіліны, але стала эпахальнай. Гэты дзень часта называюць днём нараджэння праваабарончага руху.



«Мітынг галоснасці» на Пушкінскай плошчы ў Маскве. 1960-я гады.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА HRO.ORG

Нагодай для мітынгу паслужыў працэс маскоўскіх пісьменнікаў Андрэя Сіняўскага і Юлія Даніэля, арыштаваных у верасні 1965 года за тое, што апублікавалі свае творы за мяжой (пад псеўданімамі Абрам Тэрц і Мікалай Аржак). Гэтыя творы, перакладзеныя на еўрапейскія мовы, выклікалі абурэнне на Захадзе. І арышт іх аўтараў стаў першым, пра які паведамілі замежныя радыёстанцыі, што вяшчалі на СССР. Гэта былі першыя паслясталінскія рэпрэсіі, пра якія стала шырока вядома. Многія вырашылі, што набліжаецца рэсталінізацыя — грамадства ўзрушылася.

Ідэя мітынгу належала Аляксандру Ясеніну-Вольпіну, матэматыку і сыну паэта Ясеніна. Ён адным з першых стаў прасоўваць канцэпцыю праваабароны, тлумачачы, што трэба выкарыстоўваць закон, а не ўзмацняць беззаконне. У адказ на довады, што ў СССР паняцце «закон» проста бессэнсоўнае, настойваў на абароне грамадзянскай пазіцыі. Ён сфармуляваў рэч, якую з часам ацанілі яго сябры-дысідэнты: «Ці ты савецкі чалавек і падпарадкоўваешся ідэалогіі і ўсяму, што ў Крамлі, ці ты грамадзянін СССР і падпарадкоўваешся толькі закону. І калі закон парушаецца, ты павінен пратэставаць». У «Грамадзянскім звароце», які ва ўлётках распаўсюджваўся па Маскве як запрашэнне на «Мітынг галоснасці», гэтая акцыя пазіцыянавалася менавіта як грамадзянская.

«Некалькі месяцаў таму органамі КДБ арыштаваныя два грамадзяніны: пісьменнікі А.Сіняўскі і Ю.Даніэль. У дадзеным выпадку ёсць падставы баяцца парушэння закона пра галоснасць судаводства. Агульнавядома, што пры зачыненых дзвярах магчымыя любыя злачынствы і што парушэнне закона пра галоснасць (арт. 3 Канстытуцыі і арт. 18 КПК РСФСР) ужо само па сабе з'яўляецца беззаконнем. Неверагодна, каб творчасць пісьменнікаў магла скласці дзяржаўнае злачынства. (...) У грамадзян ёсць сродкі барацьбы з



Суд па справе Сіняўскага-Даніэля.




Экспанаты выставы «Мемарыяла» да 45-годдзя «Мітынгу галоснасці».

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА UROKIISTORII.RU

судовым самаўпраўствам, гэта — «мітынгі галоснасці», у час якіх прысутныя скандуюць адзін-адзіны лозунг: «Патрабуем галоснасці суда над...» (ідуць прозвішчы абвінавачаных) або паказваюць адпаведны плакат. Якія-небудзь выкрыкі або лозунгі, якія выходзяць за межы патрабавання строгага захавання законнасці, безумоўна, з'яўляюцца пры гэтым шкоднымі, а, магчыма, і правакацыйнымі і павінны спыняцца самімі ўдзельнікамі мітынгу.

Падчас мітынгу неабходна строга выконваць парадак», — гаварылася ў звароце. Дарэчы, траіх распаўсюднікаў «Грамадзянскага звароту» пасадзілі ў псіхушку, але ненадоўга. У выніку ў прызначаны час на Пушкінскай плошчы сабралася некалькі дзясяткаў чалавек з плакатамі: «Патрабуем галоснасці суда над Сіняўскім і Даніэлем!», «Паважайце савецкую Канстытуцыю!» (вырашылі не скандаваць лозунгі, бо выкрykванне не канкрэтнае; калі адказваць — то за тое, што напісалі). А вакол, праз вуліцу стаялі сотні людзей і глядзелі: уся Масква ведала пра акцыю, гэта было ўнікальна. Праз некалькі хвілінаў з'явіліся міліцыя і людзі ў цывільным, якія пачалі адбіраць плакаты, а дэманстрантаў затрымліваць. Затрымалі каля 20 чалавек.

Па словах арганізатараў падзеі, савецкія ўлады тады не ведалі, што рабіць: не было артыкула, які забараняе падобныя дэманстрацыі. Мітынг быў легальны: у дзейснай тады Канстытуцыі 1936 года дэкларавалася свабода сходаў і шэсцяў. Пры жыцці Сталіна ніхто не адважыўся праверыць, ці працуе гэта — удзельнікі «Мітынгу галоснасці» былі першымі за некалькі дзесяцігоддзяў. Паколькі не было фармальных прычынаў для арышту, затрыманых неўзабаве выпусцілі. У большасці гэта былі студэнты, якіх затым выключылі з ВНУ. У некаторых затрыманых пасля праводзілі ператрусы.

Суд над Сіняўскім і Даніэлем быў абвешчаны адкрытым. Многія бачаць у гэтым ролю шырокай агалоскі за мяжой і «Мітынгу галоснасці». Тым не менш, атрыбутамі працэсу былі міліцыя ля ўваходу ў будынак суда і спецпропускі, па якіх у залу суда дапускаліся тыя, хто прайшоў адбор КДБ. Па артыкуле «антысавецкая агітацыя і прапаганда» Даніэль быў асуджаны на 5 гадоў лагераў строгага рэжыму, Сіняўскі — на 7. Відавочцы падзей лічаць, што мітынг ім ніяк не нашкодзіў — жорсткія прысуды вызначыла Палітбюро, каб напалохаць астатніх. Але асуджаныя не каяліся, адстойваючы сваю праваТу, а прысуды ім не спынілі пашырэння самвыдату і практыкі публікацый за мяжой.

Праз год адбыўся мітынг у памяць пра «Мітынг галоснасці». Стала традыцыяй збірацца 5 снежня для мітынгу маўчання: людзі прыходзілі да помніка Пушкіну, здымалі шапку і моўчкі стаялі некалькі хвілінаў у знак жалобы па Канстытуцыі краіны. Такія сходы працягваліся штогод аж да 1977 года, калі Дзень Канстытуцыі быў перанесены на 7 кастрычніка.

«А. Амальрык вызначыў дысідэнцтва як паводзіны вольнага чалавека ў несвабоднай краіне. У гэтым сэнсе дысідэнцтва як стыль жыцця мноства адзіночак існавала ў СССР заўсёды. А 5 снежня стварыла важны прэцэдэнт калектыўнага дысідэнцкага ўчынку, пазначаючы магчымасць з'яўлення адкрыта дзеючых незалежных грамадскіх рухаў, у тым ліку і праваабарончага». З прадмовы да зборніка ўспамінаў удзельнікаў мітынгу, выпушчанага таварыствам «Мемарыял» у 1995 годзе.

05

# *Міжнародны дзень валанцёраў*

У 1985 годзе Генеральная Асамблея ААН прапанавала ўрадам штогод адзначаць 5 снежня як Міжнародны дзень добраахвотнікаў у імя эканамічнага і сацыяльнага развіцця (Міжнародны дзень валанцёраў). З тых часоў штогод ўрады краінаў, сістэма ААН і арганізацыі грамадзянскай супольнасці сумесна з добраахвотнікамі ўсяго свету адзначаюць гэтае свята.

Гэты Дзень прадастаўляе добраахвотнікам як у складзе арганізацый, так і на індывідуальнай аснове магчымасць унесці свой уклад у развіццё на мясцовым, нацыянальным і міжнародным узроўнях. Сумесная дзейнасць ААН з арганізацыямі на месцах у рамках Дня з'яўляецца ўнікальнай магчымасцю для валанцёрскіх арганізацый паўдзельнічаць у працы дзяржаўных структураў, некамерцыйных арганізацый, грамадскіх групаў і прыватнага сектара.

«Працуючы ў адзіночку ці ў рамках арганізаванага руху, яны даглядаюць за пажылымі, хворымі і інвалідамі. Яны працягваюць руку дапамогі людзям, якія жывуць з ВІЧ/СНІДам, і дапамагаюць ім пазбавіцца ад незаслужанай пагарды і ізаляцыі. Яны вучаць дзяцей чытанню, а маладых людзей — прафесійным навыкам, неабходным для таго, каб зарабляць на жыццё. Яны будуюць дамы, чысцяць рэкі, капаюць калодзежы і паляпшаюць умовы жыцця людзей многімі іншымі спосабамі. Яны дапамагаюць абараняць правы чалавека, будаваць дэмакратыю, вырашаць канфлікты і падтрымліваць свет. Яны экстранна дастаўляюць гуманітарную дапамогу людзям, якія апынуліся ў зонах стыхійных бедстваў, працуюць з групамі, якія апынуліся «за гранню», і садзейнічаюць таму, каб іх патрэбы былі пачутыя і задаволеныя. Добраахвотнікі не пытаюцца: «Навошта станавіцца добраахвотнікам?», — а толькі «Калі?», «Дзе?» і «Як?». Гэтыя адданыя

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА MOMENTUMNATION.COM




Валанцёрскі рух развіваецца ў сувязі з ростам колькасці сацыяльных праблем, у вырашэнні якіх пры сучаснай эканамічнай сітуацыі добраахвотнікі незаменныя.

і мужныя людзі з'яўляюцца важнымі партнёрамі ў імкненні да лепшага, больш справядлівага і бяспечнага свету», — падкрэсліў Генсакратар ААН Пан Гі Мун у адным з пасланняў з нагоды Дня, заклікаючы пры гэтым памятаць, што любы ўнёсак — нават самы маленькі — можа дапамагчы змяніць сітуацыю да лепшага.

Акрамя штогадовай мабілізацыі тысячаў добраахвотнікаў, Праграма добраахвотнікаў ААН (ДААН) працуе ў цесным супрацоўніцтве з партнёрамі і ўрадамі ў частцы распрацоўкі нацыянальных валанцёрскіх праграмаў для стварэння структураў, якія спрыяюць узнікненню і замацаванню асноваў добраахвотніцтва на мясцовым узроўні ў асобных краінах.

Штогод напярэдадні Дня вызначаюцца пераможцы анлайнавай добраахвотніцкай прэміі. Мэтай прэміі з'яўляецца прызнанне ўнёску анлайнавых валанцёраў у дасягненне Мэтаў развіцця тысячагоддзя, абвешчаных ААН, з тым, каб прадэманстраваць невычэрпны запас спосабаў, з дапамогай якіх анлайнавыя валанцёры могуць садзейнічаць умацаванню патэнцыялу арганізацый. Акрамя таго, каб прадэманстраваць рэальны ўнёсак валанцёраў у справу міру і ажыццяўленне праектаў у галіне развіцця, якія яны робяць, не лічачыся са сваім часам, дзелячыся сваімі навыкамі і вопытам праз Інтэрнэт.

Анлайнавая добраахвотніцкая прэмія ДААН дае магчымасць як анлайнавым валанцёрам, так і арганізацыям падзяліцца сваім вопытам і перадавой практыкай з глабальнай аўдыторыяй.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА GLOBALAUTISMPROJECT.ORG



Індыйскія валанцёры працуюць з вучнямі-аўтыстамі, навучаючы настаўнікаў новым метадам дзейнасці.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА INDIANREDCROSS.ORG



Індыйскі добраахвотнік Чырвонага Крыжа.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА VOLUNTEERDUBLINCITYSOUTH.IE




Актывісты Цэнтра валанцёраў у Дубліне (Ірландыя) высвецілі лагатып Міжнароднага дня валанцёраў на будынку Офісаў арганізацый грамадзянскай супольнасці.

09

# Прыняцце «Дэкларацыі пра праваабаронцаў»

9 снежня 1998 года, напярэдадні 50-й гадавіны Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, у Жэневе Генеральная Асамблея ААН афіцыйна прыняла Рэзалюцыю, якая зацвердзіла «Дэкларацыю пра правы і абавязкі асобаў, групаў і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрынятыя правы чалавека і асноўныя свабоды».

Прыняццю Дэкларацыі пра праваабаронцаў папярэднічаў доўгі працэс. Камісія па правах чалавека ААН прыступіла да распрацоўкі гэтага пытання яшчэ ў лютым 1980 года, больш чым за 18 гадоў да прыняцця канчатковага варыянта тэкста Дэкларацыі.

У тэксце Рэзалюцыі ААН ад 1998 года прызнавалася законнасць дзейнняў праваабаронцаў і пацвярджалася, што яны маюць патрэбу ў абароне. Пазней, 8 сакавіка 1999 года, Генеральная Асамблея ААН прыняла дадатковую рэзалюцыю 13, у якой, нарэшце, быў устаноўлены афіцыйны статус праваабаронцы.

Пра прыняцце Дэкларацыі пра праваабаронцаў Генеральная Асамблея ААН абвясціла падчас урачыстага мерапрыемства ў Палацы Шаё ў Парыжы. І адразу ж 350 праваабаронцаў, госці, прадстаўнікі прэсы, дыпламаты неадкладна звязаліся з міністрам унутраных спраў Вялікабрытаніі. Наспела рашэнне зрабіць запыт пра выдачу Іспаніі Аўгуста ПінАчэта (сотні грамадзянаў гэтай краіны былі забітыя ці бясследна зніклі ў Чылі ў часы яго кіравання). Сам па сабе гэты факт сведчыў пра прызнанне працы праваабаронцаў з боку ААН і перспектыву таго, што асоба, якая ўвасабляла сабой рэпрэсіі ў адносінах да актывістаў, будзе прыцягнутая да адказнасці.

Прыняцце Дэкларацыі пра праваабаронцаў суправаджалася імпрэзамі ва ўсім свеце. Прэса ў цэлым ухваліла гэтую ініцыятыву, але адначасова падкрэсліла наяўныя перашкоды, якія паўстануць пры забеспячэнні эфектыўнай абароны праваабаронцаў. Для многіх міжнародных НДА гэта сапраўды стала прызнаннем таго, што важная не толькі праца грамадзянскай супольнасці, пра што ўвесь час гаварылі органы ААН, а таксама таго, што ўрады цяпер нясуць адказнасць за забеспячэнне абароны праваабаронцаў.

Дэкларацыя заклікае ўрады абараняць тыя правы, якія маюць асноватворную ролю ў працы праваабаронцаў. Права на свабоду слова, мірныя сходы, на арганізацыю калектыўных акцый і на негвалтоўныя патрабаванні рэформаў, таксама як і права атрымліваць і распаўсюджваць

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА EXPORTFREEALLES.WORDPRESS.COM







Акцыі праваабарончай арганізацыі FrontLine Defenders у падтрымку зняволеных праваабаронцаў і з напамінам пра забітых. Дублін, 2012 год.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FRONTLINEDEFENDERS.ORG

інфармацыю і ўзаемадзейнічаць з нацыянальнымі і міжнароднымі арганізацыямі — прызнаныя асноўнымі правамі праваабаронцаў.

Праваабаронцы часта ставяць сябе пад удар, крытыкуючы дзяржаву альбо прадстаўнікоў уладных структураў. Такім чынам, урады краінаў павінны забяспечыць ім магчымасць дзейнічаць свабодна, не асцерагаючыся ўмяшання, дыскрымінацыі, пагрозаў і рэпрэсій. У выпадку, калі такія дзеянні былі здзейсненыя, праваабаронцы маюць права накіраваць скаргу ў незалежныя, бесстаронnія і кампетэнтныя органы і, у выпадку доказу парушэння, яны павінны мець права на кампенсацыю.

Згодна з Дэкларацыяй, дзяржава павінна прымаць удзел у прасоўванні асноўных правоў, у прыватнасці, праз пашырэнне інфармацыі пра правы чалавека, адукацыю ў галіне правоў чалавека і стварэнне нацыянальных інстытутаў па абароне правоў чалавека.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА FRONTLINEDEFENDERS.ORG




Спецыяльны дакладчык ААН па пытанні аб праваабаронцах Маргарэт Секагія.

Камісія па правах чалавека заклікала ўрады краінаў-сябраў ААН імплементаваць Дэкларацыю пра праваабаронцаў і падаць справаздачы пра меры, прынятыя з гэтай мэтай. Такім чынам, прымаючы гэтую Дэкларацыю, дзяржавы — сябры ААН прызнавалі, што ідэалы, замацаваныя ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека могуць стаць рэальнасцю толькі ў тым выпадку, калі ўсе будуць апеляваць да іх, і калі асобы, якія дамагаюцца прасоўвання гэтых ідэалаў, змогуць працаваць, не асцерагаючыся ціску, пагрозаў, умяшанняў і іншых перашкодаў.



ФОТАЗДЫМАК З САЙТА ACNUDH.ORG



# НАВІ ПІЛЭЙ

**Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека**

*Праваабаронца — гэта званне, якое можа заваяваць кожны з нас. Гэтая роля не патрабуе спецыяльнай прафесійнай падрыхтоўкі. Замест гэтага яна патрабуе павагі да сваіх братоў, разумення таго, што ўсе мы павінны мець магчымасць карыстацца поўным спектрам правоў чалавека, якія належаць нам, і гатоўнасці працаваць над пераўтварэннем мары ў рэальнасць.*

# 10

# *Дзень правоў чалавека*

10 снежня 1948 года Генеральная Асамблея ААН прыняла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека. З тых часоў гэтая дата з'яўляецца штогадовай магчымасцю ацаніць вартасць правоў чалавека, звярнуць увагу на нейкі канкрэтны аспект гэтых правоў і падняць голас у імя таго, каб кожны, дзе б ён ні знаходзіўся, карыстаўся ўсімі правамі чалавека.

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека — гэта самая важная заява пра правы і свабоды кожнага чалавека. Гэты асноватворны дакумент складаецца з прэамбулы і 30 артыкулаў, у якіх пералічана шырокае кола асноўных правоў і свабодаў, неад'емна ўласцівых усім мужчынам і жанчынам, ва ўсім свеце, без якіх-небудзь адрозненняў.

Лагатып правоў чалавека, створаны ў падтрымку сусветнага праваабарончага руху ў межах міжнароднай ініцыятывы ў 2010 годзе. Аўтар — сербскі дызайнер Прэдраг Стакіч.

Праект Дэкларацыі быў падрыхтаваны прадстаўнікамі ўсіх рэгіёнаў і прававых традыцый. З часам сталі лічыць, што яна павінна разглядацца як свайго роду кантракт паміж урадамі краінаў і іх народамі. Дэкларацыя стала таксама асновай для пашырэння праваабарончай інфраструктуры, якой у цяперашні час ахоплены, у прыватнасці, інваліды, карэнныя народы і працоўныя-мігранты.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА RUS.AZATUTYUN.AM



Генеральная Асамблея ААН, на якой была прынятая Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Парыж, 1948 год.

Унікальнасць дакумента таксама ў тым, што ён пераведзены на найбольшую колькасць моў і дыялектаў у свеце — больш за 400. З гэтай нагоды Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека ўключаная ў Кнігу рэкордаў Гінеса. Такім чынам, яна з'яўляецца самым перакладзеным і, сапраўды, самым «універсальным» дакументам у свеце.

Мноства перакладаў Дэкларацыі размешчаны на сайце Дня правоў чалавека, адмыслова створаным ААН. І праваабаронцы ў розных краінах свету 10 снежня выходзяць на вуліцы, каб павіншаваць грамадзянаў і падарыць ім асобнік Дэкларацыі на роднай мове — каб яна даступна распавяла кожнаму чалавеку пра яго правы і свабоды.

Таксама ў гэты дзень ААН прапаноўвае арганізацыям грамадзянскай супольнасці, урадам і акадэмічным колам па ўсім свеце праводзіць розныя тэматычныя мерапрыемствы — акцыі ў абарону правоў чалавека, інфармацыйныя кампаніі,

семінары, форумы, дыскусіі, праваабарончыя кінапрагляды і інш. Важную ролю ў каардынацыі намаганняў, звязаных са штогадовым правядзеннем Дня правоў чалавека, мае Вярхоўны камісар па правах чалавека і Упраўленне, якое ён ўзначальвае.


THE UNIVERSAL DECLARATION OF Human Rights

UNITED NATIONS

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА UN.ORG

10 снежня праходзіць уручэнне Прэміі ААН за заслугі ў галіне правоў чалавека. Прэмія была заснаваная Генеральнай Асамблеяй у 1966 годзе і ўпершыню была прысуджаная 10 снежня 1968 года, у 20-ю гадавіну Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Лаўрэатамі гэтай прэміі ў свой час сталі Нэльсан Мандэла, Джымі Картэр, Марцін Лютэр Кінг-малодшы і Элеанора Рузвельт, якая мела ключавую ролю ў распрацоўцы Дэкларацыі. Першымі арганізацыямі, якія атрымалі прэмію, былі «Міжнародная амністыя», Міжнародны камітэт Чырвонага Крыжа і Сетка жаночых арганізацый за мір Саюза краінаў басейна ракі Мано (Заходняя Афрыка). А ў 1998 годзе ААН адзначыла самаадданую працу і дасягненні ўсіх праваабаронцаў свету.

Прысуджаючы сваю Прэмію, ААН пасылае ясны сігнал усім змагарам за правы і свабоды чалавека пра тое, што міжнародная супольнасць ўдзячная ім і падтрымлівае іх нястомную працу па прапагандзе Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

10 снежня ўручаецца і Нобелеўская прэмія міру. Аўтарытэтная міжнародная ўзнагарода пасля прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ўсё часцей стала прысуджацца не за міратворчыя заслугі, а за ўклад у барацьбу за правы чалавека. Гэтая тэндэнцыя асабліва выявілася ў 1960—1980-я гады, калі лаўрэатамі станавіліся Марцін Лютэр Кінг, Андрэй Сахараў, Лех Валенса, Далай-Лама, праваабарончая арганізацыя Amnesty International. Адначасова, пачынаючы з 1950-х гадоў, Нобелеўскі камітэт пачаў адзначаць гуманітарную дзейнасць. Лаўрэатамі сталі Міжнародны камітэт Чырвонага Крыжа, Дзіцячы фонд ААН (ЮНІСЕФ), Упраўленне камісара ААН па справах бежанцаў, Міжнародная арганізацыя працы, маці Тэрэза. Пасля 1991 года Нарвежскі Нобелеўскі камітэт афіцыйна заявіў, што з гэтага часу яго прыярытэты — спыненне лакальных канфліктаў і войнаў, а таксама абарона правоў чалавека.


Распрацоўшчыкі УДПЧ. Уверсе, злева направа: Шарль Малік (Ліван), Аляксандр Багамолаў (СССР), Пэнг-чун Чанг (Кітай); пасярэдзіне, злева направа: Рэнэ Касэн (Францыя), Элеанора Рузвельт (ЗША), Чарльз Дьюкс (Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі); унізе, злева направа: Вільям Ходжсан (Аўстралія), Эрнан Санта Круз (Чылі), Джон П. Хамфры (Канада).

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА UN.ORG

# 18

# Дзень памяці Вацлава Гавела

18 снежня 2011 года пайшоў з жыцця вядомы ў свеце чэшскі пісьменнік і драматург, дысідэнт і праваабаронца, дзяржаўны дзеяч, які стаў апошнім прэзідэнтам Чэхаславакіі і першым прэзідэнтам Чэхіі, — Вацлаў Гавел.

Старонкі з біяграфіі Вацлава Гавела распавядаюць, што нарадзіўся ён 5 кастрычніка 1936 года ў Празе ў даволі заможнай сям'і. Пісьменніцкую дзейнасць распачаў у 1955 годзе як літаратурны крытык і ў хуткім часе стаў даволі вядомым у літаратурным асяродку. Тым часам з'яўляюцца і яго першыя п'есы. У 1966 годзе скончыў завочнае аддзяленне тэатральнага факультэта Пражскай Акадэміі мастацтваў. За год да гэтага ён увайшоў у склад рэдакцыі літаратурна-мастацкага часопіса «Тварж». Тады ўпершыню чэхаславацкай цэнзурай былі забароненыя яго творы. У той жа час да яго прыходзіць прызнанне за мяжой.

Дысідэнцкая дзейнасць Вацлава Гавела найбольш праяўляецца пасля падзеяў Пражскай вясны 1968 года. У гэты час ён неаднаразова арыштоўваўся. У 1975 годзе напісаў «Адкрыты ліст Густаву Гусаку», выступіў адным з ініцыятараў падпісання знакавай «Хартыі-77» — дэкларацыі, якая абвясціла прынцыпы пераадолення таталітарызму і аднаўлення дэмакратыі ў Чэхаславакіі. У 1979 годзе Вацлава Гавела і яшчэ пяцярых чэшскіх дысідэнтаў улады абвінавацілі ў падрыўной дзейнасці. Гавел быў асуджаны на 4,5 гады турэмнага зняволення. Другі раз ён быў арыштаваны ў студзені 1989 года.





Вацлаў Гавел, які пазіцыянаваў сябе як «непалітычны палітык», стаў сімвалам пераменаў ва Усходняй Еўропе канца 80-х — пачатку 90-х гадоў.

У лістападзе 1989 года ў Чэхаславакіі з выступу пражскіх студэнтаў, якіх пазней падтрымалі інтэлігенцыя і працоўныя, пачалася «Аксамітная рэвалюцыя». У гэты час Вацлаў Гавел стаў адным з ініцыятараў стварэння «Грамадзянскага форуму», які ачоліў народныя пратэсты, змог надаць ім арганізаваны характар і цягам некалькіх тыдняў дамагчыся карэнных зменаў у грамадска-палітычным жыцці краіны. 29 снежня 1989 года на сумесным паседжанні абедзвюх палат федэральнага сходу Чэхаславацкай Савецкай Рэспублікі ён быў абраны прэзідэнтам. Пасля таго як Чэхія і Славакія мірна сталі самастойнымі дзяржавамі ў 1993 годзе, Вацлаў Гавел стаў першым прэзідэнтам незалежнай Чэхіі і кіраваў краінай да 2003 года.



Вацлаў Гавел лунае ў пражскім аэрапорце, пераназваным у яго гонар. Ідэя габелена належыць Білу Шыпсі з арганізацыі Art for Amnesty International.

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА RADIO.CZ

Для многіх Вацслаў Гавел з'яўляецца ўзорам лідара нацыі. Яму ўдалося правесці паспяховыя эканамічныя рэформы ў постсацыялістычнай краіне, што не супярэчылі ідэалам дэмакратыі і гуманізму, якімі ён заўсёды кіраваўся.

У 2012 годзе, калі праводзіўся першы Дзень памяці Вацлава Гавела, чэхі падрыхтавалі шмат розных акцыяў. Гэта вечар успамінаў з удзелам блізкіх і сяброў Вацлава Гавела — палітыкаў, пісьменнікаў, акцёраў, музыкаў, мастакоў. У тэатрах ішлі спектаклі па яго п'есах. У многіх касцёлах па ўсёй краіне праходзіла памятная імша, чэхі запальвалі свечкі, неслі кветкі на Вінаградскія могілкі ў Празе, дзе пахаваны Вацлаў Гавел, а таксама да месцаў, звязаных з яго жыццём.

Грамадскі канал чэшскага тэлебачання паказаў дакументальны фільм «Апошні сыход Вацлава Гавела». А ў сацыяльных сетках моладзь спантанна арганізавала акцыю «Кароткія штаны»: тысячы чэхаў па ўсёй краіне, закатаўшы штаны, з цёплым гумарам узгадвалі, як у 1989 годзе, у дзень інаўгурацыі прэзідэнт Вацлаў Гавел з'явіўся ў прыкметна кароткіх штанах, якія пазней неаднаразова станавіліся прадметам пытанняў і аб'ектам іроніі самога Гавела і захаваныя на шматлікіх здымках экс-прэзідэнта. Гэтую ініцыятыву хутка падтрымала моладзь у Польшчы і Славакіі.

Раней, 5 кастрычніка 2012 года, Пражскаму аэрапорту было прысвоена імя Вацлава Гавела. А 9 снежня аэрапорт упрыгожыў велізарны габелен з выявай лятаючага прэзідэнта, які падарыла група яго сяброў — вядомых музыкаў: Бона з гурта U2, Пітэр Гэйбрыел, Ёка Она-Ленан, Стынг. Знакамітае неонавае сэрца мастака Іржы Давіда, якое ззяла над Пражскім Градам, перад гадавінай смерці Гавела асвяціла будынак Еўрапейскага парламента ў Брусэлі, дзе яго пакінулі да канца студзеня 2013 года.

Імем Вацлава Гавела пераназываюць вуліцы, прычым не толькі ў Чэхіі, але і за мяжой, называюць школы і бібліятэкі, адкрываюць яго бюсты, саджаюць у яго гонар дрэвы.

Не выклікае ніякіх сумневаў, што чэхі ганарацца такім прэзідэнтам, чыё імя стала не толькі для Чэхіі, але і для Усходняй Еўропы сімвалам інтэлектуальнага супрацьстаяння дыктатуры.

ФОТАЗДЫМАК З САЙТА RUS.AZATTYK.ORG



Неонавае сэрца ў гонар Вацлава Гавела над будынкам Еўрапарламента.
Брусель, 17 снежня 2012 года.



18 студзеня тысячы свечак памяці гараць па ўсёй Чэхіі.

ФОТАЗДЫМАК КРЫСЦІНЫ МАКАВАЙ
З САЙТА RADIO.CZ

18

# *Міжнародны дзень мігранта*

Улічваючы вялікую і нарастаючую колькасць мігрантаў у свеце, у 2000 годзе Генеральная Асамблея ААН абвясціла 18 снежня Міжнародным днём мігранта. У гэты дзень у 1990 годзе была прынятая Міжнародная канвенцыя аб абароне правоў усіх працоўных-мігрантаў і членаў іх сем'яў.




На працягу ўсёй гісторыі міграцыя з'яўлялася мужнай праявай волі чалавека да пераадолення жыццёвых нягодаў. Ва ўсім свеце штохвілінна людзі пакідаюць свае краіны ў пошуках бяспечнага і лепшага жыцця. Па дадзеных ААН на канец 2012 года, у глабальным маштабе ў працэсе міграцыі знаходзілася звыш 214 мільёнаў чалавек. Многія, ратуючыся ад цяжкіх умоў жыцця, аказваюцца перад тварам яшчэ больш складаных праблем, уключаючы парушэнне правоў чалавека, галечу і дыскрымінацыю. Аднак пры належнай падтрымцы яны цалкам могуць рабіць свой унёсак у развіццё грамадства.

Міграцыя, а таксама міфы і ўяўленні, якія датычацца яе ўздзеяння, закранаюць усе краіны. Адзін з такіх міфаў — пра тое, што мігранты ўяўляюць сабой цяжар. Фактычна мігранты шмат што ўносяць у жыццё прымаючых іх краінаў. Як працаўнікі яны прыўносяць з сабой свае навыкі. Як прадпрымальнікі яны ствараюць працоўныя месцы. Як інвестары яны прыўносяць з сабой капіталы. У развітых краінах і краінах, дзе фарміруецца рынкавая эканоміка, яны маюць незаменную ролю ў галіне сельскай гаспадаркі, турызму і ў хатніх гаспадарках. Часта мігранты даглядаюць за самымі маладымі і самымі састарэлымі членамі грамадства.

Многія лічаць, што незаконная міграцыя з'яўляецца злачынствам. Таксама лічаць, што мігранты, у якіх няма належных дакументаў, уяўляюць небяспеку для грамадства і іх варта затрымліваць, ці што ўсе жанчыны, якія мігруюць, з тым, каб выконваць нізкакваліфікаваную працу, з'яўляюцца аб'ектам гандлю людзьмі. Гэтыя і іншыя неабгрунтаваныя домыслы вядуць да прыняцця міграцыйнай палітыкі, якая ў лепшым выпадку з'яўляецца неактуальнай або нават небяспечнай.

Міграцыя — глабальная праблема, якая справядліва прыцягвае да сябе ўсё большую ўвагу сусветнай грамадскасці. ААН заяўляе, што асабліва важна надаваць увагу правам мігрантаў у той час, калі глабальная эканоміка і фінансы перажываюць крызіс: «У кантэксце ўразання бюджэтаў мы становімся сведкамі прыняцця жорсткіх мераў эканоміі, якія носяць дыскрымінацыйны характар у дачыненні да працоўных-мігрантаў, мы чуем ксенафобскую рыторыку, якая стварае спрыяльнае асяроддзе для ўжывання гвалту ў дачыненні да незаконных мігрантаў, мы сутыкаемся з распрацоўкай

іміграцыйных законаў, якія дазваляюць паліцыі беспакарана праяўляць прадузятасць і выбарачнасць у адносінах да мігрантаў... Калі міграцыйная палітыка распрацоўваецца без уліку ўразлівасці, маргіналізацыі і дыскрымінацыі, мільёны мігрантаў ператвараюцца ў танную працоўную сілу, якая з'яўляецца разменнай манетай, і гэтых жа мігрантаў абвінавачваюць у тым, што яны з'яўляюцца прычынай правалу эканамічнай і сацыяльнай палітыкі, і да таго ж яны яшчэ становяцца ахвярамі таго, што называецца туманным тэрмінам «вайна з незаконнай міграцыяй».

## ААН: ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА — НЕ ДАБРАЧЫННАСЦЬ І НЕ ЎЗНАГАРОДА ЗА ВЫКАНАННЕ ІМІГРАЦЫЙНЫХ ПРАВІЛАЎ.

ААН заяўляе пра неадкладную неабходнасць у распрацоўцы нацыянальнай палітыкі, якая прадугледжвае рашэнне праблемаў міграцыі на аснове прынцыпаў правоў чалавека: «Дзяржавы маюць суверэннае права ажыццяўляць кантроль за сваімі межамі. Але яны таксама нясуць абавязак выконваць свае міжнародна-прававыя абавязацельствы. У адпаведнасці з міжнароднымі нормамі ў галіне правоў чалавека ўсе людзі маюць права карыстацца асноўнымі правамі чалавека без дыскрымінацыі і незалежна ад грамадзянства або прававога статусу. Нельга вяртаць мігрантаў у тыя месцы, дзе яны будуць падвяргацца катаванням. Усе жанчыны-мігранты павінны мець доступ да медыцынскага абслугоўвання, у тым ліку да паслугаў у галіне рэпрадуктыўнага здароўя. Кожнае дзіця-мігрант павінна мець магчымасць наведваць школу.



Правы чалавека — гэта не дабрачыннасць, і, больш за тое, правы чалавека не з'яўляюцца ўзнагародай за выкананне іміграцыйных правілаў. Правы чалавека — гэта неад'емнае права кожнага чалавека, у тым ліку права наяўных у свеце 214 мільёнаў міжнародных мігрантаў, а таксама членаў іх сем'яў».

На міжнародным узроўні ўсёабдымнай праграмай абароны правоў мігрантаў з'яўляецца Канвенцыя аб абароне правоў усіх працоўных-мігрантаў і членаў іх сем'яў. У сферу дзеяння канвенцыі ўваходзіць увесь працэс міграцыі, уключаючы падрыхтоўку да міграцыі, ад'езд, транзіт і ўвесь перыяд знаходжання і заняткі аплачваемай працоўнай дзейнасцю ў дзяржаве працы па найму, а таксама вяртанне ў дзяржаву паходжання або звычайнага месца пражывання. Канвенцыя не стварае новых правоў для мігрантаў, але накіравана на забеспячэнне роўнага абыходжання і роўных умоваў працы для мігрантаў і грамадзянаў прымаючай краіны. Дакумент абапіраецца на асноватворнае паняцце аб тым, што ўсім мігрантам павінна прадастаўляцца абарона пэўнага мінімуму іх правоў.

Канвенцыя ўступіла ў сілу 1 ліпеня 2003 года. Па стане на канец 2011 года дакумент ратыфікавалі 45 дзяржаў. У большасці сваёй гэта краіны паходжання мігрантаў (напрыклад, Мексіка, Марока, Філіпіны), для якіх Канвенцыя з'яўляецца важным інструментам абароны сваіх грамадзянаў, якія жывуць за мяжой.

Штогод у Міжнародны дзень мігранта ААН заклікае ўсе дзяржавы ратыфікаваць гэту важную міжнародную дамову, што будзе з'яўляцца канкрэтным пацверджаннем прыхільнасці да справы абароны і заахвочвання правоў чалавека ўсіх мігрантаў на іх тэрыторыі.

# 19

# *Гвалтоўны разгон Плошчы-2010*

19 снежня 2010 года, у дзень прэзідэнцкіх выбараў, у Мінску сілавымі структурамі была гвалтоўна разагнаная мірная дэманстрацыя пратэсту. Сотні людзей былі збітыя і затрыманыя, у тым ліку тры кандыдаты ў прэзідэнты. Улады такім чынам груба парушылі правa грамадзянаў Беларусі на свабоду мірных сходаў.

Жорсткі разгон дэманстрантаў адбыўся на плошчы Незалежнасці, дзе знаходзіцца Дом ураду і Цэнтральная выбарчая камісія. Там быў зладжаны мітынг, пасля якога апазіцыйныя кандыдаты на пасаду прэзідэнта разам са сваімі прыхільнікамі спрабавалі дамагчыся перамоваў з урадам. Яшчэ днём па афіцыйным тэлебачанні былі абвешчаныя вынікі экзіт-полу, паводле якога за Аляксандра Лукашэнку прагаласавалі 83% апытаных. Тым часам іншыя аналагічныя апытанні паказвалі, што за дзеючага прэзідэнта не прагаласавала нават 40% апытаных выбаршчыкаў. Грамадзяне, якія прыйшлі на плошчу Незалежнасці, не хацелі мірыцца з правядзеннем несправядлівых, недэмакратычных выбараў у краіне.

Улады ж не пажадалі мірыцца з правамі гэтых грамадзянаў свабодна выказваць сваё меркаванне. Міліцыя пачала збіваць і асобаў, якія зрабілі спробу пранікнуць у Дом ураду, і астатніх удзельнікаў акцыі, у выніку чаго людзі атрымалі чэрапна-мазгавыя траўмы. Большая частка мітынгоўцаў пакінула плошчу. Астатніх пачалі затрымліваць, у тым ліку кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, замежных грамадзянаў. Каля 10 журналістаў як беларускіх, так і замежных СМІ былі збітыя, а некаторыя затрыманыя ці арыштаваныя.

Акрамя таго, у ноч з 19 на 20 снежня супрацоўнікі КДБ правяліператрус у офісе Праваабарончага цэнтра «Вясна», які разам




ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА NMN.BY

з Беларускім Хельсінкскім Камітэтам ажыццяўляў незалежнае назіранне па ўсёй краіне ў межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Актывісты «Вясны» былі затрыманыя міліцыяй, а офісная тэхніка і дакументацыя канфіскаваныя. Старшыня БХК Алег Гулак, які маніторыў падзеі на плошчы, таксама быў затрыманы. На працягу ночы ўскладніўся доступ да незалежных інтэрнэт-СМІ, раніцай 20 снежня ў офісе сайта «Хартыя '97» быў праведзеныператрус, а рэдактары арыштаваныя.

Па факту падзеяў на плошчы Незалежнасці ў дачыненні да 61 чалавека была ўзбуджаная крымінальная справа па частках 1, 2 крымінальнага артыкула 293 (масавыя беспарадкі). Пазней у дачыненні да 10 чалавек крымінальная справа была перакваліфікаваная на частку 1 артыкула 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак). Акрамя таго, супраць звыш 700 затрыманых асобаў былі распачатыя адміністратыўныя працэсы, больш за 600 з іх былі пакараныя арыштамі тэрмінам да 15 сутак.

Крымінальная справа па артыкуле «Масавыя беспарадкі» была ўзбуджаная ў Беларусі ўпершыню і ў краіне не было судовай практыкі па дадзенай катэгорыі справаў. Праваабарончы цэнтр «Вясна», які праводзіў маніторынг самой акцыі 19 снежня і судоў над яе удзельнікамі, адзначаў: «Шэсце па праспекце Незалежнасці і мітынг на плошчы Незалежнасці насілі мірны характар, паколькі ўдзельнікі мелі мірныя намеры, скіраваныя на выказванне свайго меркавання і пратэсту ў сувязі з адбыўшыміся выбарамі. Паводзіны некаторых асобаў, якія прадпрынялі актыўныя дзеянні каля будынку Дома Ураду, насілі характар правапарушэнняў, аднак не спыняліся супрацоўнікамі міліцыі, не лакалізаваліся. Працягласць дадзеных супрацьпраўных дзеянняў, колькасць задзейнічаных у іх асобаў, памер нанесенай шкоды не дазваляюць казаць аб наяўнасці масавых беспарадкаў на пл. Незалежнасці і, адпаведна, пра ўдзел асобаў, якія прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці, у масавых беспарадках. Дзеянні міліцыі па разгоне мірнага сходу на пл. Незалежнасці насілі абсалютна непрапарцыйны характар і адзначыліся беспадстаўнай жорсткасцю ў дачыненні да дэманстрантаў. Папярэдняе следства па падзеях 19 снежня 2010 г. суправаджалася сур'ёзнымі парушэннямі правоў чалавека... Судовыя працэсы па справе насілі загадзя прадвызначаны характар і абвінаваўчы ўхіл. Характар правядзення папярэдняга следства і судоў па дадзеных крымінальных справах яскрава сведчыць аб іх палітычным характары».

Усіх асуджаных па крымінальных справах, звязаных з падзеямі 19 снежня 2010 года, праваабарончыя арганізацыі прызналі палітычнымі вязнямі. У іх абарону таксама выступіла міжнародная супольнасць.

Прэзідэнцкія выбары 2010 года не былі прызнаны адпавядаючымі міжнародным стандартам у галіне свабодных выбараў. Як заявіў тады кіраўнік місіі назіральнікаў Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ, «арышты кандыдатаў у прэзідэнты і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці і грубы разгон дэманстрацыі будуць тым падмуркам, на падставе якога будуць ацэньвацца дадзеныя выбары». І гэтая заява пазней была адлюстраваная ў выніковым дакладзе АБСЕ. У адказ беларускія ўлады 31 снежня 2010 года заявілі пра спыненне паўнамоцтваў офіса АБСЕ ў Мінску.

# 20

## *Міжнародны дзень салідарнасці людзей*

Міжнародны дзень салідарнасці людзей быў абвешчаны Генеральнай Асамблеяй ААН у рэзалюцыі, прысвечанай правядзенню першага дзесяцігоддзя ААН па барацьбе за ліквідацыю галечы. Адзначаецца штогод, 20 снежня, пачынаючы з 2006 года.

Абвясціўшы гэтую дату, ААН выказала перакананасць у тым, што развіццё культуры салідарнасці і заахвочванне канцэпцыі агульнай адказнасці з'яўляюцца важнымі складнікамі ў барацьбе за ліквідацыю галечы. Салідарнасць з людзьмі, якія пакутуюць ад галечы і прыгнёту, — адзін з асноватворных прынцыпаў з моманту заснавання арганізацыі. Стварэнне ААН садзейнічала збліжэнню народаў і краінаў свету ў мэтах абароны міру, правоў чалавека і сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Ідэя Дня пацверджана таксама ў Дэкларацыі, прынятай на Саміце тысячагоддзя ў 2000 годзе, у якой ўрады вызначылі салідарнасць як адну з асноватворных каштоўнасцяў, неабходных для падтрымання міжнародных адносінаў у XXI стагоддзі. Яны заявілі, што «глабальныя праблемы павінны вырашацца такім чынам, каб выдаткі і цяжар размяркоўваліся правільна, у адпаведнасці з прынцыпамі роўнасці і сацыяльнай справядлівасці пры забеспячэнні таго, каб тыя, хто пакутуе або мае найменшыя выгады, атрымлівалі дапамогу ад тых, хто мае найбольшыя выгады».




Постэр Марафона Amnesty International у падтрымку палітвязняў, 2012 год.

З часам гэты міжнародны дзень набыў новае значэнне. Паводле розных ацэнак, у выніку глабальнага фінансава-эканамічнага крызісу ў 2009 годзе колькасць немаёмных павялічылася на 100 мільёнаў чалавек. У той жа час свет стаіць перад непасрэднай шматграннай небяспекай, выкліканай зменай клімату, што ставіць пад пагрозу харчовую бяспеку і доступ да крыніц вады і павышае частату звязаных з надвор'ем катастрафічных прыродных з'яваў. Вырашэнне гэтых праблемаў не пад сілу асобным дзяржавам. Ад іх больш за ўсё пакутуюць бедныя і найбольш неабароненыя слаі насельніцтва, якія не маюць магчымасці змагацца з імі. Менавіта цяпер настаў час аб'ядаць намаганні міжнароднай супольнасці ў імя агульнай справы.

Разам з тым, у апошнія гады Міжнародны дзень салідарнасці людзей адзначаецца на фоне глабальных пераўтварэнняў,






Акцыя ў падтрымку свабоды і справядлівасці, правоў чалавека ў Тыбеце. Брусель, 10 снежня 2012 года.

ФОТАЗДЫМКІ HAN VANDENABEELE З САЙТА BELGIUM4TIBET.WORDPRESS.COM

калі людзі ўсяго свету патрабуюць большай палітычнай свабоды, падсправаздачнасці і роўнасці. Па ўсяму Блізкаму Усходу і ў Паўночнай Афрыцы народ бясстрашна падняўся на барацьбу з самаўпраўнасцю, тыраніяй і карупцыяй — часам нягледзячы на кровапраліцце і бязлітасную рэакцыю ўладаў. Масавыя пратэсты наглядна прадэманстравалі, што абарона правоў чалавека патрабуе міжнароднай салідарнасці.

У 2012 годзе на дзявятай сесіі Савета па правах чалавека ААН быў прадстаўлены Праект канчатковага дакумента па пытанні пра правы чалавека і міжнародную салідарнасць. Ён павінен садзейнічаць падрыхтоўцы праекта дэкларацыі пра права народаў і асобаў на міжнародную салідарнасць. Гэты дакумент дае вызначэнне салідарнасці: «Гэта ўсвядомлены адказ на пакуты іншых. Мэта заключаецца не проста ў палягчэнні пакутаў, а ў ліквідацыі перашкодаў або абцяжаранняў, якія пазбаўляюць іншых магчымасці ўдзелу ў ажыццяўленні асноўных правоў і карыстання гэтымі правамі, замацаванымі за ўсімі людзьмі». Права на салідарнасць у дакуменце вызначаецца як «права чалавека, у выніку якога кожная чалавечая асоба і ўсе народы маюць права карыстацца ў роўнай меры выгодамі гарманічнага міжнароднага грамадства са справядлівым і збалансаваным міжнародным палітычным і эканамічным парадкам, пры якім усе правы чалавека і асноўныя свабоды могуць быць цалкам рэалізаваны ў духу міжнароднай салідарнасці і згоды». Таксама вызначана сфера ахопу: «Усе народы і чалавечыя індывіды без якога б там ні было адрознення па прыкмеце расы, колеру скуры, полу, сэксуальнай арыентацыі, мовы, рэлігіі, нацыянальнай прыналежнасці, этнічнага паходжання, сямейнага, эканамічнага ці сацыяльнага становішча, узроўню адукацыі або палітычных ці іншых перакананняў павінны мець права жыць ва ўмовах годнасці і свабоды і карыстацца правам на міжнародную салідарнасць і павінны са свайго боку ёй спрыяць».

ФОТАЗДЫМКІ З САЙТА PHOTOBUCKET.COM










Акцыя салідарнасці са студэнтамі канадскага Квебека, дзе быў прыняты надзвычайны закон супраць студэнцкіх пратэстаў. Манрэаль, 1 чэрвеня 2012 года.

# *Пры падрыхтоўцы выдання была выкарыстаная інфармацыя з адкрытых крыніцаў*

**Электронныя рэсурсы:**

Мероприятия и памятные даты ООН: http://www.un.org/ru/events/observances/days.shtml

Центр новостей ООН: http://www.un.org/russian/news/focus.asp?focusID=21

Радио ООН: http://www.unmultimedia.org/radio

Управление Верховного комиссара по правам человека: http://www.ohchr.org/RU/Pages/WelcomePage.aspx

Организация Объединенных Наций по вопросам образования, науки и культуры (ЮНЕСКО): http://www.unesco.org

Детский фонд ООН (ЮНИСЕФ): http://www.unicef.ru

Детский фонд ООН (ЮНИСЕФ) в Беларуси: http://www.unicef.by

Организация по безопасности и сотрудничеству в Европе (ОБСЕ): http://www.osce.org

Хельсинкский фонд по правам человека в Польше: http://www.hfhrpol.waw.pl/ru

Amnesty International: http://amnesty.org

Front Line Defenders: http://www.frontlinedefenders.org

Международная федерация за права человека (FIDH): www.fidh.org

Сахаровский центр: http://www.sakharov-center.ru

Диссидентство в разных странах мира: http://www.dissidenty.ru

Комитет  международного контроля за ситуацией с правами человека в Беларуси: http://hrwatch-by.org

Фонд «Объединяйтесь за права человека»: http://ru.humanrights.com/home.html

Международное историко-просветительское, правозащитное и благотворительное общество «Мемориал»: http://www.memo.ru

Беларускі Дом правоў чалавека ў выгнанні ў Вільні: http://humanrightshouse.org/Members/Belarus_BY/index.html

Беларуская асацыяцыя журналістаў: http://www.baj.by

Беларускі Хельсінкскі Камітэт: http://belhelcom.org

Праваабарончы цэнтр «Вясна»: http://spring96.org

Грамадскі вэб-архіў «Вытокі»: http://vytoki.net

Еўрарадыё: http://euroradio.fm

Радыё Свабода: http://www.svaboda.org

Радио Свобода: http://www.svoboda.org

Радио Прага: http://www.radio.cz/ru/rubrika/radiogazeta

Голос Америки: http://www.golos-ameriki.ru

Deutsche Welle: http://www.dw.de

Газета «Салідарнасць»: http://gazetaby.com

Газета «Наша ніва»: http://nn.by

Газета «Народная Воля»: http://www.nv-online.info

Незалежны тэлеканал «Белсат»: http://belsat.eu/be

Беларуская салідарнасць: http://www.bielarus.net

Электронная энцыклапедыя: http://slounik.org

Свабодная энцыклапедыя Вікіпедыя: http://be.wikipedia.org

Свободная энциклопедия Википедия: http://www.wikipedia.org

**А таксама:**


Маракоў Л. Ахвяры і карнікі. Мн.: Зміцер Колас, 2007.

Грахоўскі С. «Так погибали поэты»/Выбраныя творы. Мн.: Кнігазбор, 2007.

Подберезский Д. Апрель семидесятого. Новость дня // Имя. 17.04.1998.

Статут Беларускага грамадскага гісторыка-асветніцкага Таварыства памяці ахвяраў сталінізму — Камітэт-58 (АNН. F-8/10)

З. Пазняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў. Курапаты. — Мн.: Тэхналогія, 1994.

Даведнік «Беларусь». — Мн.: «Беларуская энцыклапедыя», 1995.

Мартыралог. Выданне БГГАТПАС «Мартыралог Беларусі». 1989, № 1.

Пётр Садоўскі. Мае ўспаміны. «Народная Воля» [http://nv-online.info/by/12/300/1155]

Бюлетэнь Праваабарончага цэнтра «Вясна» «Права на Волю», лістапад 1998.

Бюлетэнь Праваабарончага цэнтра «Вясна» «Права на Волю», 2004, № 9.

Матэрыялы з асабістага архіва Алеся Бяляцкага.